Цэнтральнага Савета Літаратурнага аб’яднаньня Чырвонай Арміі і Флёту (існавала ў 1930–1932), сябрам якога ён быў.

На нашу думку, не здолеўшы наладзіць легальнае супрацоўніцтва з польскімі выданнямі за мяжою, А. Ельскі звярнуў увагу[1] на “Вѣстникъ Европы” – папулярны часопіс расійскае ліберальнае інтэлігенцыі, дзе напачатку 1870-х гг. з’явіліся публікацыі, якія асцярожна пярэчылі шавіністычнай антыпольскай прапагандзе, віталі пазітывістычныя настроі ў асяроддзі варшаўскіх навукоўцаў, заклікалі да змены палітыкі ў дачыненні да палякаў: “Если намъ желательно распостраненіе въ польском обществѣ новыхъ идей, если желательно подавленіе католической и шляхетской традиціи, если желательно поддержаніе того, пока немногочисленнаго, кружка поляковъ, которые сознали необходимость искренняго сближенія съ Россіею и признаниія совершившихся актовъ, то мы должны дать Варшавѣ по крайней мѣрѣ ту долю свободы печати, которою пользуются Москва и Петербургъ”[2].

Артыкул невядомага аўтара, які схаваўся пад крыптанімам П–чъ[3], быў адной з першых пазітыўных публікацый, якія датычылі г. зв. “польскае справы”. Можна заўважыць, што П–чъ павярхоўна знаёмы з польскімі выданнямі, а жаданнем “подавлять католическую и шляхетскую традицію” ён яшчэ моцна прывязаны да ідэй Івана Аксакава і Міхала Каяловіча. А таму невыпадкова ў хуткім часе рэдакцыя дала слова Льву Ляванду (1835–1888), журналісту і пісьменніку жыдоўскага паходжання, які ў маладыя гады актыўна супрацоўнічаў з віленскімі і пецярбургскімі газетамі і часопісамі, а ў той час жыў у Варшаве[4]. У трох нумарах[5] “Вѣстника Европы” ён грунтоўна характарызуе новыя тэндэнцыі ў польскай журналістыцы і літаратуры.

Дадзеная публікацыя шмат у чым была сімпатычнай А. Ельскаму: “Не менѣе страненъ и тотъ путь, которымъ мы стремимся къ обрусенію братьевъ-славянъ. Это – путь *благотвореній и милостынераздавательства*. Для этого существуетъ у насъ особый «Славянскій *благотворительный* комитетъ”... Невольно возникаетъ вопросъ: почему же именно «благотворительный»? Но братья-славяне не бѣднѣе насъ, напротивъ – многіе изъ нихъ гораздо богаче насъ и морально, и матеріально, такъ что было бы весьма наивно предполагать, что они готовы продать намъ свое культурное превосходство передъ нами за чечевичную похлебку, преподносимую имъ нами въ оскорбительной формѣ

---

[1] У 1870-я гг. часопіс “Вѣстникъ Европы” ў Мінскай губерні выпісвала каля 50 асобаў. І хоць фальварак Замосць не згадваецца ў *Матеріалахъ журнальной статистики*, але, думаецца, што гэта менавіта А. Ельскі падпісаўся на выданне 1874 г., якое ішло ў Ігумен.

[2] П–чъ, *Польская пресса въ 1871 году*, “Вѣстник Европы” 1872, № 11 (ноябрь), с. 427.

[3] У часопісе “Вѣстникъ Европы” гэты ж аўтар надрукаваў яшчэ два артыкулы: некралог французскага агранома, палітычнага дзеяча і пісьменніка графа Ажэна дэ Гаспарэна (1810–1871), а таксама нататку пра стан марскіх сілаў у Германіі.

[4] Артыкулы Л. Ляванды падпісаны крыптанімам Л. Л.

[5] Л. Л., *Новейшая польская журналистика: Письмо къ редактору*, “Вѣстникъ Европы” 1873, № 2 (февраль), с. 932–947; Л. Л., *Варшавскія письма: Письмо второе*, “Вѣстникъ Европы” 1873, № 4 (апрель), с. 944–958; Л. Л., *Варшавскія письма: Письмо третье*, “Вѣстникъ Европы” 1873, № 7 (июль), с. 384–402.

благотворенія и милостыни, въ которыхъ они большею частію вовсе не нуждаются”[1]. Вядома, Л. Ляванда, які ў часы паўстання ў газеце “С.-Петербургскія Вѣдомости” прапаноўваў разнастайныя спосабы і сродкі дзеля ўстанаўлення (водворенія) ў Паўночна-Заходнім краі “русской народности”, і цяпер не адмаўляў дзяржаўную палітыку русіфікацыі. Адно што прапаноўваў весці яе “разумнее и трезвее”. Як і П–чъ, ён лічыць, што трэба абапірацца на г. зв. пазітывістаў: “Нельзя уже по приведеннымъ сейчасъ даннымъ не придти къ заключенію, что характеръ умственнаго движенія въ послѣднее время начинаетъ пріобрѣтать здѣсь разумное и трезвое направленіе, и что направленіе это, несмотря на то, что оно возникло такъ недавно, успѣло уже заявить себя серьёзными и почтенными результатами”[2].

Некалькі разоў у артыкулах “Вѣстника Европы” ў пазітыўным плане (фактычна як лідар “разумнаго и трезваго направленія”) згадваўся Юліан Ахаровіч (1850–1917). Магчыма, нават, што публікацыі ў часопісе падштурхнулі А. Ельскага навязаць кантакт з маладым варшаўскім навукоўцам, атрымаць дазвол на пераклад ягоных працаў, а пасля звярнуцца да рэдактара пецярбургскага часопіса.

М. Стасюлевіч, хіба, не прыняў прапанову А. Ельскага: у “Вѣстнику Европы” публікацый літаратара з фальварка Замосць няма. Але ягоная перакладчыцкая праца не была марнаю: праз два гады ў Мінску ў друкарні Беркі Саламонава выйшла з друку кніга[3], якую не пажадаў набыць М. Стасюлевіч, а яшчэ праз год – наступная кніга Ю. Ахаровіча на расійскай мове[4].

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле рукапісу: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 550: *Пісьмо А.К. Ельскага рэдактару часопіса “Вѣстникъ Европы” [Міхаілу Мацвеевічу Стасюлевічу] з прапановамі аб супрацоўніцтве. Рукапісная копія Л.А. Бэндэ з архіўных дакументаў [1930-я гг.].*

Минск 1874 г. 18 января

Милостивый государь
Господин Редактор!

Извините меня, что я, будучи незнакомым, осмелился беспокоить Вас письменно. Такая известная личность как Вы, (*неразб.*) на арене умственной деятельности и родной стороны, вселяет полнейшее доверие каждому, кто (*неразб.*) сильно заинтересован делом науки и прогресса. И вот почему и я, питая к Вам высокое уважение, обращаюсь прямо и откровенно.

---

[1] Л. Л., *Варшавскія письма: Письмо второе*, “Вѣстникъ Европы” 1873, № 4 (апрель), с. 951.

[2] Л. Л., *Варшавскія письма: Письмо третье*, “Вѣстникъ Европы” 1873, № 7 (іюль), с. 387–388.

[3] Ю. Охоровичъ, *Любовь, преступленіе и нравственность: Нѣсколько задачъ изъ области “уголовной психологіи”*, перевелъ съ польскаго Александръ Ельскій, Минскъ 1876, 170 с.

[4] Ю. Охоровичъ, *Объ основныхъ противорѣчіяхъ въ нашихъ знаніяхъ о вселенной: Публичная лекція Юліана Охоровича, читанная въ Варшаве въ 1873 году*, перевелъ съ польскаго Александръ Ельскій, Минскъ 1877, 55 с.

Я постоянный обитатель Западного края, живу в деревне и занимаюсь от части литературой. Статьи, по вопросу варшавской современной прессы, помещенные в "Вестнике Европы", убеждают меня, что Вам, г-н редактор, положительно известно ея разумное и трезвое направление.

Действительно, в кружке польских литераторов явились личности несомненно талантливые, как в области положительной философии, естествознаний, социальных наук, так равно, в (*неразб.*) беллетристике. Одним из даровитейших корифеев есть Юлиан Охорович, которого многия философския сочинения были напечатаны в последнее время в Варшаве.

Сочинения эти возбуждают сильнейший интерес в мыслящей публике, и я получил консенс автора на перевод оных на русский язык, с целью обобщения славянской науки, и таким образом взаимного сближения общеплеменных, при сем считаю нужным заметить, что одновременно сочинения Охоровича переводятся на язык богемский и скоро выйдут в Праге.

На первый раз я начал с его знаменитых *Задач XIX столетия*, из которых под заглавием *Любовь, преступление, вера и нравственность* в скором времени будут готовы. Объем этого сочинения около 200 стр. in 1/4.

Дело в том, не благоугодно ли будет Вам, милостивый государь, приобрести труд этот у меня в собственность и напечатать в Вашем (истинно) "Вестнике Европы"?

Я намерен предпринять ряд переводов с польского, поддержите же меня, маститый Нестор – ежели согласны на девиз Терентия, примененный известным Дубровским к идее славянизма: „Slavus sum, nihil Slavice a me alienum esse puto" („Dennica")[1].

Не менее того, осмеливаюсь спросить, не пожелаете ли Вы, господин редактор, моего сотрудничества в "Вестнике" и на каких именно условиях. Я положительно ознакомлен с местностью и мог бы Вам сообщать известия из Минска в форме писем с отражением жизненных, экономических и социальных вопросов. Что же касается до моих убеждений, искренности и непреклонной правды, то, конечно, Вы не ошибетесь.

Теперь мне ничего более не остается, как выразить глубокое почтение и надеяться, что Вы, милостивый государь, почтите меня ответом.

Покорный слуга Александр Ельский
Мой адрес:
Александру Карловичу Ельскому
в губ. г-д Минск
от туда в им. Замость.

---

[1] "Я славянін, нішто славянскае мне не чужое". А. Ельскі падае эпіграф да двухтыднёвіка Пятра Дуброўскага (1812–1882) "Денница, литературная газета = Jutrzenka, pismo literackie" (1842). П. Дуброўскі дастасаваў да ідэй славянства вядомыя словы рымскага драматурга Тэрэнцыя (каля 195 –не пазней 159 да н. э.) з камедыі *Які сам сябе карае* (*Heauton timorumenos*) "Homo sum, humani nihil a me alienum puto", што былі дэвізам гуманістаў эпохі Рэнесансу. Выдаючы працу Ю. Ахаровіча ў перакладзе на расійскую мову, А. Ельскі выкарыстае дадзеныя словы ў якасці эпіграфа да свайго ўступу *Нѣсколько словъ отъ переводчика*.

# Артыкул у газеце “Минскій листокъ” *Пра тутэйшы люд і яго стаўленне да інтэлігенцыі*

Дадзены артыкул А. Ельскага, думаецца, з’явіўся як адказ адначасна і на публікацыю невядомага аўтара ў газеце “Минскій листокъ”[1], і на пецярбурскія выданні пачатку 1880-х гг. (*Письма о Белоруссии: Письмо первое* Данілы Баравіка, 1882 г.; *Послание к землякам-белорусам* Щирого Белоруса, 1884 г.; “Гомон: Белорусский социально-революционный обзор” 1884, № 1–2).

А. Ельскі выразна бачыў, што тагачасныя “генератары ідэй” ставяць перад інтэлігенцыяй цалкам супрацьлеглыя задачы: беларускія аўтары, адрозніваючыся – часам і прынцыпова – падыходамі да шляхоў развіцця беларускага руху, тым не менш ледзь не аднагалосна сцвярджалі: “Долой чужие руки, Белоруссия должна быть для белорусов, а не для чуждых элементов”[2]; а вось расійскі публіцыст у газеце “Минскій листокъ”, відавочна, прапагандаваў іншы пункт гледжання: дзеля асветы беларусаў патрэбны найлепшыя здабыткі расійскае цывілізацыі.

Уважліва сочачы за матэрыяламі, якія друкавала газета, А. Ельскі, здаецца, так і не “зблізіўся” з ейнай рэдакцыяй. Перадусім, на старонках “Минскаго листка” ягоных матэрыялаў няма. Чаму горад Мінск, да якога ад фальварка Замосць

[1] На жаль, нам не ўдалося выявіць адпаведны нумар газеты. Вельмі верагодна, што артыкул друкаваўся ў адным з нумароў, якія згадвае А. Ельскі ў даследаванні *Białoruska literatura i bibliografia* (гл.: *Wielka encyklopedya powszechna ilustrowana*, t. VII, Warszawa 1892, s. 656). Р. Зямкевіч, не называючы крыніцы, паўтарыў выказванне А. Ельскага: “У расійскай газеце “Минскій листокъ” (у № 18, 19, 31, 39, 40, 42, 49 і 61) паяўляюцца вельмі важныя стацці, якія датычаць беларускае этнаграфіі і народнае прасветы”. Гл.: Р. Зямкевіч, *Стары Мінск у беларускіх успамінах* [у:] *Пачынальнікі: З гісторыка літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1977, с. 31.
Мажліва, аўтарам артыкула, на які адгукнуўся А. Ельскі, быў Адам Багдановіч: ён шмат публікаваўся ў “Минскомъ листкѣ” пад крыптанімам А. Б. Ягоныя працы змешаныя ў 27, 39, 40, 42, 61–66 нумарах газеты. Гл.: Я. Саламевіч, *Слоўнік беларускіх псеўданімаў*, Мінск 1883, с. 14. У. Конан называе асобныя з гэтых артыкулаў: *Очерк положения женщины в крестьянской среде Белорусскога края* (19, 22, 29 августа 1886 г.) і *Педагогические воззрения белорусского народа: Очерк* (18 ноября, 5 декабря 1886 г.). Гл.: У. Конан, *“Минский листок”* [у:] *Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі ў пяці тамах*, т. 3, Мінск 1986, с. 624–625; У. Конан, *“Минский листок”* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі ў шасці тамах*, т. 5, Мінск 1999, с. 198; *Багдановіч Адам* [у:] *Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік у 6 тамах*, т. 1, Мінск 1992, с. 155.

[2] *Публицистика белорусских народников. Нелегальные издания белорусских народников (1881–1884)*, Мінск 1983, с. 61.

было толькі 42 вярсты (нават да Ігумена – 56)[1], ягонае літаратурнае асяроддзе не прыцягвала ўвагу А. Ельскага? Чаму ён лічыў за лепшае пісаць для Пецярбурга, Вільні, Львова, Варшавы і інш.?

Мы прызвычаіліся да думкі пра неафіцыйны і ліберальны характар першае незалежнае мінскае газеты. Пэўную ролю адыграла тут характарыстыка выдання ў савецкі час[2]: як ні як у 1900 г. газета станоўча ацаніла кнігу Леніна *Развитіе капитализма в Россіи*! Апрача таго, – з ёю супрацоўнічаў Янка Лучына. Аднак ці дастаткова ўсё ж гэтага, каб адназначна казаць пра прагрэсіўны кірунак "Минскаго листка"? А калі "прагрэсіўны", то для каго? Трэба памятаць: улады давалі дазвол на выданне "дзеля ўмацавання расійскага ўплыву сярод мясцовага жыхарства"[3]. Ці не была гэтая газета для А. Ельскага чарговаю спробаю пашырэння расейшчыны? Ці не выконвала яна тую ж функцыю, што і "Минскія губернскія вѣдомости" ды "Минскія епархіальныя вѣдомости", рэдакцыі які таксама знаходзіліся ў Мінску.

Першы нумар выдання выйшаў у свет 2/14 красавіка 1886 г., а беларускамоўныя публікацыі ў ёй з'явіліся толькі ў 1889 г. (№ 18 – *Сцяпанъ и Тацццяна* А. Шункевіча, № 20 – *Вясновай парой*: *По-бѣлорусски, говоръ Новогрудскаго уезда*, № 71 – "*Заходзіць сонца за горы*... Янкі Лучыны і № 37 – *Тарасъ: Бѣлорусская поэма* невядомага аўтара).

Думаецца, што "беларускасці" рэдакцыі "Минскаго листка" і ейнага атачэння мы абавязаны Р. Зямкевічу: "Знайшліся ў 1886 годзе ў Мінску людзі, каторыя пачалі гуртавацца ў справе святога адраджэння падняволенага беларускага народа. Людзі гэтыя, як Мітрафан Доўнар-Запольскі, Яўген Ляцкі, А. Слупскі, Завітневіч, Ян Неслухоўскі і шмат іншых, пачалі думаць аб працы для роднага народа і краю. […] І вось гурток адраджэнцаў у Мінску ў 1886 г. прыступіў да выдавецкай працы"[4]. Пазней, у 1950-я гг. Васіль Барысенка, не прымаючы, як ён называў, "ліберальнага гуманізму", "боскага ідэалізму" і "тэорыю малых спраў", якія прапагандавала газета, паўтарыў сказанае Р. Зямкевічам[5]: "У 1886 г. пры газеце "Минскій листокъ" утварыўся беларускі гурток з «культурнікаўінтэлігентаў», куды ўваходзілі паэт Я. Лучына, гісторык М. Доўнар-Запольскі, інжынер А. Слупскі, археолаг Г. Татур, этнограф П. Дземідовіч і некаторыя

---

[1] Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XIV, Warszawa 1895, s. 383.

[2] Т. Федорова, *Общественно-политическая мысль в Белоруссии и "Минский листок" (1886–1902)*, Минск 1966; Э. Дорошкевич, В. Конон, *Очерк истории эстетической мысли Белоруссии*, Москва 1972, с. 212–230; *Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.)*, Минск 1973, с. 409–425; С. Самбук, *Общественно-политическая мысль Белоруссии во второй половине XIX века*, Минск 1976; В. Конон, Б. Шахматов, *Концепция и факты*, "Нёман" 1966, № 11.

[3] Э. Дорошкевич, В. Конон, *Очерк истории эстетической мысли Белоруссии*, Москва 1972, с. 214.

[4] Р. Зямкевіч, *Стары Мінск у беларускіх успамінах* [у:] *Пачынальнікі: З гісторыка літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1977, с. 30–31.

[5] Праўда, на падставе іншае публікацыі: Р. Земкевіч, *Ян Няслухоўскі (Янка Лучына) і яго няведамыя вершы*, "Нёман" 1932, № 2, с. 58–64.

іншыя. Гурток паспрабаваў наладзіць выданне друкаванага часопіса на беларускай мове. Але гэта яму не ўдалося”[1].

Р. Зямкевіч, трэба прызнаць, усё ж перабольшваў “беларускасць” рэдакцыі.

Прыватная газета “Минскій листокъ” выдавалася з 1886 па 1902 г. два разы на тыдзень (1886–1896), штодзённа (1896–1898), тры разы на тыдзень (1898–1902) і ў 1902 – чатыры разы на тыдзень. Дазвол на выданне атрымаў мінскі натарыус Іван, сын Пятра Фоцінскі. Ён больш за пятнаццаць гадоў быў уладальнікам газеты, а пэўны час лічыўся рэдактарам-выдаўцом. Ягоныя гады жыцця і месца нараджэння нам невядомыя[2]; у 1884 г. калежскі сакратар І. Фоцінскі працаваў натарыусам у г. Барысаве[3], а ў наступным годзе ён ужо адзін з пяці натарыусаў Мінскага акружнога суда ў Мінску, дзе адразу ж адкрывае сваю кантору [“на углу Саборной площади и Тюремной улицы въ домѣ Вендорфа (бывшій Гейдукевіча[4])]” і бярэцца за выданне гарадское газеты. Апрача прафесійнае і рэдактарска-выдавецкае дзейнасці бярэ актыўны ўдзел у культурным жыцці горада: ён адзін з кіраўнікоў (адзін са старшын) аддзела Музычнага таварыства, а пасля Музычна-драматычнага таварыства (размяшчалася на Саборным пляцы ў доме Свечнікава). Праўда, пазней І. Фоцінскі перадаваў абавязкі і рэдактара, і выдаўца іншым людзям (выдаўцамі былі: І. Сілініч, В. Шчагляцьеў, К. Зіноўеў, М. Мысаўской, а рэдактарамі – М. Іваноў, А. Мацкевіч, К. Зіноўеў, Ф. Каменскі)[5].

Газета змяшчала агляды расійскіх часопісаў, прапагандавала творчасць расійскіх літаратараў і кампазітараў, друкавала апавяданні і ўрыўкі з твораў расійскіх паэтаў ды пісьменнікаў, а таксама пераклады з еўрапейскай і польскай паэзіі супрацоўніка выдання Дарафея Бохана (1878–1942)[6].

---

[1] В. Барысенка, *Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, Мінск 1957, с. 158.

[2] У 1910 г. Мікола Камароўскі пісаў у “Нашай ніве”, што рэдактар “Минскаго листка” жыве ў Маскве ў беднасці. Гл.: *Ад нашых карэспандэнтаў: З Мінска*, “Наша ніва” 1910, № 30 (22/4 ліпеня).

[3] У *Памятной книжке Минской губерніи на 1885 г.* калежскі сакратар І.П. Фоцінскі значыцца як натарыус Мінскага акружнога суда ў г. Барысаве (Минскъ 1884, с. 53). Гэта пацвярджаецца адпаведнаю справаю Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі: НГАБ, ф. 1472: *Борисовский натариус И.П. Фотинский Минского окружного суда. Город Борисов Борисовского уезда Минской губернии.* 1884 год. 2 ед. хр.: *Настольный реестр, книга для записи крепостных актов.*

[4] У *Памятной книжке Минской губерніи на 1886 г.*: Гадышевича. Але, здаецца, тут памылка друку.

[5] У 1902 г. І. Фоцінскі прадае газету Міхалу Мысаўскому, а сам у 1905 г. становіцца рэдактарам “Бѣлорусскаго вѣстника”, які ў Мінску спачатку выдаваў Аляксандар Смародскі (1850–1910), а пасля Палікарп Бывалькевіч. Трэба заўважыць, што ў НГАБ маюцца паперы з Мінскага натарыяльнага архіва, якія сведчаць што І. Фоцінскі працаваў натарыусам у Мінску з 1886 г. па 1905 г. У *Памятной книжке Минской губерніи на 1906 г.* ён згадваецца ўжо не як натарыус, а як сакратар управы “Попечительного общества о домѣ трудолюбія” (Минскъ 1905, с. 100).

[6] Гл.: У. Конан, *“Минский листок”* [у:] *Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі ў пяці тамах*, т. 3, Мінск 1986, с. 624–625; У. Конан, *“Минский листок”* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі ў шасці тамах*, т. 5, Мінск 1999, с. 198.

Беларускія краязнаўчыя, фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы за ўсю гісторыю існавання газеты можна лёгка пералічыць. А беларускамоўныя тэксты, як ужо згадвалася, з'явіліся толькі ў 1889 г. Зусім верагодна, ініцыятарам гэтых публікацый быў Аляксандар Слупскі (1864 – пасля 1907). Закончыўшы ў 1887 г. гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, ён уладкаваўся на працу ў Мінскую губернскую акцызную ўправу. Паводле *Памятныхъ книжекъ Минской губерніи* на 1889–1893 гг. "кандидатъ правъ, титулярный советникъ" А. Слупскі займае пасаду "помощника секретаря"[1] (а сакратаром, дарэчы, быў Вячаслаў Скандракоў, бацька вядомага Сяргея Скандракова). Мы не ведам, ці быў А. Слупскі ў штаце рэдакцыі газеты. Паводле *Слоўніка беларускіх псеўданімаў* ягоныя публікацыі (пад крыптанімам А. С., С–кій А. і С–кій А.И.) у выданні змяшчаліся ад 1886 г. да 1894 г.[2].

Не менш верагодна, што "беларускасці" газеце дадавалі публікацыі Мітрафана Доўнар-Запольскага. Асабліва ягоная вага павялічылася, калі ён ў 1888 г. апублікаваў рэцэнзію на кнігу П. Уладзімірава *Докторъ Франциcкъ Скорина, его переводы, печатные изданія и языкъ* (27 мая, 3 июня), артыкулы *Древняя Бѣлоросія*[3]*: Краткий географический очерк ея в IX–XII веках* (17, 21 июня) і *Бѣлорускoе прошлое: По поводу статей А. Пыпина, помещенных в "Вестнике Европы" 1887 года* (5, 19, 22 июля, 5 августа, 17 октября, 1 ноября).

Аднак М. Доўнар-Запольскі адно дасылаў свае матэрыялы ў Мінск. А вось А. Слупскі, жывучы ў Мінску, мог істотна ўплываць на "нацыянальную палітыку" газеты. Рэдактар высока, відаць, цаніў супрацоўніцтва з "местным исследователем". Так, у планах І. Фоцінскага на 1890 г. было апублікаваць у газеце працу А. Слупскага *Старый Минскъ*[4], а ў 1892 г., пачынаючы са студзеня, – гістарычны раман з мясцовага жыцця *Минскіе масоны*. А таму мы схільныя лічыць, што менавіта А. Слупскі спрабаваў "беларусізаваць" газету. Але, відавочна, сутыкаючыся з супраціўленнем "людей русской культуры" (большасць з якіх паходзіла з "тутэйшых"), мог змяшчаць у "Минскомъ листкѣ" беларускамоўныя творы, а таксама беларускамоўныя этнаграфічныя матэрыялы, хіба, толькі ў часы "другого направления"[5] газеты.

І ўсё ж, як пісаў Г. Кісялёў, "унутраную кухню рэдакцыі, яе супрацоўнікаў мы ведаем слаба"[6]. Да сённяшняга дня застаецца загадкаю, чаму ў 1889 г. на старонках газеты ўбачылі свет чатыры беларускамоўныя творы значнае мастацкае вартасці? І чаму ва ўсёй астатняй гісторыі газеты іх будзе адно тры [гутарка

---

[1] На гэтай пасадзе ён мог працаваць ад лістапада-снежня 1887 г. да чэрвеня-верасня 1893 г.

[2] Я. Саламевіч спасылаецца на часопіс "Весці АН БССР: Серыя грамадскіх навук" (1967, № 3, с. 38) і кнігу Э. Дорошкевич, В. Конон, *Очерк истории эстетической мысли Белоруссии*, Москва 1972, с. 305.

[3] Пэўна ж, у рэдакцыі папраўлі звыклы для гісторыка тэрмін "Беларусь" на "Бѣлоросію".

[4] На жаль, не маем магчымасці праверыць, ці друкаваўся артыкул пад такім тытулам у 1890 г. У нашай жа навуковай літаратуры публікацыя *Стараго Минска* датуецца 1895 г. (№ 35, 5 мая).

[5] Ліст Я. Лучыны да М. Доўнар-Запольскага ад 25.02.1894 г. [у:] Я. Лучына, *Творы: Вершы, нарысы, пераклады, лісты*, Мінск 1988, с. 202.

[6] Г. Кісялёў, *Пошукі імя*, Мінск 1978, с. 26.

У. Сыракомлі ў перакладзе Я. Лучыны *Ямшчык* (1890, № 19), верш Я. Лучыны *Вясна* (1891, № 28) і апавяданне Каруся Каганца *Бывалы Юр у Менску* (1902, 5 сент.)][1]? Можа, і рэдактары, і іхнія высокія апякуны лічылі, што публікацыя беларускамоўных твораў "робіцца адно дзеля жарту"[2]?

Відаць, шчыльна звязаны з рэдакцыяй "Минскаго листка" быў Іван Неслухоўскі (Янка Лучына). Сведчыць пра гэта верш *Не ради славы иль расчета*..., які невыпадкова ж быў надрукаваны ў першым нумары газеты і фактычна знаёміў чытача з выданнем, ягонаю "праграмаю дзейнасці":

Не ради славы иль расчета
Предпринимаем мы "Листок",
Святая истина – забота
И цель его печатных строк.
Служить стране, глухой, забитой,
Где мрак невежества царит,
В лачуге, где, соломой крытой,
Мужик печально дни влачит[3].

І хоць паэт быў у коле прыяцеляў рэдактара І. Фоцінскага ды супрацоўнічаў з рэдакцыяй да канца жыцця, але апублікаваў у газеце ў 1886–1898 гг. усяго чатырнаццаць сваіх тэкстаў – вершаваных і празаічнах (у тым ліку – чатыры беларускамоўныя)[4].

Відаць, з-за хваробы ён не быў надта актыўным у мінскім інтэлігенцкім асяроддзі. А. Ельскі, перадусім, яго не ведаў. Прычым, не ведаў ***асабіста*** ні Івана Неслухоўскага, ні Янку Лучыну. Пра першага ён напісаў у артыкуле *Беларуская літаратура і бібліяграфія*: "Заканчваючы гэты бібліяграфічна-літаратурны нарыс, які датычыць Белай Русі, варта згадаць, што апрача пералічаных нашых суайчыннікаў займаліся і займаюцца братняй праблематыкай і пішуць па-беларуску або перакладаюць наступныя палякі: <…> Ян Неслухоўскі (вершатворац, які жыве ў Брэсце-Літоўскім)"[5], пра другога мімаходзь згадаў у адной са сваіх рэцэнзій. І толькі пазней, атрымаўшы ў чэрвені 1903 г. (магчыма, ад Вацлава Іваноўскага) па пошце *Вязанку*, крытычна выказаўся пра мову

[1] Вядома, калі не лічыць расійскамоўных апавяданняў з рэдкімі дыялогамі па-беларуску. Напрыклад, Я. Лучыны *С праздничной поездки* (1893, 8 янв.).

[2] А. Уласаў, *Дні жыцця* [у:] *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*, вып. другі, Мінск 1990, с. 160.

[3] Я. Лучына, *Творы: Вершы, нарысы, пераклады, лісты*, Мінск 2001, с. 124.

[4] Здаецца, ніхто з даследчыкаў не займаўся праблемаю "Янка Лучына і газета «Минскій листокъ»". А такая магчымасць ёсць: у Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу (раней: Цэнтральны дзяржаўна гістарычны архіў у Ленінградзе) у фондзе 776: *Главное управление по делам печати МВД* маецца справа „По ходатайству г. Фотинского о разрешении издавать в г. Минске газету «Минский Листок». 11.01.1886–11.12.1897" на 349 старонках.

[5] A. J., *Białoruska literatura i bibliografia* [w:] *Wielka encyklopedya powszechna ilustrowana*, t. VII, Warszawa 1892, s. 658.

кніжкі: “Język i pisownia bardzo mylne i bałamutne. Wiele tu (*неразб.*) i niewłaściwości przeciwnych gwarze białoruskiej”[1].

У “Минскомъ листкѣ” за 1886–1891 гг. А. Ельскі адзначыў 39 нумароў, у якіх былі матэрыялы, датычныя “беларускай літаратуры і бібліяграфіі”[2]. Праўда, сюды ён уключыў ці не ўсе публікацыі, што закранал і пытанні беларускай этнаграфіі, гісторыі, тапаграфіі, асветы, жыцця сялянства, даўняга мясцовага права. Асобныя з іх А. Ельскі называе “важнымі”.

Адна з першых публікацый на “беларускую” тэматыку ў газеце “Минскій листокъ” стала для А. Ельскага падставаю дзеля выкладу сваіх думак і развагаў.

Па-першае, А. Ельскага, які ў 1857 г. стаў вясковым гаспадаром і ўладальнікам двара, балюча кранулі словы пра адказнасць паноў-памешчыкаў за пагаршэнне маральнасці на вёсцы. Яго ўласнае жыццё і гаспадаранне, а таксама жыццё і гаспадаранне шматлікіх заможных суседзяў-землеўласнікаў, дзедзічаў Мінскае губерні, якую ён выдатна ведаў, сведчылі пра адваротнае. Таму ў першай частцы свайго артыкула А. Ельскі імкнецца пазнаёміць чытача з тымі высакароднымі справамі, якія паны-абываце лі рабілі і робяць дзеля пашырэння асветы і дабрабыту сялянства сваіх маёнткаў. У адрозненне ад публіцыста “Минскаго листка”, які, відавочна, толькі тэарэтычна разважаў пра шкодны ўплыў двароў, А. Ельскі называе канкрэтных людзей і канкрэтныя справы, здзейсненыя гэтымі людзьмі. На яго думку, такая дзейнасць не можа аніяк садзейнічаць пашырэнню дэмаралізацыі.

Па-другое, А. Ельскі палічыў патрэбным выказацца пра тое, якой павінна быць асвета для сялянства. Знаёмства з педагагічнаю літаратураю падказвала яму: школа павінна быць “народнаю”; “народная” літаратура мусіць быць пакладзена ў аснову гэтае школы[3]. А таму задача інтэлігенцыі – змяніць сваё стаўленне да тутэйшае гаворкі, мовы сялян. Бо “наш” люд мае сваю асобную мову,

---

[1] AGAD, sygn. $140_1$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*.

[2] Гл.: A. J., *Białoruska literatura i bibliografia* [w:] *Wielka encyklopedya powszechna ilustrowana*, t. VII, Warszawa 1892, s. 656–658.

[3] Пэўна ж, А. Ельскі быў знаёмы з публікацыямі пра народную асвету ў расійскім друку – Мікалая Веселя (1834–1906), Канстанціна Ушынскага (1823–1870), Васіля Вадавозава (1825–1886), бо на пачатку 1860-х гг. пытанне пра мову навучання ў пачатковай школе шырока дыскутавалася. Напрыклад, М. Весель пісаў у часопісе “Учитель” (1862), адным з рэдактараў якога быў сам: “Мы убѣждены, что была бы составлена книга для чтенія и на малороссійскомъ языкѣ, которой, хотя бы нѣсколько сносной, до сихъ поръ у насъ не существуетъ, такъ что въ Малороссіи въ приходскихъ и уѣздныхъ училищахъ не-почему и учить дѣтей родному языку. А не обучать народъ родному языку, значитъ не дозволять развиваться мысли народной, всѣмъ духовнымъ силамъ народа, значитъ оставлять народъ въ постоянномъ младенчествѣ. Если же мы начнемъ обучать народъ не его языку, а хоть самому сродному, ближайшему, то сдѣлаемъ еще хуже: мы извратимъ самостоятельное умственное развитіе народа, мы извратимъ всю духовную природу его” (с. 839, 893, 949 і наст.). Прыкладна тое самае сцвярджаў і К. Ушынскі, апісваючы ў артыкуле *Педагогическая поѣздка по Швейцаріи* бёрнскую школу вядомага педагога Густава Фроліха: “Что съ дѣтьми начинаютъ заниматься на томъ самомъ нарѣчіи, на какомъ они говорятъ дома, это безъ сомнѣнія не только весьма разумно, но и не менѣе гуманно” (гл.: “Журналъ Министерства Народнаго Просвѣщенія” 1863, январь, отд. III,

а навучанне павінна ісці на роднай мове. Прадбачачы абвінавачванні ў "палітычным сепаратызме", А. Ельскі спрабуе "засланіцца" спасылкамі на "кадыфікатара беларускае мовы" Пятра Бяссонава. Прычым, ён бярэ з прадмовы П. Бяссонава да кнігі *Бѣлорусскія пѣсни* (1871) толькі тое, што адпавядае ягонай уласнай канцэпцыі. Фактычна, А. Ельскі "пераіначвае" П. Бяссонава. Бо расійскі публіцыст (прадмова мае адно публіцыстычны, а не навуковы характар) даводзіў: літаратура на Беларусі павінна быць "руская", а не "беларуская", аднак яе мусяць стварыць мясцовыя ўраджэнцы, выкарыстоўваючы мясцовы матэрыял і беларускую народную творчасць. Ніжэй пададзены фрагмент прадмовы П. Бяссонава стаў для А. Ельскага "падставаю" дзеля абароны ўласнае канцэпцыі: моваю навучання беларускіх сялян павінна быць беларуская. Няцяжка заўважыць, што А. Ельскі проста "выбірае" з прадмовы П. Бяссонава патрэбныя яму выразы, ігнаруючы сутнасць ягонага выказвання.

"Письменность Бѣлорусская имѣетъ одно прошлое: за устной рѣчью народной вся будущность. Но будущность опять чисто-народная: сосудъ преданій и всѣхъ силъ древней жизни въ наслѣдство потомкамъ, родникъ постоянныхъ притоковъ къ жизни новой; способность творчества, разнообразіе памятниковъ, проявленій, выраженій и произведеній духа; единственная среда, гдѣ легко дышется народу, гдѣ носится и обмѣнивается его воззрѣніе, чувство, мысль; подъемъ и энергія къ дѣятельности, задатокъ самобытнаго развитія; одушевленіе и осмысленіе всѣхъ явленій звуками, голосомъ, складомъ, мѣрою, образомъ. *Съ подъемомъ крестьянства эта рѣчь обѣщаетъ еще рости и развиваться существенно, внутренно: а внѣшнимъ для себя способомъ проникать въ города, въ жизнь гражданскую, общественную и церковную, пробуждать литературу, обогащать науку, оплодотворять искусство. Больше еще, – осмыслять власть государственную: у кого въ рукахъ слово народа, у того мысль и жизнь народа*[1], у того «рука властная» и зовется она

---

с. 13–14). Яшчэ больш блізкую тэму закрануў педагог і дзіцячы пісьменнік В. Вадавозаў, рэцэнзуючы ў "Журналѣ Министерства Народнаго Просвѣщенія" *Книгу для чтенія въ народныхъ училищахъ виленскаго учебнаго округа* (Вильно 1863): "Статьи должны быть не только понятны народу, но какъ по своему содержанію, такъ и по языку прямо выходить изъ его жизни. Мѣстное нарѣчіе имѣетъ тутъ важное педагогическое значеніе, и по крайней мѣрѣ треть статей должна быть на немъ написана; въ такихъ мѣстностяхъ, гдѣ иноплеменники составляютъ большинство населенія, русскаму языку научаются съ трудомъ и только въ высшихъ заведеніяхъ; тутъ, разумѣется, книга для народнаго чтенія невозможна на другом языкѣ, кромѣ того, на которомъ говорятъ жители" (1863, май, отд. V, с. 91).

Варта адзначыць той факт, што А. Ельскі быў адным тых, хто не пагаджаўся з большасцю педагогаў, апекуноў народных школаў і маршалкаў шляхты, якія ў "Замѣчаніяхъ на проектъ устава общеобразовательныхъ учебныхъ заведеній и на проект общаго плана устройства народныхъ училищъ" (1862) выказаліся "въ пользу большаго или меньшаго употребленія «мѣстнаго языка» въ низшихъ и даже среднихъ училищахъ, разумѣя подъ этимъ словомъ языкъ польскій въ мѣстахъ, гдѣ народный языкъ, какъ извѣстно, бѣлорусскій, малорусскій или литовско-жмудскій" [гл.: Д. Л., *Народныя нарѣчія и мѣстный элементъ въ обученіи*, "Вѣстникъ Европы" 1874, кн. 8 (августъ), с. 566].

[1] Вылучанае намі курсівам А. Ельскі пераклаў наступным чынам: „Z podnoszeniem się ludu w sposób całkiem przyrodzony, gwara białoruska, rozwijając się wewnętrznie, będzie musiała

уже не кулакомъ, а правящею десницей. Не мало воспользовались симъ Поляки: увидимъ, воспользуются ли Русскіе. Но какъ скоро доходитъ рѣчь устная до порога письменности, литературы, книжнаго образованнаго языка, – здѣсь рѣшительный ея предѣлъ, и, хоть далеко не конецъ, а nec plus ultra: Бѣлорусская устная народная рѣчь никогда не будетъ языкомъ литературнымъ, письменнымъ и книжнымъ; не способна, не въ силахъ создать его нынѣ, изъ собственныхъ элементовъ и подъ собственнымъ именемъ; потеряла то время, когда могла создавать, не оказала примѣровъ созданія всесторонняго, полнаго, посъѣдовательнаго и живучаго. *Предъявители Сепаратизма должны отчаяться*[1], враги его могутъ успокоиться: въ Бѣлоруссіи была *Польская* литература, питавшаяся мѣстными соками, потому что она была чужая и только эксплоатировала; *Бѣлорусской*, хотя бы такъ называли ее, не было въ собственномъ значеніи и цѣломъ объемѣ, Бѣлорусская невозможна ни въ настоящемъ, ни въ будущемъ; ожидается литература лишь одна – Русская или, лучше, *Обще-Русская*. Крестьянинъ, когда возмется за перо и будетъ писать, онъ съ той минуты буден писать не по Бѣлорусски, а по Русски: если только не ограничиться здѣсь домашними счетами, родственною перепиской и народнымъ обиходомъ. Хотя бы онъ дѣйствовалъ подъ неизмѣннымъ вліяніемъ народнаго творчества, хотя бы только записывалъ его на бумагѣ, нужно, чтобы онъ имѣлъ къ сему сознательный интересъ и побужденіе къ видному будущему, чтобы вызываемъ былъ итти дальше, во имя личнаго искусства, въ цѣляхъ развивающейся науки, для образованной жизни, для удѣла въ гражданской, общественной, церковной и даже государственной, по крайности земской дѣятельности: тогда онъ будетъ дѣйствовать литературно, въ литературѣ и для литературы, а литература эта будетъ Русская, обогащенная всѣмъ, что есть живаго въ народности Бѣлорусской. Ибо, – важное условіе, – и тогда, и при такой литературѣ, будетъ еще жить и продолжаться творчество устное, народное. Дай Богъ такого исхода"[2].

Друкуецца ў перакладзе на беларускую мову паводле артыкула: Al. Jelski, *O ludzie tutejszym i jego stosunku do inteligencyi*, „Kraj" 1886, nr 49 (7/19 grudnia), s. 8.

---

przenikać całe tego ludu życie społecznie i duchowe, pobudzać literaturę, zbogacać naukę, zapładniać sztukę. Nadto byłaby ona nawet niemylną wskazówką dla samej władzy: gdy kto ma w swoich rękach słowo ludu, ten jest panem jego myśli i życia."

[1] „Zwolennicy tedy separatyzmu, jeśliby się jacy znaleźli, musieliby jeno rozpoczać".

[2] П. Безсоновъ, *Въ объясненіе къ изданію* [у:] *Бѣлорусскія пѣсни, съ подробными объясненіями ихъ творчества и языка, съ очерками народнаго обряда, обычая и всего быта,* издалъ П. Безсоновъ, Москва 1871, с. LXIX–LXX.

## *Пра тутэйшы люд і яго стаўленне да інтэлігенцыі*

Mińsk lit., 27 listopada v. s.[1]

"Минскій листокъ", пішучы нядаўна пра пільную патрэбу пашырэння асветы сярод вясковага люду з дапамогаю адпаведнае літаратуры, падмацоўвае сваю ідэю надзвычай дакладнаю высноваю: сённяшняю дэмаралізацыяю на вёсцы, пра што і мы неаднойчы ды адкрыта казалі.

"Тым горш, – гэта словы з газеты, – калі ў вёску, у масу простага люду трапляе адно відма сучаснае цывілізацыі з усімі ейнымі адмоўнымі рысамі. Люд прымае толькі бліскучую абалонку культуры і, як правіла, не сягае думкаю ў глыбіні яйнае зместу. Цывілізацыя пры такіх умовах дае толькі кепскія вынікі, чаму надзвычай садзейнічае: блізкасць гарадоў, бадзянне люду за куслівымі заробкамі далёка ад дому, часам нават суседства двароў (?). Адсюль у сем'ях знікае патрыярхальная павага да старэйшых, адсюль – узаемная кляцьба і сваркі пра вяршэнства, падзелы зямлі, якія руйнуюць, а пасля гэтага ўжо натуральна ідуць: судовыя працэсы, падпалы, распуста, п'янства, хабарніцтва, эксплуатацыя і прыгнёт з боку сялян, якія займаюць пасады ў воласці. Такія, а не іншыя ў глухой правінцыі наступствы гэтае, памылкова зразумелае цывілізацыі..."

Гэтыя красамоўныя меркаванні не патрабавалі б каментару, каб не азначаная намі згадка пра двары. Мы не разумеем, пра што тут, уласна, гаворка: ці пра кепскі прыклад, які даюць рэдкія сёння двары, што вызначаюцца раскошаю і легкадумнасцю, ці аўтар таксама меў на ўвазе шкоду, якую зайздроснаму бедаку дае суседства большага дабрабыту, што абуджае ягонае пажаданне. Мы сцвярджаем, што ўвогуле суседства двароў у найменшай ступені не дае падставаў дзеля падобных меркаванняў. Большасць землеўласнікаў у нас – людзі працавітыя, а што датычыць маральнага ўзроўню сямейнага жыцця, дык, хіба, назіраючы яго, напэўна наш люд нічога не траціць. Каб расійскі публіцыст лепш пазнаў наша вясковае грамадства, дык лёгка здолеў бы заўважыць ягоныя лепшыя маральныя якасці ў параўнанні з гарадскім насельніцтвам... пэўных, перадусім, гарадоў; каб ён лепш прыглядзеўся да нашых сялянаў, дык не ставіў бы іх нароўні з іншымі, разбэшчанымі блізкім суседствам з пралетарыямі. Сёння чыннасць і ўплыў нашых двароў (па-за асобнымі выключэннямі) сярод акалічнасцяў, якія найменш спрыяюць, – бясспрэчна станоўчыя. Землеўласнікі, якія пачынаюць паволі кіравацца лічыльнікамі і галавою, не толькі не ўнікаюць люду, але наадварот радыя ўсё больш і больш моцна заціскаць вузлы добра зразумелага ўзаемнага інтарэсу, што ўжо нават сёння дабратворна выяўляецца, хоць адно на сціплым полі публічных спаборніцтваў. Сумесная праца землеўласніцай інтэлігенцыі і люду ў судах прысяжных дае ўсім вядомыя, найлепшыя і самыя карысныя для краю вынікі. Гэты прыклад відавочна паказвае, колькі дабра прынясла б яна краю, каб гэтай салідарнасці выпала

[1] Mińsk lit[ewski], 27 listopada v[etus] s[tylus] – Мінск Літоўскі, 27 лістапада ст[арога] ст[ылю].

калі-небудзь пашырыць абсяг сваіх дабрачынных праяваў. Ашчадна-крэдытныя суполкі, хоць вельмі яшчэ ў нас нешматлікія, далі ўжо, аднак, паўсюль вартыя згадкі матэрыяльныя і маральныя вынікі. Перадусім, нашая Мінская губ. не засталася ў гэтай справе на апошнім месцы. Суполкі: парэцкая ў Пінскім павеце, клецкая ў Слуцкім развілі, можна сказаць, узорна сваю дзейнасць; да іх у хуткім часе падобна далучаецца наваградская суполка, дзякуючы старанням тамтэйшых землеўласнікаў[1]. Мы мяркуем, што гэтае пытанне павінна нарэшце звярнуць сур'ёзную ўвагу нашых абывацеляў, бо і ліхвярства гэткім чынам прадухілім, і адкрыем крыніцу, праўда, тымчасова невялікага, але сумленнага крэдыту, які, ашчаджаючы шмат што з таго, што інакш павінна было марна згінуць, узмоцніць і зробіць больш шляхетнымі сёння крыху паслабленыя не з нашае віны грамадскія сувязі. Кожная новая такая суполка – гэта толькі што выкарчаваны кавалак легальнага грунту дзеля агульнае і сапраўды грамадскае працы.

На іншых палетках сумленны даследчык таксама заўважыць сляды станоўчага ўплыву найбольш значных землеўласнікаў на павышэнне жыццёвага ўзроўню люду. Возьмем канкрэтны прыклад. Вось зрабілі запісы нядаўна памерлыя св. п. Напалеон Яленскі[2] і Загорскі на справу народнае асветы ў сваіх маёнтках, і хоць практычнае выкананне тэстаментаў не залежала ад волі завяшчальнікаў, тым не менш – гэта факты, вартыя шчаслівага заканчэння. Скажам таксама, што такія людзі, як напр., нядаўна згаслы св. п. Ст. Горват[3], які шчодра дапамагаў люду на Палессі і заснаваў шпіталь

---

[1] У газеце "Kraj" (1886, nr 51, s. 14) паведамлялася: на Наваградчыне, дзякуючы старанням R. T., заснавана ашчадна-крэдытнае таварыства на ўзор таго, што ўжо некалькі гадоў дзейнічае ў Слуцку.

[2] Напалеон Яленскі (1810–1883) нарадзіўся ў маёнтку Лучыцы Мазырскага павета; закончыў Віленскі ўніверсітэт, удзельнічаў у паўстаннях 1830–1831 гг. і 1863–1864 гг., працы таемных арганізацый у Мазырскім павеце, за што ў 1838 г. быў арыштаваны і высланы на Каўказ, дзе вызначыўся пры штурме аула Ахульго Шаміля ў чэрвені–жніўні 1839 г. У 1844 г. вярнуўся на бацькаўшчыну. Пад час падрыхтоўкі сялянскае рэформы выступаў за вызваленне сялян ад прыгону, але без надзялення іх зямлёю. У паўстанні 1863–1864 гг. належаў да партыі "белых". За падпісанне адрасу да Аляксандра II з просьбаю далучыць Мінскую губерню да польскіх губерняў высланы ў Вятку і змушаны прадаць свае маёнткі. Трапіў пад амністыю 1868 г. з дазволам жыць у Варшаве. Памёр на курорце Цепліцы (Аўстра-Венгрыя, сёння ў паўночна-заходняй Чэхіі). У тэстаменце прызначыў больш за 23 тыс. рэйнскіх залатых на асвету і стыпендыі для сялянскіх дзяцей свайго былога маёнтка Лучыцы. Гл.: J. Berghauzen, *Jeleński Napoleon Jan* [w:] *Polski Słownik Biograficzny*, t. XI/1, zesz. 48, Wrocław etc. 1964, s. 144; С. Луговцова, *Заговор Канарского: Мозырское демократическое общество и его участники*, "Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб.", вып. 5, Мінск 2010, с. 297–315.

[3] Гаворка пра Станіслава, сына Ігната Горвата (1804 – да 1886), рэчыцкага павятовага маршалка (1863–1872), уладальніка маёнтку Галоўчыцы (блізу 18 тыс. дзесяцін) у паўночна-заходняй частцы Рэчыцкага павета. Станіслаў і ягоныя браты – Атон (мінскі губернскі маршалак у 1847–1853 гг.), Аляксандр і Даніэль – былі буйнейшымі землеўласнікамі Мінскае губерні. *Польскі слоўнік геаграфічны* адзначае ў Галоўчыцах мураваны палац з некалькімі "pamiątkami i dziełami sztuki", каталіцкую капліцу (*Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. III, Warszawa 1882, s. 108). Пасля смерці Станіслава Галоўчыцы перайшлі да ягонага пляменніка Маўрыцыя, сына Даніэля

для яго; як кн. Радзівілава[1], якая некалькі тысяч рублёў ахвяравала на заснаванне пазыковае касы для сялян у сваім маёнтку Анопаль (Мінскі павет); як Тышкевічы[2], якія арганізавалі ўзаемадапамогу для сялян у Лагойску (Барысаўскі павет); як Прушаноўскі[3] з Бабруйскага павету, які заявіў уладам, што гатовы ахвяраваць некалькі дзясяткаў тысяч рублёў на заснаванне вясковае школы, абы толькі ён мог быць пажыццёвым ейным куратарам, – дзейнасць, скажам, такіх людзей ці то сама сабою, сваёю беспасрэднаю карысцю, ці як добры прыклад, мусіць прынесці плады... зусім далёкія ад “пашырэння дэмаралізацыі сярод люду”.

Ёсць – скажаце – выключэнні... Напэўна. Таксама ніхто з нас не ашукваецца, у адносінах да таго, у якой краіне, у якіх галінах належыць шукаць агульных супраць народнай дэмаралізацыі сродкаў. Тымчасам, аднак, з-за цяжкасці здабыцця агульных, больш глыбокіх асноў вясковае асветы, асветы сапраўднае, а не тае, што захоўвае бачнасць педагагічную і фігуруе адно на паперы, хоць ужо і гэта можна лічыць за праўдзівае дабрадзейства і ласку нябёсаў, што раз за разам знаходзяцца дабрамысныя і шляхетныя душы, якія памятаюць прымаўку: зярнятка да зярнятка. Аднак жа што датычыць гэтых агульных і глыбокіх асноў, дык імкненне іх здабыць – было і ёсць нашая павіннасць. Няма нічога больш практычнага напр. за школу, у якой выкладаецца народная літаратура. А каб літаратура была даступнаю і павучальнаю для прастачкоў належала б, абы інтэлігенцыя трактавала яе цалкам бесстаронне, г. зн. у духу сапраўды народным ставячыся да гаворкі, традыцыі ды ідэалаў. Ніхто з вучоных людзей не пярэчыць ужо сёння, што ў групе славянскіх народаў наш люд мае ўласцівую сабе племянную асаблівасць, якую этнографы і філолагі называюць “беларускаю”, адрозную ад маларускае – найбліжэйшае сваяцкае групы. Бо мінулае дало гэтаму люду, як і іншым, адметную гаворку, навуковая характарыстыка якой сёння ўжо

---

(1838–1903). Гл.: R. Aftanazy, *Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej*, t. 1: *Województwa mińskie, mścisławskie, połockie, witebskie*, Wrocław–Warszawa–Kraków 1991, s. 69–72.

[1] Маецца на ўвазе Ёанна з роду Шафнагель Радзівіл (пам. 1904), трэцяя жонка Аляксандра Радзівіла (пам. 1863). Рэчыцкі староста і маршалак Трыбуналу літоўскага Альбрэхт Радзівіл (1717 – пасля 1790) атрымаў маёнтак Анаполь у якасці пасагу жонкі Ганны Халецкае (1723–1765). Пазней маёнткам валодалі іх сын Дамінік (1754–1798), унук Аляксандар і праўнук (сын Аляксандра з другога шлюбу) Вільгельм (1830–1883). Пасля смерці Ёанны – ва ўласнасці Апінагурскай ардынацыі Красінскіх. Гл.: R. Aftanazy, *Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej*, t. 1: *Województwa mińskie, mścisławskie, połockie, witebskie*, Wrocław–Warszawa–Kraków 1991, s. 13.

[2] Канстанцін Тышкевіч (1806–1868) заснаваў у Лагойску банк для мяшчан і сялян, які даваў пазыкі на добрых умовах. Аднак улады банк зачынілі. Мажліва, сын Канстанціна – Оскар (1837–1897) і ягоная жонка Ганарата (каля 1840 – 1888) выкарыстоўвалі нейкую новую форму дапамогі сялянам. Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. V, Warszawa 1884, s. 682–684.

[3] Прушаноўскім у Бабруйскім павеце належаў маёнтак Янава (Радуш) і фальварак Віктарын, а ў часы прыгону – вёска Радуша (сёння ў Жлобінскім раёне). Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. III, Warszawa 1882, s. 434; t. IX, Warszawa 1888, s. 453.

нават дадзена і прынятая; дык чаму ж гэты люд, што ў сваім гняздзе ўжывае матчыную мову з дзяцінства, не мог бы засвойваць у ёй з дапамогаю друкаванага слова першыя паняцці пра правы чалавека і пра абавязкі грамадзяніна роднага краю? Усё ж аўтар згаданага артыкула ў "Листку" піша колькі абзацаў ніжэй працытаванага фрагменту, што "кепскае цяжка прадухіліць, бо інтэлігенцыя не разумее тутэйшага люду і, наадварот, люд ставіцца да яе цалкам пасіўна, дык варта было б звярнуцца да карэнных, духоўных патрэбаў гэтага люду, бо сёння само жыццё вёскі пратэстуе супраць штучнага ўплыву на яго". Калі так цяжка часам у штодзённым жыцці паразумецца паміж сабою, размаўляючы на розных мовах, дык што ж у тым выпадку, калі прагнем кагосьці навучыць. Першаю ўмоваю працы на тым палетку павінны быць, на нашу думку, зварот да люду на ягонай матчынай мове як на самай зразумелай яму, бо роднай. На гэтую тэму мы ўжо няраз пісалі і развівалі сваю думку шырэй (гл. "Kraj" 1885, №№ 5–6). Добра разумеем, што тут закранаем далікатную струну ўяўнае антыдзяржаўнае ідэі; але ж – о мой Божа! – час ужо, аднак, выказацца адкрыта і зразумець нарэшце, што толькі хваравітае ўяўленне здолее заўважыць у гэтым нейкі палітычны сепаратызм. Ва ўмовах нават нашага правінцыйнага існавання справа даўно ў гэтым сэнсе была вырашаная вядомай у навуковых колах асобаю – св. п. прафесарам Бяссонавым, першым кадыфікатарам беларускае мовы і выдаўцом песняў гэтага люду[1].

У вялікай і грунтоўнай прадмове ён піша: "З развіццём натуральным чынам люду беларускі дыялект, удасканальваючыся знутры, прасякне ўсё жыццё народу, грамадскае і духоўнае, будзе стымуляваць літаратуру, узбагачаць навуку, апладняць мастацтва. Больш за тое, ён быў бы нават беспамылковаю падказкаю для самое ўлады: той, хто мае ў сваіх руках слова народу, з'яўляецца гаспадаром ягоных думак і жыцця. Тады прыхільнікі сепаратызму, каб такія знайшліся, былі б у роспачы".

Так ці інакш – гэта прадмет, які мае нязмерна аграмаднае значэнне для інтэлігенцыі краю, якая, перадусім, столькі разважае пра народ у апошні час... Праблема тэарэтычна вырашаецца папраўдзе вельмі проста; дастаткова сказаць: дадзім асвету грамадскім нізінам, будзем дбаць пра развіццё натуральных правоў люду!... На шляхах чыну, які вядзе да гэтае мэты, колькі ж перашкодаў грубае цямрэчы, злое волі і цяжкіх узаемных

[1] Маецца на ўвазе Пётр Бяссонаў (1828–1898), расійскі славянафіл, публікатар славянскага – у тым ліку і беларускага – фальклору, публіцыст. З беларускай вуснай народнай творчасцю пазнаёміўся ў 1850-я гг., працуючы з архівам Пятра Кірэеўскага, а пасля пад час службы ў мураўёўскай адміністрацыі ў Вільні (1863–1866). Адзін з актыўных прыхільнікаў ідэі прымусовай русіфікацыі "Паўночна-Заходняга краю", але адначасна і праціўнік "крайней национальной нетерпимости" (за апошняе быў выдалены апякуном Віленскае навучальнае акругі Іванам Карнілавым у 1866 г. з Вільні. У 1871 г. апублікаваў *Бѣлорусскія пѣсни съ подробными объясненіями ихъ творчества и языка, съ очерками народнаго обряда, обычая и всего быта*. У 1879 г. стаў прафесарам Харкаўскага ўніверсітэта. Відаць, на падставе чутак А. Ельскі лічыў, што П. Бяссонаў памёр у 1880-я гг., а таму піша пра яго як пра нябожчыка.

непаразуменняў. А час не чакае: ягоныя хвалі з кожным днём усё больш і больш размываюць гэты натуральны грунт, вымываюць з яго айчынныя элементы ягонага існавання і кшталтавання. На спустошанай такім чынам глебе хто ж сядзе: ці той “двор”, да сённяшняга дня яшчэ свойскі, традыцыйна звязаны з вясковаю хатаю, ці сваяк больш-менш блізкі? Не, сядзе на ім чужаніца-эксплуататар, бяздушны касмапаліт, які будзе пашыраць чужы звычай, вышэйшы можа ў ягоных вачах уласных і ў вачах ўсяе ягонае “культургейскае” цывілізацыі, але для нас, пазбаўленых усялякіх органаў і сродкаў лакальнае самадапамогі, варожай і небяспечнай у найвышэйшай ступені...

# Рэцэнзія на “Сѣверо-Западный календарь на 1888 годъ”

А. Ельскі не далучыўся да тае групы мінскае інтэлігенцыі, якая супрацоўнічала з газетаю “Минскій листокъ”, аднак уважліва сачыў за іх працаю, пісаў рэцэнзіі на іх публікацыі, ці то каб аргументавана запярэчыць, ці то каб ухваліць зробленае блізкімі суседзямі. Аднак, хіба, найбольш цікавымі для яго былі каляндары, якія выдаваліся як дадатак да газеты. У сваіх публікацыях А. Ельскі згадаў пра чатыры каляндары (з пяці), а на тры з іх напісаў рэцэнзіі.

Друкуецца ў перакладзе на беларускую мову паводле артыкула: Al. Jelski, *Słówko o starym Zasławiu: Z powodu nowego kalendarza*, „Przegląd literacki: Dodatek do Kraju” 1888, nr 16, s. 11–13.

## *Слоўка пра старое Заслаўе*

З нагоды новага календара

У канцы лютага б[ягучага] 1888 г. выйшаў у Мінску “Сѣверо-Западный календарь”. Гэта першая падобная публікацыя ў нашым палескім краі, выдадзеная досыць старанна на 136-ці старонках звычайнага для такіх выданняў фармату. Вокладку яго аздабляе малюнак з выяваю беларускага селяніна, які абапёрся, падобна, на вулей, побач з ім – сноп і гаспадарчыя прылады. Апрача звычайных каляндарных раздзелаў (напр., праваслаўных, каталіцкіх, лютэранскіх, караімскіх, жыдоўскіх, магаметанскіх святаў, паштовых, тэлеграфных, чыгуначных, статыстычных і г. д. інфармацый), выданне ўтрымлівае яшчэ этнаграфічны дадатак, дзе па-беларуску пададзены народныя прыказкі, паданні і абрады на кожны месяц, а таксама спосабы ратавання параненых падчас вайны ды літаратурны раздзел.

Гэтыя нататкі этнаграфічнага характару заслугоўваюць пэўнае ўвагі. Можна з іх, напр., даведацца, што нашыя сяляне сеюць жыта на св. Барталамея, заканчваюць сяўбу ў дзень Мадэста і Віта, што на Андрэя дзеўкі варожаць на будучае замужжа, што люд пазначае хаты на Тры Каралі імёнамі Каспара, Мельхіора і Бальтазара, святкуе Каляды, Запусты, Вялікдзень, Грамніцы, Свята Яна з Купаллем, а напярэдадні Купалля – Дзяды, што на 40 пакутнікаў прылятае бусел, што селянін спажывае свянцонае, правіць “рацэі”[1] і г. д. Мінскі каляндар вельмі добра зрабіў, што апрануўся ў беларускую шату; сцісла, але досыць дакладна падае ён даўнія і сёння

[1] Павучальнае разважанне ў вершаванай форме.

яшчэ захаваныя звычаі нашых сялян, якія маюць абсалютна поўнае права, каб іх не пазбаўлялі роднае спадчыны.

Што да літаратурнага раздзелу, дык знаходзім там два вершаваныя і два празаічныя творы, заснаваныя на мясцовым матэрыяле. Верш *Родной Бѣлоруссіи*[1], поўны гарачага пачуцця да айчыннага краю, а таксама надзеі на ягоную лепшую разумовую і эканамічную будучыню; шкада толькі, што ананім не выявіў сваіх думак больш выразна ў стылі народнай, матчынай песні… Далей бачым беларускую легенду *Божье наказаніе*[2], у якой С. В. расказвае белым вершам, як за знявагу святога дня Бог пакараў кабету такім чынам, што ейныя грудзі смакталі два жахлівыя вужы, пакуль не высмакталі на смерць… У трэцім абразку пад назваю *Патап і Тэрэха*[3] (павінна быць Цэрэха), узятым з народнага жыцця, п[ан] Лапо прагнуў высветліць антымаральныя дачыненні ў нашых турмах; аднак, даводзіцца пашкадаваць, што ўжытыя ў двухкоссі нібыта беларускія словы, паказваюць на няведанне беларускае народнае гаворкі, лад якое, як справядліва заўважыў вучоны Бяссонаў, ніхто не мае права мяняць на свой капыл. Нарэшце, у апошнім артыкуле п. А. Слупскі даў апісанне двух гістарычных месцаў Мінскае губерні – Заслаўя і Турава[4]. Гэта, увогуле, добра вядомыя рэчы, паўтораныя паводле тагачасных публікацый з пэўнаю гарачнасцю і вераю; але з тае прычыны, што знаходзім мы тут факты, даты і думкі неадпаведныя альбо памылковыя, дык належыць іх выправіць дзеля гістарычнае праўды.

Тое, што аўтар апавядае пра Заслаўе, жадаючы надаць гэтай мясцовасці пэўную адметнасць і сцвярджаючы, што Уладзімір Вялікі пабудаваў тут жаночы манастыр св. Анастасіі, царкву, замак і сам тут жыў (*sic*), не вытрымлівае аніякае крытыкі; бо ў аніводнай хроніцы няма аніякае згадкі пра асабістую прысутнасць Уладзіміра Вялікага ў краі мінскіх крывічоў. Як сведчыць Нестар, Уладзімір Вялікі пасля забойства Рагвалода ў Полацку, забраўшы сілаю Рагнеду, ягоную дачку, ніколі потым не рухаўся ўглыб краю, які належаў забітаму Рагвалоду, і толькі ненавісную Рагнеду паслаў на Міншчыну ў выгнанне разам з сынам Ізяславам, які прагнуў адпомсціць за крыўду маці. Рагнеда была высланая пад Мінск сама мала за тры гады да хросту св. Уладзіміра; з тае прычыны, што вялікі князь яе ненавідзеў, дык не мог будаваць для яе святыні; іх заснавала, хіба, сама Рагнеда, калі прыняла хрысціянства блізу 990 года. Карамзін, праўда, згадвае ў форме дапушчэння пра пабудову Заслаўя Уладзімірам Вялікім, але гэта ўсяго толькі гіпотэза, прынамсі, без удакладнення пра ўзвядзенне Уладзімірам Вялікім ці то замку, ці то хрысціянскае святыні. Перадусім, ён мог загадаць прыгатаваць там месца побыту для Рагнеды.

---

[1] М. З–чъ, *Родной Бѣлоруссіи*, “Сѣверо-Западный календарь на 1888 високосный годъ”: Изданіе газеты “Минскій листокъ”, Минскъ 1888, с. 115.

[2] С. В., *Божье наказаніе: Бѣлорусская легенда*, “Сѣверо-Западный календарь...”, с. 116–118.

[3] Д.Е. Лаппо, *Потапъ и Тереха: Изъ Бѣлорусскихъ картинъ*, “Сѣверо-Западный календарь...”, с. 119–125.

[4] А. Слупскій, *Изяславль и Туровъ: По поводу 900 лѣтняго юбилея крещенія Руси*, “Сѣверо-Западный календарь...”, с. 126–136.

Для лепшага разумення праўды, коратка супаставім факты і даты. Дык вось у 980 годзе Уладзімір, яшчэ паганец, забівае Рагвалода, няславіць ягоную дачку Рагнеду,زаваёўвае Кіеў, пазбаўляе там жыцця брата Яраполка і будуе святыню Перуну. (Параўнай у Карамзіна, т. I, раздз. IX). У 981 годзе крывавая вайна з Мечыславам I, каралём Польшчы (*ibid*.). У 982–983 гадах – пастаянныя сутыкненні Уладзіміра з вяцічамі, яцьвягамі, чуддзю; у той самы час вялікі князь прыносіць жывых людзей у ахвяру ў Кіеве (*ibid*.). У 984 годзе – паход супраць радзімічаў (*ibid*.). У 985 годзе – вайна з Камскаю Булгарыяй і печанегамі, адначасна – інцыдэнт з ненавіснаю Рагнедаю і выгнанне яе разам з сынам Ізяславам пад крывіцкі Мінск (*ibid*.). 986–987 гады цалкам занятыя пасольствамі ў пытанні прыняцця якой-небудзь новае веры, а ў 988 годзе – напад на Херсанес ля Чорнага мора і патрабаванне рукі грэцкае царэўны Ганны з умоваю хросту, што і адбылося. У 989–990 гадах Уладзімір перакульвае ідалаў у Кіеве, закладае шматлікія замкі на берагах Дзясны, Отры, Трубежа, Сулы, Стогна на ўсходніх крэсах дзяржавы (*ibid*.). У наступныя гады (да 993 г. уключна) вядзе войны з харватамі і печанегамі (*ibid*.). У 994–995 гадах будуюцца цэрквы ў Кіеве і вядзецца вайна з тымі ж печанегамі (*ibid*.). З 997 да 1014 года, апрача сутычак з упартымі печанегамі, – войны з нарвежскімі варагамі і Ноўгарадам; у той самы час памірае Рагнеда (каля 1000 году), Ізяслаў памірае на год пазней, а сам Уладзімер заканчвае жыццё ў 1015 годзе, устрывожаны бунтам наўгародцаў (*ibid*.).

Прааналізаваўшы гэтыя справы Уладзіміра Вялікага, становіцца ясна, што ён ніколі не мог знаходзіцца ў Заслаўі. Ад захопу полацкага княства разам з Рагнедаю, з 980 да 985 года ён быў уцягнуты ў бясконцыя войны на паўднёвых і ўсходніх ускраінах, а маючы Рагнеду пры сабе, не мусіў будаваць для яе Заслаўя, аддаленага за сто міль, за пушчамі і лясамі, без дарог і сродкаў камунікацыі; а ў 985 годзе, адпраўляючы ненавісную ўжо кабету ў яе спадчынны край, тым менш асабіста клапаціўся пра месца яе пасялення. А калі стаў хрысціянінам і займеў законную жонку, дык ці ж мог ён займацца колішняю каханкаю, выгнанаю кудысьці там на ленныя крэсы? Ва ўсякім разе гісторыкі рускае царквы нічога пэўнага не ведаюць пра святыні ў Заслаўі. Сцябельскі[1], напрыклад, сумленны даследчык, маўчыць пра Рагнеду і толькі зазначае, што сын яе, Ізяслаў, быў набожны; пра будову святыняў у Заслаўі ён не ўспамінае (гл.: *Жыццё святой Ефрасінні*, выданне 2, т. I, с. 38)[2]. Другі вучоны, архімандрыт Мікалай, гісторык мінскай епархіі, які не прапускае ў сваёй працы самых дробных фактаў, згадвае толькі пра

[1] Ігнацы Сцябельскі (каля 1748 – каля 1805) – даследчык царкоўнае гісторыі Полаччыны. Кніга *Dwa wielkie swiatła na horyzoncie połockim z cieniow zakonnych powstające, czyli Zywoty ss. panien y matek Ewfrozyny y Parascewii, zakonnic y hegumeniy, pod ustawą s. o. Bazylego W. w monastyrze s. Spasa za Połockiem żyjących, z chronologią y przydatkiem niektórych służących do tego pożytecznych krajowych wiadomości, z rozmaitych dziejopisow y pism zebranych* была надрукавана ў Вільні ў 1781 г.

[2] Другое выданне выйшла ў свет у Львове ў 1866 г.

існаванне ў Заслаўі даўняе рускае святыні, а пра манастыр нават і згадкі няма (гл. с. 178–179 ягонае працы)[1].

Тымчасам п. Слупскі ведае пра гэта з такою дакладнасцю, што паказвае нават месца (сёння там карчма), дзе нібыта жыў Уладзімір Вялікі, і з гэтае нагоды патрабуе знесці святыню Бахуса, як рэч, якая прафануе месца гістарычнае памяці (с. 133). Карчму – не пярэчу – знесці можна, няшмат на тым край і гісторыя страцяць, але падставы недастатковыя. П. Слупскі кажа, што Заслаўе было першаю асадаю місіі ўсходняе веры ў гэтых мясцінах. Аднак чаму ж ён слушна, але парадаксальна да свайго ўласнага сцверджання, дадае, што гісторыя ўвогуле нічога не ведае пра місійную дзейнасць старога Заслаўя (с. 126).

Але яшчэ больш дзіўнае паведамленне аўтара пра караля Ягайлу, які, уводзячы на Літве заходняе хрысціянства, загадаў нібыта перарабіць заслаўскую царкву на адзін з першых касцёлаў у тых мясцінах (с. 130). Хоць мы на становішчы сціплых правінцыйных чытачоў даўно прызвычаіліся ўжо да адвольнасці ў гістарычных аповедах, але ўсё ж вымушаны заявіць гэтым разам: згодна з вядомымі паўсюдна фактамі, элементарна, што Ягайла, прыняўшы хрысціянства, пабудаваў адразу ж у 1387 г. на ўсёй Літве і крывіцкай Русі сем першых касцёлаў, пра што знаходзім згодныя паведамленні ва ўсіх храністаў і гісторыкаў. Святынямі гэтымі былі касцёлы: у Вількаміры, Мейшаголе, Немянчыне, Медніках, Крэве, Абольцах і Гайне пад Мінскам (гл. у Длугаша, кн. X, с. 112; у Кромера, кн. XV, с. 356; у Стрыйкоўскага, частка II, с. 80, выд. 1846 г.; у Бельскага, у выд. Багамольца, с. 233; у Нарбута, т. V, с. 405). А пра заслаўскі касцёл, як будову Ягайлы, ніхто – напэўна! – у сур'ёзных крыніцах не знайшоў і знаку да гэтага часу і сумняваемся, што каб мог знайсці. Нічога пра гэта не ведае ані Сцябельскі, ані вучоны архімандрыт Мікалай. Дапускаем, што пакуль паўстала царква ў Заслаўлі, нават пакуль ахрысціўся Уладзімір Вялікі, маглі ў краі мінскіх крывічоў існаваць святыні ўсходняга абраду; бо каля 1000 года ўжо гаворыцца пра заснаванне тураўскай епархіі (гл. у архімандрыта Мікалая, с. 168). Верагоднасць гэтага тлумачыцца тою акалічнасцю, што хрысціянства мела тут доступ з усходу рознымі шляхамі, а св. Вольга магла прынесці яго драўлянам над Прыпяццю каля 946 г. (Сцебельскі). Тым не менш, паміж гэтаю верагоднасцю і занадта канктэтным сцвярджэннем п. Слупскага ляжыць цэлая прорва, каб засыпаць якую, трэба было б "стварыць" нейкую новую, нікому да гэтага невядомую, хроніку.

Словам, не падлягае фармальнаму пярэчанню, што ўсходняя рэлігія не папярэднічала на Русі рэлігіі заходняй; гаворка толькі пра тое, каб пад выснову гэтую не падводзіліся настырныя і бездоказныя выдумкі, нічым не абгрунтаваныя. Памыліцца можа кожны, але не кожнаму можна даравагь свавольнае трызненне на памылковых падставах. Здарылася калісь Карамзіну памыліцца, калі ён гістарычнае Заслаўе размясціў у Віцебскай губерні

[1] Гаворка пра архімандрыта Мікалая Трускоўскага (пам. 1871), рэктара Мінскай духоўнай семінарыі. Выдаў *Историко-статистическое описаніе Минской епархіи*, С.- Петербургъ 1864.

(гл. т. I, разд. IX). Але гэта не дае права папулярызатарам гісторыі гэтага старажытнага паселішча тварыць небыліцы. Час, аддалены ад нас дзевяццю вякамі, аніяк нельга каментаваць з пункту гледжання нашых цяперашніх, больш ці менш добрых жаданняў.

Цяпер яшчэ некалькі заўваг ды папраўак менш значных. Заслаўе было аддадзенае Кейстутам і Альгердам Яўнуту не ў 1342 г., як піша аўтар, а ў 1345 (параўнай у Нарбута V, с. 29). Спаленае Заслаўе было Свідрыгайлам не ў 1431 г., а ў 1433 (Нарбут VII, с. 149). Цалкам неадпаведная дата заснавання касцёла Панны Марыі ў Заслаўі Казімірам Сапегам ў 1623 годзе (с. 131), бо Заслаўе тады яшчэ не было ў руках Сапегаў, а Казімір яшчэ на свет не з’явіўся. Невядома таксама, адкуль аўтар узяў, што заслаўскія дамінікане былі скасаваныя ў 1795 годзе, хоць у сапраўднасці гэты кляштар датрываў да 1832 году. Пішучы пра Глебавічаў у Заслаўі, п. С[лупскі] абмінае, нібы спецыяльна, факт надзвычайнай важнасці, што Ян з таго заможнага рускага роду, ваявода віленскі, стаўшы заўзятым кальвіністам, пабудаваў тут збор і пасяліў міністраў, між якімі вызначаўся слынны Сымон Будны, а кальвінізм утрымаўся тут амаль да паловы XVIII стагоддзя. Памылковая таксама – нават улічваючы такія частыя друкарскія памылкі ў лічбах – дата заснавання дамініканскага кляштару ў Заслаўі як год 1864 (!). Дамініканаў запрасіў сюды Казімір Сапега ў 1678 годзе.

Цяпер, што датычыць манаграфіі пра Тураў, дык і тут знойдзем мы шмат недакладнасцяў. Януша Радзівіла, знанага гетмана польнага, які ўціхамірыў Тураў у 1649 годзе, аўтар памылкова называе Янам[1], а само ўціхамірванне малюе ў яркіх фарбах жаху і міжпляменнай нянавісці; у той час, такі важкі і красамоўны факт, як спусташэнне Турава і Палесся да Наваградку (1534 г.) войскамі Івана Грознага пад кіраўніцтвам князя Фёдара Целяпнёва з прыдомкам “Аўчына”, застаўся цалкам прамінуты. Недакладнасць кампіляцыйнай працы п. С[лупскага] кідаецца ў гэтым месцы ў вочы тым датклівей, што аўтар не займаўся вывучэннем крыніц, а пісаў пра падзеі *in extenso*[2] з *Памятной книжки* Мінскай губерні за 1878 г. У гэтай “Книжке”, прынамсі, спусташэнне Турава і ваколіц Іванам Грозным пазначана дакладна (гл. с. 10 і далей)[3].

---

[1] Так было ў артыкуле, які выкарыстаў А. Слупскі. Гл. ніжай.

[2] *In extenso* – дакладна, цалкам.

[3] Маецца на ўвазе ананімны артыкул *Замѣчательныя мѣстности въ Мозырскомъ уѣздѣ: Туровъ*, змешчаны ў: *Памятная книжка Минской губерніи 1878 года*, часть 2-я, Минскъ 1878, с. 97–103.

# Пераклад фрагменту паэмы Антоні Мальчэўскага *Марыя*

А. Ельскага падахвоцілі перакласці рамантычную паэму Антоні Мальчэўскага[1] *Марыя* на беларускую мову шматлікія[2] перавыданні твора ў 1870–1880-я гг. Пэўную ролю таксама адыграў тут і той факт, што гістарычныя падзеі, пакладзеныя ў аснову гэтага твора [на загад кіеўскага ваяводы Францішка Салезы Патоцкага (1700–1772) 13 лютага 1771 г. была замардаваная Гертруда Камароўская (1754–1771), з якою ў снежні 1770 г. таемна ўзяў шлюб сын ваяводы, Станіслаў Шчэнсны Патоцкі (1751–1805), пазнейшы прарасійскі дзеяч, дыпламат і паэт], маглі быць вядомыя аматару даўніны як Беларусі, так і ўсяе Рэчы Паспалітай. Перадусім, А. Ельскаму, відавочна, імпанавала мастацкая інтэрпрэтацыя гістарычных падзей, а таксама талент паэта, які здолеў мясцовыя паданні ператварыць у песімістычнае апавяданне пра бяссілле чалавека перад абліччам сусветнага зла.

Запіс Уладаса Абрамавічуса ў машынапіснай *Библиографии по белорусской литературе XIX века* (“363. ЕЛЬСКІ, АЛЕКСАНДР. *Марыя*. Поэма Мальчэускага, с польскаго на беларускі язык перелажыў А. І.[3] Автограф находится в рукописном фонде ТПН. Перевод напечатан[4]. Два небольших отрывка опубликованы в 1889 г. в журнале „Przegląd literacki” dodatek do „Kraju”, СПб., 1889, № 7, с. 12–13. Кроме этого автографа в упомянутом фонде находятся другие рукописи[5]

---

[1] Адзін з заснавальнікаў г. зв. “украінскае школы польскага рамантызму” Антоні Мальчэўскі (1793–1826) паходзіў з заможнай шляхецкай сям’і. Нарадзіўся ён ці то ў Варшаве, ці то ў бацькоўскім маёнтку Княгінін на Валыні. Вучыўся ў славутым Крамянецкім ліцэі, а з 1811 г. служыў у войску Варшаўскага княства, браў удзел у напалеонаўскіх войнах. Пасля 1815 г. жыў у Францыі, Італіі, Англіі, Швейцарыі. У 1821 г. вярнуўся на бацькаўшчыну, марна намагаўся выдаць свае творы ў Львове. Уцякаючы ад нешчаслівага кахання, выехаў у Варшаву, дзе, спадзяючыся на славу, выдаў сваім коштам паэму *Марыя* (1825), але надзеі не спраўдзіліся: непрызнаны паэт памёр у матэрыяльнай нястачы.

[2] У гэты час у друкарнях Варшавы, Львова, Пазнані, Ліпску, Пецярбургу і інш. выйшла каля дваццаці выданняў твора.

[3] Так, відавочна, У. Абрамавічус перадае грамадзянскім шрыфтам запісаны ў аўтографе лацінкаю тытул твора.

[4] Гэтае сцвярджэнне літоўскага бібліёграфа можна разумець так, што яму было вядома асобнае выданне перакладу паэмы А. Мальчэўскага. Аднак нельга выключаць таксама, што сцвярджэнне “Перевод напечатан” “расшыфроўваецца” ў наступным сказе.

[5] Беларускім даследчыкам не ўдалося выявіць у віленскіх сховішчах аніякіх літаратурных тэкстаў А. Ельскага на беларускай мове.

Ельского на белорусском яз.”[1]) можа сведчыць, што ў фондзе Віленскага таварыства сяброў навук знаходзіўся поўны пераклад твора.

Пра фрагменты перакладу *Марыі* ў “Przeglądzie literackim” ведаў Я. Карскі і асцярожна [“Вероятно, перу А. Ельского принадлежит белорусский перевод (только несколько стихов) произведения Мальчевского”[2]] выказваўся пра аўтарства А. Ельскага.

Пра поўны пераклад *Марыі* А. Мальчэўскага пісаў і Васіль Барысенка, які ў 1950-я гг. шмат працаваў у віленскіх архівах: “Ельскі пераклаў на беларускую мову першую кнігу *Пана Тадэвушы* Міцкевіча, *Марыю* Мальчэўскага і некаторыя іншыя творы польскіх пісьменнікаў”[3]. Чаму ён не надаў належнае ўвагі тым рукапісам? Бо А. Ельскі, у разуменні тагачаснага літаратуразнаўства, быў рэакцыйным белетрыстам, выступаў апалагетам памешчыцка-буржуазнага ладу.

Уважлівае прачытанне нататкі А. Ельскага ў пецярбургскім выданні можа пацвердзіць інфармацыю У. Абрамавічуса пра існаванне як поўнага ўкраінскага, так і беларускага перакладаў *Марыі*:

“Хоць гэты выдатны твор польскае рамантыкі дачакаўся шматлікіх польскіх выданняў і па некалькі разоў друкаваўся ў перакладах на французскую, нямецкую, расійскую, харвацкую і чэшскую мовы, аднак дзіўна, што будучы ў мастацкай задуме “ўкраінскаю” аповесцю, не меў – на колькі ведаем – украінскага перакладу. І вось нядаўна мы з прыемнасцю даведаліся: таленавіты, што працуе ў хатнім зацішшы вылынянін (які друкуецца пад псеўданімам “Мыхалко”), ператлумачыў гэты шэдэўр на мову Падураў, Кулішаў, Катлярэўскіх, Янчукоў, а як ён справіўся з гэтаю працаю, пасведчаць фрагменты, якія падаём:

Ej! ty na bystry koni, de biżysz kozacze?
Czy zahlanuw ty zajcia szczo na łuzi skacze?
Czy rozihrawszyś dumkoj i poczujaw wolu,
Ty z witrom ukrainskim hulajesz po polu?
Czy może do myłoj zabyłoś serdeńko,
Szczo z pieśnieju ty sweju łetysz tak skoreńko?
Szapku dobreś nasunuw, pustyw koniu woźi
I – łetysz – aż kłubytsia tuman na dorozi.
Żeneszsia, aż sijaje łycia twoho cwit…
Na niom radist jak w poli wohoniok horyt –
Kin dykij, w rukach twoich detynoj zdajetsia
I wytahnuwszy szyju jak witer nesetsia…

А крыху далей:

---

[1] В. Абрамавичюс, *Библиография по белорусской литературе XIX века: Художественные и публицистические произведения, опубликованные и рукописные*, Вильнюс 1949, с. 79. [Машынапіс].

[2] Е. Карский, *Белорусы: В 3 томах*, том 3, книга 2: *Очерки словесности белоруского племени*, Минск 2007, с. 360.

[3] В. Барысенка, *Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, Мінск 1957, с. 163.

Czy ne słaba ty czasom? bo tak wyhladajesz,
Jak bucim wże do neba dorohu ty znajesz,
I w nowoj żurbi toj, chot’ tebe łaskaju,
Czy lubysz mene wirno, szcze raz zapytaju?!!
„Czy tia lubyt Maryna pytajesz mij myły?
Bilsz czym wilno lubyty, bilsz czym mohut syły,
Bilsz czym serce obijmie koły czołowiku
Perebuty tra radist serdecznu, wełyku –
I koby ne Tatary, szczo w oczach stojat,
Kob meni ne ich streły szczo w uszach swystiat,
Byłob łehko, ta myło, czehoż bilsze treba?
Tak tebe obiniawszy łetiłab do neba…

Гэта ўсё пра новы маларускі пераклад, грунтоўную ацэнку якога мы зробім пазней, калі ён з’явіцца ў друку. Цяпер яшчэ колькі слоў пра беларускую шату, у якую толькі што[1] апранулася аповесць Мальчэўскага. Гэты пераклад, зважаючы на тое, што беларуская гаворка вельмі блізкая да польскай, падаецца, нават больш даслоўны, пра што могуць пераканаць фрагменты, якія адпавядаюць вышэй пададзеным з перакладу маларускага. Дык вось: <…>[2]

Можна не сумнявацца, што публікацыя гэтых двух перакладаў, узбагаціла б літаратуры братніх народаў, асабліва беларускую, якая сёння вельмі бедная і патрабуе твораў большае эстэтычнае вартасці ды больш глыбокага зместу”[3].

Дадзеная публікацыя гаворыць таксама пра тое, што ў 1880-я гг. А. Ельскі меў добрыя сувязі з літаратурнымі і навуковым асяродкам у Львове. Здзіўляе той факт, што ён ведае творы паэта “з валынскага заціша” Мыхалкі. Больш за тое: атрымлівае ад яго (?) фрагменты перакладу неапублікаванае паэмы *Марыя* А. Мальчэўскага. Справа ў тым, што пад псеўданімам Мыхалко друкаваўся вядомы расійскі і польскі рэвалюцыянер Эразм Кабылянскі. Ён нарадзіўся ў 1854 г. у Ковельскім павеце Валынскае губерні ў шляхецкай сям’і. Вучыўся ў Пецярбурскім тэхналагічным інстытуце (1874–1876), Лясным інстытуце (1876), разам са сваімі братамі браў удзел у рэвалюцыйным руху. З-за праследу ў 1877 г. уцёк за мяжу, але ў гэтым жа годзе быў арыштаваны аўстрыйскай паліцыяй у Львове, куды прыехаў пад прозвішчам Міхайла Катурніцкі як агент жэнеўскага сацыяльна-рэвалюцыйнага камітэта. Знойдзеныя ў яго лісты да Івана Франка (1856–1916) сталі прычынаю арышту і трохмесячнага зняволення апошняга. Сам жа Э. Кабылянскі пасля суду і турмы быў высланы з Аўстрыі. Аднак пазней часта таемна прыязджаў у Львоў. Па сведчанні І. Франка, летам 1886 г. пасля побыту ў Адэсе і дыскусій з тамтэйшымі ўкраінцамі ён з’явіўся

[1] Дадатак “Przegląd literacki” да газеты “Kraj” выйшаў у свет 17 лютага / 1 сакавіка 1889 г., а таму можна датаваць пераклад *Марыі* А. Мальчэўскага пачаткам 1889 г.

[2] Беларускі пераклад змешчаны ніжэй.

[3] Al. Jelski, *Marya Malczewskiego w przekładach małoruskim i białoruskim*, “Przegląd literacki”: Dodatek do „Kraju” 1889, nr 7, s. 12–13.

ў Львове як шчыры ўкраінафіл і выдаў тут пад псеўданімам (крыптанімам) Mychałko зборнічак украінскіх вершаў *Ukrainki*[1].

Пазней пад псеўданімам M. Borkowski Э. Кабылянскі друкаваўся ў польскіх выданнях: варшаўскім(?) "Głosie" і кракаўскай "Nowej Reformie" (артыкулы пра Адама Міцкевіча).

У 1890 г. ён быў арыштаваны ў Варшаве і, відавочна, згадзіўся супрацоўнічаць з уладамі: напісаў *Докладную записку о польских и русских эмигранцких сообществах и о значении польского вопроса во внутренней и внешней политике России*, якая была выдадзена паліцыяй (1890). У хуткім часе атрымаў пасаду цэнзара і жыў у Пецярбурзе пад уласным прозвішчам. Ягоны брат Людвік (1854–1886) за арганізацыю замаху 2 красавіка 1879 г. на Аляксандра II быў асуджаны на 20 гадоў катаргі[2].

А. Ельскі ўключыў у сваю нататку пераклад першага раздзела (з перакладу Мыхалкі – першыя 12 радкоў гэтага раздзела), а таксама фрагмент сямнаццатага раздзела першае песні (радкі 537–548).

Беларускія гісторыкі літаратуры з часоў Я. Карскага ведалі пра надрукаваны пераклад А. Ельскага, але толькі ў 2013 г. ён быў уключаны ў хрэстаматыю[3], а ў 2015 г. – у электронны рэсурс *Канкарданс беларускай мовы XIX стагоддзя*[4].

Друкуецца паводле нататкі: Al. Jelski, *MARYA Malczewskiego w przekładach małoruskim i białoruskim*, "Przegląd literacki": Dodatek do „Kraju" 1889, nr 7, s. 12–13 з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першапублікацыі.

[1] Mychałko, *Ukrainki*, Lwiw 1886, 28 s. Зборнік складаецца з трынаццаці вершаваных твораў: вершаў на патрыятычную ("Doki mowa nasza ridna // Meże namy bude żyty, // Ukraino ty ne bidna, // Bo żywut szcze twoji dity!") і любоўную тэматыку, перакладаў вершаў *Kałyna* Тэафіля Ленартовіча і *Ty zirońko jasna* Караля Балінскага (1817–1864), а таксама фрагменту паэмы *Hniazdo Ostrohskie*. Выдадзены ў Drukarni Polskiej (Lwiw, ul. Jahajlońska 16) накладам "Kłymentyna Huczkowskoho". Цікава тое, што Drukarnia Polska належала дзеячам сацыялістычнага руху Станіславу Манецкаму, Адольфу Інландэру (1854–1920), Баляславу Выслауху (1855–1937). Кіраўніком друкарні быў Клеменс Гучкоўскі. Б. Выслаух закончыў Пецярбурскі тэхналагічны інстытут, дзе калегаваў з Людвікам Варынскім (1856–1889), ідэолагам польскага сацыялістычнага руху.

[2] Гл.: І. Франко, *Нарис історії українсько-руської літеретури*, Львів 1910, с. 370–371; *Деятели революционного движения в России: Био-библиографический словарь: От предшественников декабристов до падения царизма*, том второй: *Семидесятые годы*, Москва 1930, кал. 593; В. Шевчук, *Із вершин та низин: Книжка цікавих фактів із історії українськї літератури*, Київ 1990, с. 428. Дзякую за некаторыя інфармацыі пра Мыхалку украіністу праф. Ігару Набітовічу з Універсітэта Марыі Складоўскай-Кюры ў Любліне.

[3] *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 5: *Літаратура другой паловы XIX ст. у 2 ч.*, ч. 2, Мінск 2013, с. 109–110, 790.

[4] *Канкарданс беларускай мовы XIX стагоддзя: Электронны рэсурс* / аўтар-складальнік Н. Сянкевіч, Мінск 2015.

## *Marya*, poema Malczeuskaha, s polskaho na biełaruski jazyk pieriełażyu A. J.

Ej! ty na szybkam kani kudy mczysz kazacze?
Czy ty zhledziau hdzieś zajca szto u stepia skacze?
Czy razihrauszy myśli zażadau swabody,
I z wietram ukrainskim puściusia u|zawody?
A może k'swajej miłaj szto żdże paśrod niwy
Smutnu dumku piajùczy lacisz nieciarpliwy?
Bo i szapku ty nasùnuu i cuglam dau woli,
Aż douhi tuman pyłu ciahniaesa[1] pa poli:
Twaja snieda twar[2] radaścju pałaje –
– Meram[3] u poli ciòmnam ahaniok ihraje –
Kali koń, jak ty dziki, no pasłuszny u|życci,
Wyciahnuuszy szyju pore wichar u|prycci...
Zmykaj|że[4] Czernamorcu, u „*mażach"*[5] szto skrypiać,
Razsyplać syny stepu sol, jak nalaciàć.
A ty ptaszyna czorna szto usich witàjesz,
I krużysz zahladaja, ab niesztam pytàjesz,
Spiaszy swaju tajamnicu kazaku skazać –
Nim[6] u kruh ty ablacisz – jaho nie dahnać.

I далей:

Marja! czy ty nia słaba? bo wyhlad taki twoj,
Jak by k'Aniałam dastacsa mieła na pakoj;
I żurusia ja tym, choć mianie hałubisz,
I jeszcze raz pytaju: czy ty mianie lubisz?
Czy Marja ciabie lubić? darahi moj, miły,
Bolsz jak wolna lubić i jak mohuć siły,
Bolsz jak słaba serca kali jamu zadaść
Może znieść z nieczajku tak wiàliku radaść
I kaby nie Tatary szto u|waczàch bliszczać,
I kaby nie ich strèły szto u|wuszach swiściać,
Tak mnie lohko, sałodko, niczoha nie treba,
Jak by ciabie abniauszy lacieła u nieba.

---

[1] Так у газеце. Трэба: *ciahniacsa*.
[2] *Snieda twar* (ад польск. *śniady*) – смуглы.
[3] *Meram* (ад ням. *merh* – больш) – быццам, нібы.
[4] *Zmykaj|że* (ад польск. zmykać) – уцякай жа.
[5] *Maża* (укр.) – воз, на якім ездзілі чумакі.
[6] *Nim* (польск.) – пакуль.

# Рэцэнзія на “Календарь Сѣверо-Западнаго края на 1889 годъ”

Пасля выхаду ў свет першага выпуску каляндара “Минскаго листка” ў друку, апрача рэцэнзіі А. Ельскага, з’явіўся даволі крытычны водгук М. Доўнар-Запольскага[1]. Малады аматар гісторыі пісаў: “Мысль, положенная редакціей въ основаніе изданія, весьма симпатична; если нѣтъ достойныхъ періодическихъ изданій въ Бѣлоруссии, то и простой календарь, хорошо обставленный, можетъ быть весьма полезенъ. Но содержаніе «Сѣверо-западнаго календаря» за настоящій годъ, въ особенности статистическій его отдѣлъ, весьма слабо и требуетъ многихъ улучшеній”[2]. Адлічаны вясною 1888 г. з кіеўскае гімназіі М. Доўнар-Запольскі, відаць, сустрэўся ў Мінску з рэдактарам-выдаўцом газеты і прапанаваў свае паслугі ў падрыхтоўцы да друку другога выпуску каляндара. У выніку рэдакцыя “Календаря Сѣверо-Западнаго края” апынулася ў Кіеве, а яе кантора ў Маскве[3]. М. Доўнар-Запольскі і І. Фоцінскі паведамлялі, што напрыканцы снежня 1888 г. каляндар будзе высланы падпісчыкам “въ видѣ преміи”, а сярод матэрыялаў выдання называліся “*Гапонъ* (оч. изъ ист. бѣлор. литерат.)” і “*Изъ жизни* (разсказъ на бѣлорусск. яз)”[4]. Дадзенае слова выдавец датрымаў: каляндар з’явіўся на пачатку 1889 г. Звернем, аднак, увагу на той факт, што публікацыя беларускамоўных твораў у выданні М. Доўнар-Запольскага стала стымулам дзеля друку іншых беларускіх тэкстаў у газеце “Минскій листокъ” (А. Шункевіча, Янкі Лучыны і – урэшце – “бѣлорусской поэмы” *Тарас*ъ). Відавочна, асмеленая дазволам маскоўскае (?) цэнзуры, рэдакцыя апублікавала творы, якія мінская інтэлігенцыя добра ведала. Садзейнічала і тое, што аўтарытэтнае маскоўскае выданне, орган “Императорскаго общества любителей естествознанія, антропологии и этнографіи, состоящего при Московскомъ университетѣ” голасам Мікалая Янчука ўхвальна выказалася пра каляндар М. Доўнар-Запольскага: “Въ научно-литературномъ отдѣлѣ нѣсколько интересныхъ статей; нѣкоторыя изъ нихъ касаются этнографіи: <…> изложеніе бѣлорусской

---

[1] Гл.: *Сѣверо-Западный календарь на 1888 годъ. Изданіе газеты “Минскій лістокъ”. Минскъ 1888 г.*, “Кіевская старина: Ежемѣсячный историческій журналъ” 1888, т. XXIII, октябрь, с. 17–22.

[2] *Ibidem*, s. 22.

[3] У рэкламных абвестках пазначалася: “Въ редакціи “Календаря Сѣверо-Западнаго края” (Кіевъ, адресъ почтамту извѣстенъ) и ея конторѣ Москва, Тверская, Гнѣздниковскіи пер. д. Любенкова при Типо-Литографіи “Разсвѣтъ” (б. Любенкова)”.

[4] Гл.: *Памятная книжка Минской губерніи на 1889 годъ: Изданіе Минскаго губернскаго статистическаго комитета*, Минскъ 1888, с. н. н.

комедіи Дунина-Марцинкевича *Гапонъ* (изъ народной жизни, съ внесеніемъ текстовъ подлинныхъ бѣлор. пѣсенъ, запис. авторомъ), – М. Запольскаго; <…> *Народныя пѣсни* (20) и искусственныя подражанія имъ; <…> Цѣль и планъ изданія весьма симпатичны и выполненіе очень удачно”[1].

А. Ельскі на момант напісання артыкула-рэцэнзіі на другі выпуск каляндара “Минскаго листка”, хіба, яшчэ не ведаў асабіста М. Доўнар-Запольскага, але бясспрэчна тое, што станоўчы водгук стаўся немалаважнаю падставаю іхняга пазнейшага супрацоўніцтва.

Друкуецца ў перакладзе на беларускую мову паводле артыкула: Al. Jelski, *Przycznek kalendarzowa do literatury białoruskiej*, „Przegląd literacki”: Dodatek do “Kraju” 1889, nr 29, s. 13–15.

## *Дадатковыя каляндарныя матэрыялы да беларускай літаратуры*

Хоць і крыху запознена[2], як на такое выданне, але хацелася б колькі слоў сказаць пра каляндар на 1889 год, выдадзены ў Маскве пад рэдакцыяй М. Запольскага. Называецца ён “Календарь Сѣверо-Западнаго края” і налічвае 138 старонак *in quarto*[3], а заслугоўвае ўвагу ў асноўным таму, што выдавец абяцае працягваць сваю працу ў гэтым кірунку. Зазначым найперш, што ў касцельным раздзеле ёсць асобны каталіцкі каляндар паводле старога стылю, а таксама алфавітнае пералічэнне святых па-польску. Далей маем дакладную і багатую інфармацыю, якая датычыць: пошты, тэлеграфу, школаў, чыгункі, кірмашоў, банкаў, вайсковых павіннасцяў; таксама тут ёсць раздзелы: судовы, лекарскі, гаспадарчы, лясны і г. д. Словам, – усё, што датычыць статыстыкі шасці губерняў Паўночна-Заходняга краю, г. зн. даўняй Літвы, разам са Смаленскай губерняй, заселенай у значнай ступені беларусамі. Адзіны недахоп у тым, што не пададзена статыстыка паводле нацыянальнасці, а толькі паводле веравызнання. Ва ўсіх сямі губернях лічба католікаў абодвух палоў падаецца як 2 645 000 (у тым ліку ў Смаленскай губерні – 3000); але, думаецца, што ў сапраўднасці вернікаў каталіцкага веравызнання больш, бо ў Мінскай губерні паказана католікаў 170 000, у той час як рубрыцэлі[4] падаюць больш за 204 000.

Цікавы літаратурны раздзел, які займае амаль палову выдання. Напачатку змешчаны артыкул пад тытулам *Владиміръ святой и его время*[5]. Мы не памятаем, каб у папулярным падручніку, што выйшлі ў апошні час, чыталі працу, напісаную гэтак жа бесстаронна. Аўтар, п. Запольскі, даў

[1] Н. Я., *Календарь съверо-зап. края на 1889 г., подъ ред. М. Запольскаго (приложеніе къ “Минс. Листку”), Моск. 1889*, “Этнографическое обозреніе” 1889, кн. I, с. 151.

[2] Артыкул апублікаваны 21 ліпеня / 2 жніўня 1889 г.

[3] Пра выданне: у фармаце аркуша, складзенага ў чатыры столкі.

[4] Rubrycela (лац. rubricella) – касцельны каляндар пэўнае дыяцэзіі.

[5] *Владиміръ Святой и его время: Посвящается редакціею памяті 900-лътняго юбилея крещенія Руси*, “Календарь Сѣверо-Западнаго края на 1889 годъ, издаваемый подъ редакціею М. Запольскаго”, Москва 1889, с. 73–86.

жывое апісанне, заснаванае на сур'ёзных крыніцах, цалкам аб'ектыўнае, непрадузятае. Аўтар у сваёй працы звяртае ўвагу на тую акалічнасць, што спачатку варажскім заваёўнікам было вельмі цяжка апанаваць захопленыя славянскія плямёны, якія захоўвалі пэўныя адметнасці, і шмат крыві было праліта, пакуль завааваныя былі скораныя (с. 73–74). Наконт сітуацыі перад тым, як была прынятая вера, п. Запольскі паведамляе, што Кіеў, як цэнтральны пункт гандлю на крэсах заходняй цывілізацыі, заўсёды меў за сваімі мурамі хрысціян-еўрапейцаў, таму яшчэ ў часы Яраполка, брата Уладзіміра, свабодна тут развівалася "рознае" хрысціянства; гэтая акалічнасць нават дапамагла Уладзіміру ўзняць паганцаў супраць брата і заняць яго трон (с. 76). Але як раней Уладзімір, седзячы ў Ноўгарадзе, не хацеў падпарадкоўвацца Кіеву, гэтак потым супраць яго паўсталі падуладныя, баронячы сваю незалежнасць (*ibid*.). Што датычыць самога хросту Уладзіміра, дык звесткі летапісцаў няпэўныя і не вельмі праўдзівыя (с. 79). Асабліва пра тыя пасольствы ў справах рэлігіі да Уладзіміра, якія маглі паходзіць толькі ад мясцовых іншаверцаў, што гандлявалі ў Кіеве (с. 80). Дачыненні з Рымам існавалі яшчэ да Уладзіміра, і заходняе хрысціянства распаўсюджвалася на Русі адначасна з усходнім (с. 80–81). Зрэшты, сам Уладзімір падтрымліваў кантакты з каталіцкім Захадам, карэспандаваў з Чэхіяй, Венгрыяй, з Польшчаю і нямецкім імператарам (с. 82). Лацінскага місіянера Брунона, які ішоў да печанегаў, ён прыняў вельмі гасцінна (с. 84), а для сына Святаполка дазволіў калабжегскаму (лацінскаму) біскупу Рэйнберну прывезці ў Тураў на Палессі жонку, дачку Баляслава Храбрага (с. 85). Вядома, што гэты святы руплівец пашыраў хрысціянскую веру ў тых мясцінах, але падступства Святаполка супраць бацькі абудзілі чуйнасць Уладзіміра, у выніку чаго тураўская княская пара і біскуп апынуліся хутка ў вязніцы (*ibid*.).

Другі па чарзе артыкул пана Запольскага пад тытулам *Бѣлорусское нарѣчіе*[1] папулярна расказвае пра асаблівасці беларускае гаворкі. Далучыўшы меркаванні асобных філолагаў, што беларушчына з'яўляецца часткаю паўднёва-рускае мовы, аўтар нарэшце пагаджаецца з не зусім яшчэ яснымі і абгрунтаванымі высновамі тых даследчыкаў, якія адносяць беларускую гаворку, а таксама і ўкраінскую, да самастойных, аднак усё ж выводзяць яе з "вяліка-рускага" кораня. Гэтае пытанне яшчэ новае і шмат абяцае філосафам, этымолагам і этнографам у будучыні; а мы тут абмяжуемся заўвагаю, што, паводле такіх знаўцаў беларушчыны, як Бяссонаў, старажытнасць яе такая нязмерная, што ў параўнанні з яе векам іншыя рускія гаворкі, а нават польская ды чэшская павінны лічыцца пазнейшымі з пункту гледжання фармавання (гл. *Бѣлорусскія пѣсни*, прадмова, с. 60, 65, 67). Пры нагодзе зазначым, што польскую мову абвінавачвалі, сярод іншага, і ў тым, што яна спрыяла заняпаду беларускае мовы. Інакш мяркуе пра гэты конт той самы Бяссонаў. Ён лічыць, што жыццяздольнасць беларускае гаворкі як нельга

---

[1] *Бѣлорусское нарѣчіе*, "Календарь Сѣверо-Западнаго края...", с. 86–89.

лепш ілюструецца тым, што ў свой час яна сталася літаратурнаю і дзяржаўнаю моваю living рознапляменнае Літвы, а потым дала польскай мове літоўска-рускай правінцыі мноства правінцыялізмаў, чым значна яе перайначыла. Хто ж не ведае гэтых адрозненняў у польскім дыялекце на Літве і цалкам арыгінальнае беларускае акцэнтуацыі ў словах на перадапошняй галоснай, па чым караняж адразу пазнае братоў з-над Нёмана і Віліі...

Ёсць у календары п. Запольскага беларуская аповесць з народнага жыцця, напісаная па-беларуску, пяра знанага Вінцэнта Марцінкевіча *Гапонъ*[1]. П. Запольскі напісаў да яе прадмову і каментары[2]. Насуперак асобным шавіністам чытаем тут, што беларускі рух сярод польскіх пісьменнікаў першае паловы бягучага стагоддзя быў шляхетным, шчырым, навуковым, быў сур'ёзным даследваннем і меў на мэце палепшыць долю люду, як гэта даводзіць шэраг прозвішчаў: Ярашэвіч, Нарбут, Тышкевічы, Чачот, Марцінкевічы, Зянкевіч, Рыпінскі, Сыракомля, Манькоўскі[3] і г. д. (с. 89–90). Шаноўны каментатар разумее нават высакародную патрэбу культурнага аб'яднання плямёнаў без шкоды для нацыянальных асаблівасцяў кожнага (с. 98). Разам з тым мы выявілі ў ягонай сумленнай навуковай працы пэўны дысананс з галоўнаю думкаю, а менавіта там, дзе ён гаворыць пра гэтак званую "*прорву*", якая раздзяляе дзве нацыі на Літоўскай Русі (*ibid.*), у той час не выклікае сумнення, што аніякага антаганізму цягам некалькіх ужо стагоддзяў няма. Шмат можна гаварыць на гэту важную тэму, аднак абмяжуемся тым фактам, што добрыя паны цешыліся і сёння цешацца даверам люду, а калі дзе-нідзе і не было ўзаемнае прыязні, дык і ў цэнтры Імперыі, нягледзячы на этнаграфічную еднасць, кіпела заўзятасць, існавала нянавісць, існавала нават помста сялян за прыгнёт, які шырока практыкаваўся, як гэта паказалі Бяляеў, Сямеўскі, Салаўёў (сенатар), Пыпін, Кавелін, Шчадрын[4] і г. д. Несумненна, нікому нельга забараніць казаць пра "існаванне" культурнай і міжпляменнай барацьбы ў нас на Беларусі. Гэта ў вачах многіх можа выглядаць цікавым, асабліва на газетных старонках; згаджаемся таксама і з тым, што такія "размовы на злосць" адпавядаюць хуткаплыннай журналісцкай модзе, але ўсё гэта разам узятае нічога не вартае, бо люд

[1] М. Запольскій, *ГАПОНЪ: Повѣсть въ стихахъ на бѣлорусскомъ языкѣ В. Дунина-Марцинкевича: Изъ исторіи бѣлорусской письменности*, "Календарь Сѣверо-Западнаго края...", с. 89–99.

[2] Больш дакладна – гэта артыкул М. Доўнар-Запольскага з шырокім цытаваннем твора В. Дуніна-Марцінкевіча.

[3] А. Ельскі мае на ўвазе гісторыкаў, этнографаў і літаратраў, якія нарадзіліся на беларускіх землях, а пісалі пераважна на польскай мове: Юзафа Ярашэвіча (1793–1860), Тэадора Нарбута (1784–1864), Канстанціна Тышкевіча (1806–1868), Яўстаха Тышкевіча (1814–1873), Яна Чачота (1796–1847), Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1808–1884), Гераніма Марцінкевіча (1816 – пасля 1864), Рамуальда Зянкевіча [у А. Ельскага: Zienkowicz] (1811–1868), Аляксандра Рыпінскага (1809–1886), Уладзіслава Сыракомлю (1823–1862), Ігната Манькоўскага (каля 1765 – 1832).

[4] Гаворка пра расійскіх гісторыкаў і літаратараў: Івана Бяляева (1810–1873), Міхала Сямеўскага (1837–1892), Сяргея Салаўёва (1820–1879), Аляксандра Пыпіна (1833–1904), Канстанціна Кавеліна (1818–1885), Міхаіла Салтыкова-Шчадрына (1826–1889).

здаўна ў нас паводзіць сябе спакойна і, кіруючыся прыроджаным розумам, няспынна рухаецца практычным шляхам да надзённых жыццёвых і грамадскіх мэтаў.

Далей у календары надрукаваныя наступныя працы: *Геаграфічна-статыстычнае апісанне Рэчыцкага пав.* п. Філончыка[1] мае пэўную недакладнасць, якая датычыць азёраў, нібыта "шматлікіх"; тым часам, апрача разліваў рэчышча Прыпяці, у павеце налічваецца ўсяго некалькі сапраўдных азёр, а менавіта: Плеса, Стаячае, Віць, Спарыш, Несвіч[2] і Дзікае; а яшчэ ў статыстыцы насельніцтва аўтар не назваў хрысціянаў паводле веравызнанняў, а толькі ўсіх агулам; што да нацыянальнасці, дык названыя толькі беларусы і жыды, хоць аднае толькі польска-каталіцкае шляхты больш за 3000, а польская землеўласнасць да сёняшняга дня складае яшчэ блізу 450 000 маргоў[3].

Наступны артыкул п. Запольскага *Нарыс даўняе Беларусі*[4] адзначаецца гэткім жа выкарыстаннем крыніц, як і папярэднія; мы не разумеем толькі, чаму аўтар неадпаведна ўжывае слова "Русь" у дагістарычныя часы (с. 111); гэта ж сінонім пазнейшага ўжо варажаства, назва невядомая абарыгенам паўночнай славяншчыны. Навошта ж ужываць паняцці з іншае эпохі? Гэта звыклы анахранізм расійскіх пісьменнікаў, які не стасуецца з дакладнай навукай; толькі асобныя, больш аб'ектыўныя выпраўляюць гэтую памылку (гл.: Пыпин, *Бѣлорусская этнографія*, "Вѣстникъ Европы" за 1887 год, красавік, с. 646).

Гэтага ж аўтара, здаецца, і *Апісанне Брагінскай гміны*[5] ў Рэчыцкім павеце, а зусім някепскі артыкул *Институтъ церковного суда въ Смоленскомъ княжествѣ*[6] ужо выразна падпісаны крыптонімам *З*. Варта зазначыць, што ў апісанні Брагіншчыны і Хойнік аўтар аніводным словам не прыгадаў гістарычную постаць Караля Прозара[7], пра якога ёсць што сказаць у спецыяльнай манаграфіі, прысвечанай мясцовасці. Затым п. Віктар Валашкевіч ва ўдалым вершы *Бѣлоруссія*[8] падаў рэалістычны, хоць і смутны вобраз краю і нэндзы споенага люду. Верш *Вдовій сынъ* Т. Калеснікава[9], заснаваны

---

[1] Н. Филончиковъ, *Географическій и статистическій обзоръ Рѣчицкаго уѣзда Минской губерніи*, "Календарь Сѣверо-Западнаго края...", с. 99–107.

[2] У „Przeglądzie literackim": *Nieśwież*. Хіба, друкарская памылка, бо ў нататцы А. Ельскага ў *Геаграфічным слоўніку* пададзена правільна. Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. VII, Warszawa 1888, s.118.

[3] Морг быў роўны 0,71 гектара.

[4] М. Запольскій, *Краткій географическій очеркъ древней Бѣлоруссіи (въ IX–XII вѣкахъ)*, "Календарь Сѣверо-Западнаго края...", с. 107–113.

[5] *Брагинская волость: Историческій очеркъ*, "Календарь Сѣверо-Западнаго края...", с. 113–117.

[6] З., *Институтъ церковнаго суда въ Смоленскомъ княжествѣ* въ XII *вѣкѣ*, "Календарь Сѣверо-Западнаго края...", с. 117–124.

[7] Гаворка пра Караля Прозара (1759–1841), дзяржаўнага і палітычнага дзеяча ВКЛ. Дзед Аляксандра Ельскага Станіслаў быў жанаты з Розаю Прозар, сястрою Караля.

[8] Викторъ Волошкевичъ, *Бѣлоруссія*, "Календарь Сѣверо-Западнаго края...", с. 125.

[9] Т. Колесниковъ, *Вдовій сынъ: Изъ бѣлорусскихъ мотивовъ*, "Календарь Сѣверо-Западнаго края...", с. 125–126

на мясцовай легендзе, трапна апісвае долю гаротнае ўдавы, адзінага сына якое забралі ў войска. Ва ўрыўку *Из жизни* п. Шахаў[1] на абсалютна чыстай беларускай мове расказаў любоўную народную гісторыю. Нарэшце, сапраўдным вянцом календара можна лічыць 22 беларускія песні[2], з якіх – што цікава – смаленскія вызначаюцца большаю чысцінёю мовы, чым запісаныя ў Магілёўскай губерні. Заканчваецца выданне выдатным апісаннем народнага святкавання Вялікадня ў слуцкім павеце[3], а таксама бібліяграфічным спісам прац за 1888 год, якія датычаць Беларусі[4].

---

[1] Н. Шаховъ, *Из жизни: Разсказъ*, "Календарь Сѣверо-Западнаго края...", с. 126–130.

[2] *Народныя пѣсни*, "Календарь Сѣверо-Западнаго края...", с. 131–135. Насамрэч у гэтым раздзеле надрукавана 20 песняў. У прадмове паведамляецца, што першыя 15 сабраў і запісаў Н.Л. Шахаў, а астатнія – Марыя Ф. Пасля ідзе характэрная пазнака: "Ниже мы помещаемъ доставленныя намъ два стихотворенія на бѣлорусскомъ языкѣ, какъ попытки искусственной поэзіи", а ніжэй змешчаны вершы *Ноччу у сялѣ* Н. Ф. і *Му̑гилки* Д. К–ко.

[3] *Пасха въ Бѣлоруссіи: Очеркъ (Записано въ Слуцкомъ уѣздѣ Минской губ., в деревнѣ Конюки*, "Календарь Сѣверо-Западнаго края...", Москва 1888, с. 136–138. У тытуле, відавочна, памылка друку: гаворка ідзе пра вёску Канюхі.

[4] *Библіографическій листокъ: Сочиненія вышедшія въ первомъ полугодіи 1888 года*, "Календарь Сѣверо-Западнаго края...", Москва 1888, с. н.н.

# Рэцэнзія на кнігу М. Доўнар-Запольскага

Прыхільнасць А. Ельскага да М. Доўнар-Запольскага, выяўленая ў рэцэнзіі на “Календарь Съверо-Западнаго края на 1889 годъ”, заўважаецца і ў ягоным наступным водгуку на друкаваную працу маладога даследчыка. Пэўна, пад час наведвання Мінска (жыў і вучыўся ў Кіеве) М. Доўнар-Запольскі пазнаёміўся з навукоўцам з фальварка Замосць, узяў ад яго матэрыялы[1] для наступнага тому календара, а таксама асобныя рукапісы В. Дуніна-Марцінкевіча. Пазней ён напіша: “Считаю своимъ приятнымъ долгомъ выразить глубокую признательность многоуважаемому Александру Карловичу Ельскому, любезно сообщившему мнѣ изъ рукописей В. Дунина-Марцинкевича и подлинный текстъ *Тараса*, и автографъ стихотворения *Вясна, голодъ*…, которые способствовали появлению въ свѣтъ настоящей статьи и, наконецъ, нѣкоторые другіе рукописи, которыми я еще не успелъ воспользоваться”[2].

Друкуецца ў перакладзе на беларускую мову паводле артыкула: Al. Jelski, *O Białorusi*, „Kraj” 1891, nr 21, s. 5.

## *Пра Беларусь*

М. Запольскій, *Очеркъ исторіи кривичской и дреговичской земель до конца XII столѣтія*, Кіевъ 1891.

Пана Мітрафана Запольскага, маладога мінчаніна родам з Рэчыцкага пав., мы ўжо ведаем як аб’ектыўнага даследчык Беларусі. Апрача артыкулаў у адмысловых часопісах, ён выдаў, падрыхтаваўшы каментар, *Гапона* В. Марцінкевіча і каляндар паўднёва-заходніх правінцый на 1889 год, які змяшчае шмат гістарычнага матэрыялу. Праца, названая ў падтытуле, – гэта змястоўная манаграфія пра Беларусь, г. зн. пра абшар сённяшняе Мінскае, Віцебскае, Магілёўскае і часткова Віленскае, Гродзенскае і Смаленскае губерняў, з геаграфічнага, тапаграфічнага, геалагічнага, этнаграфічнага і гістарычнага пункту гледжання. Гэтая праца сумленная, бесстаронняя, заснаваная на крыніцах, як і ўсё, што выходзіць з пад пяра пана З[апольскага]. Аўтар сярод іншага паказвае, што дрыгавіцкая Тураўшчына ўжо ў XI ста-

[1] Сярод іншага: “Народні білоруські казки, записані в Ігуменському повіті Мінської губернії О.К. Єльським”, “Оповідання для народу Олександра з Замостя «Про життя і смерть п’яниці»”, пераклад санета А. Міцкевіча *Бура*. Гл.: Центральний державний історичний архів України, м. Київ, ф. 262, оп. 1, спр. 151, 153.

[2] М. Довнаръ-Запольскій, *В. Дунинъ-Марцинкевичъ и его поэма* ТАРАСЪ НА ПАРНАСѢ*: Очеркъ изъ исторіи бѣлорусской этнографіи*, Витебскъ 1896, с. 3.

годдзі была звязаная з суседняю Польшчаю (с. 86, 88), а калі пазней, у XII стагоддзі, Польшча аслабела з прычыны падзелу спадчыны Крывавустага[1], тураўскія князі, страціўшы так сталых саюзнікаў, пачалі занепадаць у братазабойчых войнах пасвараных варажскіх родаў (с. 90)... Напрыканцы кнігі знаходзім вельмі трапную думку, што Літва, лучачы свой лёс з крывіцкадрыгавіцкаю славяншчынаю і іншымі рэгіёнамі Русі, дала гэтым краям узамен за прынятую ад іх культуру сваю "жыццёдайную, маладую моц духу", забяспечваючы так развіццё аб'яднанае дзяржавы (с. 170). Нарэшце, зазначым колькі заўважаных намі недагаворак ці недакладнасцяў у працы. Згадваючы на с. 10 пра народную легенду, у якой гаворка пра збіранне вады ў дагістарычныя часы ў катлавіне сённяшняга Палесся, аўтар не кажа больш шырока пра падобныя паданні, што падавалі гісторыкі (Герадот, Дытмар, Грабар, Чацкі, Ян Патоцкі, Контрым і шмат іншых) і геолагі (Айхвальд), пра што можна прачытаць у *Słowniku Geograficznym*. Называючы мясцовасці, дзе шмат торфу (с. 11), прапусціў п. З[апольскі] усходнія часткі Ігуменскага, Слуцкага, Наваградскага пав. і амаль увесь Бабруйскі пав. Нягледзячы на яснасць выкладу, аўтар недакладны ва ўжыванні тэрмінаў "Русь", "рускае племя" і г. п., адносячы іх да славяншчыны, яшчэ не апанаванае варагамі-русамі (с. 11); бо ж назва "Русь" была тэрмінам дзяржаўна-палітычным, а не этнаграфічным – азначала край, а не люд. Гэтую назву можна ўжываць у больш шырокім значэнні адно толькі пачаўшы з эпохі ўсталявання княска-варажскіх удзелаў, якія ўзніклі на месцы дагістарычных уладанняў: крывіцкіх, драўлянскіх, дрыгавіцкіх, палянскіх, северскіх і г. д. І ўсё ж, нягледзячы на дробныя недахопы, мы горача вітаем працу пана Запольскага, маючы надзею, што малады працаўнік на гісторыязнаўчым полі зойме выдатнае месца, бо ўжо на пачатку адзначыўся так паважна і сімпатычна.

[1] Маецца на ўвазе Баляслаў III Крывавусты (1085–1138), польскі князь з дынастыі Пястаў. У 1138 г. падзяліў краіну паміж сынамі на ўдзелы.

# Рэцэнзія на “Календарь Сѣверо-Западного края на 1892 годъ”

Дадзеная нататка цікавая тым, што пацвярджае нашае дапушчэнне: А. Ельскі амаль нічога не ведае пра людзей, якія супрацоўнічалі з “Минскимъ листкомъ”. Высока ацэньваючы календар увогуле, рэцэнзент не палічыў патрэбным адзначыць працу А. Слупскага і як рэдактара, і як аўтара *Народнаго календаря*.

Друкуецца ў перакладзе на беларускую мову паводле артыкула: Al. Jelski, *Kalendarz białoruski*, „Kraj” 1892, nr 9, s. 12.

## *Беларускі каляндар*

У Мінску літ[оўскім] нядаўна выйшаў[1] “Календарь Сѣверо-Западного края” пад рэдакцыяй п. А. Слупскага. Мінскі каляндар з тае прычыны, што змяшчае беларускі матэрыял, – вельмі важны, бо зразумела гаворыць з людам. Добраю ёсць вершаваная прадмоўка па-беларуску, якая заахвочвае купляць каляндар, што інфармуе пра ўсё нашых “Янкаў і Саўкаў”[2]. Пасля ідзе на 18-ці старонках народны каляндар[3], што тлумачыць норавы і звычаі мясцовага люду цягам года, прычым шмат далучана прыпавясцяў і прынагодных легендаў. Далей змешчаны прыгожы беларускі верш *Радной старонцѣ* (роднаму краю)[4]. Сапраўдная залацінка выдання – беларускі верш (наследаванне Сыракомлю) *Горсьць пшаніцы*[5]. Тут высакародная мараль для нашага люду, а таксама прыгожае ўзнаўленне зместу ў беларускай гаворцы, што сведчыць – гэта не грубы і прастацкі дыялект, а на ім можна выказвацца і пісаць гэтак жа добра, як і на іншых мовах. Удзячнасць за гэты скарб належыць Янку Лучыну (відавочна, псеўданім). Такіх твораў патрэбна беларускаму люду як найбольш. Ёсць тут таксама прыгожыя пераклады з Сыракомлі на рускую мову[6].

---

[1] Нататка надрукаваная 28 лютага / 11 сакавіка 1892 г., а напісаная, відавочна, у сярэдзіне лютага.

[2] Маецца на ўвазе надрукаваны ананімна верш Янкі Лучыны *Пакуль годъ новы*, змешчаны ў літаратурнай частцы календара “Альманахъ Сѣверо-Западнаго календаря на 1892 г.” Гл.: “Сѣверо-Западный календарь на 1892 високосный годъ”, Минскъ 1891, с. 1–2.

[3] А. Слупскій, *Народный календарь*, “Сѣверо-Западный календарь..., с. 3–22.

[4] Н–скій, *Радной старонцѣ,* “Сѣверо-Западный календарь...”, с. 23–24.

[5] В. Сырокомля, *Горсць пшаніцы*, перев. Янка Лучина, “Сѣверо-Западный календарь...”, с. 37–40.

[6] В. Сырокомля, *Воскресеніе*, перев. Янка Лучина, “Сѣверо-Западный календарь...”, с. 48–55.

# Палеміка з “Минскимъ листкомъ”

Гэтае палемічнае выступленне А. Ельскага – яшчэ адно сведчанне, што ён не падтрымліваў, скажам так, асноўную праграму дзейнасці мінскае газеты: ейнае адмыслова-расійскае стаўленне да беларускага народа, ягонае гісторыі і традыцый.

Праблему дэмаралізацыі А. Ельскі ўзнімаў няраз. Але, здаецца, ніколі не пісаў так востра пра публікацыі “Минскаго листка”. Наадварот, звычайна імкнуўся згадваць пра іх у станоўчым святле. Напрыклад, у пятым нумары “Kraju” за 1892 г. ён пісаў: “Нехта вельмі кампетэнтны, падпісаны літарамі А. Б., апісваючы ў 40 і 42 нумарах “Минскаго листка” за 1886 г. “o położeniu włościanki naszej”, робіць заўвагу, што патрыярхальнасць сярод люду цалкам заняпала, старэйшых не шануюць і гоняць з хат, дзеляць зямлю на дробныя часткі пра зняважлівых сварках, што важнаю прычынаю гэтае дэмаралізацыі з’яўляюцца ганарыстыя жаўнеры, якія вяртаюцца ў вёску з прэтэнзіямі і фальшывымі ведамі пра культуру”[1]. І, хіба, толькі аднойчы, абражаны несправядлівымі выпадамі, годна абараняе сябе і той клас, прадстаўніком якога з’яўляецца. Між радкамі публікацый А. Ельскага на гэтыю тэму выразна чытаецца: не што-небудзь іншае, а расійская прысутнасць на беларускіх землях з’яўляецца тым фактарам, які пашырае дэмаралізацыю на вёсцы.

Друкуецца ў перакладзе на беларускую мову паводле артыкула: Al. Jelski, *Listy z prowincji: Mińska gub., 13 lutego* [Polemika z „Mińskim listkom”], „Kraj” 1892, nr 9, s. 14–15.

## *Лісты з правінцыі: Мінская губ., 13 лютага* [Палеміка з “Минскимъ листкомъ”]

Кожнаму можна, калі ёсць ахвота, няслушна скубануць, тузануць “Kraj” і мяне, яго супрацоўніка, за нібы несправядлівую канстатацыю дэмаралізацыі люду; аднак, на думку “Листка”, мне, атакаванаму з-за чужых плячэй, нельга падаць аргументы, якія рашуча адбіваюць напад. Дык вось “Листокъ” у нумары 10, не могучы запярэчыць пададзеным фактам псавання нораваў ад асноваў, сцвярджае, што я, вышукваючы і падаючы іх тэндэнцыйна з пазіцыі “ультра-шляхецкіх поглядаў на «мужыковъ» як на быдла” (!), заўсёды наўмысна прамінаў тыя выпадкі, пра якія пісаў “Листокъ” і якія нібыта асвятлялі праблему з іншага боку ды іншым чынам.

[1] Al. Jelski, *Listy z prowincji: Z gub. mińskiej, w styczniu [W kwestji stosunków wiejskich]*, „Kraj” 1892, nr 5, s. 14–15.

На гэты новы і надзвычай смелы закід адкажу зноў аргументамі. Дык вось я бяру на сябе ўсялякую адказнасць, калі рэдакцыя "Листка" назаве мне на сваіх калонках хоць бы дзесяць такіх мясцін, на якіх былі б пададзены істотныя факты злоўжыванняў землеўласнікаў супраць сялян, а таксама і праявы духу маральнасці з боку сялян адносна сваіх старэйшых братоў. Памяць нас раней не падводзіла, дык мы пэўныя, што такія весткі ў "Листку" не з'яўляліся, апрача хіба нядаўняе з Ашмянскага павету, адкуль карэспандэнт пісаў з жахам нешта неправўдападобнае, быццам памешчыкі з прычыны дарагоўлі змяншаюць ардынацыю парабкам і што прадаюць сялянам збожжа па праўдзівым гандлёвым кошце (!)...

І ўсё ж, баронячыся ад закіду ў кансерватызме, тлумачу *pro domo sua*[1], што супрацоўнікаў "Листка" не было, хіба, яшчэ тут[2], а можа, і на свеце, калі я горача выступаў як паплечнік і абаронца нашага люду ў справе ягонага вызвалення, ацверазення і адукацыі. Больш за трыццаць гадоў працуючы на полі публіцыстыкі, мы апублікавалі ў разнастайных часопісах і адмысловых выданнях тысячы нататак па гэтай праблеме, сказалі братам-землеўласнікам шмат горкае праўды, выявілі не адну добрую рысу братоў нашых у сярмязе, абаранялі з пачуццём сардэчнага спачування іхнюю духоўную спадчыну: гаворку, старыя звычаі, традыцыі – іхнія грамадскія і эканамічныя правы. Відавочна, аднак, не рупіліся пра гэта ведаць пісьменнікам "Листка". Насамрэч, дарагі нам гэты люд. Нягледзячы на тое, што сёння сапсавалася ягоная маральнасць, пра што пішуць не нейкія там карэспандэнцыі, але афіцыйныя сведчанні духоўнае ўлады, як пра гэта я паведамляў у "Kraju" (гл. № 42 за 1888 г., № 12 за 1889 г., №№ 25 і 35 за 1890 г.). Рабіў гэта не з-за жадання агаварыць нашых сялян, а з глыбокім болем грамадзяніна, які даўно жыве з людам праз мяжу, па-суседску і які добра разумее, што ён з'яўляецца галоўнаю сілаю грамадства.

Напрыканцы дадам, што будучы сябрам-супрацоўнікам Імператарскага вольнага эканамічнага таварыства, усе гэтыя пытанні закранаў паводле абавязку ў адмысловых рэфератах, але не дакаралі мяне за гэта знаўцы грамадскіх дачыненняў у дзяржаве. Трэба было нарадзіцца на свет пісьменніку з "Листка", каб мяне абвінавацілі ў кансерватызме! Гэта грубая памылка – але і я, як і многія іншыя, дарую словамі малітвы: "Прабач, ім Божа, бо не ведаюць, што робяць!"

[1] Дзеля ўласнага дому, ва ўласнай справе, дзеля свае карысці (з лац.).
[2] Алюзія на тое, што публіцыст "Листка" не тутэйшы.

# Пераклад першае кнігі паэмы Адама Міцкевіча *Пан Тадэвуш*

Пераклад А. Ельскага першае кнігі *Пана Тадэвуша*, выдадзены ў Львове ў 1892 г., гісторыкі літаратуры ведалі, але не надавалі яму асаблівага значэння. Я. Карскі палічыў яго першым друкаваным творам А. Ельскага па-беларуску, а таксама даў кароткую характарыстыку: "Перевод Ельскаго *Пана Тадеуша*, безусловно, складнее и легче перевода Д.-Марцинкевича <…> сразу бросается в глаза правильный ритм, что свойственно только тоническому размеру, составляющему принадлежность языков с разноместным ударением. Впрочем, хотя Ельский и хорошо был знаком с русской литературной речью (о чем можно судить по нередким отклонениям у него от белорусского наречия в сторону литературного русского языка), он все же не решился исключительно пользоваться тоническим стихом, и в рассматриваемом переводе неуклюжие силлабические стихи нередки"[1]. М. Гарэцкі адно назваў пераклад А. Ельскага сярод чатырох "ведамых" рэчаў ягонага "беларускага пісьменства"[2]. А вось навукоўцы 1920-х – 1950-х гг. ледзь не цалкам ігнаравалі даробак літаратара XIX ст.: яго творам не было месца ні ў хрэстаматыях[3], ні літаратуразнаўчых даследаваннях[4]. Як выключэнне, праца дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларускай ССР В. Барысенкі, дзе творы А. Ельскага пералічваліся.

З сярэдзіны 1960-х гг. зрэдчас пра пераклад А. Ельскага літаратуразнаўцы згадвалі, а ўкладальнікі хрэстаматый падавалі фрагменты з яго[5]. Урэшце ў томе *Выбранае* апублікаваны ўвесь тэкст перакладу, хоць рэдактары дазволілі сабе ўнесці пэўныя змены[6].

Даследаванні асаблівасцяў перакладу *Пана Тадэвуша* з'явіліся на пачатку 1980-х гадоў. Праўда, у адрозненне ад Я. Карскага, Зофія Скібінска-Харыла не

---

[1] Е. Карский, *Белорусы: В 3 томах*, том 3, книга 2: *Очерки словесности белоруского племени*, Минск 2007, с. 360.

[2] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літэратуры: Выданьне другое (папраўленае)*, Вільня 1921, с. 101.

[3] Гл.: *Беларуская літаратура XIX ст.: Зборнік тэкстаў*, Мінск 1940; *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*, Мінск 1950.

[4] Гл.: С. Майхровіч, *Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя: Выданне другое, папраўленае*, Мінск 1959.

[5] *Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя*, склад. С. Александровіч, А. Лойка, В. Рагойша, Мінск 1971, с. 323–327; *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, 2-е выд., склад. А. Лойка, В. Рагойша, Мінск 1988, с. 421–423.

[6] А. Ельскі, *Выбранае*, уклад. Н. Мазоўка, У. Казберука, Мінск 2004, с. 388–414.

заўважыла аніякіх вартасцяў перакладу А. Ельскага: “Гэтае «амаль даслоўна», раскрывае сам метад новага беларускага перакладу паэмы, метад буквалісцкі, мала творчы, механічны. Тэндэнцыя даслоўнасці не дала ў выніку мастацкага эфекту. У перакладчыка запанавала толькі парафраза, грубае парушэнне сэнсу арыгінала, прыблізнасць <…> Імкнучыся перадаць кожнае слова арыгінала, А. Ельскі часта губляў рытм, дух міцкевічаўскага верша, пазбаўляючы яго вобразнасці і маляўнічасці, зводзячы верш на нізкі бытавы тон, выяўляючы сябе перакладчыкам без развітага эстэтычнага густу. <…> Пераклад А. Ельскага на многа ніжэй перакладу Дуніна-Марцінкевіча, хаця і быў зроблены на больш чым 30 год пазней марцінкевічавага, калі беларуская літаратура шмат ужо чым ўзбагацілася”[1]. Думаецца, ацэнка перакладу А. Ельскага наўпрост залежала ад беларускіх публікацый 1950-х гг.: польскі навуковец знаходзілася ў палоне пэўных стэрэатыпаў пра рэакцыйны характар творчасці пісьменніка і перакладчыка. Цікава, што Антаніна Абрэмбска-Яблоньска называе дадзеную працу адно “спробаю ацэнкі” беларускіх перакладаў *Пана Тадэвуша*[2].

Пераклад А. Ельскага – гэта гістарычны дакумент, помнік беларускае мовы другое паловы XIX ст. Мовы, якой карысталася не толькі сялянства, але і значная частка адукаванага насельніцтва краю. Аб’ектыўная ацэнка перакладчыцкае працы А. Ельскага яшчэ наперадзе.

Не высветленыя таксама акалічнасці, як ішла праца над перакладам, а таксама друкаванне першае кнігі *Пана Тадэвуша*. А такія магчымасці былі, бо сярод папераў А. Ельскага ў AGAD захавалася некалькі рукапісных картак, якія крышку прыўзнімаюць заслону над гэтай таямніцай. Усяго дакументаў сем: а). Чарнавік прадмовы да выдання *Słaйco ad tłumacza* (адрозніваецца ад апублікаванага тэксту толькі адным словам: “sercam cełym” заменена ў канчатковым варыянце на “ŭsim sercam”. У рукапісе ёсць дата, відавочна, напісання прадмовы – “1891 r. 2 stycznia”)[3]; б). Першы варыянт прысвячэння *Pracu hetu ad szczyraho serca afiaruja tłumacz na pażynak, bratniamu biełaruskanu narodu...*, дзе шмат правак[4]; в). Чарнавік зместу першае кнігі *Pajaśniennia reczy pierszaj knihi* з дапіскаю на палях “petytem drukować”[5]; г). Відавочна, чарнавік просьбы-рэкамендацыі выдаўцу: *Uwagi dla wydawcy Pana Tadeusza w białoruskiej szacie* (гл. ніжэй); д). Адрас доктара Каліны (гл. ніжэй); е). Чарнавік (рабочая версія) тытульнае старонкі кнігі: *Pan Tadeusz. Kniha I. Paemat Adama Mickiewicza, piarałażyŭ z polskaho na biełaruski jazyk i achwiarawaŭ dobramu, bratniamu*

---

[1] З. Скібінска-Харыла, *Пан Тадэвуш А. Міцкевіча ў перакладах на беларускую мову* [у:] *Мост праз стагоддзі – Most przez wieki*, Беласток 1982, с. 83–85.

[2] Гл.: A. Obrębska-Jabłońska, *Wstęp z komentarzem językowym do przekładu Bronisława Taraszkiewicza* [w:] А. Міцкевіч, *Пан Тадэвуш, альбо Апошні заезд на Літве: Шляхоцкая гісторыя з 1811 і 1812 г. у дванаццаці быліцах вершам*, перакл. Б. Тарашкевіч, Ольштын 1984, с. IX.

[3] Rkps AGAD, sygn. 140$_1$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 167–170.

[4] *Ibidem*, k. 174.

[5] *Ibidem*, k. 175.

*biełaruskamu narodu Alaksandra Jelski*[1], на якім унізе злева і справа дробнымі літарамі занатаваныя важныя інфармацыі. Злева: “Tekst doręczono (*неразб.*)[2] 1891 г. 3 stycznia”, а справа: “Zaczałem 10 czerwca 1889 г. Daj Boże skończyć!”[3]; ё). Канчатковы варыянт прысвячэння *Pracu hetu afiaruja tłumacz ad szczyraho serca, na pażynak, bratniamu biełaruskanu narodu*... з дапіскам на палях: “Tę dedykację drukować wielkimi literami”[4].

З дадзеных дакументаў вынікае, што А. Ельскі лічыў пачаткам працы над перакладам *Пана Тадэвуша* дзень 10 чэрвеня 1889 г., хоць ужо ў 1885 г. ён апублікаваў пераклад 22-х пачатковых радкоў твора А. Міцкевіча ў сваім артыкуле *Пра беларускую гаворку*?[5]. Трэба думаць, што да пачатку студзеня 1891 г. пераклад першае кнігі быў завершаны. Да гэтага часу, А. Ельскі, відаць, ужо ведаў, дзе будзе друкавацца ягоная праца. Пра гэта сведчыць занатаваны перакладчыкам адрас доктара Антоні Каліны (1846–1906), вядомага польскага славіста і этнографа, які з 1877 г. жыў і працаваў у Львове (з 1888 г. – прафесар кафедры славістыкі ўніверсітэту):

Adres Dr Kaliny.
Австрія, Галиція. Лембергъ[6].
Lwów.
JWielmożny Dr Kalina.
Ul. Gancarska № 15[7].

Думаецца, менавіта А. Каліна павінен быў заняцца выданнем беларускага перакладу славутага твора А. Міцкевіча[8]; менавіта цікавасцю навукоўца да маладаследаваных славянскіх моваў (кашубскай, палабскай) і можна патлумачыць ягонае жаданне дапамагчы А. Ельскаму, які прапанаваў тэкст на малавядомай у навуковым свеце беларускай мове. Львоўскі дабрадзей беларускага літаратара з Міншчыны мусіў знайсці выдаўцá, бо А. Ельскі адно ў адмысловых *Заўвагах для выдаўца* выклаў сваё бачанне тэхнічнага боку справы:

**Заўвагі для выдаўца *Пана Тадэвуша* ў беларускай шаце**

1. Фармат павінен быць сярэдні, адпаведны дзеля дастаткова доўгага радка і вялікага шрыфту[9].

[1] У канчатковым варыянце – А. J.
[2] Прозвішча пачынаецца як Ladus……
[3] Rkps AGAD, sygn. $140_1$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 179.
[4] *Ibidem*, k. 183.
[5] Гл.: A. Jelski, *O gwarze białoruskiej*, „Kraj” 1885, nr 6, 10/22 lut.
[6] Нямецкая назва горада Львоў.
[7] Rkps AGAD, sygn. $140_1$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 178.
[8] Пацвярджэннем могуць быць лісты Вацлава Іваноўскага да А. Ельскага (гл. ніжэй).
[9] Тут і далей у артыкуле падкрэсленні чырвоным алоўкам А. Ельскага.

2. Шрыфт павінен быць вялікі і выразны, званы ў друкароў Cicero[1]. Папера добрая, шчыльная.
3. Карэктура павінна быць зроблена як найлепш з захаваннем беларускае акцэнтацыі над галоснымі, а менавіта знакі: ̀, які абазначае падаўжэнне голасу, націск і ̆, які абазначае скарачэнне голасу гучання літары ***и***, напрыклад, maŭczỳ, ŭłàśniaż, biarỳ, zachacièŭ і г. д.
4. Нават калі ў тэксце рукапісу няма акцэнтацыі з-за спешнасці пісання, яна павінна быць захаваная ў друку[2] дзеля лягчэйшага чытання, асабліва тымі, хто, не ведаючы добра беларушчыны, можа ставіць націск няправільна і скажаць характар мовы.
5. У разе хоць якое няпэўнасці – звяртацца лістоўна да перакладчыка за ягоны кошт.
6. Асобнікаў можа быць блізу 300–400.
7. Кніжка павінна быць адразу добра сшытая і абрэзаная і тым самым даступная дзеля чытання; а з тае прычыны, што няшмат будзе мець тэксту (*неразб.*), дык варта друкаваць дастаткова шырока, каб кніжка больш салідна выглядала і была больш прыемнаю ў чытанні.
8. Трэба захоўваць дыскрэтнасць.
9. З рукапісам абыходзіцца як найашчадней, каб не загінуў і не быў пашкоджаны, бо гэта важная праца.
10. Калі б знайшоўся выдавец, то аддаць яму з умоваю, што дасць мне 30 асобнікаў[3].

Дадзеныя заўвагі могуць, хіба, сведчыць, што пошукам фінансавання выдання займаўся А. Каліна. Перадусім, няма тут гаворкі пра “самафінансаванне”; таксама немалаважны і той факт, што ў якасці ганарара за сваю працу А. Ельскі просіць 30 асобнікаў кніжкі. Звернем увагу: выдавец у асноўным выканаў просьбы-патрабаванні А. Ельскага. (А быў ім Станіслаў Байлі, рэдактар часопіса “Gorzelnik” і кіраўнік “Народнай друкарні” [пляц Бернардынскі 7] у Львове, што выдавала танныя кніжкі для народа). Пэўна, выдаць *Пана Тадэвуша* ўдалося толькі ў наступным 1892 г. І год, пазначаны на вокладцы томіка, адпавядае рэальнаму выхаду яго ў свет[4].

Здаецца, гісторыкі літаратуры не спрабавалі вызначыць польскамоўнае выданне *Пана Тадэвуша*, паводле якога зроблены пераклад. Справа ў тым, што ў XIX с. тэкст паэмы А. Міцкевіча часам друкаваўся ў “адметнай” рэдакцыі, якая адрозніваецца ад таго “класічнага” тэксту, які мы добра ведаем. Што цікава: у перакладзе В. Дуніна-Марцінкевіча, а таксама ў перакладзе А. Ельскага захаваліся асаблівасці “адметнай” рэдакцыі, што дазваляе сцвярджаць: абодва перакладчыкі карысталіся адным друкаваным тэкстам. У выпадку з В. Дуніным-

---

1 Гаворка пра вышыню літары. Адпавядае 12 тыпаграфічным пунктам альбо прыкладна 4,5 мм.

2 Відавочна, асоба, якая займалася выданне, павінна была валодаць беларускаю моваю.

3 Rkps AGAD, sygn. 140I: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 176–177.

4 У асобных беларускіх публікацыях год выдання часам неаргументавана падаецца ці то як 1891, ці то як 1893.

Марцінкевічам вызначыць гэтае выданне нескладана: па-першае, да 1859 г. выданняў *Пана Тадэвуша* было няшмат, а па-другое, парыжскія томікі *Пана Тадэвуша* былі, відавочна, вельмі рэдкія на тэрыторыі Расійскае імперыі[1]. А таму лагічна дапусціць, што "беларускі дудар" карыстаўся выдадзеным Самуэлем Генрыкам Межбахам у Варшаве ў 1858 г. (пасля 20 лютага) трэцім і чацвёрым томікамі васьмітомніка *Творы Адама Міцкевіча*[2], у якіх друкаваўся *Пан Тадэвуш*. Параўнальны аналіз выдання С.Г. Межбаха і перакладу В. Дуніна-Марцінкевіча пацвярджае нашае дапушчэнне.

В. Дуніна-Марцінкевіча, бясспрэчна, магла зацікавіць прадмова С.Г. Межбаха, у якой выдавец сцвярджаў, што ягонае выданне самае дакладнае і правільнае з усіх ранейшых: "У выданнях аповесці *Пан Тадэвуш*, а галоўнае – у апошнім, надрукаваным у Парыжы ў 1844 г., маецца шмат памылак і прапушчаных радкоў, адсутнасць якіх была заўважальнаю. П[ан] Я. Янушкевіч, даведаўшыся пра нашае выданне, меў ласку даслаць нам праўкі гэтых памылак і прапушчаныя радкі з свайго асобніка *Пана Тадэвуша*, у якім уласнаручна сам бяссмяротны вяшчун адны паправіў, іншыя дапісаў (ліст з Парыжа ад 20 студзеня 1858 г.). Усё гэта чытач знойдзе ў нашым выданні. Апрача гэтага, ва ўласнаручным асобніку А. Міцкевіча *Пана Тадэвуша* маюцца неапублікаваныя дасюль фрагменты, якія служаць папаўненню цэласці, а таксама дастаткова вялікія варыянты. Так, напр., апісання літоўскае пушчы апрача [асноўнага] тэксту, ёсць два варыянты. Яны былі прапушчаныя ў папярэдніх выданнях гэтае аповесці альбо з-за таго, што аўтар замяніў іх іншымі, альбо рады быў з некаторых з іх зрабіць ахвяраванне агню дзеля сваіх сяброў, а асабліва дзеля с. п. Стэфана Вітвіцкага, няўмольнага пурыста. У нашым жа выданні дапаўненні аўтара, якія ён уласнаю рукою пакінуў у тэксце, мы падаём у ім, пазначаючы кожны фрагмент зорачкамі, а варыянты змяшчаем у канцы кожнае кнігі"[3].

Пішучы сваю прадмову, С.Г. Межбах, відавочна, яшчэ не ведаў, што варшаўскі цэнзар Францішак Сабешчанскі выкрэсліць з ягонага выдання *Пана Тадэвуша* амаль 400 радкоў. А таму ў перакладзе В. Дуніна-Марцінкевіча (а пасля і А. Ельскага) няма, напрыклад, "характарыстык і дзеянняў" Тадэвуша Касцюшкі:

Takim był, gdy przysięgał na stopniach ołtarzów,
Że tym mieczem wypędzi z Polski trzech mocarzów,
Albo sam na nim padnie,

і Якуба Ясінскага:

---

[1] У 1834 г. у Парыжы выйшла выданне Аляксандра Елавецкага ў двух тамах, пасля паўторанае ў зборы твораў паэта ў гэтым жа 1834 г., а таксама ў 1838 г. У 1844 г. паэму надрукаваў Яўстах Янушкевіч. Торуньскае выданне 1858–1859 г. Эрнста Ламбека паўтарала слова ў слова папярэдняе. (Вядома, што Э. Ламбек (Ernest Georg Maximilian Lambeck, 1814–1892) без дазволу спадкаемцаў яшчэ двойчы (у 1865 і 1878 гг.) выдаў *Пана Тадэвуша* ў поўным аб'ёме).

[2] *Pisma Adama Mickiewicza, wydanie nowe, znacznie powiększone, z portretem autora i ośmią rycinami na stali*, t. III–IV, Warszawa, nakładem S.H. Merzbacha Księgarza, w Poznaniu u Ludwika Merzbacha 1858.

[3] *Ibidem*, s. I–II.

Stoją na szańcach Pragi, na stosach Moskali,
Siekąc wrogów, a Praga już się wkoło pali.

Ці ведалі пра “цэнзурныя нажніцы” беларускія перакладчыкі? В. Дунін-Марцінкевіч – хутчэй за ўсё – не. А вось А. Ельскі – дакладна ведаў, бо меў у сваёй бібліятэцы іншыя выданні *Пана Тадэвуша*. Тым не менш, ён перакладае “паводле С.Г. Межбаха”, бо дапускаў магчымыя рэпрэсіі ў дачыненні да ягонага выдання, якое прызначалася не для замежнага чытача, а для беларускіх сялян.

Пацвярджаюць той факт, што А. Ельскі карыстаўся варшаўскім выданнем 1858 г., два фрагменты першае кнігі твора А. Міцкевіча, якіх няма ў асноўным тэксце большасці іншых выданняў:

Tadeusz przypomniał: jak wszedł do komnaty,
Pustéj jak to siedzenie, i patrzał przez kwiaty,
Jak przez głowy sąsiadek, patrzał w okna sadu,
Jak teraz we drzwi sieni. Szukał znowu śladu,
Pamiątki, zostawionéj po prześlicznéj nóżce,
Co głębiéj w myśli tkwiła niż w piasku na dróżce.
I nie śmiał oczu podnieść do góry: był pewny,
Że ujrzy na filarze jéj ubior powiewny,
Włos pokręcony, w białe obwinięty strączki,
I na piersiach odkrytych skryżowane rączki[1].

Іншым было ў С.Г. Межбаха і завяршэнне першае кнігі *Пана Тадэвуша*:

Teraz, gdy wszyscy spali, w Sędziego komorze
Gadał długo. Wychodząc, ostrzegł że nie może
Być na mszy obławniczéj: bo jutro, w niedzielę,
Musi w parafialnym nauczać kościele;
Potém będzie powrotu strzelców w karczmie czekał,
Lub, gdy prędko nie wrócą, szukać ich przyrzekał[2].

Усё гэта трэба ўлічваць, даследуючы праблему эквіліліарнасці і эквірытмічнасці перакладу А. Ельскага.

Друкуецца паводле кнігі: A. J., *Pan Tadeusz: Paemàt Adama Mickiewicz,* kniha I, Lwoŭ: U drukarni ludòwaj pod upr. St. Baỳlaho, 1892, 41 s. з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першапублікацыі.

[1] У перакладзе А. Ельскага – гэта радкі 325–334, а В. Дуніна-Марцінкевіча – 337–344.
[2] У перакладзе А. Ельскага – гэта радкі 992–996, а В. Дуніна-Марцінкевіча – 977–981.

# PAN TADEUSZ.

Paemàt
Adama Mickiewicz
Piarałażỳŭ
z polskaho na biełaruski jazỳk
A. J.
Kniha I.
Lwoŭ.
U drukarni ludòwaj pod upr. St. Baỳlaho.
1892.

Pracu hetu afiaruja tłumacz ad szczyraho serca na pażytak, bratniamu biełaruskamu narodu, pomnia sławà Mickiewicza, skazànyja im u pradmowia[1] do *Pana Tadèusza*:

*„O! kalì|b dażỳŭ ja toj paciechi,*
*„Sztob taja ksionżka zbłudziła pad strechi*
*„I kab sialanie jajò u ruki uziali,*
*„Dy jak swajù pieśń rodnu mocna pakachali…"*
*Tłumàcz.*

## Słaŭcò ad tłumacza.

Wialiki nasz sławianski paèt, Adàm Mickiewicz, uradżony u Nawahrudku na Litoŭskaj-Rusi, Palàk z rodu, no mnohalubiaszczy ŭsiè sławianskije bratnije narody, miłùjuszczy bolsz niż życia ŭłàsna swoj rodny Litoŭski kraj i ŭsich jahò miaszkancaŭ biaz ŭsiakaj raznicy, wydaŭ u 1834 roku wierszam wiekapòmnuju powieść, pad zahłaŭjem „Pan Tadeusz". U hetaj pòwieści Mickiewicz apisàŭ wyhlad kraju, jahò dàŭnija abỳczai i obraz życcia ŭsich stanaŭ darahoha spałaczenstwa[2], a haràczaju chencju àŭtora bỳła, kab taja ksionżka jahò pranikła u chaty wiaskòwyja i nauczyła sielàn palubić całym sercam ajczystuju bỳlinu[3].

Polski naròd paznàŭ „Pana Tadèusza" rańsz, bo taja powieść drukawana byłà mnoha raz. Druhije sławianskije i niesławianskije nawat narody, dziela wialikaj canỳ utworu Mickiewicza, piarałażyli „Pana Tadèusza" na swajè jazykì, no Biełaruski bratni naròd Mickiewicza, katory byŭ jamù najbliższym k'sercu, nia mieŭ jaszczè ksionżki wialikaho àŭtora u piarakładzia na swoj staradaŭny, pakreŭny polskamu jazỳk. Hod tamù da sarakà pròbawaŭ tłumaczyć „Pana

[1] А. Ельскі ў сваім прысвячэнні выкарыстоўвае першы, другі, дзявяты і дзясяты радкі аднае са строфаў *Эпілогу*, які быў напісаны ў 1834 г., а ўпершыню апублікаваны ў адзінаццацітомніку *Pisma Adama Mickiewicza, wydanie zupełne* (staraniem Eust. Januszkiewicza i Juliana Klaczki, t. IV, Paryż 1860) як *Прадмова* да твора. Тут таксама пададзены і тэкст г. зв. "pierwotnego rękopisu" ў спасылках на доле старонкі. Пазней (напрыклад, у львоўскім выданні 1882 г.) *Прадмова* звычайна друкавалася як *Эпілог* да *Пана Тадэвуша*).

[2] *Spałaczenstwa* – грамадства.

[3] *Bylina* – тут: гісторыя.

Tadèusza” na biełaruski jazỳk zasłużony pisar biełaruski, minczùk Wincenty Marcinkiewicz, no taja praca jahò marna prapała, choć byłà u czaści drukawana nawat u Wilni; totož na cześć biełaruskaj literatury, biełaruskaho narodu; na cześć rodnaj Mickiewicza Biełarusi pierałażyŭ ja „Pana Tadèusza” mal dasłoŭna. Heta dasłoŭnaść piarakładu z tekstu pòlskaho, niech budzia dòwadom bractwa dwuch jazykòŭ i dwuch naròdaŭ, katorym Boh sam sudzìŭ żyć sumestna i pomiaż, razwiwacca razam duchoŭna i materjalna, jak prystała ròdziczam adnòj wialikaj siamjì sławianskaj.

Czytaja „Pana Tadèusza”, darahije Biełarusy, palubicia|ż ŭsim sercam swajù ròdnaju, zaniadbànaju, światuju biełaruskuju mowu, katoraja z pradwieku nia tolka byłà wàszaju u siołach, no jej używali sàmyje daŭniejszyje manarchi kraja i ich wialmoży. Wasz staradaŭny biełaruski jazỳk musić wart czahòś, kali można na jahò skład piaratłumaczyć najcalnejszyje paetycznyje utwory wialikich pisàcialej. Praż umiławannia swajhò jazykà, umiłujcie|ż i afiarawànaho Wam u biełaruskaj szacia „Pana Tadèusza”, u katoram żywie ŭsià bỳlina darahoha nam i Wam kraja. Kalì|b lubòŭ k’aŭsiamù ròdnamu razahreła sercy Biełarusaŭ, praz powieść, napisannuju gianialnym paetom dla swaìch i ŭsìch pabratymcaŭ, to duszà jahò, pragnùŭszaja tak silna toj ŭspulnaj zhody i lubwì, zasijała|b szczasciam aż na tom lepszam swiecia, a nasza bratniaja dola zakrasawałasia|b toża tut u ziamielcy rodnaj, bo tolka toj, chto umieje lubić, wart u Boha ŭsiàkaho dabrà.

Dla braku czasu i druhìch pryczỳn nia moh ja dać u piarakładia adrazu cèłaho „Pana Tadèusza”, tak i budu drukawać czasciami. Ciapièr wychodzić paczatak, a Boh daść, budzia dalszy ciong pòwieści, pa miery jak zmohu spràwicca u hetaj rabocia. Pakùl szto, bratỳ Biełarusy pryjmicia choć tuju czastoczku dzieła k’sercu, z uwahaju hòdnaju ìmiani wialikaho pabratymczaho paeta.

## I.

## Haspadarstwo.

Pajaśniennia reczy pierszaj knihi.

Sardecznaja słowa da darohoj Litwỳ[1]. Pawaròt panicza damòŭ. Spatkannia jahò z dziawicaj u pakoiku i z druhoju krasu taju[2] pry abiednam stale. Wàżnaja nauka Sadzji ab hrecznaści. Uwahi Padkamoraho nad modami. Paczatak sporki za sabàk: Kusoha i Sakała. Horkaja prymoŭka Wòjskaho da myśliŭcaŭ. Aposzni Woźny Sudawoha trybunału. Ŭzhlàd polityczny na tahdaszniuju Litwù i Auropu. Ksiondz Rabàk.

Litwà! majà Ajczyzna! ty zdaroŭju roŭna;
Takwiela toj ciabiè acenić chto pażyŭszy poŭna
Ciabiè utraciŭ! Ciapièr krasù twajù ja lepiaj znaju
I apiszù, bo ciażka pa tabiè skuczaiu.
Najswientsza Panna! Szto baronisz Czenstachowy jasnaj,

[1] Хоць А. Ельскі і пісаў у прадмове, што перакладаў “mal dasłoŭna”, але часам дазваляў сабе дадаваць словы і выразы, якіх не было ў арыгінале. Першы і апошні “пункты” *Pajaśniennia reczy pierszaj knihi* адсутнічаюць у большасці публікацый арыгінала.

[2] Відавочна: *krasulaju*.

Swiecisz u Wostraj Bramia ułàsnaj
I sciarażèsz Nawahrudak, starỳ nasz horad żyły –
– Ty pomnisz jak ratawała mianiè iz mahiły,
Toj czas, jak matulka sa slazinaj
Maliła ab apieku nada|mnòj dziacinaj,
I ja z nièmaczy paŭstaŭszy choć na słabu nohu
Bieh da Twaìch prystołaŭ padziàkawać Bohu –
Takim|że cudam nas pawierniasz u ziamielku rodnu;
Pakul|że przyjdzia toja szczaścia, daj achwòtu hodnu
Czystym sercam uspaminàć: Lasnyja horki kraja,
Zialònyja łuhì hdzie Sini Nioman prapływaja,
Razłohi rodnych niŭ zbożam malawanych,
Załòczanych pszanicaj, żytam pasrebranych;
Hdzie żòŭcieńka swirepka, hreczka jak snieh bieła,
Hdzie z krasoju dziawoczaj dziàcialina[1] siela,
A ŭsiò u zialonych mieżach, jak u stużkach meram –
Na nich siadziać zredka, cicha ihruszy szpaleram[2].

Siaròd takìch niŭ, nad bièraham ruczaju,
Na pryhorku niawialikam, u biaròzawam haju
Stajàŭ kòliś na padmurku szlachocki dwor draŭniàny,
Swiacilisia z dalòk ścieny pabialàny
Tym bolsz, pryciomna zialanawym kòlary tapoli,
Zakrywàŭszych u wosiań kalì wieciar u poli.
Dom miaszkalny nia wialiki, no ŭ niom ŭsiò pryhoża,
Prastòrnaja stadoła, pry|nièj stahì try zboża,
Bo pad strachù nia zmiaściùsia hadawỳ użatak[3] –
Znać akòlica bahata i rodzić naddatak[4].
Widna|ż toja i z liczby kop, uzdòŭż i papiaròk
Swiaciaszczych, jak zorki, na łania[5]; widna z liczby soch
Aruszczych ucześnia dwòrskija musić papary,
Czarnaziòmnyja pałosy i pahnoi stary,
Upraŭny tak jak u aharodzia hradki:
Peŭnia|ż u dwarè dastatak i paradki:
Bacz i brama staìć naściaż, zdajecca hałosić
Szto haścinna, padarożnych u haścinu prośić.

Ułàśnia|ż dwukonnaj brykaj[6] panìcz u darożnam stroi
Ujechaŭ i akrużỳŭszy dziadziniac zwiarnùŭ pad pakòi.

[1] *Dziàcialina* – белая канюшына.
[2] *Szpalera* (ад ням. *Spalier* з іт. *spalliera*) – два шэрагі дрэў ці кустоў, што ўтвараюць алею.
[3] *Użatak* (ад польск. *użątek*) – тое, што зжата; плён.
[4] *Naddatak* (ад польск. *naddatek*) – тое, што больш за меру.
[5] *Łan* – поле, на якім сеюць збожжа.
[6] *Bryka* – крыты (часцей за ўсё) воз.

Wysiaŭ z pawozu, a koni pakìnuty samy
Paszlì zwolna szczypàć trawù z pad bramy.
U dwarè pusta: bo dzwiery ad ganku zamknuty
Na klamki, i jòny kałkami zatknùty.
Padarożny nia bieh na falwarak słuh pytàć,
No sam adczynìŭ dom – żadàŭ jahò witàć.
Daŭnò domu nia baczyŭ, bo u dalokam mieścia
Uczỳŭsia, i kancà naùk dażdaŭsia nareszcia.
Ubièh i wokam chciwym na ścienach daŭnejszych
Razhladaja czuła – basz[1] druhòŭ milejszych.
Toj sam usiudy sprat, ty samy abiccia[2]
Z katorymi lubìŭ hulàć ad pawiccia;
Tolka jak by mieńszy, praściejszy niż kòliś hladzieli.
I tyja|ż samy partrety na ścienach wisieli.
Tut Kaściuszka u czamarcy krakoŭskaj, padniaŭszy woczy u neba,
Dzierżyć miecz u dwuch rukàch, jak da bitwy treba,
Dalaj u polskaj szacia
Siadzic Rejtàn, żałosny pa ajczyzny stracia,
Ŭ ruccè jahò noż zwièrniany da łona,
A pieràd nim mudry knihi: Fèdana, Katona.
Dalaj Jasiński, dziaciùk piekny choć nasupny,
Pryniòm Karsàk tawarysz jahò niaadstupny.
Paznàŭ nawat stary zagàr kurantowy,
Stajaczy u draŭnianaj szafia kalà alkòwy,
I z ràdaściu dziaciaczaj tòrhnuŭ za sznuroczak,
Sztob znajomy Dambraŭskaho paczuć mazuroczak...

Biehaŭ pa cełam domia, pakoju szukàŭ,
U katoram bỳŭszy dziciam dòŭhi czas miaszkàŭ.
Uszòŭ i papiacìŭsia zirnuŭszy z zdziŭlenniam na ścien prymiety.
Bỳła|ż|by heta miaszkannia kabiety?
Chto|ż|by tut żyŭ? dziadźka precia[3] nia żanaty,
A ciotka wybyła daŭnò u horad iz chaty.
Heta|ż nia achmistryni pakòj, kalì fartapjàn –
Na niom not i ksionżak lażỳć cały stan
Niby biazładna, adnàk woku miła!
Nia stàraja music ruczka ŭsiò tut pałażyła.
Tuż[4] i sukienka bieła, swieża z kałkà zniata
I da ubrannia, na kresła parenczu razpiata.
A na woknach wazony z pachùczymi ziolki:

[1] *Basz* – як.
[2] *Abiccia* – матэрыял, якім абівалі ці клеілі сцены і інш.
[3] *Precia* (ад польск. *przecie*) – аднак.
[4] *Tuż* – блізка, побач.

Gieranium, laŭkonia, astry i fijołki.
Padarożny staŭ pad woknam, baczyć nowa dziwa:
U sadzia, na kraì hdzie rasłà krapiwa
Ciapièr kwietny aharodczyk, scieżkami abniaty,
Poŭny bukietaŭ, trawỳ angielskaj i miaty.
Płatoczak małỳ, draŭniany, u daseni[1] zbity,
Stùżkami stakrotak[2] sijaja pawity;
Widàć byłà i hradka swieża paliwana;
Tuż staiała poŭna kònaŭka blaszana,
No hdzie|ż sàma aharodniczka wiortka?
Peŭnia wyszła, bo jaszcze kałỳszecca chwortka
Parùszana ot tolka, a blizka jej widàć sled hołaj nożki –
– Music była biaz czarawika i panczoszki –
Na piaskù drobnam, suchòm, biełym na kształt sniètu;
Sled wyrazny choć lohki, uzhadna szto u biehu
Chutkam astawiła jahò màłaja nożka
Asoby datykaŭszaj ziamli tak wiela troszka.
Padarożny dumaŭ doŭha u akòncy stòja,
Pawiewam pachuczych kwietaŭ hrudzi swajè poja;
Haławù skłaniŭ nizka aż k'fijołkam doli,
Hnaŭ cikawym wzrokam pa ścieżkach dawoli
Aż znoŭ jahò woczy na śladòczkach stali,
I myśliŭ: czyje|b' bỳli, ad kahò paŭstali.
Prypadkam zirnùŭ wyżaj i tuż na parkania
Stajała dziawica – bieła jej ubrannia
Stàtnuju pastàć tolka aż da pierści[3] kryja,
Adsłòniany ramiòny, labiadzina szyja.
U takòm Litwinka być tolka zwykła rana,
Nikoli praz mużczỳn hetak nia widana,
I choć świedka nia mieła, adnak nie na praszki[4]
Złażyła ruczki na hrudzi dziela apranaszki...
Wołas u pukli nia razwity, no skrùczany u wuziołki
I schawany u biełу, jak struczkì czapiołki[5]
Dziŭna krasiŭ hałoŭku, bo ad sonca blasku

---

[1] *У дасені* (ад фр. *dessin* – малюнак) – ва ўзоры. У арыгінале – *w cyfrę powiązany płotek*, г. зн. плот са штыкетаў, звязаных накшталт рымскае лічбы X.

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 615: "СТОКРО́ТКА, и, с. ж. цвѣток Маргаритка. *Стокротками убрали голову невѣсты*".

[3] *Pierści* (ад польск. *piersi*) – грудзі.

[4] *Nie na praszki* – магчыма: недарэмна. Гл. таксама: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 493: "ПРАШКА, и, с. ж. болѣе употр. во множ. Прашки, -шекъ (отъ Прахъ). Ложь, пустяки. *Усё гето прашка, что ты кажешъ. Ты адними прашками займаешся, а не дзѣломъ*".

[5] Магчыма, маецца на ўвазе *чапёлка*, ці *жоўтая чапля* – птушка, у якое ў шлюбным уборы на патыліцы з'яўляюцца белыя пёры.

Swiaciŭsia jak karona na swiatỳch abrazku.
Nia była widna twary – adwiarnuŭszyś u pola
Szukała kahòś wokam, daloko, na dola;
Zhlèdziała, zaśmiajałaś, klàsnuła ŭ dałoni,
Jak biełу ptak ŭzlacieła z parkanu na błoni[1]
I pamczała sadam praz płòciki, kwiety
I pa doscy apiortaj ab scianù hdzie pakòj hety,
Nim panicz paściaròh, ubiehła praz wokna, jàsnaja biaz konca,
Nahła, cicha i lohka jak swietlaść miasionca.
Zanuciŭszy pièśniŭ chapiła sukienku, z niej prad lustram stała;
U tym ubàczyła chłopca, zbledła, suknia jej z ruk upała.
Twar padarożnaho zrabiłasia rumiana,
Basz wobłak, kalì z braskam[2] sustreniacca rana;
Saromny maładzìk zmrużyŭ i prysłaniŭ woczỳ,
Chacièŭ kazàć, piaraprasìć, no tolka paklanicca naszłòś moczy
I pawiarnùŭ, a dziawica zahałasiła u ton
Niby dzicià stracham abniata praz son.
Spużaŭsia i padarożny, zirnùŭ i jej użò nia bỳła,
Wyszaŭ zmiaszany paczuúszy jak jamù mocna serca biła,
I sam nia wiedaŭ czy spatkannia toja warta śmiechu,
Czy pryniesła jamù stỳd, czy paciechu.
Tymczasam na falwarku ŭràz zameciŭ ktości
Szto pad ganak zajechaŭ nieki z nowych hości,
Zaraz uziata koni u stajniŭ i dawoli dana
Abroku i siena, jak słusznia u pana,
Bo sudzja pan, nikoli, według nowaj mody,
Nia wialèŭ adsyłàć koni żydàm da gaspody.
Słuhi witàć nia wyszli no nia dumaj ucala[3]
Kab u domia sudzìj służyli niadbała;
Słuhi czakajuć pakùl pan Wojski prybiarecca harna,
Jon hatowiŭ dla biasiedy ŭsiò haspadarna,
Zastupaja miesta pana u jahò niabytnòści,
Wòjskaha recz[4] sustrakàć i zabaŭlàć hości –
Daloki jon swajàk i pryjacial domu.
Zhledzia hościa sunuŭ na falwarak pakryjomu,
Nia moh że spatkàć u tkackam pudarmania[5].
Nadzièŭ zatỳm chutczèj swiatoczna ubrannia,
Pryhatòŭliana ucześnia, bo wièdama była,

[1] *Błoni* (ад польск. *błonie*) – роўнае месца; раўніна, пакрытая травою.
[2] *Brask* (ад польск. *brzask*) – слабае святло ад сонца, якое яшчэ не паказалася над гарызонтам.
[3] *Ucala* (ад польск. *wcale*) – зусім.
[4] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 562: “РЕЧЬ, и, с. ж. (Лат. Res). <…> 2. Предмет, дѣло. *Одну речь забывъ тобѣ сказаць. То иная речь*!”.
[5] *Pudarman* – накідка падарожнага ад пылу. Выкарыстоўвалася таксама пра часанні і пудраванні.

Szto k’wiaczery haściẻj prybudzia siła.
Pan Wojski z dalòk paznaŭszy aż ruki razniàŭ
I u hołas padaròżnaho ściskàŭ i caławàŭ.
Zaczali sia skory, miaszany razmowy,
Let mnoha zmiaściła sia usiè tyja słowy
Karotki, zbłútany u pasmy wieści, pytannia,
Ràdaści, uzdochaŭ i nòwaha witannia.
A jak pan Wojski zdawòliŭsia żupìć[1],
To na kancỳ uždumaŭ dziejki dnia abjaśnìć.
Dobra moj Tadeusz, (bo tak nazywana
Dziaciukà, jak Kaściuszku pana,
Na pàmiatku szto u wajnù jahò radziŭsia),
Dobra moj Tadeusz szto nam nahadziŭsia
Da domu, kalì majam panienak wiela.
Dziadźka chocza sprawić tabiè wiasiella;
Jość z czahò wybiràć; u nas tawarỳstwa liczna[2]
Praz dzion kolki, bo idziè sprawa hraniczna,
Kaby kończyć daŭni z panam grafam spor
I pan graf maje zaŭtra sam prybỳć u dwor.
Padkamory uż pryjechaŭ z daczkami, z żanòju,
Maładziòż paszłà u les bàwicca stralbòju,
A staryja i kabiety żniwa ahladajuć
Pad lesam i tam peŭnia na maładziòż czakajuć,
Pojdziam kalì choczasz i spatkajam samy
Dziadźku, padkamorstwa i szanoŭny damy.

Pan Wojski z Tadèuszam paszlì pad les darohaj,
I jeszcza nia zdawòliŭszyś hamanili mnoha.
Sonca dabiahaja aposznich kresaŭ nieba
Swiaciła meńsz, no szỳraj, jak pad wieczar treba –
Bahrowa niby twar gaspadarà,
Katòramu pa pracy adpaczàć parà.
Użò pa nad boram spusciŭsia kruh łuczysty,
Wiarszeczki dreŭ pałajuć, halajkò i listy
I ŭsiò jak zlita razam, a bor adnàk ciamneja na kształt gmachu,
Choć sonca nad nim czyrwona, bacz[3] pażàr na dachu.
Ureszcia zapała u hłyb i blisnuŭszy tak wiela praz wieccia,
Niby praz akianic szpary, pahasła na świecia.
I ŭnèt siarpy zwiniàszczyja hramadna u poli,
I hrabli sòwany pa łuhòch dawoli
Scichli i stali: takì zwyczàj u Sudżìj pana;

[1] *Żupić* – гаварыць, размаўляць.
[2] *Liczna* (ад польск. *liczne*) – шматлікае.
[3] *Bacz* – як.

U jahò pracawàć pa zàchadzia zakazana.
„Haspadàr swieta wiedaŭ jak doŭha dzieła rabìć treba;
„Sonca, jahò rabotnik, kalì sojdzia z nieba,
„Czas i ròlniku icì damòŭ z pola”.
Jak zwyk kazàć pan Sudźjà, a jahò wola
Patscìwamu akanomu byłà swiata,
To tož choć na wazỳ zboža nakładàć zaczata,
Adnàk jeduć nia poŭny sabiè da stadoły,
I wòlikam uciecha szto lahczèj kòciacca koły.

Ułaśnia|ż[1] z lesu waròczałaś, wièsiała u paradku
Tawarystwa ceła, małyja dzeci na paczatku
Z dazorcam[2], patòm szoŭ Sudźjà z Padkamarỳnaj,
Podla ich Padkamory sa swojèj radzinaj;
Panny tuž za starszymi, a za nimi z boku
Maładziòż abyczajna, moža na poŭ kroku,
Tak uczyć hrecznaść): da paradku nichtò nia prymuszàŭ,
Nichtò mužczỳn i dam nia ustaŭlàŭ,
A každy mima woli paradku dziaržaŭsia,
Bo sudźjà u domu z starym abyczajam znaŭsia
I nikoli nia pazwoliŭ chybić u czomś dla wieku,
Dla ròzumu, uradzennia z ŭładzaj czaławieku.
Tym tołkam, kazàŭ jon, siamjì, narody słynuć,
Z jahò upadkam siamjì i narody hinuć...
Prywykali k’tamù ładu słuhi damawyja
I pryjezdny hość i kreŭny i ludzi druhija,
Jak tolka pabywali u sudzìj wiela mała –
– U jahò tym zwyczajam ŭsiò padychała.
Karòtkaja była sudzìj z bratàniczam witannia;
Daŭ jamù pawažna ruku dla pacaławannia,
I ŭ skroń pacaławaŭszy miła prawitaŭsia;
A choć praz ŭzhlònd na hości nia mnoha pytaŭsia,
Widàć ža była sa sloz, katòryja wylotam kantusza
Abciòr skora, jak lubìŭ pana Tadeusza.

Uślèd za haspadaròm ŭsiò sa žniwa i boru
I z łuk i z paszy waròczałaś razam da dwòru.
Tut czaradà awièc beczyć, precca na ulicy
I uznosić chmaru pyłu; dalaj tyrolskija cialicy
Z masienžnymi[3] dzwànkami wòlineńka idùć;

[1] *Ułaśnia|ż* (ад польск. *właśnie*) – менавіта, якраз.
[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 138: “ДОЗО́РЕЦЪ, рца, с. м. Надзиратель, смотритель. *Нехай дозорецъ насъ разсудиць*”.
[3] *Z masienžnymi* (ад польск. *mosiądz*) – з латуннымі.

Tam z łuhu pa pakosia mczać koni i rżuć,
Usiò biażyć k'studni, katoraj żurawièl wilaja,
Raz-ŭ-raz skrypìć i u karyta wadù naliwaja.
Sudżjà choć zmardawany, choć pasiaròd hości,
Nia zabyŭsia haspadarskaj swajèj pawinności,
Pabrèŭ k'studni, bo najlèpsz z wièczora, maspania,
Paznàć haspadarù u jakòm abora stania;
Dazoru tahò sudżjà słuham nikoli nia paruczaja –
Prỳkazku szto „panska woka kanià tuczyć dobra znaja.

Wojski z Woźnym Pratazym, u sieni sa świèczkami stajali
I zdałosia jakby to sabiè nieszta prymaŭlali,
Bo u niabytnaść Wòjskaha Woźny pakryjomu
Skazàŭ stałỳ z wiaczeraj pawynosić z domu
I pastawić ich skora pasiaròd zamczyska,
Katòraha ruiny widnieliś pad lesam blizka.
Czamù|ż tyja piaranòsiny? Pan Wojski kżywìŭsia.
Piarapraszàŭ sudźjù, a sudźjà dziwiŭsia;
No stàłasia użò: pozna i trudna paradzić,
Zawòlaj haściėj piaraprasić, u pustku ich prawadzić.
Woźny daròhaj ciongla tłumaczyŭ
Dla czoha panski rasparadak piarainaczyŭ.
U dwarè, basz, żàdnaja izbà nia maja toj wialkości
Kab mahłà pamiaścìć stolka hodnych hości;
U zamku sień wialika i sklapiennia ceła,
A choć rysa u adnòj ścianiè, adnàk z nieju śmieła;
Wokny, praŭda, pabity, no ŭ letku biaz szkody,
Blizki że sklep służyć słuham dla wyhody.
Tak kàżuczy Wojski marhàŭ na Sudźjù i widàć była z miny,
Szto mièŭ i taìŭ innyja, ważnièjszyja pryczyny.

Na dzwie tỳsiaczy krokaŭ zamak stajàŭ za domam,
Akazały[1] budowaj, paważny ahromam,
Dziadzictwa starażytnaj radziny Hareszkaŭ;
Dzedzicz zhinuŭ byŭ u czasia krajowych zamieszkaŭ[2],
Majontki ŭsiè zniszczony sakwèstrami[3] uradu,
Usialàkimi sudami, apiekaj biaz ładù
Piaraszli u czastcy na dalokich kreŭnych pa kudzeli.
A resztu wiarỳciali[4] razdzialìć zachaceli.

---

[1] *Akazały* (ад польск. *okazały*) – самавіты, пышны.
[2] *Zamieszkaй* (ад польск. *zamieszki*) – хваляванняў, баёў.
[3] *Sakwèstrami* (ад лац. sequestrum) – захоп маёмасці на карысць дзяржавы.
[4] *Wiarỳciali* (ад польск. *wierzyciel*) – крэдыторы.

Zamku żadan[1] nia uziàŭ, bo u szlachockam stania
Trudna była koszt panosić na jahò utrymannia.
No Hraf, susièd blizki, daloki Hareszkaŭ swajàk,
Panìcz bahaty, jak wyszaŭ tolka z apieki, tak
Pryjèchaŭszy z wajażu upadàbaŭ tyja mury,
Zatỳm, szto budta janỳ hatyckaj architaktury.
Choć Sudźjà dakùmantami staraŭsia prakanàć,
Szto architektam byŭ majstar z Wilni i nia Niemiac znać.
Dość-ża Hraf żadàŭ zamku, a i u Sudźjì samoha
Radzìłasia taja|ż cheńć nia wiedać dla czoha.
Paczali pracèss u ziemstwia, patòm u sudzia hałoŭnym,
U sanacia, znoŭ u ziemstwia, u uradzia huberskam da dzieła stasoŭnym;
Ureszcia poślia wialikich kosztaŭ i ukazaŭ licznych,
Sprawa wiarnùłasia znoŭ da sudòŭ hranicznych.

Słusznia kazàŭ Wojski, szto u sieni zamczyska
Zmièściacca sudawyia, da hości z dalòk i z blizka;
Sień wialika jak rafaktàr[2], z wysokim sklapièнniam
Na filarach[3], padłoha sàżana kamiènniami;
Scieny, praŭda, biaz prykras, ala mur wieś haran[4];
Tarczali kruhòm rohi jalèniaŭ i saran
Z nadpisam, hdzie i kalì ŭsiè janỳ pabity;
Tuż myśliŭcaŭ harbỳ[5] na kamiènniach ryty,
I każny wypisany stajaŭ pa imienni;
Herb Hareszkaŭ Paŭkozic swiaciŭ u sklapienni.

Uwyszli hości paradkam i pastali kołam;
Padkamory najwyższa braŭ miesca za stołam;
Jamù z wieku i starszenstwa należyć zaszczyt[6] toj;
Iduczy kłàniaŭsia damam, starcam i drużynia maładòj.
Pry|niom staŭ ksiondz kwastàr[7], Sudźjà tuż pry Barnardynia.
Toj skazàŭ karotki pàciar pa łacinia;
Mużczynam pòdana harełka; tahdỳ ŭsiè pasieli,
I chaładnik litoŭski maŭcza żwawa jeli.

---

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 152: "ЖА́ДНЫЙ, усеч. Жадзенъ и жадэнъ [...] при отрицаніи. Ни одинъ, никакой. *Жадною мѣрою не можно потрафиць*".
[2] Rafaktaròm zawuć wialikuju izbù pa klàsztarach, hdzie zakonniki schodziacca jeści. (*Заўвага перакладчыка*).
[3] *Na filarach* (ад польск. *filar*) – на калонах, слупах, апорах.
[4] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 110: "ГА́РНЫЙ, прил. Ласковый, хорошій, милый. *Гарный хлопецъ, гарная дзѣвчина*". У арыгінале: *chędogi* – ахайны, чысты.
[5] *Harbỳ* – гербы.
[6] *Zaszczyt* (польск.) – гонар, пашана.
[7] *Kwastàr* – квестар, збіральнік ахвяраванняў.

Pan Tadeusz maładzìk, ala prawam hościa;
Wysoka sieŭ pry damach obak Jagamościa;
Mieżdu nim i dziadźkaj adnò pazastała
Pustoja miesca, jak budta kohaś nadżydała.
Dziadźka czasta na toja miesca, to na dzwiery pahladàŭ,
I jak-by czyjohaś prỳjścia byŭ peŭny i czakàŭ.
I Tadeusz za dziadźkam wzrok wadzìŭ k'dzwieràm,
Szto raz na miescy pustòm woczy paświŭ sam.
Dziŭna recz! Kruhòm twary dziawìc takìch,
Szto moh-by i karalewicz biaz styda zahlèdziacca na nich;
Każna uradzona zacna[1], maładaja, ładna,
A Tadeusz tam zỳrkaje hdzie nia sieła żadna.
Toja miesca jość zahadka, – maładziòż ich żadaje;
Tadeusz raztargniony[2] prawia[3] słoŭ nia znaja,
Ledwia sztości pramowiŭ da padkamaranki,
Nia zmianiaja jej talerak, nia leja u szklanki
I panienak nia bawić praz hreczny[4] razmowy,
Z katorych-by paznana szto panìcz miastowy.
Ciahnie jahò tak wiela, nencić[5] adnò miesta toje,
Jon napoŭniŭ jajò myślaj, zatỳm nia pustoje.
Pa niom biehali jahò dahadki biaz miery,
Jak pośla dażdzu żabki u łuhawòj kwatery;
U myślach jahò adnà kruluja pastàć, basz u pahodu
Lalieja aziorna, skroń biełu padniaŭsza nad wodu.
Prypòmnilaś Tadèuszu: ŭszescja da kamnaty
Paròżnaj jak toja siadzennia; cikawannia praz kwiaty
Jak praz hòławy sasiedak; razhladannia u wokny sadkù,
Jak ciapièr u dzwiery sieni. Szukàŭ jon znoŭ śladkŭ
Pàmiatki paŭstałaj pa toj pieknaj nożcy,
Katòraja hłybiej u mysli sieła czym u piaskù na darożcy.
I nia śmieŭ padniàć waczèj u horu, bo byŭ peŭny,
Szto ubaczyć na filary jej prybòr pawieŭny,
Wołas skrùczany, u bièłyja struczkì paabwiwany,
I na hrudziàch atkrytych ruczki skryżawany.

Dana treciu patrawu. Aż Padkamory pan
Uliŭszy kaplu winà u szklanku panny Roży sam,
A małodszaj prysùnuŭszy z talerkaj ahuroczki
Każa: „Muszu ja wam służỳć majè panny doczki,

---

[1] *Zacna* (польск.) – высакародная.
[2] *Raztargniony* (ад польск. *roztargniony*) – няўважлівы, рассеяны.
[3] *Prawia* (ад польск. *prawie*) – амаль.
[4] *Hreczny* (ад польск. *grzeczny*) – прыстойныя, ветлівыя.
[5] *Nencić* (ад польск. *nęcić*) – вабіць, прыцягвае.

Choć starỳ i nia zhrabny”. Pamahłà music prymoŭka,
Bo toj sioj z maładzioży ustaŭszy paszòŭ służyć pannam łoŭka.
Sudzjà z boku kinuŭ wokam na Tadeusza,
I papràwiŭszy trocha wylotaŭ kantusza,
Naliŭ winà i skazàŭ: „Dziś[1] zwyczàj paŭstàŭ nowy,
„Szto maładziòż uczỳcca u stalicu addawàć hatowy,
„I nia sporym: moża synỳ naszy i ŭnuki
„Majuć ad starszych bolsz ksianżkowaj nauki;
„No ot szto ja baczu ciongla[2] pa raznym prymietam
„Nia uczać maładziòż u szkołach żyć z ludzmi, sa świetam;
„Daŭnièj na dwor panski jechaŭ maładzìk nia dla wyhody;
„Ja sam let dziesiać byŭ dworskim pana Wajawody,
„Wojca Padkamòraha, biaz zmieny –
(Kàżuczy toja scisnuŭ Padkamòraha za kaleny);
Jon mianiè da pasłùh publicznych radaj uczỳŭ,
I pakùl nia staŭ ja czaławiekam z apieki nia puściŭ.
Ab niom pamiać darahuju chawàć ja wieczna muszu,
I szto dzień malusia Bohu za dabradzieja duszu.
I jèżali na jahò dwarè nia moh skarystać
„Jak druhìja, za to wiarnuŭszyś paczàŭ ziamlù aràć,
„A tyja, bolsz warty łaski Wajawody,
„Dasłużỳlisia znàtnaści za ŭsiè pracy hòdy;
„Ja prynamś maju karỳść hetu, szto u majòm domu
„Nikoli z naròk nia chybiŭ nikomu
„Hrecznaścju i cześcju, i mahù skazàć,
„Szto nauki hrecznaści nia łatwa[3] szukàć.
„Nia łatwa, bo nia u tom recz kab nahami mnoha
„Brykàć zruczna, sa smiecham witàć choć koha;
„Takaja hrecznaść modna, bàczycca kupiecka,
„No nia nasza szlachocka i nia staraświecka.
„Hrecznaść usìm należyć i kàżnamu inna:
„Uszàk[4] nia biaz hrècznaści i lubòŭ dziacinna,
„I ŭzglònd[5] muża k’żaniè, ludziam dla aceny,
„I pana dla słuh swaìch – nia jest biaz admieny.
„Treba mnoha uczycca kaby nia zbłudzìć
„I nikomu należnaj cześci nia zabỳć.
„Uczỳlisia|ż i stàryja: Panòŭ hùtarki wodłuh zwyczaju
„Kasàlisia historyi ròdnaha kraiu,
„A piarad szlachtaj żupiłasia ab dziejkach damowych i pawietu;

[1] *Dziś* – сёння.
[2] *Ciongla* (ад польск. *ciągle*) – заўсёды, пастаянна.
[3] *Łatwa* (ад польск. *łatwo*) – лёгка.
[4] *Uszàk* (ад польск. *wszak*) – аднак, дык.
[5] *Ŭzglònd* (ад польск. *wzgląd*) – прыхільнасць, увага.

„Tym spòsabam bratu szlàchcicu dawana prymietu,
„Szto ŭsiè ab niom znajuć i nia ważać mała[1],
„Tak i szlachcic swoj abyczaj dziarżàŭ daskanała.
„Dziś nia pytàj czaławieka: jakì? chto jahò rodzić?
„Z kim żyŭ? szto rabìŭ? każny ŭsiudy uchodzić,
„Była nia szpieg kazionny, nia nandzàr[2] biaz kałoszy,
„Jak toj manarch W a s p a z ì à n nia niuchaŭ woś hroszy
„I nia chacièŭ wiedać adkùl janỳ, z jakoha kraju;
„Tak ciapièr nia choczuć znać czaławieka z rodu, abyczaju!
„Dość szto ważny i stempal na niom charoszy,
„Dyk szanujuć pryjàcialoŭ jak żydỳ hroszy.

Toja skazaŭszy Sudzjà, zirnùŭ na haściėj z paradku,
Bo choć u haworcy jahò nia brakla tołku i statku[3],
Adnàk że wiedaŭ, szto niaciarpliwa maładziòż taraźniejsza[4],
I jajò nudzić razmowa choć najrazumnejsza.
Ala ŭsiè słùchali u milczenni hłybokam;
Sudzjà jak-by ràdziŭsia Padkamòraha wokam,
A toj pachwałaj reczy nia piararywàŭ
I tak wiela kiwanniam haławỳ patolu dawàŭ.
Sudzjà zmoŭk, a Padkamory jamù kiŭ da kiŭ,
Tahdỳ Sudzjà jahò puhàr i swoj kialìch nalìŭ
I dalsz kazàć staŭ: „Hrecznaść recz ucala nia mała;
„Kalì czaławièk ùczycca szanawàć jak prystała
„Druhìch wiek, cnoty, abyczaj, uradzennia,
„To i swajò razam paznajè znaczennia.
„Ŭszak na szalach kab ŭłasny cienżar paznàć,
„Treba na praciŭnu wahù kahòś druhoha uziàć
„No panowia, warta taja hreczność uwahi asobnaj,
„Katòruju maładziòż pawinna mieć dla płoci zdobnaj[5],
„Zwłaszcza[6] kalì ważnaść domu, fartuny prymiety,
„Razjaśniajuć krasù rodu jakojści kabiety.
„Adtùl daroha łaski i ŭsiè swiazi tyja,
„Katòrymi słyli rody – tak dùmali staryje.
„Zatym”... Tut Sudzjà najważniejsza kazàć byŭ hatowy
I kinuŭ na Tadèusza wzrok mocna surowy.
Aż z niaczajku bac u tabakierku załatuju Padkamory

[1] *Nia ważać mała* – у арыгінале: *lekce go nie ważą* – не зневажаюць, не пагарджаюць.
[2] *Нандзар* (ад польск. *nędzarz*) – бядняк.
[3] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 614: “СТАТКОВА́ЦЬЦА, кýюся, гл. общ. Держать себя въ границахъ приличія. *Статкуйся, не бреши по сабаччу, што й слухаць нечего*”.
[4] *Taraźniejsza* (ад польск. *teraźniejszy*) – цяперашні.
[5] *Dla płoci zdobnaj* – у арыгінале: *dla płci nadobnej* – для прыгожага полу.
[6] *Zwłaszcza* (польск.) – асабліва.

I każa: „Moj Sudzjà, daŭniej była szmat horaj!
„Nia wièdaju czy moda zmianiła i nas starych nia mnoha,
„Czy maładziòż lepsza, ale baczu szto ciapièr mieńsz złoha.
„Ach ja pomniu tyja czasy, kalì da Ajczyzny
„Pierszy raz zawitała moda francuzczyzny!
„Jak raptam maładyja panìczyki z czużỳch krajaŭ
„Najèchali da nas hurmam horsz Tatàr Nahajaŭ,
„Wyśmiawaja swajhò Boha, wiery prakanannia,
„Abỳczai, zakony, stàraja ubrannia.
„Żałosna była baczyć wyżoŭkłych małakasosaŭ
„Hawaryŭszych praz nos, a czasta biaz nosaŭ...
„Zaapatronych[1] u braszurki i razny hazety,
„Hłasiàszczyja nowu wieru, prawa, tualety.
„I mieła|ż taja czaradà u hòławy szyroki propusk,
„Bo kalì Boh karàć zachocza takì Jahò dopusk:
„Adbiarè piersz na piersz rozum u abywateli.
„I tak, mudrèjszyja chwìrcykam[2] preczyć nia paśmeli,
„I spużaŭsia jak dżumỳ[3] byŭ cełу naròd,
„Czuja sam u nutry chwaroby zaròd.
„Kryczana na madnìsiaŭ, a brana z nich pryklad;
„Zmianiana wieru, mowu, zakan i ubrannia skład.
„Była praŭdziwa maskarada zapustna swajawola,
„A pośla mieŭ pryjci skora post wialiki – niawolia!

„Pomniu, choć małỳ ja byŭ tahdy na swiecia,
„Jak da majhò baćki u Aszmianskam pawiecia
„Pryjechaŭ pan Padczaszyc u francuzkam wozia,
„Pierszy człowièk u Litwiè żyŭszy na francuzkaj nozia.
„Bièhali ŭsiè za nim jak by za raroham[4],
„Zazdròścili tamù domu kalì piaràd jahò paroham
„Stànuła Padczàszyca dwukonna dryndulka,
„Katora pa francuzku zwàłasia karjulka;
„Zamiast lòkajaŭ dzwie sabaczki u pudla siadzeli,
„A na kozłach jak doszka chudỳ Niemiac na cieli.
„Nohi mieŭ jon doŭhi, ceńki, jak ad chmelu tyki,
„U pańczochach, sa srebrnymi klamrami czarawiki,
„Paruka[5] z kasoju zawiazanaj u miechu.
„Staryja na toj pajàzd parskali ad śmiechu,
„A mużykì chryścìlisia kàżuczy, szto pa swiecia

[1] *Zaapatronych* (ад польск. *zaopatrzony*) – забяспечаных; якія мелі ў сябе.
[2] *Chwìrcykam* (ад польск. *fircyk*) – франт, фарсун, ветрагон, моднік.
[3] *Dżuma* (польск.) – чума.
[4] *Raroh* (лац. *Falco cherrug*) – каршун-балабан.
[5] *Paruka* (ад фр. *perruque*) – парык.

„Jezdzić niamiecki djabał u niamieckaj karecia.
„Sam Padczaszyc jakì byŭ doŭha|b’ nam pisàć,
„Dość że można|by jahò da papuhi[1] i małpy pryraŭniàć
„U wialikaj paruccy, katoruju załatym runam
„Jon lubiŭ zwać, a my kaŭtunam.
„Tahdy kalì chto i mieŭ czuccia, szto polskaja ubrannia
„Piakniejsza czym czużòj mody małpawannia,
„To maŭczàŭ, bo maładziòż zapamiantała[2],
„Ab szkodzia kultury i zdradzia prahresu kryczała;
„Ot jakaja uładza tahdàszniaho błudu stała!

„Byŭ toj Padczaszyc smieła zahadàŭ
„Szto nas piarainàczywać, cywilizawàć staŭ,
„Szto niekija Francuzy chìtryja, wymoŭny
„Zrabili wynalezak, szto ŭsiè ludzi roŭny.
„Choć ab tom daŭnò pisza u Bożam zakonia
„I każny ksiondz toja sama prawić na ambonia.
„Nauka daŭnò byłà, iszłò ab wypaŭniennia!
„No tahdỳ panawała takoja zaślapiennia,
„Szto nichto nia wieryŭ reczam najstarejszym u swiecia,
„Kalì ich nia wỳczytaŭ u francuzkaj hazecia.
„Padczaszyc mima ròŭnaści uziàŭ tytuł Markiża;
– Wièdama, szto tytuły prychodziać z Paryża
„A pad toj czas tam u modzia byŭ tytuł Markiża.
„No kalì pustaja moda zmianìłasia z hadami,
„Toj|ża Markìż Damakrataj staŭsia mieżdu nami,
„Ureszcia z admienaj mody pad Napaljonam
„Damakrata pryjechaŭ z Paryża Baronam,
„I kalì|b żyŭ daŭżèj, biaz uwahi na stratu
„Piarachryściŭsia|b’ znoŭ z Barona na Damakratu,
„Bo Parỳż mianiaja ciongla, było|b tolka modna,
„A szto zmyślić Francùz Palakù to hodna...

„Chwała|ż Bohu, szto ciapièr maładzieży
„Kalì i piłna za hranicu, tak nia dla adzièży,
„Nia zatỳm kab szukàć zàkanaŭ u drukarskich kramarniach[3],
„Albo uczycca wymowy u paryzkich kawiarniach;
„Bo ciapièr Napaljòn muż mudry i szparki
„Nia dajè szukàć mody, biasiedy la czarki.
„Ciapièr hrymìć zbroja, a nam starym sercy rastùć,
„Szto ab Palakach na świecia u hołas hudùć.

[1] *Papuhi* (ад польск. *papuga*) – папугая.
[2] *Zapamiantała* (ад польск. *zapamiętała*) – заўзятая, гарачая, палкая.
[3] *Kramarniach* – крамах.

**ВЫБИРАЙМАСЯ У ПРОЧКИ!**

# СКАРЭЙ У ТОМСКЪ!!

Абъ тоя добра развѣдаў и разтлумачыў народу

А. І.

«Дурню и мора па каленцы».
*Старая прыказка.*

Друкавана у Пицярбурху 1896 року.

Складъ г̑лаўны у книжницы **Б. Адамовича**,
у Мѣнску-Литоўскамъ.

Дозволено цензурою. С.-Петербургъ, 13-го декабря 1895 г.
Типографія Е. Евдокимова, Троицкая ул., д. 18.

## У Томскъ!

I.

«Дурню и мора па каленцы».
*Старая прыказка.*

Пѣршъ напяршъ прыпомню байку, выдуманую празъ разумныхъ людзѣй на тоя, кабъ научыць заздросныхъ, якъ трэба обыходзицца зъ дабрòмъ Божымъ, намъ данымъ, бо няўсіо|жъ ѣстъ бо͡гацтва што бачыць вока, а жадаючы мно͡га, ня пэўнага, можна часамъ утрацыць ўсіо што маяшъ.

Ота|жъ кажуць: бѣ͡гла сабака па кладцы празъ ракỳ и нѣ̀сла у зубахъ ладны кавалакъ мяса; увидзяўшы у вадзѣ свой сабачы вобразъ, ня падумала, и захацѣлася ей таго мяса прызрачна͡га, дыкъ разинула ротъ кабъ ухапиць знадòбу. Аля|жъ якая прыкрая стàлася ей пры͡года: мяса праўдзивая, разумѣяцца, выпала ей зъ рота и паплылò зъ вадою быстра, а дурница асталася бязъ ничò͡га.

Отъ карысьць зъ заздрасьци якая!...

II.

Вѣльми|жъ нѣшта кѣпскія г̑адакѝ настали!

Ня|убачышъ, ня паслышышъ ни чо͡га добра͡га, таквѣля г̑рэшную работу, дурную г̑утарку, злую навѝну, якъ будта у нашай рòднай зямѣльцы ня машъ ужо прастору жыць вы͡гадна, зъ Бо͡гамъ, и ба͡гацець цнòтаю, рòзумамъ да хлѣбам!..

Кажнаму якъ бы то усяг͡о скупа стала; усѣ праг͡нуць дастатку бязъ мѣры, адзинъ другому заздросьциць ня вѣдая таго, што усимъ ня быць|жа роўными: ни силай, ни ўзростамъ, ни здароўямъ, ни вѣкамъ, ни маіонткамъ, ни станамъ, ни ўласьцью, бо разницы Бог͡ъ прызаконіў, кабъ были на свѣця людзи старшыѣ и младшыѣ, заможныѣ и мѣньшъ засобныѣ[1], работники и учоныѣ, слуг͡и и хлѣбадаўцы, Манархи и ихъ падданыѣ зъ правàми абываталей рòдного краю.

Охъ! якоя|жъ г͡эта вяликая, святоя слòва: рò дны край! да трэба толька зразумѣць яіо и, зъ чесьцью, г͡лыбока хаваць у сэрцы!

Аля|жъ людзямъ ціомнымъ, бязъ маральнасьци, заздроснымъ на чужоя, чураюшчымся шчырай працы, ня прыйдзя наватъ у г͡олавы, якоя яны сабѣ зло мнòжаць, выг͡лядывая ціонгля[2] за родныя варòты, кабъ толька г͡дзѣ нибудзь пажывицца дàрам...

Зямѣлька наша маци, насякла кроўю и потамъ прэдкаў, жывицѣлька наша! даждалася цяпѣръ таго, што ей сыны, на одно слова якоѓась пòдлаг͡о вошуста[3], г͡атовы кидаць яіо и мчаць г͡дзѣ хцивыя вочы зы̀ркаюць за ліогкаю нажываю... Сòрамъ г͡эта бачыць, бо ўсіо тоя смутны знакъ вѣльми, и сэрца балиць якъ падумаяшъ, што сталася зъ добрымъ зъ натуры народомъ нашымъ! Даўнѣй, бывала, кіямъ ня выг͡наў|бы зъ сяла аднаг͡о чалавѣка тамъ, куды цяпѣръ на зламаньня карку г͡атовы ляцѣць г͡рамадòю ўсѣю.

Ня такъ то даўна народъ акраинъ нашаг͡о царства, ўзняўся быў ѣхаць за мора, у Амэрыку, и тысячы яг͡о прапали марна на чужбинѣ, цяпѣр|же зноў тутэйшыіе Бѣларусы задумали г͡уртомъ пярасяляцца у Томскую г͡убернію.

Па карчмахъ (ой тыя корчмы праклятыя!) па кярмашахъ, па зборыщахъ у г͡арадохъ толька и г͡ману дурнòг͡а абъ томъ, што хадзили, альба пòйдуць „записывацца" да губарнатара на пярасялення, бо туды якъ бы то вызываюць народъ наг͡ла, павязуць яго дàрамъ, а на мѣсцы дадỳць ня толька, г͡асьцинца, мног͡а забудòваной зямли, аля надта шматъ г͡рошы, да надараць усялякаго насѣння, „раг͡атай скацины кажнаму пярасялѣнцу; што у Томскай г͡уберніи два мѣсяцы толька зимы ліог͡кай, а посля ціопла, дыкъ ціонгля пяюць салаўи, растуць проста у лѣся салодкія яблыки и дули, што пасѣяна бочка збожа уродзиць заўжды поўны засѣкъ, што тамъ народъ будзя вòлянъ адъ падаткаў и рэкрута. – Отъ што чаупуць дурни, а друг͡іе слухаюць и даюць вѣру г͡энаму г͡лупству, а тымъ часамъ робицца вяликая шкода имъ сàмымъ и цэламу краю, бо наватъ сялянѣ заможныіе, имѣющыіе грунты уласныіе думаюць пакинуць ихъ и ѣхаць у Томскъ за бог͡ацьцямъ (!) и пакуль што, прадаюць за бязценакъ скацину и ўсякую рухомасьць.

Ачы вѣдая народъ хто яму устроіў тую з͡губную прыслуг͡у? у якую іонъ бядỳ лезя? и адъ куль паўстала усіо тоя баламуцтва? Ота|жъ я разтлумачу сумленнà ўсіо дзѣла.

[1] З дастаткам, багаты, заможны (ад польск. *zasobny*).
[2] Пастаянна, стала (ад польск. *ciągle*).
[3] Ашуканец (ад польск. *oszust*). І. Насовіч падае гэтае слова з іншым значэннем.

Кабъ народъ быў ґраматны якъ трэба и уцьвѣржаны добра у вѣры хрыстовай, то быў|бы цьвярозы, ащендны, маральны, працавіты, знаў|бы вартасьць дараґую часу и тую праўду старасьвѣцкую што: „бязъ працы ня ѣсьци калачы"; такъ яго таґды ни хто|бы ня падашукаў ня звіоў бы и|ня|пажывіўся|бъ дурно̀сцью яго.

Зъ ласки Бога и Манарха даны ужо|даўно сялянамъ шырокія правы свабодныхъ абывателей, аднак ґрамата у народзя развита саўсимъ сла̀ба, а што значыць обычайнасць, працавитасьць абъ томъ яще мѣншъ свядомы іонъ, зўлаща[1], што на адну школу зъ ксіонжками, прыходицца можа трыдцась карчомъ зъ ґарелкаю*[2]! то|та|жъ пьянства у сіо̀лахъ, ня тутъ кажучы, цьвицѣ якъ макъ, распуста укаранилася паўшехная[3], дзѣўки скромнай, пра̀вай цяпѣръ са свѣчкаю ня найци у сялѣ, бо маль усѣ сваявольны, а маладзики карчомники, таквѣля зняважаюць бацькоў, ґлумяцца надъ старыми, зводзяць дзяўчатъ, працаваць щыра и зарабляць ня рады, дыкъ и заможнасьци праўдзивай нямашъ, бо „маци зямѣлька такъ ро̀дзиць, якъ ѣй ґаспадаръ ґо̀дзиць", а ґаспадаръ толька зъ помочью Бога можа наладзиць добра свой варстатъ!

Большъ якъ трыдцаць летъ таму назадъ, народъ увольня̀ны адъ падданства, мястъ цывилизавацца, стаў, кажучы щырую праўду, бязбожнымъ и здзичалымъ*[4], а заздрасьць баґацьця закружыла яму го̀лаву саўсимъ.

Даўни патріархальны абычай у хаця минуўся, старыхъ ня слухаюць, ня шануюць и наватъ гоняць прочь разпустныіе маладзики. Родныіе браты пры дзяльбѣ бацькаўшчыны ґрызуцца зъ сабою ґрешна и зъ гэнай склыки здараюцца часта криминалы: братабойства и бацькабойства, альба ня знаныя тутъ даўнѣй пажары адъ падпа̀ливаня, празъ мсьцивасьць, хоць, праўда, ґарaць часта сіо̀лы и адъ няасьцярожнасьци зъ аґніомъ, астаўляныхъ бязъ дазо̀ру дзяцѣй, да празъ паґаныя папяросы, каторыя цяпѣръ смаляць хлопцы и дзяўчата, маль адъ дзяцинства и нихто ґэтай сваяволи ня забараняя.

Зло тожа вяликая, што адзѣжу народную, пава̀жную, уласнаго выробу, паскидали и напранули курты да сукни фабрычныя а, былины, абрады и пѣсни старасьвѣцкія забыты и пяюцца салдацкія, няпрыстойныя, што ажъ вушы вянуць слухаўшы ихъ; дыкъ якоя|жъ дзива кали цяпѣръ ни водна дзѣўка на сваіомъ вясѣліи на дзяжу ня сядзя... Да яще выдумали спраўляць свадзьбы у пятницы(!), у дзѣнь смѣрці Боґа нашаґо Язуса Хрыста, и кали друґія хрысьціяня моляцца и по̀сьцяць, вясѣльники нашы жруць мяса, пьюць да бязпамяци и зъ пьянства блуду поўна...

---

[1] Асабліва (ад польск. *zwłaszcza*).

[2] „Хвалиць Бога"! цяперъ Манарха нашъ, штобъ сутрымацъ пьянства у народзя, выдаў законъ абъ казіонныхъ кабакахъ. Затымъ ко́рчмы маюць закрыцца, а у кабакохъ будзя прадавацца, па дарагой цанѣ, гарэлка пячатана, толька на вынасъ, якъ у крамя, и тутъ ня будзя дазволяна ниякихъ пьяныхъ зборыщъ. (Спасылкі з зорачкаю – А. Ельскага).

[3] Усеагульная (ад польск. *powszechnie*).

[4] Хто|бы абъ томъ вонтпіў, нѣхъ прачытая довады, друкавены празъ само духавѣнство. Глядзи „Минскія Епархіяльныя Вѣдомости" за 1889 годъ, №№ 4 и 5.

Даўней николи таго ня была!.. Ота|жъ ясна, што пры такомъ станя здзичанья абы̀чаю у народзя, ня можна и падумаць абъ узросьця яг̑о заможнасьци, бо тоя прыходзиць толька празъ цнатливую и разумную працавитасьць, а Бог̑ъ ня можа благ̑аславиць лянивай и дабравольна сябѣ псующей г̑рэхамъ талпѣ.

Отъ г̑дзѣ прычына таг̑о што народу ня милы сваи уг̑лы святыя, адъ прашчураў дзядзичаныя[1] и што іонъ заслышаўшы байку абъ дармо̀вымъ скарбя за тысячами віорстъ, г̑атоў тамъ бресьци, як зваріяваны, ўздаг̑онку.

Но за г̑эту разг̑ука̀ную хцивасьць мусиць яму стацца шматъ г̑оршъ, кали мястъ зарабляць, учыцца, прамышляць якъ жыць честнымъ трудамъ у зямѣльцы роднай, трациць толька часъ дараг̑ѝ на карчомныя г̑утарки и усякія баламуцтвы, а рэштки г̑рошы аддаѣ вошустамъ за блудныя навинки, каторымъ николи ня збыцца.

Г̑этакъ же жыць ня можна, треба апомницца и ведаць, што дурнямъ сапсо̀ванымъ у душы, ниг̑дзѣ ня будзя добра, и кабъ имъ стала лепшъ, то, треба паправицца зъ грунту, маральна и научна, и старацца доўг̑а, вытрвала[2] працуючы прыдабыць сабѣ тою цнотаю патребны дастатакъ. Ня машъ друг̑ой, таквѣля г̑эна про̀стая дарог̑а къ хлѣбу будняму и къ добраму быту, а|яна указана намъ законамъ Божымъ и Манаршымъ!

Хто и начай учыць народъ, той хыба яго нѣпрыяцѣль и хоча яго зг̑убы, хоча збиць зъ толку хрысьціянскаго... Жадаць нават мног̑а хрысьціянину ня вольна, а тым большъ кабъ „г̑атовыя пячоныя галу̀бки ляцѣли намъ самы у г̑у̀бки", бо чалавѣку предназначана адъ Бога натужываць жылы и праливаць потъ працуючы на жицьця, дыка и найбаг̑атшы адъ працы ня волянъ, а кали г̑ульту̀я, то г̑решыць и рана поздна змарнѣя.

Нядумайця прастыя людзи, што таквѣля вы працуяця, напроціў; усякая праца, чы зъ тапаромъ, чы зъ пяромъ кали сумленна то и ця̀жка; а̀ля ваша шматъ здаравѣйша и крепиць, бо просты работникъ прабывая большъ на чыстамъ павѣтры, смачнѣй зьѣсьць и засьнѣ! Ня заздросьцьця|жъ занятымъ якою друг̑ого працаю! Якъ у|лѣся разныя древы, такъ на свѣця мусяць быць усялякіе людзи, для таг̑о кабъ адны друг̑имъ узаимна служыли, памаг̑али, то тымъ то симъ, водлуг̑ъ таг̑о якъ хто што умѣя. Адзинъ дро̀ва рубиць, альба зямлю па̀ша, други пиша альба учыць, треци ѣсьци варыць, той друкуя ксіонжки, г̑андлюя, инны̀ лечыць, г̑эны имшу правиць, альба судзиць, рондзиць[3] и т. д. и усѣ яны робяць дзѣла добрая, а злы[4] толька той, хто прагня ляжаць на бо̀ку и ўсяг̑о заздросьциць ближняму, забыўшы, што бог̑ацьця у Бог̑а"!

Трудзѣмася|жъ якъ хто можа, и ня спихайма ро̀днаг̑о хлѣба зъ лапаты, дыкъ усѣ сыты станямъ, бязъ патребы лишняй ро̀скашы, бо ѣй и вѣра

---

[1] Атрыманыя ў спадчыну (ад польск. *dziedziczyć*). Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 132: "ДЗѢ́ДЗИЧЪ – наследникъ дѣдовскаго имѣнія".

[2] Настойліва, упарта (ад польск. *wytrwale*).

[3] Кіруе (ад польск. *rządzić*).

[4] Дрэнны, кепскі, ліхі (ад польск. *zły*).

хрыстова намъ забараняя. Ня|той счасьливы хто у саѣця[1], пры залатымъ загарку, зъ пярсьціонками на пальцахъ ходзиць, аля хто зъ працы рукъ, чы г̅алавы̀ мая скромны бытъ, да чыстая сумлення, каторая становиць найдаражейшы скарбъ чалавѣка.

Даўнѣй якъ на свѣца вымог̅и были мѣньшы и патребы, а маладзіожъ слухала старыхъ и ўся сямья рабила у хату, дыкъ и Бог̅ъ спорыў усяму и жы̀лася шырай. Аля па увальнѣньни адъ падданства, новая разпушчанная пакаленьня парвала зямлю на кава̀лачки, набудавала бабыльскихъ халупъ г̅уста, дзѣ ля пажару хыба, и митренжыцпа[2] ля нихъ, бо жаль кинуць ихъ и ицьци у заработкі; а тымъ часамъ найшли трудные г̅ады, збожа саўсимъ танна стала и г̅аспадару толька разумнаму и зъ запасамъ можна якъ нибудзь пракидацца. Адъ тыхъ прыг̅одъ прыг̅алели маль усѣ, а якъ пьяницамъ и ня маральнымъ, бязъ ушчуньня, зрабилася куса, дыкъ пачали красьци, наватъ кони у сваихъ братоў сялянъ и цяпѣръ поўны астрог̅и здаровыхъ дзяцюкоў за зладзѣйства; друг̅іѣ же мястъ научыцца якаг̅а рамясла, альба стаць у заработкі у фабрыку, чы у дворъ пры г̅аспадарцы, толька надстаўляюць вушы кабъ пачуць якъ г̅дзѣ што сарваць бязъ працы.

Отъ и пачули адъ злыдняў абъ Томскія дармавыя баг̅ацствы и туды намѣраны пѣрци, ня|разабраўшы растаропна у чом дзѣла. Тую вѣсьць, разумѣяцца, разпусьцили знарокъ вошусты, жулики, знаюшчыѣ дурно̀сьць народу, кабъ мѣць зъ няг̅о няг̅одную карысьць, бо хто записываяццä у нихъ, мусиць имъ плациць г̅рошы сколька можа*[3].

Тая навина пашла якъ зараза па сіолахъ и народу мэрамъ у г̅алавѣ заму̀цилася адъ надзѣй на раскошная жыцьця у прочкахъ[4]. На бяду ходзиць пліотка, што будта ужо мног̅а людзѣй паѣхала у Томскъ, што у два мѣсяцы нажыли ужо сабѣ тамъ па Соракъ штукъ раг̅атага скоту (!), столька|жъ канѣй (!) дык и прызываюць будта письмами міръ, кабъ туды „хоць бы ракамъ поўзъ" „багацѣць и панаваць!.."

На тоя баламуцтва зирнула наканѣцъ начальства, вѣляна слядзиць за падстракацялями и асьцярагаць народ, кабъ ня блудзіў дурна и ня рабіў сабѣ тымъ шкоды; аля хоць разумнѣйшыѣ слухаюць, вог̅улъ ня пярастаѣ чаўпци сваіо на ўсѣ лады, дыкъ и задумаў я разтлумачыць народу чыстую праўду.

---

[1] Тонкая далікатная тканіна ці дарагое сукно.

[2] Так у выданні. Трэба: *митренжыцца*.

[3] Угорадзя Ягумяни, мѣнскай Г̅уберніи дазнана, што тамъ ня даўна дурыли и записывали народъ на пярасялення вошусты: Паўтарацкі „крывы", Журайскі, Прохароу и другіѣ. Чытай абъ томъ у Газецця „Минскій Листокъ", за 1895 годъ, № 63. Прыпомнимъ яще, што у|том|жа Ягумянскомъ уѣзьдзя у 1884 гаду нѣки вошусть Дашкевичъ, такъ сама звіоў многа народу и правицяльства мѣла многа зъ тымъ кло́пату, пакуль ня саслали злыдыя у Сибирь.

[4] Гл. І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 533: "ПРО́ЧКИ, -чекъ, с. ж. употр. во мн. Побѣгъ крестьянина, сбѣжаніе. *Въ прочкахъ другій годъ отъ мужика. Пошовъ давно въ прочки. Прочки дзѣлаюць безъ сорочки*. Посл.".

III.

Аля|жъ запытаюць цикавы: Кали г̅утарка абъ Томскъ ня праўдзива, то як|жа маг̅ла яна паўстаць ни зъ таго ни зъ друг̅ог̅а, бязъ ниякай прычыны?

На тоя атвѣтъ: праўда што водлуг̅ъ Ка̀зки „ня бывая агню бязъ дыму”, затымъ и байку абъ дармавыя баг̅ацтвы Томска, спляли людзи ня з|нічо̀г̅а, да таквѣля пліотка г̅лу̀пая и будзя жутка, Калѝ, якъ той кажа, „аг̅лѣдзицца Малахъ, што трасца у зубахъ”...

Яще нябошчыкъ Монарха нашъ Аляксандръ III, разузнаўшы што народу шмат выяжджая дурна зъ Яг̅о царства за мора, кабъ тамъ прападаць, выдаў 13 іюля 1889 г̅оду указъ абъ том, што кали хто изъ сялянъ, альба мящчанъ, бяздомныхъ, но маючых[1] запасъ г̅рошы захоча ѣхаць, и|сялицца **на свой счотъ** на казіонныхъ зямляхъ, то можа абъ томъ прасиць уладзу, и такимъ истотна, празначана выдзяляць участки на-Сибиры, альба на друг̅іхъ даліокіхъ пустыхъ акраинахъ царства, ня дарамъ аднакъ, а на выкупъ, зъ нѣкаторыми да часу льготами. Отъ и ўсіо!

Абъ томъ Царскомъ законя, усяки, мястъ слухаць абятницъ[2] вошустаў, якъ растуць дули на вѐрби, можа прачытаць у ксіонжцы, нахадзящайся у кажномъ Валастномъ Праўленни, падъ заглаўямъ: „Сборникъ разъясненіи Сельскаго Вѣстника, по дѣламъ Сельскихъ Обывателей”*[3].

Зъ тыхъ поръ жаднаг̅о друг̅ог̅о за̀кону абъ пярасяленьни Царъ нашъ ня выдаў, а цяпѣрашни рухъ пярасяленьчы разбудзили, якъ сказана, вошусты, кабъ ашуканствамъ цяг̅нуць зъ ціомнаг̅о народу карысьць; яны то падмаўляюць ицьци у прочки нѣдзь куды, за нябывалымъ счасьцямъ, бо усюды чалавѣка на свѣця жджe праца, а чымъ іонъ розумнѣйшы и сумленнѣйшы тымѣ и счастліўшы будзя. Падробнасьци абъ томъ, якимъ спосабомъ у бацькаўщынѣ жыць и працавацьтреба, скажу яще на канцы маѣй ксіонжки, а пакуль тоя, мушу разталкаваць што за таки край абяцаны, Томская г̅убернія, будта малакомъ и міодамъ плывущы.

Ота|жъ, ляжыць іонъ у Сибиры, у паўночна-усходняй старанѣ царства русскаг̅о, адлег̅лы адъ тутэйшаго краю маль на 6,000 віорстъ, за г̅арами, за лясами, за шырокими вадами, куды можна будзя упраўдзя даѣхаць па жалезнай дарозя, якъ яіо збудуюць колись, аднак г̅эта ўсіо|жъ вѣльма даліока, можа дзѣвяць разъ столько якъ адъ насъ да Пицярбурха, альба да Варшавы. Наука яаг̅рафіи насъ учыць, што зима тамъ пачинаяцца адъ Сянтабра мѣсяца и ляжиць да Мая, правя 9 мѣсяцаў; што марозы даходзяць да 40 г̅радусаў*[4], дыкъ дзѣ ля холаду такога страшнага тамъ ня расьцѣ ни якая Садавина, а людзи зимою мусяць хадзиць ня у якихсь тамъ кажаркахъ[5] нашыхъ,

---

[1] Так у выданні. Трэба: *маючыхъ*.

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 356: “ОБѢТНИ́ЦА, ы, с. ж. 1. Обѣтъ. *Обѣтницы своей не выповнивъ*. 2. Обѣщанная вещь. *Обѣтницы не давъ*”.

[3] Г̅лядзи пункты 1688 до 1690, стар. 248.

[4] Кали у насъ ня бываюць большыіе марозы надъ 28 г̅радусоў, и то вѣльми рэдка.

[5] Кароткі кажух; стары, зношаны паўшубак.

а зашыты адъ ногъ да ґалавы ажъ у дзвѣ махнатыя звярыныя шкуры, бо иначай ни водзинъ ня быў|бы жыў. Зямля тамъ, праўда, ня зґорша, аля климатъ дужа суровы и часу мала для ґаспадарства палявоґа, бо часта марозъ увѣсь уражай памарозиць; затымъ людзѣй у ґэтыхъ пустынныхъ прасторахъ пакуль мала, и ўсіо „наводны народъ”, паўсталы пѣршъ изъ катаржникоў ссыланыхъ, а патомъ изъ пярасяленцаў разныхъ.

Пакуль што можна|бъ тутъ працавитаму и умѣламу чалавѣку имѣць карысьць зъ рыбалоўства на вяликихъ рэкахъ и азіо̀рахъ, и зъ паляваньня у драмучыхъ лясахъ, аля|жъ усѣ тыя прасторы казіонныя, а зъ прыбыткамъ народу, празъ жалезную дароґу, мусиць уникнуць и ґэты прыродны дастатакъ стараны и трудъ чалавѣчы памножыцца, т. е. натужыцца большъ.

Отъ якъ выґлядая праўда чыстая, бязъ усякихъ прыкрасъ, аснована на законныхъ даныхъ.

Разумѣяцца, у томъ краи паўночнамъ, даліокамъ, жыць можна, зўлаща таму хто щыры до працы, боґабаязны, цьвярозы, а ў|дабавакъ прыйдзя тамъ зъ розумомъ и зъ патребнымъ запасамъ уласныхъ ґрошы; аля дурню яко̀мусь, ґультаю, пьяницы ґоламу тамъ толька скарэй прапасьци, и хоць|бы хто хацѣў вярнуцца, то ужо пэўня ня патрапиць. Паўтараю: толька дурносьць народу тутейшаго, ѣстъ прычынаю той маніи качаваньня за свѣтъ зъ свайго ро̀днаго краю, бо водлуґъ заґраничныхъ Ґасударствъ, у нашамъ Заходнямъ краи*[1], насялення мѣншъ у шэсьць альба у сѣмъ разъ, за тымъ ни якай цясноты ня машъ, и доўґа треба ждаць, пакуль на праўду цѣсна станя, якъ на прыкладъ у Нѣмцахъ, у Франціи и у друґіхъ народаў.

У насъ народъ хоць падзяліў сядзибы даўнія, аднакъ моґ|бы яще жыць у добрымъ быця, кабъ мѣў розумъ. Нямѣцкіе сялѣне калн[2] маюць 10 марґоў поля, то жывуць дастатна, мерамъ якъ нашы пановя дзѣдзичы у маіонткахъ: муруюць сабѣ прасторныя камяницы, маюць у нихъ пакои прыбраны хвасьлива, зъ ксіонжками и ґазэтами на стала̀хъ, бо ґаспадарства у нихъ научная, а яны самы адукаваны добра, цьвярозы, ащендны, сумленны и вѣльми працавиты.

Калі хто ґэтаму ня павѣрыць, то нѣхъ прачытая свѣжу абъ томъ вядомасьць у Пицярбурґскай ґазэця „Свѣтъ” за 1895 год*[3] тамъ усіо тоя аписана вѣльми цикава и выясьняна прычына багацтва нямѣцкаго сяляніна, якъ я выжай казаў.

У насъ кали хто зъ сялянъ научыцца чытаць и писаць, то ўжо чураяцца сяла и задумливая як|бы убицца ґдзѣ на мѣсца писара у воласьць, на урадника, чы иноґа яко̀ґа чыноўничка, бо тутъ можна франтаваць у сурдуця пры загарку...

За тым|жа у сіолахъ нашыхъ пражывая таквѣля ціомны людъ. Ні хто тамъ ня умѣя добра памалицца Боґу, прачытаць разумную ксіонжку, альба

---

[1] Ґуберніи: Виляньская, Мѣнская, Гродзяньская, Ковяньская, Вицябская, Маґилеўская, Кіяўская, Падольская и Валыньская.

[2] Так у выданні. Трэба: *кали*.

[3] Глядза № 200 ст. падъ заґлўіемъ „Отголоски”.

законы якія, а праклятая г̑арелка заливая да рэшты ўсимъ маг̑ѝ, дыкъ што робицца у г̑о́лавахъ тоя и у г̑аспадарцы. Школы правя ня убачышъ, ані саду ля хатъ, а толька карчма тарчыць на пѣршамъ мѣсцы, г̑дзѣ сабѣ Шмэрка звіў ціоплая г̑няздо... На улицы вускай г̑разь и смуродъ страшны, а свиньни валочацца усюды и рыюць. У хатахъ тожа сама, бо народъ зъ парасятами, да зъ курàми жывѣ разамъ, адъ чаг̑о тамъ часта хвароба и паморы; блохъ и ўсякай иной брыдасьци поўна, а людзи ня мыты, ня часàны соваюцца зъ кута у кутъ, зъ люльками альба папяросами у зубахъ*[1] у падраныхъ рызьнякохъ, якъ старцы якія... у дабавакъ злог̑а, будынки усюды пастаўляны бязъ толку, ня ў|лініи, той туды, той сюды, пасьпираны адзинъ къ другому, саломаю крыты, што крый Божа пажаръ, дык цэла віоска мусиць ицьци зъ дымамъ у мигъ, и нихто ня разг̑луздаѣцца, што трэба|жъ инакшъ нѣкъ урондзиць жыцьця у сіолахъ... што г̑аспадарка патрабуя бадай найразумнѣйшыхъ и найлепшыхъ труженикоў, бо яна прэця свѣтъ кормиць, а бязъ нѣй ня можа быць праўдзива цывилизованаг̑о спалачэнства[2]. Доля-жъ нашай г̑аспадаркі, пакуль што, вѣльми смутна, кали іею правиць ня прасьвѣчаны, пьяны народъ! За тымъ патрэбна вяликая пярамѣна у мысьляхъ и павядзѣньни рòльника тутэйшаг̑о, и таг̑ды мусяла|бъ быць лепшъ, и ня стали|бъ людзи бѣг̑чы зъ зямѣльки, нашай Маци рòднай!.. На тоя кабъ мѣць зносная жыцьця, ня треба яг̑о шукаць за свѣтамъ, а таквеля налéжыць працаваць зъ Бог̑амъ и рòзумамъ на мѣсцы, бо хоць чуваць, што „за морамъ волъ каштуя залатоўку", а ўсіо|жъ лепшъ туды празъ заздрасьць ня хадзиць, бо пакуль той волъ, дыкъ боты зтопчашъ, ног̑и павяредзишъ, купила[3] прахарчуяшъ и мусиць спраўдзицца даўняя прыказка, што: „вялики кавалакъ г̑орла дзяре"...

Ой святая|жъ бацькаўская ниўка! „бо хоць часамъ ня уродзиць, аля къ торбя ня даводзиць", дыкъ и праўда сяазана[4], што „ўсюды добра, а дома найлепшъ".

Помниця|жъ, помниця людзи тую адвѣчнаю мудрасьць, ня пазирайця вѣльми за сваи вароты и старайцяся саўсяг̑о сэрца кабъ дамы̀ вашы, сіолы вашы сталися вамъ милы и дастатни, празъ усякую цноту вашу.

## IV

Запытаяця: якъ жа урондзицца кабъ стала лепшъ?

А отъ якъ.

Гарелку трэба кинуць и канѣчна цьвярозыми зрабицца, бо бязъ таг̑о николи жаднаг̑о толку ня будзя.

Дальшъ, треба учыцца пильна усяг̑о, гдзѣ толька здарыцца можнасьць.

---

[1] Даказана научна, што г̑дзѣ мног̑а пьюць, тамъ мног̑а и курацьць, што воба налòги тыя рàзамъ плятуцца на г̑рэшнымъ свѣця.

[2] Грамадства (ад польск. *społeczeństwo*).

[3] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 260: "КУПИ́ЛО, а, с. ср. Деньги. *Купиць купивъ бы, да купила немá*. Посл."

[4] Так у выданні. Трэба: *сказана.*

Часъ треба шанаваць, кабъ и минуты ня страциць дарамъ, бо іосьць разумная прыказка баг̅ацѣйшаго на свѣця народу, Аг̅лічанъ, што: „часъ то г̅рошы”, а ўласня|жъ народъ нашъ у гэтамъ ня разумѣя ничог̅а и трациць ня толька грошы на пьянства у|святки аля и часъ у будни, да на ўсялякія праводы забабонныя якъ: „Градавыя Сярады”, „Выпятры”, „Мяртвыхъ Вяликдзянь”, Миколинъ Бацька „Паликопа”[1] и Бог̅ъ вѣдая што яще. Ота|жъ треба свяциць толька святки, наказаны хрыстовай вѣрай, прыстойна, зъ малитваю у сэрцы, зъ чытанямъ добрыхъ ксіонжакъ, а ня пьянствамъ г̅рэшнымъ; свяциць такъ, кабъ выпачаўшы брацца зъ падвойнаю ахвотаю да работы. Такимъ способомъ прыбудзя у г̅аду шматъ большъ дараг̅ог̅а часу, а цьвярозыя г̅олавы стануць мудрей радзиць аба|-ўсіомъ, што касаяцца дабра̀ сяла и воласьци.

Тагды на школу ня будуць шкадаваць г̅рошы, бо зразумѣюць, што наука сялянину канѣчна, якъ и кажнаму друг̅о̀му. Аля|жъ ня только вўчыцца чалавѣкъ у школя, бо и свѣтъ школа добрая, вучыць іонъ прахтыки жыцьця таг̅о, хто захоча карыставаць; дыкъ ня задамаўля̀йця дзяцѣй вѣльми, а̀ля пасылайця ихъ тарминава̀ць[2] къ разнымъ ма̀йстрамъ и рамѣ̀сльникамъ, кабъ выучылися: цясѣльства, сталярства, мулярства, кашыкарства, бандарства, кравѣцтва, слясарства, рымарства и т. д. бо тыхъ работъ цяпѣръ мног̅а патрабуюць и добра плацяць.

Такъ сама г̅дзѣ у якомъ дваре жывѣ разумны, працавіты, выплатны[3], сумленны дзѣдзичъ тамъ шлиця ахвотна дзяцѣй и лишняю сямью на заработки и на службу, учыцца г̅аспадарки и друг̅ой работы; ушакъ[4] патрэбны|жъ тамъ: слуг̅и, па̀рабки, афицìанты, пастухі, аўчары, дазорцы, ліо̀каи, фурманы, аг̅ародники, сыраравы, швачки, ахмистрыни, г̅аспадыни, кухарки, кухары̀ и т. д., а усимъ имъ цяпѣръ хлебъ добры и пэнсія[5] дастатачна празначана и якъ чуваць, сумленные слуги дастануць на старасьць амарытуру[6] у г̅рашахъ, абъ чомъ радзяць ужо для аг̅ульнаго пажытку самы хлѣбадаўцы.

Да сихъ поръ идзѣ народъ на службу ня ахвотна и лѣпшъ г̅алець яму у хаця, чэмъ служыць; аля гэта предрасудакъ шкадливы, бо людзи трацяць часъ, заро̀бки и можнасць чаг̅о нибудзь пажытачнаг̅о[7] научыцца.

Добра кажа прыказка, што: „Свиньни хоць хто патрапиць пасьвиць, аля быць аг̅ародникомъ, кухаромъ майстрамъ и т. д. треба выучыцца,

---

[1] Градавая серада – серада перад Вялікаднем і/ці перад Тройцаю, калі не дазвалялася працаваць у полі. Выпятры – магчыма, мясцовае свята на Ігуменшчыне. Мёртвых Вялікдзень – традыцыйнае свята памінання продкаў, якое адбывалася ў чацвер навелікодным тыдні ці на Радаўніцу. Міколін бацька – інакш: Савы, свята, якое адзначалася 18 снежня. Палікопа – свята ў гонар ахоўніка ад грому і маланкі; адзначалася 27 ліпеня.

[2] Вучыцца прафесіі ў майстра (ад польск. *terminować*).

[3] Які ў стане заплаціць (ад даўняга польск. *wypłatny*).

[4] Аднак жа (ад польск. *wszak*).

[5] Заработная плата (ад польск. *pensja*).

[6] Пенсія (ад польск. *emerytura*).

[7] Карыснага (ад польск. *pożyteczny*).

дыкъ за тоя можна и бытъ мѣць лепшы*[1]. Ня чурайцяся|жъ, сялянѣ, раміослъ и службы, бо у томъ стыду жаднаго ня ма! напроціў: людзи на тоя, кабъ адзінъ друґому быў выслужны чымъ можа, а усѣ разамъ Боґу вѣрна служыць мусяць. Намякну яще, што слуги и рамѣсльники большъ аціортые на свѣця, каля асобъ адукаваныхъ, заносяць|у сваѣ сіолы лепшыя парадки и ґустъ, што ужо и цяпѣръ видаць па троху.

У сіолахъ аднакъ треба завѣсьци парадки друґія, ґуртòмъ. Зачаўшы адъ пабудаваньня школы и наняцція вучыцяля, треба адъ разу зъ нàраду звѣсьци ґарелку, зъ карчмою рàзамъ, а кали будзя якая ґаспòда зъ пивамъ, зъ ядзеннямъ, для падарòжныхъ, то нѣхъ у нѣй завядуцца ксіонжки и ґазэты, кабъ народъ прышоўшы тамъ, вольнымъ часамъ, паґаманиць паважна абъ патребахъ сяла, моґъ за разамъ прачытаць штось пажы̀тачнаґо и давѣдацца, ня адъ вошустаў и дурыцяліоў, якъ цяпѣръ, аля зъ таго чытаньня, ґдзѣ якъ што чуваць на свѣця, якія Законы вышли и т. д., бо кажны чалавѣкъ ня адзичалы мусиць рупицца абъ тоя, и тымъ самымъ ціонгля большъ цывилизавацца. Сіолы патреба|бъ будаваць у роўны линіи, вулицы асушыць зъ прадвѣчнай ґрази, празъ капаньня канаў, альба брукаваньня ґдзѣ камѣни дастатакъ.

Канѣчна належиць такжа засадзиць фруктавыя садки ля хатъ, дыкъ якъ людзи будуць мѣць сваѣ авòцы, ня пòйдуць красьци чужыхъ и зразумѣюць лепшъ святасьць чужой ўласнасьци.

И ґаспадарства у вогуля ня можа быць такоя якъ ѣстъ. Свѣтъ мудрéя, дыкъ и сялянину пры таляґрафахъ и жалезныхъ дароґахъ мудрейшымъ стацца треба празъ науку. Ня той ужо часъ кабъ кòрпацца у зямлі бязъ толку, усіо мусиць быць цяпѣръ абрахавана и зробляна водлугъ найноўшай, дасьвядчонай[2] прахтыкі. Па нѣкатарыхъ дварохъ у насъ тоя ужо можна бачыць и укѣмиць, якъ што робицца зъ помочью науки.

Ѣстъ надзѣя, што у валастныхъ школахъ будуць учыць аснаўныхъ правилъ ґаспадарства, аґародництва, пчальнѝцтва, ляснѝцтва и даў|бы Боґъ скарей тоя, а тымъ часамъ трэба старацца добры прыкладъ браць ґдзѣ толька можна. И такъ, штобъ удабрыць пусташы, належыць сялянамъ сѣяць Лубинъ, бо ґета расьлина маль цудоўна правиць зямлю и даѣ шматъ ценнаґо насѣня. Скотъ тожа треба ґадаваць разумнѣй. Ня абъ личбу штукъ, аля абъ выгадаваньня скоту малочнаґо и мясистаго ходзиць.

Зъ тою цэлью сяло, усѣю ґрамадою, павинна сабѣ купляць расòвыя буґаи, дзѣ ля разплоду малочныхъ кароў, а патомъ такъ сама ґрамадою, наняўшы сыравара, рабиць сыры, на спосабъ швайцарскі альба ґаяндерски[3] и прадаваць у ґорадъ, у маґазыны, бо цана такихъ сыроў маль патройная.

Надта кажная сяло мусиць сабѣ завѣ̀сьци сваю мирскую краму, кабъ даставаць таваръ найтанѣйшы, зъ пѣршай руки.

---

[1] Помниця и тоя, што зараблёныя ґрошы треба бярэґчы ня па кублохъ, кабъ ѣли мышы, а у збяраґатальныхъ касахъ, и мѣць зъ нихъ прыбытакъ у прòцанця.

[2] Атрыманы, пазнаны з дапамогаю назірання і вопыту (ад польск. *doświadczony*).

[3] Так у выданні. Трэба: *галяндерски* (галанскі).

Што касаецца усялякаг͡о збожа, и воѓуля прадуктаў ѓаспадарства, то ихъ треба прадаваць ня иначай, якъ празъ камісыйныя канторы, званыя Сындыкатами ѓаспадарскими, каторыя цяпѣръ паўстаюць у ѓарадохъ, уласьня для тоѓа, кабъ кажны ѓаспадаръ ня шукаючы купца, звыкля Круцяля, моѓъ збыць свой таваръ тожа у|пѣршыя руки и заразамъ тамъ купиць што патрэба для ѓаспадарства, якъ: плуги, баро̀ны, косы и усякую што только падумаць снасьць. Тымъ спосабамъ прадаўшы най даражей сваіо и купиўшы найтаней што трэба, ѓаспадаръ зарадны[1] и цьвярозы ащендзиць мноѓа, зўлаща, што тутъ ниякихъ ня будзя разходаў на ѓлупыя „барышы", и часу дараѓоѓа ня страцишъ, якъ цяпѣръ, бадзяючыся па тарго̀хъ, а потымъ па карчмо̀хъ, што часта и палавины ѓрошы да дому ня давязѣцца, а якъ добры хмѣль, то и усіо пакра̀дуць, да разамъ и зъ каніомъ, дыкъ праспаўшыся бяда хоць тапися.

V.

Яще апошняя сло̀ва.

Якъ народъ паскидаў народную адзѣжу, то и выробы дамовыхъ ткани уникли, а на фабрычную усякую тандэту мноѓа идзѣ купила марна, бо зъ таѓо ня машъ ни выѓоды, ни красы̀, а таквѣля шкода яўна.

Треба|жъ вѣдаць и разумѣць, што строй народны: ціоплы, паважны, хвасьливы зъ прадвѣку стасоўны да нашаѓо климату и затымъ здароўю служыць.

На доўѓія суконныя свиты мужчынъ, падпаясаныя ткаными штучна альба иными па̀сами; на пѣкные гарсеты, вышываныя спадницы и кашули у „лу̀катки", „шклюды", „цэркаўки"[2] и т.д. Маладзицъ и Дзяўчатъ, да кали яще тыя заплятуць коски чырвоными стужками, наложаць на шыю блисьцящыя пацярки ня наглядзѣ̀цца, а якъ хорамъ запяюць сребнымъ ѓо̀ласамъ ро̀дную пѣсьню, дыкъ и заплакаць хочацца, такъ бяре сваіо за сэрца!.. А|ўсіо|жъ тоя забываць стали сяляня цяпѣръ!..

Адзѣжа ваша зрабилася куртата, паркаліова у кабетъ, добра азначая паўсталы кѣпски абычай у народзя.

Ой злѣ!

Сялу патребны паважаныіе мужы̀-гаспадары и працавитыіе, ѓречныіе дзяцюки и хлопцы, а ня апо̀і, цыбатые савиздралы[3] и „жулики"; патребвы[4] разтаропныя ѓаспадыни, скромныя, здаровыя маладзицы и дзявицы, а ня разпустныя, вѣтрамъ падшытыя, блѣдныя „Букѣтки", „Имасьцянки" и „пастацянкі"...[5].

---

[1] Вынаходліва, кемлівы (ад польск. *zaradny*).

[2] Узоры геаметрычнага і інш. арнамента.

[3] Ветрагон, шалахвост (ад польск. *sowizdrzał*).

[4] Так у выданні. Трэба: *патребны.*

[5] *Букеткі* – незразумела. *Імасцянкі* – звычайна так называлі паненку са шляхты. *Пастацянкі* – звычайна вопытная жняя, а таксама дзяўчына, якая ішла на чале гурта жней і ўручала гаспадару вянок і дажынкавы сноп.

Аг͡ледзьцяся|жъ на блудъ! На што вамъ тыя брыдкія курты, да жакѣты? Сукни да кофтки? на што г͡уляць ня зг͡рабна нѣкія „Кундрыли”?[1] кали маяця свой паважны „Таняцъ”, каторымъ бывала пачыналася усякая народная вясіоласьць; сваѣ, якъ аг͡онь жаркія „мяцѣлицы, качаны̀, г͡андзи, лявонихи и т. д.

Народъ задумаў малпаваць мяшчанъ и друг͡ихъ, а ня вѣдая таг͡о, што іонъ у сваѣй народнай былиня таки маляўничы и паатычны, и што яму нават завидуюць у томъ дзѣля найбаг͡ацѣйшыя людзи!

Умилу̀йця|жъ сваіо ро̀дная, пакиньця ўсіо мо̀дная, вамъ ни якъ ня да тва̀ры и ня да толку сѣльскаго!

Зачниця ткаць даўнія ткани, адзявацца у народны, свой, пѣкны и ціоплы прыадзѣвакъ; ня забывайця пѣсни старыхъ якъ свѣтъ, тклививыхъ якъ маци, а ста̀няцяся лепшыми здаравѣйшыми, прыг͡ажѣйшыми, баг͡атыми! Якъ зъ часамъ народъ такъ урондзицца мудра празъ праўдзиваю г͡рамату, якъ научыцца усякіхъ раміослъ, стане ахвотна служыць и зарабляць усюды, якъ настроиць г͡аспадарку, сваи хаты и ўсіо водлуг͡ъ патрэбы праг͡ресса, то пазная смакъ духо̀вы у ро̀днай старанѣ, г͡дзѣ яму будзя жыцьца выг͡о̀дна, мила и хыба таг͡ды варіатъ яки захоча ицьци у прочки, кидаць сваіо святоя, для няпеўнаг͡о на чужбинѣ даліокай.

Дыкъ Брацьця! старайцяся адъ усяг͡о сэрца прыдабыць што найбольшъ цноты хрысьціянскай, маральнай и научнай асьвѣты, а рэшту ужо дасць Бог͡ъ добры сута зъ зямѣльки ро̀днай, которую мусиць Іонъ празначыў вамъ самъ, на варстатъ працы вячыстай, кали вы у нѣй параджа̀лися и рахуяцяся яя сынамі. Да працы|жъ брацьця! да працы зъ Бог͡амъ!!

КАНѢЦЪ:

[1] Французскі танец, які ў другой палове XIX ст. набыў папулярнасць у Расіі.

## Віцебскі варыянт

Хто спрычыніўся публікацыі твора А. Ельскага ў газеце “Витебскія губернскія вѣдомости” (1896, №№ 84, 86, 87 і 90), мы не ведаем [магчыма, у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў фондзе Віцебскай губернскай управы (ф. 1416, 68656 спраў) ці фондзе Віцебскай губернскай друкарні (ф. 2643, 18 спраў) некалі знойдзецца прозвішча таго чалавека]. Гэта мог быць ці то М. Доўнар-Запольскі, ці то І. Гарбачэўскі (1860–1914), ці то М. Нікіфароўскі ці то хто іншы.

Атрымаўшы “ўчера” кніжачку з Мінска, невядомы аматар беларускае пісьменнасці, змяніў яе тытул (відаць, фразеалагізм “пайсці ў прочкі” быў яму не вядомы ці не пасаваў з нейкай прычыны), напісаў свой уступ ды “пераклаў” – хутчэй за ўсё па рэкамендацыі вышэйшага начальства, бо праблема перасяленцаў на Віцебшчыне таксама існавала – на віцебскі дыялект беларускае мовы. Стараўся, па магчымасці блізка трымацца першаснага тэксту, хоць часам не так “перакладаў”, як пераказваў. А вось наватарства А. Ельскага (увядзенняе “новае” літары для абазначэння адметнага беларускага гука [**г**] ён праігнаваў цалкам.

Друкуецца паводле выдання: *Наши переселенцы. (Скорэй у Томскъ),* Витебскъ 1896, [15 старонак, дазвол цэнзуры – 20 лістапада 1896 г.) з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку.

# НАШИ ПЕРЕСЕЛЕНЦЫ.

(СКОРЭЙ У ТОМСКЪ).

(Оттиски изъ Витеб. Губ. Вѣдом. 1896 г.).

Витебскъ.
Губернская Типо-Литографія.
1896.

Дозволено цензурою 20 ноября 1896 г. Вильна.

## Наши переселенцы.

Скорэй у Томскъ.

У Томскъ, братцы, скорэй у Томскъ, – кажуть нащинцы и чужаки: тамъ ня ткуть, ни прядуть – обрядно живуть; ни пашуть, ня жнуть – пироги пякуть, солодкое молочко зъ кисялемъ ядуть! У Томскъ, братцы, у Томскъ, родненькіи!

Алѝ потѝху, братцы, потѝху! Тэй самый Томскъ отъ насъ далёко; довго ѣхать, довжѣй того иттить. Покуль што, ти ня лѣпи-бъ былò водицы стюдененькій испить, смагу прогнать, а други ковшъ на горячую голову узлить, пирякститьца, якъ людёмъ хращѐнымъ подобаить, присѣсь хуть-бы и на завалинку, айдѣ дяды рàды рàдили объ своё жиццийко.

А тымъ часомъ наши вỳчни нихай почитають намъ книжку про тэй самый Томскъ. А книжка тая занятная и складная; сочинивъ яѐ хтось у городи Миньску, намъ учѐра заславъ, да и кажить такъ[1].

[1] Тут завяршаецца “ўступ” невядома рэдактара-“перакладчыка” твора А. Ельскага.

У Томскъ!... Перши-на-перши ўспомню казку, што разумныи люди баюць про завидущихъ, якъ-ба имъ треба съ даромъ Божимъ обходитьца, якъ стеречѝ тоѐ, што ёсь, бо ня ўсѐ тоя добро и богацтво, на што воко зазираить. Здаетца – во янò ў рукахъ. А якъ погонисьця, часомъ можно утратить ўсѐ, што мѣишь.

Мяркуй самъ. Бѣгъ собака по кладцы празъ ракỳ и несъ ёнъ у ляпцы большэй кусокъ мяса. Только видить гэтый собака, што ў водѣ бягить другей и преть мяса, здаетца, поболій, и задумавъ нашъ собака ухапить чужоя мяса: разинувъ ляпку и – цапъ!... воды. Тымъ часомъ ягòный кусокъ мяса выпавъ зъ ляпки и поплывъ зъ водою быстро, а нашъ дуринь остався бизъ ничого.

I

Якъ баитца у казки, ня лѣпшій того бываить и въ самъ дѣли, ў жиццюбыццю землепаха! Типерицька ня ввидишь и ня вчуишь ничого добраго, окромя грѣшный работы, дурный гуторки и поклепу, якъ бытцыкъ у нашій рòдный зямельцы нѣту ужо простору жиць, выгодно, по Божаму, нейдѣ богатѣть чеснымъ розумомъ да хлѣбомъ.

Кажному якъ-бы то ўсяго скупо, мало стало. Уси такъ и ждуць достатку бизъ мѣры, только сабѣ, што звалитца нибыць зъ неба; одинъ другого готовъ зъѣсь, завидуюць ўсякому, ни вѣдая того, што ўсимъ ня быць роўными: ци силой, ци ростомъ, ци здоровьемъ, ци вѣкомъ, ци господарствомъ, ци власцій. Ня помнюць яны, што ето ўсё одъ Бога, кабъ были на свѣти люди старшіи и молодшіи, хозяины и молоццы, Монархи и подданыи, – и што для усихъ ихъ ёсь рòдный край.

Ой! Якое-жъ гэта великоя, святоя слòва: родина, рòдный край! Треба только зразумѣть гэтыи словы, и зъ чесцій, глыбока хувать у сэрцы!

Алѝ-жъ людёмъ темнымъ и ня добрымъ, завидущимъ на чужоя, чураю-щимся щирый работы, и ў гòлыву ня придить, якое яны сабѣ зло множуць, выглядывая ўсё за родныи вороты, кабъ тольки дѣ-нибудь поживитьца дармо.

Зямелька наша маци, што насякла кроўю и пòтомъ предкывъ, дождалася цяперъ того, што яѐ сыны, на одно слово якого-сь подлаго обманщика, готовы кидать яё и мчать, гдѣ зависливыи вочи зыркаюць за легкою наживою... Сòромъ гэта бачиць, ўсё тоя смутный дужа знакъ, и сэрца болиць, якъ подумаешь, што сталося съ добрымъ зъ натуры народомъ нашимъ! Даўнѣй, бывало, кіемъ ня выгнавъ-ба зъ сила одного чиловѣка туды, куды цяперицька готовы лицѣть громадою ўсею.

Ни такъ-то даўно народъ окраинъ нашиго царства ўзнявся бывъ ѣхать за мора, въ Амэрику, и тысячи яго пропали на чужой сторонѣ; цяперъ-жа зноў тутэйшіи Бѣлоруссы задумали гуртомъ пирибрацца у Томскую губерню.

У корчмахъ (ой, тыи корчмы проклятыи!) на кирмашахъ, у городахъ и у сёлахъ тольки и гомону дурнòга объ томъ, што ходили, ти пойдуць

“записываца” до губернатора на пярасялення, бо туды бытцомъ вызываюць народъ разомъ, повязуць ягй[1] даромъ, а на мѣсцы дадуць ни токмà много зямли зъ постройкою, алѝ яще шматъ гроши, да надараць ўсякаго насѣння, рогатый скотины кажному пярасяленцу, – што у Томскій губерни два мѣсяцы только зимы лёгкій, а посля тёпло, дакъ завсёгды пяюць солоўи, растуць просто у лѣсу солодкіи яблоки и дули, – што бочка зирна уродить заўжды повный засѣкъ, – што там народъ будиць воленъ одъ податей и набора.

Во, што плятуць дурни, а другіи слухаюць и даюць вѣру гэному глупству, а тымъ часомъ дѣлаитца вяликая шкода и имъ самымъ, и цѣлому родному краю, бо и силяни богатыи, мающіи довольно свойго грунту, думаюць ѣхать у Томскъ, на кисельныи биряги и молочныи рѣки, а покуль што продаюць за бязцѣнокъ стачину[2] и усякоя хозяйство.

А ти вѣдаить народъ, хто такій подстраиваить ямỳ такую дудку? Ти вѣдаить, у якую яму лѣзить? И одкуль пойшло усё тое баламуцтво? Ето усё дѣло я разтлумачу.

Кабъ народъ бывъ грамотный и письменный, якъ трэба, державъ добри святую вѣру Христовую, да бывъ ба твярёзый, общёса[3], моральный, працовитый, вѣдавъ бы, чаго стòить дорогая часинка, ды ни забывавъ ба правду старосвѣцкую, што “бизъ працы ня ѣсь калачи”, дакъ яго ня дужа бъ хто ошукавъ, ня дужа бъ звёвъ, кабъ посля поживицца тымъ самымъ.

З ласки Бога и Бѣлаго Царя[4] народъ уже давно маить широкіи правы свободнаго обывателя, однакъ грамота и письменность ў народа стоить совсимъ слабо, а што значить обычайнось, працовитось, – объ тòя ёнъ яще менши вѣдаить. И ня диво: покулитька доищисься однэй училищи съ книжками, дыкъ пройдишь тридцать корчемъ съ горѣлкой![5] Одъ етаго самаго пьянство ў селахъ, ня тутъ будь казано, цвитеть якъ макъ, пьяницы по деревняхъ – якъ грибы; пойшла усюдыхъ бизумѣрная распуста; дѣвки скромной, правой цяперъ со свѣчкой ищи, бо чуть ни всѣ свовольны, а молодчики-корчомники батьковъ и матокъ ни шануюць, глумятца надъ старыми, зводюць дивчатъ, працовать щиро и зароблять чесно ни рады, дакъ и заможности правдивый нѣтути, бо “маци зямелька такъ родиць, якъ ей хозяинъ годить”, а хозяинъ тольки съ помочи Божей мòгець наладить свой верстатъ, ци то запасъ!

Поболи якъ тридцать годовъ тому назадъ, якъ народъ вышивъ зъ-подъ паньщины, дѣ-ня-йдѣ и просвяцився трохи, а завись до богацтва тлумить яму совсимъ гòлову. Минулиси стародавніи звычаи, якъ старыхъ слỳхаць; нима имъ шаньбы и почету одъ молòдыхъ, одна толька ганьба и дерзось. Родныи браття грызутца за батьковщину йще при живэмъ батьки, а сащепиць ёнъ

---

[1] Так у выданні. Трэба: *яго*.

[2] Відавочна, *скацину*, але, магчыма, тут ужыта слова, утворанае ад *статак*.

[3] Ашчадны (?).

[4] Выкарыстаны выраз, які часта сустракаецца ў рускіх народных песнях. (Ак-Падзішах – у народаў Усходу).

[5] Рэдактар-“перакладчык” апускае два наступныя сказы пра “закон аб казённых кабаках”.

руки – куды што!... А ето-жъ ти мало, што сынъ батьку забивъ, братъ – брата? тут подпаливъ празъ злобу, тамъ идуть пожары одъ няосцярожности зъ огнемъ оставленныхъ бизъ дозору дитей, да празъ поганыи папяросы, каторыи цяперъ смалюць хлопцы и дивчаты, маль одъ дяцинства, и нихто гэтой свovоли ни забраняиць.

Зло тожа вяликоя, што одежу народную усю поскидали и напранули курты да сукни фабричныи. А йдѣ тыи пѣсеньки, тыи обрадки, тыи былины и сказы старосвѣцкіи! Куды табѣ што! Пяюць нѣйкіи солдацкіи, нипристойныи, што вуши вянуть, слухаючи ихъ... Яще выдумали справлять свадьбы у святую пяцинку, въ день смерти Спасителя, коли другіи хрыстяни молютца и постють.

Ни было етого давнѣй и ня чувано!.. То й ня диво, колѝ одъ новаго звычая нима ладу-спо̀ру, нима достатку, бо то̀е даетца одъ разумной и щирой працы, а Богъ ня могить благословить лянивой и добровольно сабѣ псующей грѣхомъ толпѣ.

Вотъ адѣ причина того, што народу ня милы и ня любы стали свои углы святыи, одъ пращуровъ доставшіися, и што ёнъ, почувши байку объ кисельныхъ берегахъ, объ дармовымъ, готовымъ скарби за тысячу верстъ, готовъ туды бресь, якъ утрапленый, у въ обгонки! Здаетца яму, што нагрибець разомъ дужа грошій, заживець сабѣ паномъ[1].

Но за тэту разгуканую хцивось мусиць яму статьца куды горшъ, колѝ чѣмъ зароблять, учитьца, промышлять, якъ жить чеснымъ трудомъ у родной зямельцы, ёнъ тратить только дорогій часъ на корчемныи гуторки и усякіи баламуцтвы, а послѣдніи гроши оддаець лайдакамъ за ихныи блудныи новинки, которымъ нико̀ли ня збыцца.

Гэтакъ жить ня можно, треба опомнитьца и вѣдать, што дурнямъ, коли у ихъ супсована душа, нійдѣ ня будить добра, а кабъ имъ стало луччій, такъ треба поправитьца зъ грунту, треба много учитьца, довго старатьца, треба щиро и дужа працуючи добыць сабѣ гэтакимъ путемъ потребный достатокъ. Нимашъ другей, только гэта простая и примая дорога къ хлѣбу насучному и къ доброму быту, а ина указана намъ Самымъ Богомъ.

Хто иначій учить народъ, той яго нипріятель, той хочиць згубы люцкей, хочиць сбить съ толку христіанскаго... Айдѣ тоя видано, кабъ готовыи пячоныи голубки ляцѣли намъ ў самыи губки! Чиловѣку придзначено одъ Бога проливать потъ, працуючи на жицця. Ти ня самъ сабѣ усякій кузнецъ свое счасця куець, тяпломъ да черный сажей бѣлую рубашку шіиць?[2] Дакъ и и[3] найбогатшій отъ работы ня воленъ, а колѝ гультаиць, то грѣшить и рано-поздно пропадеть.

Ня думайтя, простыи люди, што тольки вы працуитя. Наштыльтъ[4]: усякая работа, ти съ топоромъ, ти то съ пяромъ, колѝ робитца, то и ця̀жка. Алѝ

---

[1] Сказ дадзены рэдактарам-“перакладчыкам”.
[2] Сказ дадзены рэдактарам-“перакладчыкам”.
[3] Так у першадруку: адно *и* на канцы радка, а другое – на пачатку наступнага.
[4] Наадварот (?).

ваша здоровѣйша и крѣпить, бо простый работникъ, пробывая больше на чистомъ вѣтри, добри зъѣсь заснеть! Ни завидуйця занятымъ якей другой працою. Якъ у лѣси разныи древы, такъ и на бѣломъ свѣти мусюць быць усякіи люди для того, кабъ одны другимъ узаимно служили, помогали, то тымъ, то симъ, хто што умѣить. Одинъ дрòвы сякець, ти зямлю пашить, другей пишить, альбо учить, трецій ѣсци варить, тэй печатыиць книги, торгуить, лѣчиць и т. д. и ўсѣ яны робють дѣлы добрыи, а злый тольки той, што хочить лижать на боку и за-завидуиць[1] другимъ.

Во якъ! Трэба работать, хто што можить и умѣиць, и ни спихай мы роднаго хлѣба съ лопаты, такъ ўсѣ сыты станимъ, бязъ слишній роскоши, которую то и вѣра наша Христова диржать ня позволяиць. Ня той счасливый, хто ходиць при золотыхъ часахъ, ал[2] хто зъ працы рукъ, ти головы маиць скромный быть, да чистоя сумлення, котороя становить найдоражѣйшій скарбъ чиловѣка.

Даўнѣй, якъ на свѣти были меньше потребы, а молодежь слухала старыхъ и ўся симья работала ў хату, такъ и Богъ спорывъ ўсяму, и жилося луччѣй, ширэй. Алѝ новоя распусноя поколѣння порвало зямлю на кусочки, настроило густо бобыльскихъ хатъ, прямъ ля пожару, и бьетца коло ихъ, бо жаль кинуть ихъ и ицить на заработки. А тымъ часомъ найшли трудныи годы, хлѣбъ ставъ совсимъ ни[3] дяшевый, и тольки разумному хозяину и съ запасомъ яще можно якъ-нибудь обярнутьца.

Одтуль ўсѣ трохи приголѣли, а пьяницы и распутныи почали красти, и цяперъ повны остроги здоровыхъ дяцюковъ за злодѣйство. Другіи, опять, мѣстъ научицца якого рамясла, альбо стаць у заработки у фабрыку, чи у дворъ господарскій, тольки подставляюць вушы, кабъ почуть, якъ дѣ што сорвать бизъ працы.

Во и почули одъ разныхъ злыдняў объ Томскіи дармовыи богацствы, и туды намѣраны пёрци, ни разобравши у чимъ дѣло. Тую вѣсь, разумѣитца, разнясли ўсякіи вошусты, збродни, жулики, знающіи дурнòсць народа, кабъ мѣць зъ яго нягодную корысь, бо хто записываитца у ихъ, мусиць имъ платить скольки гроши*[4].

Тая новина пошла, якъ зараза по сёлахъ и народу замуцилося у головѣ одъ надѣи на роскошноя жиццё ў прочкахъ. На бяду ходить байка, што бытцомъ уже много людей поѣхало у Томскъ, што у два мѣсяцы нажили сабѣ тамъ по сорокъ штукъ рогатаго скоту, стольки жъ кòній – дакъ и прызываюць письмами міръ, кабъ ўсякій туды хуць-ба ракомъ повзъ “богацѣть и пановать!”...

---

[1] Памылка друкара: набраўшы *за-* ў канцы радка, у наступным ён падаў слова цалкам.

[2] Апошняя літара слова *али*, якое стаіць ў канцы радка, неадбілася на паперы.

[3] Рэдактар-“перакладчык” змяніў сэнс выказвання А. Ельскага.

[4] У городѣ Ягумани, Минской губерніи, дознано, што тамъ дурыли и записывали народъ на пярасялення вошусты: Павтарацкій „кривый”, Журавскій, Прохоровъ, и другіе. У томъ самымъ 1884 году нѣйкій Дашкевичъ звевъ много народу и Правицильство мѣло много зъ тымъ клопоту, поколь ни сослали злодѣя у Сибирь.

На тоя баламуцтво глянуло, наконецъ, начальство: велино слядить за подстрикатилями и осцярягать народъ, кабъ ни блудивъ дỳрно и ня робивъ тымъ сабѣ шкоды. Алѝ хоць разумнѣйшіи слухаюць, народъ ни пиристаець клявдиць и плясти своё на ўси лады, дакъ и задумавъ я разтлумачиць народу чистую правду.

II

Алѝ-жъ запытаюць цикавы: коли гуторка объ Томску ни правдива, то якъ могла ина повстать ни зъ того ни зъ сёго, бизъ ніякій причины?

На тоя отвѣтъ: правда, якъ кажуть, ни бываиць огню бязъ дыму, такъ и байку объ дармовыи богацтвы Томска спляли люди ни зъ ничего, да тольки байка гэтая глупая и будиць намъ усимъ сỳромно, колѝ, якъ той кажиць, "оглѣдитца Малахъ, што трасца ў зубахъ"...

Яще нябощикъ Монархъ Александръ III, разузнавшы, што народу много выѣзжаиць зъ русскаго царства за мора, кабъ тамъ пропадать, выдавъ 13 іюля 1889 года указъ объ томъ, што коли хто зъ силянъ, альбо мѣщанъ бяздомныхъ, но маючихъ запасъ гроши, захочиць ѣхать и сялитьца на свой счетъ на казенныхъ земляхъ, то могиць просить о томъ начальство, и такимъ празначана выдиляць участки зямли на Сибири, альбо на другихъ далекихъ пустыхъ окраинахъ царства, ни даромъ, однакъ, а на выкупъ, зъ никоторыми до времени льготами. Во и ўсё!

Объ томъ царскимъ закони усякій, ня слухаючи разныхъ вошустовъ, якъ ростуць дули на верби, можиць прочитаць у книжцы, што ёсь у кажнымъ волостномъ правленіи, подъ заглаўемъ: "Сборникъ разъясненій Сельскаго Вѣстника по дѣламъ сельскихъ обывателей.

Зъ тыхъ поръ ніякого другого закона объ пирасяленни Царъ нашъ ня выдавъ, а цяперишній духъ пирасялення возбудили, якъ сказано, вошусты, кабъ ошуканствомъ цягнуть зъ цемнаго народу корысь. Яны̀ то подмовляюць ицыць у прочки, нивѣдь куды, за нибывалымъ счасцимъ, бе усюды чиловѣка на свѣци ждець работа, а чимъ енъ разумнѣйшій и сумленнѣйшій, тымъ будиць и счаслившій. Подробнѣй объ томъ, якимъ способомъ у батьковщини жить и працовать трэба, скажу яще на концы моей книжки, а покуль тоя, надо растолковаць, щто за край такій обѣтованый Томская губерня, ни быдто молокомъ и медомъ плывущая.

Такъ вотъ: ляжиць енъ у Сибири, на сѣверо-восточной сторонѣ русскаго царства, вдали отъ насъ на 6000 верстъ, за горами, за лисами, за широкими водами, куды можно будиць доѣхаць ўправду и по зилѣзной дороги, которую скоро окончуть строить; однакъ, гэта ўсе|жъ дужа далеко, можа, девять разъ стольки, якъ одъ насъ до Пицярбурга, альбо до Кіева[1]. Наука насъ вучиць, што зима тамъ начинаитца одъ синтября мѣсица и стоиць до мая, чуць ня 9 мѣсицевъ; што морозы доходюць до 40 градусовъ, дакъ дѣли холоду такого страшнаго тамъ ни расцець ніякая садовина, а люди зимой

[1] Рэдактар-"перакладчык" Варшаву замяніў Кіевам.

мусюць ходиць ни якихъ-сь тамъ кажуркахъ нашихъ, а зашитыи одъ ногъ до головы у двѣ мохнатыи звяриныи шкуры, бо иначій ни одинъ ня бывъ-ба живъ.

Зимля тамъ, правда, ня згорша, али климатъ дужа суровый, и часу мало для господарства полявого, бо часто морозъ увесь урожай поморозиць; затымъ людей у гэтыхъ пустынныхъ просторахъ покуль мало, и ўсе наѣзжій народъ, спирша изъ каторжниковъ ссыланыхъ, а потымъ изъ разныхъ пирасяленцевъ.

Покуль-што можно бъ тутъ умѣлому и працовитому чиловѣку мѣць пользу зъ рыболовства на вяликихъ рикахъ и озерахъ, и зъ охоты по драмучимъ лѣсамъ, алѝ уси тыи просторы казенныи, и зъ прибыткомъ народу, празъ залѣзную дорогу, мусяць уйти и гэтый природный достатокъ старинный, и трудъ чиловѣка помножитца.

Во, якъ выглидаиць правда чистая, бизъ усякихъ прикрасъ, фундуваная[1] на законныхъ данныхъ.

Разумѣитца, у тымъ краю повночномъ, далекомъ, жить можно, особливо тому, хто щиры до працы, богобоязны, цвярёзы, а удобавокъ прыйдиць тамъ зъ розумомъ и зъ потребнымъ запасомъ своихъ грошій; али дурню якòмусь, гультаю, пьяницу голому тамъ только скорэй пропасци, и хуць-бы хто хотѣвъ вярнутьца, то уже вѣрно ня потрапиць. Повторяю: тольки дурносць народу тутэйшаго есь першія причина того кочаватья за свѣтъ зъ свойго рòднаго краю, бо у нашій Бѣлоруси*[2] насяленьню меншій у шесь, альбо у семъ разъ, чимъ у сосѣднихъ государствъ на гэтакомъ кускѣ зямли, за тымъ ніякій тисноты нимашъ, и довго трэба ждаць, покуль ў-заправди тѣсно станиць, якъ на прикладъ у Франціи, Англіи и у другихъ народовъ.

У насъ народъ хоть и подяливъ сялибы давніи, однакъ могъ ба ище жиць у добромъ быци, кабъ мѣвъ науку. Нимецкіи силяни коли мають 10 десятинъ[3] поля, то живуць достаточно, быць якъ наши паны у имѣніяхъ: муруюць сабѣ просторныи камяницы, маюць у ихъ покои прибраны хвастливо, зъ книжками и газетами на столахъ, бо господарство у ихъ научноя, а яны сами добри обучёны ў школахъ, цвярёзы, биражливы, сумленны и вельми працовиты.

Коли хто гэтому ни повѣрить, нихай прочитаиць свѣжую объ томъ вѣдомось у Пицярбургскій газэци "Свѣтъ" за 1895 годъ*[4], тамъ ўсе тоя описано вельми цикаво и выяснена причина богацтва нимѣцкаго силянина, якъ я вышій казавъ.

---

[1] Заснаваная.

[2] Губерніи: Витебская, Могилевская, Минская, Виленская, Гродненская. (Спасылка рэдактара-"перакладчыка", які да таго ж ужыў слова "Беларусь" замест "нашага заходняга краю" А. Ельскага).

[3] Рэдактар-"перакладчык" замяніў морг (каля 0,7 га) на дзесяціну (каля 1,1 га).

[4] Гляди № 200, подъ заглауемъ „Отголоски".

У насъ коли хто зъ силянъ научитца читать и писать, то ужо чураитца сила и задумываиць, якъ ба найтить дѣ мѣсто писаря у волости, ти урадника, ти иного якого чиновничка, бо тутъ можно ходить у сурдути, пры часахъ.

Вось почаму у селахъ нашихъ проживаиць тольки темный народъ. Нихто тамъ ни умѣиць ни то добри помолитьца Богу, ни прочитать разумную книжку, альбо якіи законы, а проклятая гарэлка заливаиць до остатку усимъ мозги, такъ што дѣится ў головахъ, тоя и ў господарстви. Школы скоро[1] ня ўбачить, ти саду ли хатъ, тольки корчмы ўсюды торчать на першимъ мѣсти, дѣ Шмэрки и Ицки звили сабѣ теплоя гнѣздо... На вулицы вузкій гразь и смуродъ страшный, усюду волочутца и рыюць свинни у хатахъ тожъ само, бо народъ живець разомъ съ курами да съ поросятами, одъ чаго такъ часты хворобы и поморы; повно блохъ и ўсякій иншій гадости, люди ня мыты, ни чиса̀ны суваютца зъ кута у кутъ, съ пипками, альбо папяросами у зубахъ, у подраныхъ бредяжкахъ[2], якъ старцы якіи... Ў добавокъ зло̀го, хаты усюды поставлины бязъ толку, ня ў линію – тая туды, тая сюды, крыты соломою: колѝ пожаръ, дакъ уся диревня мусиць ицицъ съ дымомъ у мигъ... И нихто ни раздумаитца, што трэба жъ завясти другей порядокъ, што хозяйство любить вумнаго хозяина, щираго работника, што господарство кормиць увесь свѣтъ. Доля жъ нашій господарки, покуль што, вельми смутна, колѝ ею править ни просвѣчаны, пьяный народъ! Потребна вяликая пирамѣна ў мысляхъ и повяденьню тутэйшаго землепаха, што-бъ перестали люди бѣгчи зъ зямельки, нашій ро̀дный мати!..

На тоя, што бъ мѣць спокойноя жиццё, ня треба яго искать за свѣтомъ, а тольки надо працовать съ Богомъ и съ розумомъ на мѣсцы, бо хоть чуваць, што “за морамъ волъ стоить полушку[3]”, а усё-жъ луччи туды празъ зависть ни ходить, бо покуль тэй волъ, дакъ боты стопчишь, гроши прохарчуишь, и мусить ўсправдитца давняя прыказка, што “вяликій кусокъ горло дярець”...

Ой, свитая батьковская нивка! Бо хоть часомъ ни уродить, “алѝ къ торби ни доводить”, дакъ и правда сказано, што “ўсюды добро, дѣ насъ нѣту”[4].

Помниця-жъ, помниця, люди, тую одвѣчную мудрось, ни пазирайця вельмѝ за свои воро̀ты и старайцися отъ ўсяго сэрца, кабъ домы ваши, селы ваши сталися вамъ милы и достаточны празъ чесную работу вашу.

## III

Запытаютца: якъ жа устроить такъ, што бъ стало луччей?

А во якъ.

Гарэлку треба кинуць и, конешно, цвярёзыми зробитьца, бо бязъ того николи ніякого толку ня будить.

Дальшъ, треба учитьца пильно ўсяго, айдѣ тольки можно.

---

[1] Так перакладзена “праве” А. Ельскага.

[2] Лахманах.

[3] Расійскай срэбраная, а пасля медная манета вартасцю ¼ капейкі.

[4] Беларуская прыказка А. Ельскага заменена расійскаю.

Треба шановаць часъ и дармо ни тратиь и минуты, бо ёсць разумная приказка богацѣйшаго на свѣтѣ народу, Англичанъ, што: “часъ – гэто гроши”. А нашъ народъ у гэтымъ ни разумѣиць ничого и тратиць ня только гроши на пьянство у святки, али и часъ у будни, да на ўсякіи проводы и забавы забобонныи, якъ “Градовыи Сярады”, “Выпятры”, “Мяртвыхъ Вяликдень”, “Миколинъ Бацъка”, “Паликопа”, – и Богъ вѣдаиць што яще.

Треба святить только святки, наказаныи вѣрой Христовой, пристойно, съ молитвой у сэрцы, съ читаннимъ добрыхъ книжекъ, а ни пьянствомъ грэшнымъ; святить такъ, кабъ, отдохнувши братьца съ подвойною охотою за работу.

Такимъ манеромъ прибудить ў году̀ шматъ большъ дорогого часу, а цвярёзыи головы стануць мудрѣй судиць-радиць обо ўсёмъ, что касаитца добра, силы и волости.

Тоды на школу ня будуць жалѣць гроши, бо зразумѣюць, што наука силянину конечно потребна, якъ и кажному другому. Алѝ-жъ ня только выучитца чиловѣкъ у школи, бо и свѣтъ школа добрая, вучиць ёнъ прахтыки жицця того, хто захочиць учитьца. Дакъ ни задомоўляйця дяцей вельми, алѝ посылайця ихъ у науку къ разнымъ майстрамъ и рамесникамъ, кабъ выучилися чаму доброму: столярства, малярства, бондарства, кравецтва, слясарства, рымарства и т. д., бо тыхъ работъ цяперъ многа требуюць и добри платюць.

Такъ-само, дѣ у якимъ двори живець разумный, працовитый, выплатный, сумленный помѣщикъ, тамъ шлицця охвотно дицей и лишнію сямью на заработки и на службу, учитьца господарства и другей работы; усякъ потребны тамъ: слуги, па̀робки, пастухѝ, огоро̀дники, швачки, кухарки, акономки, ку̀чары и т. д., [имъ ўсимъ][1] цяперъ хлѣбъ добрый и пэнсія достаточная, и якъ чуваць, сумленныи слуги достануць на старости амарытуру у грошахъ, объ чемъ радюць-судюць ужо, для огульнаго пожитку, сами хлѣбодавцы.

До сихъ поръ идець народъ на службу ни охвотно, и луччи голѣть яму̀ ў хати, чимъ служиць. Алѝ гэта придразсудокъ шкодливый, бо люди тратюць часъ, заработки, колѝ можнось чаго нибудь пожиточнаго научитьца.

Добра кажить прыказка, што: “Свинни хоць хто потрапиць пасить”, алѝ быць огородникомъ, майстромъ, и т. д. треба выучитца, дакъ за тоя можна и бытъ мѣць луччій*[2].

Ни чурайцися-жъ, силяне, рамеслъ и службы, бо у томъ ни ма ніякого стыду! Напроціў: люди на тоя, кабъ одинъ другому служили чимъ, а усѣ̀ разомъ Богу вѣрно служиць мусюць. Намякну яще, што слуги и рамеслянники, большъ отертыи на свѣти, коло особъ вучиныхъ, заносюць у свои селы луччіи порядки и густъ-ўкусъ, што уже и цяперъ видать по-троху.

[1] У выданні літары, узятыя намі ў дужкі, надрукаваныя “дагары нагамі”.

[2] Помницця и тоя, што зарабленыи гроши треба бярэгчи ня у кублахъ, кабъ ѣли мыши, а у збирагательныхъ кассахъ, на книжку.

У сёлахъ, однакъ, треба завесь порядки другіи, гуртомъ. Начавши отъ постройки школы и нанёмки вучѝтеля, треба одъ разу зъ нарòду звесци гарэлку, зъ корчмою разомъ, а колѝ будиць икая госця съ пивомъ, съ яденьемъ для подорожныхъ, то нихай у ей завядутца книжки и газэты, кабъ народъ, пришевши тамъ, вольнымъ часомъ, погомониць, потолковать сурезно объ потребахъ сила, могъ за разомъ прочитаць што добраго и поучитьца, ни одъ дурыцялёвъ и плутовъ, якъ цяперъ, алѝ зъ того читання, айдѣ якъ што идець на свѣти, якіи законы вышли и т. д., бо кажный чиловѣкъ ни одичалый мусиць рупитца объ тоя, мусиць работаць завсёгды головою, и тымъ самымъ усѐ большъ цывилизоватьца.

Сёлы потреба-бъ строиць ỳ ровныи линіи, вулицы осушить одъ вѣчный грази, празъ копання конавъ, альбо мощення, дѣ камення достатокъ.

Конечни, треба также заводиць фруктовыи садки ли хатъ, дакъ якъ люди будуць мѣць свои овоцы, ня пойдуць красти чужихъ и зразỳмѣюць луччій святость чужей собственности.

І господарство ня можиць совсимъ остатьца такимъ, якъ яно цяперъ стоиць. Свѣтъ мудрѣить, дакъ и силянину, при таляграфахъ и залѣзныхъ дорогахъ мудрѣйшимъ треба стацьца празъ науку. Ня той ужи часъ, кабъ кòрпатьца у зямли бязъ толку, ус[1] мусиць быць цяперъ разсчитано и зроблено, якъ того требуиць новѣйшая прахтыка и вòпыты. По нѣкоторыхъ дворахъ у насъ тоя ужу можно бачиць и ўцямиць, якъ што робитьця съ помочью науки.

Толкуюць, и гэта вѣрно сбудитца скоро, што у волостныхъ школахъ будуць учить основныхъ правилъ хозяйства, огородництва, пчальництва, лясництва, и давъ-ба Богъ скорэй тоя, а тымъ часомъ треба старатьца добрый примѣръ брать, дѣ тольки можно.

И такъ, што бъ удобриць писчаныи пустоши, силянамъ надо сѣить лупинъ, бо гэто растення маль чудомъ правиць зямлю, и даець шматъ цѣннаго сѣна. Скотъ тожа треба годоваць разумнѣй. Ня объ количество штукъ тутъ идець дѣло, алѝ объ выгодовання скоту молочнаго и мясистаго.

Дѣли тòго сяло, ўсѣю громадою, мѣиць сабѣ купляць расовыи бугаи, дѣли расплоду молочныхъ коровъ, а потомъ такъ само громадою нанявши сыровара, робить сыры, на способъ швейцарскій, альбо голяндерскій, и продаваць у городъ, у магазины, бо цана такихъ сыровъ маль потройная.

Кромѣ того, кажноя сяло мусиць сабѣ завесь свою мірскую краму, кабъ доставаць товаръ найтонѣйшій, дяшевый, съ першій руки.

Што налѐжиць ўсякаго хлѣба и ўсякихъ припасовъ господарства, то ихъ треба продавать не иначій, якъ празъ комиссійскіи конторы, званыи сындикатами господарскими, которыи цяперъ повстаюць у городахъ тольки для того, што-бъ кажный хозяинъ, ни шукаючи купца, обычно круциля, могъ сбыть свой товаръ у першіи руки, и разомъ купить сабѣ што трэба для господарства, якъ: плуги, борòны, косы, сярпы, и усякую, што тольки подумаиць снасць.

[1] Так у выданні. Не адбілася апошняя літара ў слове.

Такимъ способомъ продавши найдорожжѣй свое и купивши найтонѣй што трэба, хозяинъ порядочный и цвярёзый много можиць сбиречь гроши; тутъ ніякихъ ня будиць расходовъ на глупыи "барыши", и ни страцить дорогого часу, якъ цяперъ, таскаючись по торгахъ, а потомъ по корчмахъ, што часто и половины гроши ни довязѐть домовъ, а якъ добрый хмель, то и усѐ покрадуць, ды разомъ и съ конемъ, дакъ проспавшись бида, хоть топись.

IV

Яще послѣднія слово.

Якъ народъ поскидавъ народную одежу, то страцилися и выробы домашнихъ тканей, а на ўсякую фабричную тандэту много йдѣ купила марно, и зъ того ўсяго нимашъ ни выгоды, ни красы, а тольки яўная шкода.

Треба намъ ўсимъ вѣдаць и разумѣць, што такоя скрой народный: тёплый, важный, красивый, съ прадвѣку приспособлянный до нашиго климату, и затымъ служиць здоровью.

На довгіи суконныи свиты мужчинъ, подпоясаныи домоткаными штучно, альбо иными поясами, на пекныи гарсеты, вышиваныи сподницы и кошули у "лу̀катки", "цэркаўки" и т. д. молодиць и дивчатъ, ды колѝ ящѐ тыи заплятуць свои косы чарвоными лентами, наложуць на шію блискучія пацярки – дакъ ни наглядѣтьца... А якъ хоромъ запяюць сребнымъ голосомъ ро̀дную пѣсню, дакъ и заплакаць хочитца – такъ своё и хватаець за сэрца!.. А ўсё тоя стали забываць цяперъ наши силяни!..

Одежа наша зробилася куртата, ситцовая у бабъ, добри означая новыи дурныи обычаи и звычаи народа.

Ой, бида!

Сялу потребны сурезныи мужѝ – господари, працовитыи, уважныи и послушныи дяцюки и хлопцы, а ня опои, и ўсякіи проходимцы; потребны расторопныи хозяйки, скромныи, крѣпкіи молодицы и дявицы, а ни распутныи, вѣтромъ подшитыи, блѣдныи "Букетки", "Имосцянки" и прочее.

Оглядитяся-жъ на блудъ! На што намъ тыи курты да жакеты, сукни и кофтки? На што гуляць низграбно нѣйкіи "кандрыли", кыли маитя свой поважный "таницъ", которымъ бывало починалася усякая народная весялость, свои, якъ огонь жаркіи "мятелицы, качанѝ, га̀нди, лявонихи" и т. д.

Народъ задумавъ обезъянить мищанъ и другихъ, а ни вѣдаиць того, што енъ у своей народной старинѣ такій живописный и любый, и што яму завидуюць у томъ найбогацѣйшіи люди!

Умилуйця-жъ своѐ ро̀дноя, покиньтя ўсё мо̀дноя, вамъ ніякъ ни къ лицу и ни до толку сельскому!

Начниця ткаць древніи ткани, одѣватьца у народный свой, красивый и цёплый прідѣвокъ. *Ни забывайця ни свойго давняго убранства, ни своихъ пѣсней старыхъ, якъ свѣтъ, нѣжныхъ и тоскливыхъ, якъ нѣжна тоскующая по дѣцямъ маць*, и станиця луччими, пригожѣйшими, здоровѣйшими, богатыми! Якъ съ часомъ народъ такъ устроитца мудро празъ настоящую грамоту, якъ научитца ўсякихъ рамеслъ, якъ станиць охвотно служиць

и заробляць усюды, якъ наладить хозяйство, свои хаты и усё у согласiи съ потребами жицця, то познаиць и смàкъ у рòдный сторонѣ, дѣ яму будиць жиццё выгодноя, милоя, и тогды хиба дуринь якiй захочиць исти у прочки, кидаць свое святоя для нявѣрнаго на далекiй чужбини.

Брацця! Старайцися одъ усяго сэрца придобыть, што|н айбольшъ, христiанской любви, моральнаго и научнаго просвященiя, а у награду уже дась Богъ богато зъ зямельки рòдный, которую мусиць Ёнъ прадзначивь вамъ Самъ, коли вы у ёй пораджалися и слывете iе сынами... За работу-жъ, брацця! За работу съ Богомъ!

# Брашура *Слова аб праклятай гарэлцы і Аб жыцці і смерці п'яніцы*

Выйшла з друку ў 1900 г. у Пецярбурзе. Пэўна ж, вялікім накладам і прызначалася дзеля распаўсюджвання сярод сялянаў (каштавала выданне 3 капейкі). Рукапісны аўтарскі варыянт захоўваецца ў фондзе М. Доўнар-Запольскага: *Оповідання для народу Олександра з Замостя "Про життя і смерть п'яниці"*[1]. Магчыма, ён прызначаўся для ажнаго з томікаў "Календаря Северо-Западного края", але – як і пераклад санета А. Міцкевіча Бура – з невядомых прычынаў не быў апублікаваны.

А. Ельскі некалькі разоў спрабаваў надрукаваць дадзены тэкст. Няўдалаю аказалася і спроба 1898 г. Ніжэй мы падаём матэрыялы справы, якая захоўвалася колісь у Ленінградскім аддзяленні Цэнтральнага гістарычнага архіва (сёння: Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў) і была перапісаная для Лукаша Бэндэ ў 1950-я гг.[2] на машынцы. Справа называлася: "Дело № 250 С.- Петербургского Цензурного Комитета. 1898. По недозволенной рукописи на белорусском говоре п. з. *Праудзивы разсказ об жынци и смерци пьяныци А. J.* Началось 16 мая 1898"[3].

Першы дакумент – адносіна С.-Пецярбургскага цэнзурнага камітэта да Галоўнае ўправы па справах друку. Старшыня Камітэта Смарагд Касовіч просіць Галоўную ўправу прыняць рашэнне адносна пададзенага 16 мая 1898 г. на разгляд рукапісу. Камітэт цэнзуры не меў нічога супраць зместу твора, але той факт, што яна плануецца распаўсюджвацца Таварыствам цвярозасці, не дазволіў яму ўхваліць рукапіс да друку. Відавочна, да пецярбургскай цэнзуры звярнуўся нехта з прадстаўнікоў, трэба думаць, Камітэта Апякунства пра народную цвярозасць (Комитет Попечительства о народной трезвости). Перадусім, Камітэты мелі сродкі[4], за якія, відаць, і меркавалася выдаць "праклaмацыю"

---

[1] Центральний державний історичний архів України, м. Київ, ф. 262, оп. 1, спр. 153.

[2] З тае прычыны, што ў 1941 г. Ленінградскае аддзяленне Цэнтральнага гістарычнага архіва было перайменавана ў Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў у Ленінградзе, дакументы справы, трэба думаць, былі перапісаны яшчэ ў 1930-я гг.

[3] Дакументы справы мы ўзнаўляем паводле копіі: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 999: Даклады губернскага сакратара Тучанскага, перапіска галоўнага ўпраўлення па справах друку і Пецярбургскага цэнзурнага камітэта аб забароне друкаваць верш *Праўдзівы расказ аб жыцці і смерці п'яніцы – падаў беларускаму народу А. папячыцель аб народнай трэзвасьці* на беларускай мове. Машынапісная копія (1950-х гг.). Лл. 1–5.

[4] Напрыклад, Мінскі камітэт апякунства пра народную цвярозасць няраз фінансаваў дзейнасць Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў (Общества любителей изящных

з вершам А. Ельскага. Не пакінем без увагі і тое, што аўтар рукапісу падаецца ў дакуменце (як, дарэчы, і ў пазнейшым выданні) як апякун цвярозасці (“попячицель трэзвосьци”). Справа ў тым, што камітэты цвярозасці існавалі ў кожным павеце. У яго склад уваходзілі старшыня (павятовы маршалак шляхты) і сябры. Апошнія або прызначаліся (напрыклад, у Ігуменскім камітэце прызначанымі былі: настаяцель Ігуменскага сабора і памочнік наглядчыка VIII Акругі акцызнае ўправы), або станавіліся паводле пасады (у Ігуменскім камітэце: “непременный член уездного по крестьянским делам Присутствия, товарищ прокурора, почетные и участковые мировые судьи, воинский начальник, городской староста, податной инспектор, штатный смотритель уездного училища, городской врач, исправник, наблюдатель за церковно-приходскими школами и инспектор народных училищ”). Відаць, А. Ельскі напрыканцы XIX ст. меў адну з вышэй пералічаных пасад у Ігуменскім павеце, і гэта давала яму падставы называць сябе “попячицелям трэзвосьци”.

**№ 1**

М. В. Д.
С. Петербургский
Цензурный
Комитет
9 июня 1898 года.
№ 1414.

В Главное Управление по делам печати.

В СПБ. Ценз. К-т представлена для дозволения выпуска отдельным листком стихотворение на белоруском говоре: “Проўдзивы расказ об жынци и смерци пьяныци”[1] – падау белорусскому народу А. J. Папячыцель об народной трэзвосьци”.

Содержание стихотворения самое благонамеренное, а именно: показать какое горе и какие беды сопровождает жизнь пьяниц. Для этого автор сопоставляет работу, довольство, сытость трудящегося трезвого люда, с леностью, бедностью, холодом и голодовкою пьяниц и их семейств.

Хотя со стороны содержания стихотворения этого и его благонамеренности не встречается препятствий к дозволению его печатанья, но комитет останавливается перед вопросом: насколько пригодны будут и согласными с видами администрации распространение таких листков от обществ трезвости? Еще в недавнее время воспрещены такие листки, изданные обществом трезвости, находящемся в Грайворонском уезде[2].

В виду особенной осторожности, СПБ Ценз. К-т позволяет себе настоящее издание на белорусском говоре представить на усмотрение Управления по делам печати.

Под.: Председатель Коссович.
Скреп. Завед. делопроизв. Пантелеев.

*БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 999, л. 1.*

---

искусств). Гл.: З. Шибеко, С. Шибеко, *Минск: Страницы жизни дореволюционного города*, Минск 1990, с. 216.

[1] Тут і далей захоўваецца пісоўня копій архіўных дакументаў.

[2] Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка Курскае губерні.

Другі дакумент справы сведчыць, што Галоўная ўправа па справах друку пастанавіла, каб С.- Пецярбургскі цэнзурны камітэт на падставе агульных цэнзурных правілаў самастойна прыняў рашэнне адносна дазволу на друк рукапісу А. Ельскага.

**№ 2**

М. В. Д.
Главное Управление
по делам печати.
15 июня 1898 г.
№ 4249

С.-Петербургскому Цензурному Комитету

Вследствие представления от 9 сего июня за № 1414, возвращая при сем рукописный лист на белорусском говоре: "Праудзивы рассказ аб жынци и смерци пьяныци – падау белорусскому народу А. Шапячицель аб народной трозвосьци". – Главное управление по делам печати уведомляет С.- Петербургский Цензурный Комитет, что так как в настоящее время не установлено никаких исключительных правил для цензуры сочинений на белорусском наречии, то рассмотрение таковых подлежит действию общих цензурных установлений.

Временно исполняющий обязанности
начальника Главного управления
по делам печати М. Соловьев[1]
Заведывающий делопроизводством,
Член совета (подпись)

*БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 999, л. 2.*

С.- Пецярбургскі цэнзурны камітэт даручыў губернскаму сакратару Тучанскаму падрыхтаваць прапановы адносна дазволу на друк рукапісу А. Ельскага. Цэнзар (?) Тучанскі, спаслаўшыся на цыркуляр Галоўнае ўправы, і, відавочна, прыняўшы беларускую мову за "исковерканный русский язык", выказаўся супраць выдання білета на друк.

**№ 3**

Доклад губ. секр. Тучанского о стихотвор. на белорусском наречии "Праудзивы рассказ аб жынци и смерци пьяныци – падау белорусскому народу А. J. Папячицель аб народной трезвосьци".

27 июня 1898 г.

Небольшое стихотворение на белорусском наречии с содержанием, направленным против пьянства, в защиту трезвости имеет вид прокламации.

Имея в виду циркуляр Гл. Упр. по д. п. от 7 мая 1898 г. за № 3236 и принимая во внимание, что написано это стихотворение на исковерканном русском яз., непонятном большинству читателей, цензирующий полагает не разрешать его к напечатанию.

Тучанский.

*БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 999, л. 3.*

---

[1] Міхал Салаўёў выконваў абавязкі начальніка Галоўнае ўправы ў 1896–1901 гг.

На падставе даклада Тучанскага С.- Пецярбургскі цэнзурны камітэт вырашыў:

**№ 4**

ДОКЛАД Губернского секретаря Тучанского:
о представленной 16 мая № 2794[1], – рукописи
"Праудзивы рассказ аб жынци и смерци пьяныци –
падау белорусскому народу А. Шапячицаль аб народной трезвосьци"
для разрешения к печати.
(с доклада)

Соглашаясь с мнением цензирующего С. Петербургский Цензурный Комитет ОПРЕДЕЛИЛ: (примечание из циркуляра Гл. Упр. по д. п. от 17 мая 1898 г. № 3236) рукопись Прадзивы рассказ аб жынци и смерци пьяныци – падау белорусскому народу" – запретить.

*БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 999, л. 4.*

Гэтае рашэнне было таксама занесена ў журнал.

**№ 5**

1898. Ж. № 23. Июня 24[2]. Ст. 14.

Соглашаясь с мнением цензирующего и применяясь к циркуляру Главного Управления по делам печати от 7 мая 1898 г. № 3236 С. Петербургский Цензурный Комитет ОПРЕДЕЛИЛ:

Рукопись: "Праздивы рассказ аб жынци и смерци пьяныци – падау белорусскому народу – Запретить.

*БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 999, л. 5.*

Дадзеная архіўная справа, а таксама знаходжанне твора А. Ельскага ў фондзе М. Доўнара-Запольскага можа сведчыць, што ён быў напісаны на пачатку 1890 х гг. Аднак у матэрыялах архіва Міхала Федароўскага быў выяўлены рукапіс гэтага верша, занатаваны самім фальклярыстам 15 сакавіка 1889 г. у маёнтку Косін Ваўкавыскага павета.

Цікава, што рукапіс верша мае своеасаблівы "падтытул": „Praudu hetu razkazau narodu Aleksander Jelski z Zamościa". Г. зн. М. Федароўскі адразу ведаў, што гэта не народны твор, але ўсё ж, уключаючы яго ў трэці том свайго выдання, зрабіў наступны прыпіс: "Толькі праз некалькі гадоў пасля запісу дадзенае сатыры я даведаўся ад заўсёды ахвочага да навукі майго прыяцеля гр. Людвіка дэ Гэлкві (яму я ўдзячны за спрыянне ў даследаванні шмат якіх цікавых мясцовасцяў Гродзенскага павету), што гэта твор (адзін са шматлікіх дасюль неапублікаваных) знанага грамадзяніна і літаратара, а пры тым вялікага аматара беларушчыны пана Аляксандра Ельскага з Замосця; вось толькі не меў я магчымасці параўнаць яе з арыгіналам, каб пераканацца, як змяніўся змест за гэткую

[1] Нумар, пад якім быў зарэгістраваны ў Камітэце цэнзуры рукапіс А. Ельскага.
[2] Відаць, дата памылковая: гл. Даклад Тучанскага, які падпісаны 27.06.1898 г.

далёкую, бо з берагоў Бярэзіны, а выкліканую відавочна нейкім асаблівым выпадкам, перэгрынацыю”[1].

М. Федароўскі, відаць, не лічыў, што верш А. Ельскага трапіў з Міншчыны на Гродзеншчыну “натуральным” чынам: гэтак, як пашыраліся народныя песні. Магчыма, нават і ведаў, як гэта адбылося, але не палічыў патрэбным паінфармаваць чытача.

Маёнтак Косін у другой палове XIX стагоддзя належаў прадстаўнікам роду Ельскіх: “Косін, Кусін, маёнтак, Ваўкавыскі пав., гм. Вільчукі (2 в.), 14 в. ад Ваўкавыска, Ельскіх, 870 дз.”[2]. А граф Людвік (ці больш дакладна: Луіс) Гелкві (1841–1897)[3] – гэта сын Людвіка Ельскага (1785–1843) і графіні Габрыэлі Разаліі Dupaillau (Rose-Gabrielle du Paillant, 1810–1841)[4].

Відаць, А. Ельскі, наведваючы сваякоў у 1880-я гг. (?), пакінуў свой верш у маёнтку дзеля “маральнае навукі” мясцовых сялян, адзін з якіх – Антоні Боўжык – пераказаў яго па памяці М. Федароўскаму.

Такім чынам, верш, які мы звязвалі з самым канцом XIX ст., мог быць напісаны гадоў на пятнаццаць раней.

Не выдаўшы твор у 1898 г., А. Ельскі не пакінуў гэтую справу ў далейшым, а стараўся ўсё ж атрымаць дазвол цэнзуры. Відавочна, не мяняючы зместу брашуркі (пра гэта сведчыць тэкст празаічнае часткі твора: аўтар кажа пра тое, што два гады таму “заведзены” казённы манаполь. А, як вядома, гэта было зроблена ў 1894 г.), ён змяніў ейны тытул *Праўдзивы рассказъ абъ жыцьци и смѣрци пьяницы. Падаў бѣлорусскому народу А. J., папячицель абъ народной трэзвасьци* на *Слòва абъ праклятай гарэлцы и абъ жыцьци и смѣрци пьяницы. Добраму Бѣларускаму народу, на пакрапленьня яго душы̀ і рòзуму, разказаў прыя̀цяль яго папячицель трэзвасьци А. I.* Ягоныя намаганні 5 студзеня 1900 г. завяршыліся паспяхова: той самы С.- Пецярбургскі цэнзурны камітэт даў дазвол на друк.

Гісторыя публікацыі дадзенага твора А. Ельскага – красамоўнае сведчанне тых цяжкасцяў, з якімі сутыкаліся беларускія аўтары ў XIX стагоддзі. Беларускамоўныя творы з волі пэўнага губернскага сакратара, для якога беларуская мова была “исковерканным русским языком”, проста знікалі ў гарніле расійскае цэнзуры. І падобнае паўтаралася нераз. Напрыклад, В. Барысенка выявіў

---

[1] M. Federowski, *Lud białoruski na Rusi Litewskiej: Materiały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877–1894*, t. 3: *Baśnie, przypowieści i podania ludu z okolic Wołkowyska, Słonima, Lidy i Sokółki*, cz. 2: *Tradycye historyczno-miejscowe oraz powieści obyczajowo-moralne*, Kraków 1903, s. 32.

[2] *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XV, cz., 2, Warszawa 1902, s. 135.

[3] Ён нарадзіўся ў Францыі, служыў у французскім войску ў званні маёра; пазней, відаць, жыў на Беларусі, памёр у Мінску.

[4] E. Pierzyńska-Jelska, A. Jelski, *Przetrwała też róża* [w:] *Dwór polski: zjawisko historyczne i kulturowe*: materiały VIII seminarium, zorg. przez Oddział Kielecki Stowarzyszenia Historyków Sztuki i Dom Środowisk Twórczych w Kielcach, Kielce, 13–15 października 2005 / [red. nauk. Leszek Jerzy Kajzer], Kielce: Stowarzyszenie Historyków Sztuki, 2006, s. 309–330.

у Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве ў Ленінградзе справу С.- Пецярбургскага цэнзурнага камітэта “Аб недазволеным рукапісе *Беларуская ластаўка: Вучы лянівага не молатам, а голадам*”, які падаў у 1887 г. студэнт Палінкоўскі. Прысуд цэнзараў гэткі ж самы, як і ў выпадку ў вершам А. Ельскага: “Адмоўнага ў змесце нічога няма, але, прымаючы да ўвагі суровыя законапалажэнні, якія забараняюць з’яўленне ў друку твораў на маларускай мове, нельга даваць дазвол на друкаванне”[1]. Тут выразна выявілася стаўленне расійскага царызму да беларускага народа і беларускае мовы: “Маючы на ўвазе, што беларусы могуць добра разумець чыста рускую мову, не адчуваючы патрэбы ў асобных для сябе кніжках, напісаных іх гаворкаю, у з’яўленні такіх брашур наўрад ці мае патрэбу мясцовае насельніцтва. З прычыны сказанага Камітэт вызначыў: рукапіс друкаваць не дазваляць”[2].

Брашурку А. Ельскага ведалі гісторыкі літаратуры XX стагоддзя. Я. Карскі, праўда, палічыў яе і верш, апублікаваны М. Федароўскім, чамусьці за два творы. Відаць, таму, што брашуры не бачыў, а толькі меў яе бібліяграфічнае апісанне[3]. На думку М. Гарэцкага, А. Ельскі ў сваіх народных апавяданнях “навучаў беларускі люд, як трэба жыць […] дакараў за розныя заганы, асабліва за п’янства”[4]. Часам згадвалася гэтая брашурка і ў іншых даследаваннях літаратуры XIX стагоддзя. А вось публікацыі самога тэксту з’явіліся толькі ў XXI стагоддзі[5].

## Аб жыцці і смерці п’яніцы

### Рукапіс Міхала Федароўскага

М. Федароўскі запісаў верш у маёнтку Косін Ваўкавыскага павета 15 сакавіка 1889 г. ад Антонія Боўжыка. Тэкст даволі блізкі да выдадзенага ў 1900 г. у Пецярбурзе (праўда, з асобнымі пропускамі); пазней (бо іншым чарнілам) М. Федароўскі паправіў яго: невядома толькі, ці змены ўносіліся на падставе дадатковай размовы з ранейшым інфарматарам (а можа, – нейкім іншым), ці гэта рэдактарскія праўкі самога фалькларыста.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле рукапісу Кабінета рукапісаў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта: Rkps BUW 437, cz I, vol. 4.

---

[1] В. Барысенка, *Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, Мінск 1957, с. 147.

[2] *Тамсама*, с. 146.

[3] Гл.: Е. Карский, *Белорусы: В 3 томах*, том 3, книга 2: *Очерки словесности белоруского племени*, Минск 2007, с. 362.

[4] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літэратуры, выданьне другое (папраўленае)*, Вільня 1921, с. 101.

[5] Гл.: *Літаратура Беларусі XVIII–XIX стст.: Хрэстаматыя*, Варшава 2012, с. 411–414; *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 5: *Літаратура другой паловы XIX ст. у 2 ч.*, ч. 2, Мінск 2013, с. 98–101, 789.

# Ab życi i śmierci pjanicy.

*Praudu hétu razkazau narodu Aleksander Jelski z Zamościa.*

Ludzi w swiatki molacsie Bażoczku
A jon sabie z ranka z czortâm ŭ szynoczku
Jâho czorny dzietki tak jak haławieszki
A jon pje harełku da usio stroić śmieszki
Jâho zhniła chata daj dzirawy strechi
A jon w karczomcy siâdzić dla uciechi
Usie pryadziety u saroczki, świty
A na jom ryzmak[1] łatami padszyty
Usie czużyja żonki wiesioły i rezwy
A jâho u smutku, bo mużyk nie trezwy
Jâna u kłapoci~~e~~ kała[2] haspadarki
A jon tolki[3] żydu sparażniaje czarki.
U ludziej snaścina, chamuty, kalosy
A u jâho niâmasz nawet[4] i atosy
Konikoŭ i[5] statku pounaja dziereunia[6]
Na jâho nadworku ni widać i pieunia[7]
Ludzi spać lażaccsie[8] natrudziŭszy kości
~~A~~ jon bieżyć k' Szmujle ~~pape~~…[9] w hości~~e~~
Ludzi iduć rano na rabotu u pole
A jon z tydzi~~eń~~ pjany lażyć u stadole
Ludzi paarali[10], zasiejali niŭki,
A jon nie kinuŭ u ziemlu nawat[11] i kaliuki
Ludzi z panem[12] Bohâm snapki pazbirali
A jâmu czerci pić dapamahali.
~~U wosień w wabraz~~[13] chodzić, darać ksiendza bahaty
A jon z soromu[14] paszoŭ da karczmy iz chaty

---

[1] Уверсе дапісана слова-тлумачэнне *kaptan*.
[2] Слова папраўленае на *kale*.
[3] Слова закрэсленае, а зверху дапісана *anno*.
[4] Слова папраўленае на *naat*.
[5] Літара закрэслена, а зверху дапісана *da to*.
[6] Два словы закрэсленыя, а зверху дапісана *poŭnyja chleŭcy*.
[7] Апошнія словы закрэсленыя, а зверх дапісана *parszywaji haŭcy*.
[8] Слова закрэсленае, а зверху дапісана *kładucsa*.
[9] Слова закрэсленае, а зверху дапісана *jak da dziàdźka*.
[10] Слова папраўленае на *paharali*.
[11] Слова папраўленае на *nat*.
[12] Слова папраўленае на *Panam*.
[13] Словы закрэсленыя, а зверху дапісана *na chfest*.
[14] Слова папраўленае на *soramu*.

Sielo[1] dziedy spraulaje[2] – ~~lejec piwa w~~[3] szklanki
A u jâho ni chleba, ani hałamianki.
Padyszli Kolady, u ludziej kałbasy[4]
A ŭ jâho harszki zausim biez akrasy.
Susiedzi małociać, pradajuć zierniata
A jâho pustyja: stadoła i chata.
Susiedzi papłacili magazỳn[5], padatki
A u jâho tak wiele dauhou – niedastatki.
Zimaczka nadbiehła, ludzi hrejuć izby
A jeho chałodna bez drou i bez pryzby
~~Usiudy harać łuczynki u stoli~~[6]
~~A w jâho nie swiecić bo smoli~~[7].
Praduć douhi lon kabiety, dziewicy
A jâho żonka siedzić bez praśnicy.
Zapuski naczalisie usie jeduć tłusta
A u jâho praśniak, niszczymna kapusta.
Ludzi zahawieli pakinuli szmelac[8]
A jon za ~~każarku~~[9] prawodzić papielac
Ludzi na Wielikdzień ~~używawajuc swiata~~[10]
A ~~w jaho u chaci praudziwa pakuta~~[11].
Na wiesnu w trezwych niepustyja kleci
A u jaho papuchli hałodnyja dzieci
Słonce chodzić wyżaj[12] i ludziam uciecha
A jon aposzni~~j~~ garniec wysypau iz miecha
Da użo-ż i busły prylecieli z morza[13]
A jâho siemiejka zausim słaba, chwora.
Usie wyszli u pole Jurju padziwicsie
A jon u karczmu kab na smierć zapicsie.
Czerci ż taki wziali da swajeho państwa
Ot jaki kaniec łajdactwa, pijaństwa.
Z tahož usim nauka: czarka na paczatak
Dalej uże kwarta, garniec na astatok.

---

[1] Слова папраўленае на *Na siele*.
[2] Слова папраўленае на *spraulajuć*.
[3] Тры словы закрэсленыя, а зверху дапісана *naliwajuć*.
[4] Слова папраўленае на *koŭbasy*.
[5] Слова папраўленае на *makazỳn*.
[6] Радок закрэслены, а зверху дапісана *da dzieŭki śpiewajuć*.
[7] Радок закрэслены, а зверху дапісана *u chaci ŭsie czerci hulajuć*.
[8] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 714: "ШМАЛЬЦЪ, у, с. м. Топленый гусиный жиръ. *Каша съ шмальцомъ*".
[9] Пасля слова *każarku* пастаўлены пытальнік (?), а зверху дапісана *choć za każuch*.
[10] Два словы закрэсленыя, а зверху дапісана *majuć wiesiałości*.
[11] Радок закрэслены, а зверху дапісана *jon ni ahryzaja naat hołych kości*.
[12] Слова папраўленае на *wyszaj*.
[13] Слова папраўленае на *mora*.

Kab sciarohsia czarki, nie piu|by i kwarty
A potom i z garcam ni hulau by u żarty.
Pasłuchajcie|ż ludzi maju dobru radu
Ni ulehajcie w czarku kali robić zdradu[1].

Kosin, dnia 15 Marca, 1889 г.

## Слова аб праклятай гарэлцы і аб жыцці і смерці п’яніцы

### Брашура, выдадзеная ў Пецярбурзе

Друкуецца паводле: А. І., *Слòва абъ праклятай гарэлцы и абъ жыцьци и смѣрци пьяницы*, Пицярбурхъ 1900 (9 старонак, дазвол цэнзуры – 7 студзеня 1900 г.) з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгінала.

## СЛÒВА АБЪ ПРАКЛЯТАЙ Г͡АРЭЛЦЫ
## И АБЪ ЖЫЦЬЦИ И СМѢРЦИ ПЬЯНИЦЫ.

*Добраму Бѣларускаму народу, на пакрапленьня яго*
*душы̀ і рòзуму, разказаў прыя̀цяль яго*
ПАПЯЧИЦЕЛЬ ТРЭЗВАСЬЦИ
**А. І.**

Друкава̀на у Пицярбурху 1900 року.

Складъ г͡лаўны у книжницы Яна Дубòвика,
у Мѣнску-Литоўскамъ.
Дозволено цензурою. С.- Петербургъ, 7 января 1900 года.

I.

### СЛОВА АБЪ ПРАКЛЯТАЙ Г͡АРЭЛЦЫ.

Пакуль разкажу самую сказку, паслухайцѣ добрые людзи щырую праўду абъ томъ, што такоя ѣстъ г͡арэлка.

Ота|жъ, наймудрэйшые учоные, прыг͡ледзяўшыся пильна страшнымъ скуткамъ пицьця г͡öрэлки, дадумалися праўды і учаць цяпѣръ на вѣсь г͡öласъ: *што яна ѣстъ праўдзивымъ нящасьцямъ рòду чалавѣчӑг͡а* и якъ людзи набяруцца рòзуму, то мусяць яію пакинуць и забараниць стрòг͡а закòнамъ. Ужо ѣстъ на̀ватъ кра̀и, г͡дзѣ г͡арэлку заняволяна пиць якъ напитакъ будни и колись усюды будзя тоя сама.

Даўнѣй людзи для развясяленьня ужывали падъ часъ питнаго міоду и ліòг͡каго пива, а г͡дзѣ родзиць винаг͡радъ – вина; г͡арэлка-жэ была у аптэкахъ, уважа̀на за шкадливую здароўю, и толька брали яію па трошку, за пазваленьнямъ дòхтара. Но зъ таг͡о лякарства дуръ чалавѣчы выдумаў патомъ

[1] Слова папраўленае на *zradu*.

штодзѣнны напитакъ, а хцивасць людзкая, жадливая г҃рошы, падсунула тую атруту ціомнаму народу у кòрчмахъ, штобъ мѣць даходъ, хоць-бы зъ дурнóсьци и г҃рахỳ ближняго!...

Паўсюду, затымъ и у краи нашымъ, брыдкія вѣльми были дзѣйки г҃арэлки празъ доўги часъ, а ня тутъ мѣста ихъ разказваць падробна, а толька намякну, што дзякаваць Богу, адъ двохъ лѣтъ ужо пакасаваны у сіолахъ усѣ кòрчмы и завѣдзянъ такъ называямы „манаполь” казіонны[1], съ цэлью, штобъ народъ мѣў мѣньшъ можнасьци пьянстваваць, дурэць, г҃убиць сваѣ пажытки, здароўя и дỳшу!

Мысль правадаўцы была тымъ большъ святая, што завѣдзяны и папячыцяли, для надзору надъ трезвасьцю народа.

Аднакъ народъ прывыклы зъ прадвѣку да пьянства, николи ня пярасьцяраг҃аны щыра абъ з҃губныхъ скуткахъ апòйства, якъ толька уникли кòрчмы, стаў пиць бязабразна, *проста на улицы*, пры манаполяхъ; стаў буяниць и г҃айдамачыць звѣрска, такъ, што часта адъ тагò бываюць краминалы и калѣ̀цтвы, а къ таму разные злые людзи *стали тайкомъ дзяржаць у сябѣ г҃арэлку, падманиваць народъ* и прадаваць яіо такъ якъ даўнѣй у кòрчмахъ, што и г҃рѐшна *и ня законна, бо законъ стрòг҃а таго забараняя*.

Отажъ кажны сумленны и растаропны чалавѣкъ павинянъ чурацца г҃арэлки якъ злог҃а дỳха и вѣдаць: што яна ня здарова людзямъ – кали кружыць имъ г҃олавы и робиць тоя што „*казлы дзяруць*”... Яна *ня крэпиць* кали найсильнѣйшаго зъ ногъ зваливая; *ня г҃рэя* кали зимою пьяные мѣрзнуць на смѣрць; *ня правиць душы̀ и рòзуму* кали чалавѣкъ напіўшыся розумъ трациць и чыниць усяляки блудъ; бо хтожъ ня вѣдая, што зъ нѣй разпуста, зладзѣйства, разбойства, бязбожнасьць! Яна зводзиць чалавѣка зъ дастатку на г҃этымъ свѣця, убожыць яго, а што найг҃оршъ: *г҃убиць душу у вѣ̀чнасьци, на томъ свѣцѣ*, бо водлуг҃ъ слоў Бог҃а нашаго Язуса Хрыста „*пьяницы ня даступяць царства нябѣснаг҃о*”, и гэта ціонгля помниць трэба.

Просты народъ ня г҃лядзѝ, и ня тлумачся тымъ, што письѣнны[2], такъ называямы высшы клàсы пьюць часта и г҃уляюць. *Г҃эта яны злѣ робяць*, вамъ ня для науки, и за злы прыкладъ здадуць атвѣтъ Бог҃у, каторы ихъ асудзиць строг҃а.

Вѣдайця абъ тоя, што ня|ўсяка асьвѣта, ня кажна наука ѣстъ праўдзива, а толька та, *котора угрунтована на зàконя Божымъ* и г҃этай належыць таквѣля прагнуць и прысваиваць, а яна учыць насъ быць: *трэзвыми, працавитыми, миласердными, учыць шанаваць ўсіо чужоя, ня мсьциць ближняму ни якъ и наватъ любиць нѣпрыя̀цяляў своихъ*.

Отъ мудрасьць! и г҃дзѣ народъ яіо сабѣ прысвоіў, тамъ цвицѣ мажебны[3] дастатакъ, спакойнасьць и здароўя, бо толька цнота даѣ счасьця праўдзива и ни што большъ!

---

[1] У 1894 г. па ініцыятыве міністра фінансаў С. Вітэ (1849–1915) у Расійскай імперыі была ўведзена дзяржаўная “вінная манаполія” на алкаголь. Відавочна, дадзеная частка твора была напісаная не раней як у 1896 г.

[2] Так у выданні. Трэба: *письмѣнны*.

[3] *Мажебны* (ад польск. *możebny*) – някепскі, ніштаваты.

Зразумѣйця|жъ г̅эта брацьця сяляня и паслухаўшы цяпѣръ сказки зъ жыцьця вашаго узятай, *пярастаньця улягг̅аць у тую атруту душы и цѣла, каторую мудрыѣ завуць г̅арэлкай.*

**II**

## АБЪ ЖЫЦЬЦИ И СМѢРЦИ ПЬЯНИЦЫ

абразо̀къ зъ Сѣльскаго быту.

---

Людзи у святки моляцца Бажо̀чку,
А іонъ сабѣ зъ раньня зъ чортамъ у шыно̀чку...
    Яго чорны дзѣтки такъ якъ г̅алавѣшки,
    А іонъ пьець г̅арэлку, да ўсіо строиць смѣшки...
Яго зг̅нила хата и дзиравы стрэ̀хи,
А іонъ у карчмѣ сядзиць для уцѣхи...
    Усѣ прыадзѣты у сарочки, сьвиты,
    А на ніомъ рызьнякъ латами падшыты...
Усѣ чужыя жонки вясіолы и рэзвы,
А яг̅о у|смутку, бо мужыкъ ня трэзвы...
    Яна у кло̀паця каля г̅аспадарки,
    А іонъ толька жы̀ду спаражняя чарки...
У людзѣй снасьцина, хамуты, каліосы,
А ў яг̅о ня машъ наватъ и атосы...
    Коникаў и статку поўная дзярэўня,
    На яг̅о|жъ падворку ня видаць и пѣўня...
Людзи спаць лажацца натрудзіўшы косьци,
А іонъ бяжыць къ Шмуйлу, папиваць, у госьци...
    Людзи идуць рана на работу ў|поля,
    А іонъ, злыдзянь, пьяны ляжыць у стадоля...
Людзи паарали, засѣяли ніўки,
А іонъ ня кинуў узѣмлю наватъ и каліўки...
    Людзи зъ Панамъ Бог̅амъ снапки позьбирали,
    А яму черци пиць дапамаг̅али...
У восянь Образъ ходзиць, дараць ксяндза баг̅аты,
А іонъ зъ сораму пашоў да карчмы изъ хаты...
    Сяло „*Дзяды*" спраўляя, лея пива у шклянки,
    А ў яго хлѣба, ани г̅аламянки...[1]
Падышли каля̀ды, у людзѣй каўба̀сы,
А ў яго г̅аршчэчки саўсимъ бязъ закрасы...
    Сусѣдзи малоцяць, прадаюць зярнята,

---

[1] *Галамянка* – голая костка. Гл.: *Прыказкі Лагойшчыны*, укл. А. Варлыга, Нью-Ёрк-Мюнхен 1966 [online], http://www.slounik.org/lahojsk/l12_16 [доступ: 11.02.2017]: "*Кожнаму трэба сваю галамянку агрызьці*".

А яго пустыя: стадола и хата...
Сяляня паплацили маказынъ, падатки,
А ў яго таквѣля даўги, нядастатки...
Зимачка надбѣг͡ла, людзи г͡рэюць избы,
А яго халодна, бязъ дроў и бязъ прызбы...
Ўсюды г͡арацъ лучинки у столи,
А ў|яго цямница, бо нямашка смоли[1]...
Усіюды праду̀ць ліонъ бабы и дзявицы,
А ў яго жанчына сядзиць бязъ прасьницы...
Запуски ўзнялися, усѣ ядуць тлуста,
А ў|яго праснакъ, нясчымна капуста...
Людзи заг͡авѣли, пакинули шмэляцъ,
А іонъ, *за кажарку*, праводзиць „*папѣляцъ*”...
Людзи на Вяликдзѣнь ужываюць сута,
А ў|яго у хаця праўдзива пакута...
На вясну у трэзвыхъ ня пустыя клѣци,
А ў|яго папухли г͡алодныя дзѣци...
Сонца ходзиць выжай и людзямъ уцѣха,
А іонъ апошни гарняцъ высыпаў изъ мѣха...
Да|ўжо|жъ и Буслы прыляцѣли зъ мора,
А яго сямѣйка саўсимъ слаба, хвора...
Сяло вышла у поля Юрью падзивицца,
А іонъ тыцъ да *шы̀нку кабъ на смѣрць запицца*...
Черци|жъ таки ўзяли да сваіог͡а панства!
Отъ яки канѣцъ лайдацтва и пьянства!
Зъ таго усимъ наука: чарка на пачатакъ,
Даляй уже кварта, гарняцъ на астатакъ...
Кабъ сцярог͡ся чарки, ня піў|бы и кварты,
А патомъ и зъ гарцамъ ня г͡уляў|бы ў|жарты...
Паслухайця|жъ людзи маю добру раду:
*Ня|ўляг͡айця у чарку, кали робиць здраду!...*

А. І.

Писана ў Замосьци,
15 Акцябра 1899 року.

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 595: “СМОЛЬ, и, с. ж. 1. Тлѣющее смолистое вещество. *Смоллю пахнецъ*. 2. Черная смола, варъ. *Волосы, як смоль, чорны*”.

# *Гутарка аб тым, якая мае быць “Зямля і воля” сельскаму народу*

Твор надрукаваны ў 1906 г. у віленскай друкарні Эдмунда Навіцкага. У вядомых нам асобніках адсутнічае пазнака “Дозволено цензурою”. Відаць, гэта адбылося з-за памылкі друкарні, якая якая нядаўна пераехала з Пецярбурга і яшчэ канчаткова не злілася з фірмаю Юзафа Завадскага. Бо немагчыма дапусціць, што кніжка друкавалася без дазволу цэнзурнага камітэта. Рукапіс невядомы.

Літаратуразнаўцы “не заўважылі” дадзены тэкст А. Ельскага: нібыта 650 вершаваных радкоў і не існавала. Нават Я. Карскі адно толькі ўключыў[1] гутарку ў спіс выдадзеных А. Ельскім твораў ды звярнуў ўвагу на ейны падтытул: “Удивительно, как прочно засели в представлении автора кривичанские традиции времен Чечета и других романтиков первой половины XIX столетия. Казалось бы, в XX столетии надо быть на бóльшей научной высоте”[2].

Сваім самым вялікім па аб’ёму творам А. Ельскі яшчэ раз пацвярджае адметнасць свайго шляху ў беларускай літаратуры, шляху прадаўжальніка традыцый пісьменства першае паловы XIX стагоддзя і В. Дуніна-Марцінкевіча, шляху, якім напрыканцы XIX – пачатку XX стагоддзя ўжо амаль ніхто не ішоў. Беларуская літаратура абрала цяпер новы кірунак, запачаткаваны Ф. Багушэвічам. Пісаць “пад Бурачка” становіцца модным і ледзь не абавязковым. А. Ельскі ж прапагандуе ідэю салідарызацыі класаў, ідэю справядлівасці і дабра, любові да роднага краю, да свае, а не чужое культуры. Ён наўпрост звяртаецца да народа, які любіць і ў які верыць, а каб гэты зварот быў больш аўтарытэтны, у *Гутарцы* “дае” слова святару, у маналогу якога “паўтараюцца” ўсе ранейшыя асветніцка-адукацыйныя палажэнні “праграмы” мысляра з фальварка Замосць на Ігуменшчыне.

У Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве захоўваецца пяць асобнікаў выдання, адзін з якіх – з дарчым подпісам аўтара ад 29.07/11.08.1912 г. Рамуальду Зямкевічу. Асобнік Нацыянальнае бібліятэкі Беларусі падпісаны аўтарам рэдакцыі газеты “Dziennik Wileński” з просьбаю “o słówko”. Дата адсутнічае, аднак вядома, што пад такім тытулам газета выходзіла толькі ў 1906–1908 гг.

Друкуецца паводле: A. J., *Hutarka ab tom, jakaja maja być „Ziamla i Wola” sielskamu narodu*, Wilnia 1906 (31 старонка) з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгінала.

---

[1] У беларускай навуковай літаратуры *Гутарка* таксама звычайна называецца сярод выдадзеных твораў А. Ельскага.

[2] Е. Карский, *Белорусы: В 3 томах*, том 3, книга 2: *Очерки словесности белорускго племени*, Минск 2007, с. 362.

**Hutarka ab tom, jakaja maja być**

# „Ziamla i Wola”

**sielskamu narodu.**

Praŭdziwy obrazok, żyŭcom zniaty z ciapieraszniaho życcia wioski na Biełaj Rusi, daŭniaj Krywiczyźnia.

padaŭ A. J.

Drukowana u Wilni, u Drukarni Admunda Nawickaho.
1906 roku

„Kaho Boh karaja,
Rozum adbiraja.”

U wialikam, u siale,
Hdzie „Kazionny manapol”[1],
U Chacia starasty, pry stale
Homan, aż drażyć ŭsia stol...
Jon sam starszy, u madàlu,
Zasieŭ ważna na kuciè
Żonka pomiaż, u parkàlu,
Słuchaja szto narod placie,
Naliwaja haru u czarki
I zakuski padaje,
A naród zawodzić swarki,
Wydwaraja i pije...
Ab czom heta recz idzie?!
Uzniałasia szto za sprawa?!
U jakoj tut chto biadzie?!
Alba komuś pryszła sława?!

Michał dziaciuk, kryczyć: „radaść!”
„Nam daduć ziamlu panoŭ;
„Bratki! stania woli naszaj zadaść
„I prybytak budzia znoŭ!..
„Szto daŭniejszyja nadzieły,
„Sarwituty[2] u lasoch!
„Ot! ciapier! majontki cełу
„Adziadziczym pa panoch!
„Pabiarem dwary usie
„I lasy powyrubajam,
„Kupiec hroszy pryniasie,

[1] Маецца на ўвазе г. зв. “Казённая вінная лаўка”, дзе алкаголь прадаваўся “на вынас”. Такія лаўкі з’явіліся ў Расіі ў другой палове 1890-х гг.
[2] Абмежаванае права карыстання панскімі лясамі, лугамі і інш.

„Ot! tahdy my zahulajam!..

„Niachaj pańskaja zahinia,
„Treba wypić na toj czas,
„Dawaj wodki haspadynia!
„Kali|b dolaczka dla nas!..”

Natapyryli ŭsie uszy,
Pazirajuć na siabie
Michał trafiŭ ŭsim da dùszy,
Stała ciszej u izbie...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .[1]

Słysza to ja Ćwiarozy Cit,
Ustaŭ, pytaja Michała:
„Czużym ty pakuł nia syt,
„Nia u|twajej rucce ziamła...
„No, skażу: hdzie ty paczuŭ
„Szto ciapier czaŭpiesz narodu?
„Chto nadzieju Twaju uŭzduŭ
„Ab ziamlu i ab Swabodu?

Jakto chto? Michał adpior,
„Byŭ u Wilni, tam hawòryć
„Adwakataŭ cełу chor!
„Tak nia ma czaho i sporyć!
„Nadta nieki maładzik
„Prakłamacii mnie czytau,
„Hdzie i pisza, szto muzyk
„Użo na miescy Pana staŭ.
„Szto im zhuba, a nam wola,
„Jak zachoczam budziam brać
„Usio! u swirnia, u stadola
„I jak jany panawać...
„Każuć nawat tam i siam
„Mużyki uż prabawali
„Hrabić dworski uwieś kram
„I majontki pazajmali...
„Dyk czaho|ża doŭha żdać
„Treba toja ŭsim rabić,
„Majam siłu, można brać,
„Lepjaj pośla budziam żуć!..
„Stàić toja drukawana

[1] Зусім верагодна, што радкі кропак у гэтым творы могуць сведчыць пра выдаленыя (аўтарам? выкрэсленыя цэнзураю?) радкі ці нават строфы.

„U papiery, szto ja baczyŭ,
„A kali sprachtykawana,
„Widać sam Boh tak praznaczyŭ...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

„Szto ty Boha tut miaszajesz –
„Harknuŭ Cit, piarechryściúsia
„Czy ty Boha na niebia znajesz
„Kali hrabić nauczyŭsia?..
„Hdzie|ż ty czuŭ kaby czużoja
„Tak biaz tołku zabirać?

„Alba|ż wiara uczyć toja?
„Treba|ż budzie umirać,
„I adczot prad Boham zdać!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Tut Michał – „maŭczy“ – azwaŭsia,
„Szto nas uczysz kiep[1] stary;
„Prociŭ Miru ty papiaŭsia –
„Biare jon i ty biary!
„Czasy stali uż druhija,
„Boham nieustraszyć lud,
„Heta wydumki błahija
„Każaczy[2] nia tut!
„Świet ciapier razumniejszy
„Dàŭniaje paszło na bok,
„Toj praŭ chto silniejszy,
„Moża brać i praz zamok...”
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Cit jak kryknia: „ach ty złodziaj!
„Bluźnić czort praz Twaje huby!
„Ot jaki Miru dobrodziaj!
„Placiesz smalònyja duby![3]
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Utym[4] na ulicy zahrukatała,
Stanuŭ u warotach nieki woz.
– Mowa usim jakby zastrała –

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 167: “КЕПЪ, а и кпа, с. м. 1. (по Лит. Gejbus – неповоротливый, неловкій). Дуракъ, глупецъ. *Кепомъ мене назовешъ, коли не будзець такъ. Надъ кепами кепъ. И кепъ и слѣпъ*. Посл. 2. Проигрышъ въ картежной игрѣ – въ дурочки. *Три кепы ему давъ. Кепъ не вужака, не укусиць*. Посл.”.
[2] У асобніку Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве рукою А. Ельскага папраўлена: *Każ**u**czy*.
[3] Вярзеш лухту (ад польск. *pleść duby smalone*).
[4] Раптам (ад польск. *wtem*).

Dziwiacca: Kaho jon siudy prywioz,
Hladziać u wokny, każuć „Baćka“,
Szto byŭ jeździŭ z Panam Boham,
Da chworaho pana Maćka,
I użo tut piarad paroham...

Atwarylisia dźwiery ŭnet[1],
„Jezus Chrystus pachwalony!“
Każa probaszcz na prywiet,
Da abràzâŭ[2] pakłaniony.
Na wieki wiakoŭ, atwieciŭ lud,
A ksiondz zaraz i pytaja:
Szto|ż wy dzietki sabràlisia tut?
Dyj na pjanych paziraja...
Jeździú ja da Haradziszczca,
Pacesara[3] spawiadać,
Hladżu: szto tut za ichryszcza,
Dobra|ż wiedaì[4] ksiandzu znać:
Moża robicca sztoś złoha,
„Moża jakoj rady treba
„Wodłuh praúdy, wodłuh Boha,
„Bo úsim pilna nam da Nieba.
„Ledźwie na porozia stanuŭ
„Baczu: sztości tut nia tak –
„Śmiardzić harełka – dalaj hlanuŭ –
„Wiadziè homan nasz junak,
„Ot hety! Oj Michał! jość tut nieszta,
„Choć ciabie aściarahaŭ;
„Ja dowiedajusia zreszta,
„Ab czom|ty tut razpraŭlaŭ...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

„Ociać miły – każa Cit –
„Michał brać czużoja radzić,
„Swajej niŭkaj jon nia syt,
„Dy jaszcze i slowam[5] wadzić:
„Nam starym maúczać wialić,
„Nauczyŭsia u sałdatach,
„Nieć szto bredzić staŭszy pić

[1] Хутка (ад польск. *wnet*).
[2] Невядома, які гук хацеў перадаць А. Ельскі літараю ***â*** ў слове *abràzâŭ*.
[3] Арандатар. Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 477: “ПОСЕ́СОРЪ, а, с. м. Временный владѣтель имения. *Трецџго посесора маем*”.
[4] У асобніку Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве рукою А. Ельскага папраўлена: *wiedać*.
[5] У асобніку Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве рукою А. Ельскага папраўлена: *słowam*.

„I buntuja usich pa chatach...
„Ot i tut-że jon pryszoŭ,
„Każa: u Wilni drukawana
„Kaby hrabić skarb panoŭ,
„Szto ŭże mnoha tak pabrana...
„Wy|że, ksienże, uczycia nas
„Katachizmu u kaściela:
„Sztob rady każdy czas
„Byli sa swajho takwiela,
„Szto Boh ludziam zabaraniŭ[1]
„Kryŭdzić, kraści, zabiwać,
„Nawat kab nichto swajho nia trwoniŭ[2]
„I czużoha nia śmieŭ brać...
„A Michał jak pawiarnuú
„Z Maskałoŭ, hdzie byŭ boj,
„Tak i wieru niek zwiarnuŭ –
„Nia tut każuczy, *nia swoj*...
„Jeździć tolka da miasteczka,
„Kab paczuć jakija pleci[3];
„Ab toja|ż u nas ciongla spreczka,
„Szto jon horszyć naszy dzieci...
„Dyk nia choczuć pracawać,
„Samawoli nadżydajuć,
„Tolka myśląc hdzie szto sarwać
„Kurać i u harèłku ulahajuć...
„Paspraŭlali czyrwony kaszuli
„Doŭhi z abcasami boty –
„Ab jakich baćki nia czuli –
„Pa kirmaszach robiać psoty,
„Łajucca pa Maciary, meram dzicz,
„Zdajecca szto nia Chryścijanie –
„Niczoha z nich dobraho, aprycz
„Szalmoŭstwa – da kryj Boże Panie!..
„Ich pa szkołkach doŭha uczyli
„Jak praŭdy nia szanawać,
„Dyk u światoj wiery astyli
„I Boha nia choczuć znać...
„A tut jaszcze najszli sałdaty:
„Szto u Maskaloch pabywali,
„Starym choć uciakaj iz chaty
„Kab złydni nia pazabiwali...

[1] У асобніку Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве рукою А. Ельскага папраўлена: *zabarònіŭ.*
[2] Марнатравіць, раскідаць (ад польск. *trwonić*).
[3] Плёткі.

„Ot, taki Michał ciapier
„Pierszy herszt[1], úsich bałamucić,
„Każe: budu wasz achwicer,
„Kab nichto nia śmieŭ strusić;
„Jak skamanduju u dwor,
„Kab usie byli hatowy –
„Nawat starasta nasz skor
„Słuchać tyja usie mowy,
„Jon u swaju basz chatu
„Sabiracca pazwalaja
„Nia hladzia na czasu stratu,
„Dyi harełku papiwaja,
„Razam z cełoj hramadoju...
„Dobra szto Ociac zaszli tut
„Szczaśliwaju paròju,
„Moża zcichnia hety płut...
„Nauczajcia ksienże baćka,
„Kab Boh ludziam rozum daŭ,
„Kab Michał fałszywy radźka
„Zwodzić siało piarastaŭ...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Smutny ksiondz z taho razkazu,
Szto cnatliwy Cit wyjàwiŭ,
Padumaŭszy troszka z razu,
Takim słowam ludziam pràwiŭ:
„Dzietki maje, Chryścijanie!
„Ciapier czasy złyja stali:
„Zawialisia znoiŭ pahanie,
„Ciomny lud pabuntawali;
„Abiacùjuć usio daram,
„Choć Boh pracawać praznàczyŭ,
„Ab czom u zakonia starym –
„Dyk praklaty chto piarainaczyŭ.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

„Raju ua[2] ziamli nia masz,
„Ciarpieć dla zasłuhi treba,
„Jak ciarpieŭ Zbawicial nasz –
„Biaz taho niaubaczyć Nieba!
„Chto z Boham pracuja da potu,
„Da úczycca cełу wiek,
„Chto nia czuràjacca kłapòtu,

[1] Атаман банды злачынцаў (даўняе польск. *herszt* ад ням. *Erster* = першы).
[2] У асобніку Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве рукою А. Ельскага папраўлена: *na*.

## № 3

## Невядомы да Аляксандра Ельскага

Ліст падпісаны невыразна і недатаваны. Думаецца, што паходзіць ён з пачатку 1890-х гадоў. Аўтар ліста нідзе не кажа, што падае творы Ф. Багушэвіча, бо, верагодна, адказвае на просьбу А. Ельскага даслаць іх. *Верш Яснавяльможнай Пані Арэшчысе*, як сцвярджаецца ў нашым літаратуразнаўстве, напісаны ў 1891 г. з нагоды 25-й гадавіны літаратурнай дзейнасці пісьменніцы[1]. Але, магчыма, ён узнік раней. Пра гэта, перадусім, можа сведчыць ліст Э. Ажэшкі да Яна Карловіча ад 2 лістапада 1887 г. Пададзім фрагмент з яго ў арыгінале, бо апублікаваныя беларускія пераклады не дакладныя: “Przed trzema tygodniami był u mnie dobry znajomy Pana z Wilna, p. Bohuszewicz. Bardzo przyjemnie spędziłam z nim kilka godzin. Czytał mi swoje białoruskie poezje i dał mi nawet ich odpis ***z osobnym wierszykiem, także po białorusku, do mnie czy dla mnie***[2]. Nieprawdaż, że są to rzeczy bardzo ładne, mają jakiś odrębny wdzięk i ciekawą bardzo jestem, czy też chłopi nasi zrozumieć je i zasmakować w nich będą mogli. Na przyszłe lato spróbuję czytać je moim miniewickim znajomym. Przywiózł mi też p. Bohuszewicz 25 rubli zebranych dla Jeża. Wszystkiego razem mam 90 rubli, które w tych dniach, według wskazania Pana, pod adresem pani Miłkowskiej wyślę”[3]. Сумнеўна, што Ф. Багушэвіч напісаў два (ці больш) вершы, прысвечаныя Э. Ажэшцы. Аднак нават той факт, што дадзены верш быў напісаны не пазней, чым у 1887 г., не дазваляе датаваць ліст да А. Ельскага 1880-мі гадамі: бо верш *Мая дудка* перапісваўся з ўжо выдадзенага зборніка *Дудка беларуская*.

Цікава тое, што А. Ельскі напрыканцы 1891 – пачатку 1892 г. ужо меў зборнік Ф. Багушэвіча і ахарактарызаваў яго ў артыкуле *Беларуская літаратура і бібліяграфія*, надрукаваным у 1892 г. (варшаўская цэнзура дала дазвол на сёмы том *Wielkiej encyklopedii powszechnej ilustrowanej* 3 красавіка 1892 г.). А гэта значыць, што ліст невядомага карэспандэнта да навукоўца напісаны адразу пасля выхаду ў свет *Дудкі беларускае*. Магчыма, знаёмства з вершамі з дадзенага ліста, усведамленне таго факту, што ўбачыў свет цалкам беларускамоўны зборнік, падштурхнулі А. Ельскага наладзіць ліставанне з Ф. Багушэвічам (да 2/14 снежня 1891 г.)[4]. Перадусім, зборнік патрэбен быў А. Ельскаму дзеля завяршэння артыкула для сёмага тому *Вялікай усеагульнай ілюстраванай энцыклапедыі*.

---

[1] Гл.: *Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*, Мінск 1956, с. 334.

[2] Напрыклад, Я. Янушкевіч падае гэты сказ так: “Ён чытаў мне свае беларускія творы і нават даў мне іх копію з асобным вершам, які напісаны па-беларуску”. Гл.: Ф. Багушэвіч, *Творы*, Мінск 1991, с. 255.

[3] E. Orzeszkowa, *Listy zebrane*, t. III, Wrocław 1956, s. 82. “Тры тыдні таму быў у мяне добры знаёмы Пана з Вільні, п. Багушэвіч. Вельмі прыемна правяла з ім некалькі гадзінаў. Ён чытаў мне свае беларускія вершы і даў мне нават іх копію з асобным вершыкам, таксама па-беларуску, прысвечаным мне ці для мяне. Ці ж няпраўда, гэтыя творы вельмі добрыя, маюць нейкую асаблівую прыгажосць і мяне вельмі цікавіць, ці нашыя сяляне змогуць іх таксама зразумець і палюбіць. Наступным летам паспрабую чытаць іх маім міневіцкім знаёмым. Прывёз мне таксама п. Багушэвіч 25 рублёў, сабраных для Ежа. Усяго разам я маю 90 рублёў, якія гэтымі днямі, паводле рэкамендацыі Пана, вышлю на адрас пані Мілкоўскай”.

[4] Гл.: Ф. Багушэвіч, *Творы*, Мінск 1991, с. 220.

Карэспандэнт А. Ельскага – даволі дасведчаная асоба (магчыма, нехта з атачэння самога Ф. Багушэвіча ці Я. Карловіча), што знаёмы з варшаўскім літаратурным і выдавецкім жыццём, а таксама і сам займаецца літаратураю (трэба думаць, перакладамі).

Варта звярнуць увагу на тое, што А. Ельскі, шмат гадоў карэспандуючы з Я. Карловічам, не ведае (?) пра ягоныя блізкія дачыненні з Ф. Багушэвічам, а таму "адшуквае" паэта з Кушлянаў з дапамогаю Адама Касмоўскага[1].

Друкуецца ў перакладзе з польскае мовы паводле: AGAD, sygn. $140_1$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 161–165.

Шаноўны Пане,

Дасылаю тое, што здабыў[2], а як будзе больш, то прышлю таксама (verte[3]).

Jaśnia Wialmożnoj Pani Areszczysie[4]

Hdzież nam porywatca[5],
Z mudrymi rauniatca:
Cześć addać Autorce[6]
U prostoj Haworce.

Калі Пан гэтага не мае, то магу даслаць копію.

Ёдка фарсіць ужо ў „Wędrowce"[7], нібы які Базько[8] альбо іншы які фокуснік! Зычэнні мае спраўджваюцца, з рэкламамі пашчасціла. Што робіць "выдрося"[9]? Ці не спаткае і яе таксама такі гонар: быць у каралеўскай псярні, як гэта было два стагоддзі таму з "Пакабіцкім"[10]?

З найглыбейшаю пашанаю адданы Вам ......[11]

---

[1] Гл. ліст А. Ельскага да Я. Карловіча ад 2/14 снежня 1891 г. Ф. Багушэвіч, *Творы*, Мінск 1991, с. 220.

[2] У арыгінале *dostałem* – здабыў, атрымаў. Заканчэнне фразы сведчыць, што "здабыў" карэспандэнт А. Ельскага верш Ф. Багушэвіча *Мая дудка*.

[3] *Verte* (лац.) – перагарні. Слова, змешчанае звычайна на доле старонкі, паказвала, што працяг тэксту знаходзіцца на наступнай (адваротнай) старонцы.

[4] Апошняе слова тытула верша падкрэслена А. Ельскім чырвоным алоўкам.

[5] Іншым атрамантам і, здаецца, іншаю рукою папраўлена на *porywacca*. У наступным радку *rauniatca* папраўлена на *rauniacca*.

[6] *Autorce* папраўлена на *Autorcy*, а ў наступным радку – *Haworce* на *Haworcy*.

[7] „Wędrowiec" – варшаўскі ілюстраваны штотыднёвік геаграфічна-падарожнай, а таксама грамадска-літаратурнай тэматыкі. Зусім верагодна, што гаворка тут ідзе пра Вітольда Ёдку-Наркевіча (1864–1924), дзеяча сацыялістычнай партыі і публіцыста, які паходзіў са Слуцка.

[8] Прозвішча напісана невыразна.

[9] Відавочна, ад *wydra* – пагардліва пра кабету.

[10] Прозвішча (?) напісана невыразна.

[11] Подпіс нечытэльны. Магчыма, першыя літары *WD*. Вядома, што Ф. Багушэвіч падпісваў свае артыкулы і лісты крыптанімам *A. D.*, аднак і змест, і почыр ліста сведчыць, што ён не належыць пяру аўтара *Дудкі беларускае.*

*Dudka białaruskaja*[1], Macieja Buraczka. Kraków. Drukawau swaim kosztam Wł. L. Anczyc i S$^{ka}$[2]. 1891.
8°, сс. 72, 20 песняў з прадмовай[3].

**Maja dudka.**

Ech, skruczu ja dudku!
Takoja zahraju,
Kab aż było czutka[4],
Ad kraju da kraju!
Oj! to budzie hranie,
Jak na powitanie,
I jak na wasele
Niadouha[5] tykiele:
Prędko skonczu piesni…
Poki dudka treśnie,
Ci pahłochnuc ludzi,
Ci wysachnuc hrudzi,
Siły nadarwutca
Na radasnaj dudca
I wyciakuc slozy...[6]
Wyjdzie dusza paraj,
Padymitca chmaraj[7],
Tumanam pa reczca,
Rasoj razlietca[8],
Kałasoczki zrosia,
Kab żyta udalosia.
A chleb zjaduć ludzie,
I znou ślaza[9] budzie.
Nu dyk hrajż[10] dudka,
Kab|że była czutka,
Kab aż wuszy drała;
Kab ty tak ihrała,
Kab ziamla skakała!
Zahraj tak wasoła,
Kab usie u koła

[1] Зверху над літарай *a* ў слове *białaruskaja* дапісана літара *e*.
[2] Магчыма: *of S.*
[3] Апрача інфармацыя, якая змешчана на тытульнай старонцы кніжкі Ф. Багушэвіча, аўтар ліста падае іншыя дадзеныя пра яе: фармат – 8° (in octavo, г. зн. аркуш паперы, складзены тры разы, што дае 8 картак, ці 16 старонак), усяго 72 старонкі, 20 твораў і прадмова.
[4] У першавыданні: *Szto ŭsim budzie czutka.*
[5] Замест літары *ŭ* першадруку перапісчык паўсюль ужывае *u*.
[6] Радок *Na suchija łozy*... перапісчык прапусціў.
[7] У першавыданні: *z chmaraj*.
[8] У першавыданні: *razlijetca*.
[9] У першавыданні: *slaza*. Так і далей: перапісчык замяняе літару *s* першавыдання на *ś*.
[10] У першавыданні: *hrajże*.

Uziauszysia u boki
Dy paszli u skoki
Jak wichor u polu –
Aż wyjuczy z bolu,
Kab aż rahatali
A usio skakali...
Kab skakali hory,
Jak fala na mory,
Jak pany na bali,
Kab wot jak skakali!
Kab aż pył kuryusia,
Kab świet zawaliusia,
Dy usio kruciusia
Jak u naszago brata
U pjanoha chata...
    Ha! czamu|ż nia hraisz?
Chibia ty nia znaisz,
Nia|wiedaisz[1] chiba,
Szto jak taja ryba
Dy na lodzie bjetca,
Tak wot ja zdajetca
Sorak hadou bjusia,
Nijak nia zwiarnusia,
Nijak nia natraplu
Wadzicy choć kaplu,
Dy takoj wadzicy,
Dy z takoj krynicy,
Szto jak chto napjetca
Dyk wolnym stajetca.
Hraj wasołaż hraj,
Albo dolu daj!...
.......................................
.......................................
Jenczysz[2] biaz umołku!
Nie nia|budzie tołku!
Kinu|ż dudku tuju,
A zrablu druhuju.
    Ciapier zrablu dudku
Ad żalu, ad smutku.
Ha zrablu[3] druhuju,
Żalejku smutnuju, –
Dy kab tak zahrała,

[1] У першавыданні: *Nia wiedaisz*.
[2] У першавыданні: *Jęczysz*.
[3] У першавыданні: *Ha, zrabluż*.

Kab ziamla stahnała,
Ot kab jak zahrała:
Kab ślazmi prabrała,
Kab aż było żutka,
Ot to maja dudka!..
Wot zrabiu takuju!
Daj|że paprabuju...
    Nu dyk hraj|że, hraj|że,
Usio spaminaj|że...
Szto dzień i szto noczy
Płacz jak maje woczy,
Nad narodu dolaj.
I płacz szto|raz[1] bolej.
Płacz tak da astatka,
Hałasi jak matka,
Chawajuczy dzieci,
Dzień, druhi i treci…
I hraj śloznym tonam
Nad narodu skonom![2]
Kab ty tak ihrła,
Kab niemaraść brała.
Jak slazy niastanie[3], –
Scichnie[4] ihranie, –
Kiń naukoła wokam,
Dyk krywawym sokam,
Nia ślazoj zapłaczysz,
Jak usio abaczysz.
Jak krywi nie|stanie[5],
Tahdy kończu[6] hranie!

Я пісаў выдаўцу Анчыцу[7], ці не хоча ён друкаваць мой пераклад пра Сцяпаніху Мільчуковую[8], цалкам бясплатна аддаю яму гэтую аповесць. Калі ён згодзіцца, то ў такім разе папрашу Пана даслаць мне манускрыпт, які Пану высылаў, бо гэта адзіны экзэмпляр, што проста з-пад пяра выйшаў і начыста я яго зусім не перапісваў і ў сябе другога не маю. Пра гэта я напішу, атрымаўшы адказ, калі ён будзе, ад выдаўца.

---

[1] У першавыданні: *szto raz.*
[2] У першавыданні: *skonam*.
[3] У першавыданні: *nia stanie.*
[4] У першавыданні: *Zacichnie.*
[5] У першавыданні: *nia stanie.*
[6] У першавыданні: *konczu.*
[7] Гаворка пра Вацлава Анчыца (1866–1938), друкара і выдаўца, сына Уладзіслава Людвіка Анчыца (1823–1883), літаратара, заснавальніка славутай друкарні ў Кракаве.
[8] Не зразумела, пра якую аповесць ідзе гаворка ды з якой і на якую мову яна перакладзена.

## № 4

## Эдвард Вайніловіч да Аляксандра Ельскага

Ліст Эдварда Вайніловіча (1847–1928), вядомага польскага і беларускага гаспадарчага і палітычнага дзеяча, з'яўляецца адказам на прапанову пасадзейнічаць распаўсюджванні сярод землеўласнікаў Мінскае губерні беларускамоўных выданняў А. Ельскага. Відаць, лічыў, што як старшыня Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі, зможа дапамагчы беларускамоўнаму аўтару. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што прыязнасць Э. Вайніловіча да беларушчыны – беларускае мовы і беларускага сялянства – не проста даніна "модзе" часоў нацыянальнага адраджэння; яна – даўняя, калі гэтая беларушчына толькі-толькі нараджалася. І калі не столькі зрабіў Э. Вайніловіч, колькі мог бы, дык віноўная ў тым сацыялістычная ідэалогія эпохі.

Фрагменты з ліста Э. Вайніловіча да А. Ельскага выкарыстаў Ю. Туронак у кнізе *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*[1].

Друкуецца ў перакладзе з польскае мовы паводле: AGAD, sygn. $140_1$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 141–145.

12 мая [1896 г.]
Савічы[2]

Шаноўны Пане Дабрадзею,

Нязменна ў руху па-за домам я не мог так хутка, як бы хацеў і як бы належала, падзякаваць Ш[аноўнаму] Пану за дасланую вязанку беларускіх твораў[3] і польскіх іканаграфій Ш[аноўнага] Пана. Яны для мяне з'яўляюцца каштоўным набыткам, бо з аўтографам аўтара. Звычайныя экземпляры я ўжо раней меў у сваёй бібліятэцы, а працу пра слуцкія паясы[4] набыў у мінулым годзе ў Вільні ў антыкварыяце Кінкулькіна; зборніка Чачота я зусім не ведаў[5], але *Наропа*[6] ў скарочанай форме набыў колькі гадоў таму ў Мінску.

---

[1] Гл.: Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*, Мінск 2006, с. 18.

[2] Год узнаўляецца паводле пячаткі на канверце. Савічы – родавы маёнтак Вайніловічаў у Слуцкім павеце (сёння – Капыльскі р-н).

[3] Відавочна, у "вязанцы" былі нядаўна выдадзеныя кніжкі А. Ельскага *Сынок* (1895), *Выбіраймася ў прочкі* (1896), а таксама пераклад першае кнігі *Пана Тадэвуша* (1892).

[4] Маецца на ўвазе кніга А. Ельскага *Wiadomość historyczna o pasiarni Radziwiłłowskiej w Słucku*, Kraków 1894.

[5] Невядома пра якое з выданняў Я. Чачота ідзе гаворка. У 1890 г. А. Ельскі пытаўся ў Я. Карловіча, ці ведае ён артыкул Я. Чачота пра "крывічанскую" мову [відавочна, з томіка *Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłowia i idiotyzmy, w mowie sławiano-krewickiej, s postrzeżeniami nad nią uczynionemi* (Wilno 1846)], і абяцаў даслаць, калі варшаўскі мовазнаўца яе не мае. Гл.: А. Ельскі, *Выбранае*, уклад. Н. Мазоўка, У. Казберука, Мінск 2004, с. 438.

[6] Відаць, маецца на ўвазе публікацыя фрагментаў вершаванае аповесці В. Дуніна-Марцінкевіча *Гапон* у альманаху "Календарь Сѣверо-Западнаго края на 1889 годъ, издаваемый подъ редакціею М. Запольскаго", Москва 1889.

Я перакананы, што гэтыя беларускія брашуркі хутка разыдуцца і наклад будзе вычарпаны, калі нашыя землеўласнікі ў большым складзе збяруцца на пасяджэнне Сельскагаспадарчага Тав[арыства] ў Мінску. Кожнаму гэтая мова мілая, кожны з нас засынаў у калысцы пад народныя песні нашых нянек і пястунак. Кожны на гэтай мове найахвотней з мясцовым людам гамоніць, а ўсе даўнія родавыя дакументы звычайна на гэтай мове напісаныя. Дык гонар Ш[аноўнаму] Пану, што ён першы пасля доўгага перапынку зноў так па-свойску да нас азваўся. Прапаную толькі, што наступныя працы, калі яны мусяць з'явіцца, няхай фармуюцца на ўзор *Сигналъ*[1], а г. зн. датычаць рэчаў сур'ёзных, але яшчэ мала масы люду займаюць, як рэцэнзія Супінскага[2], пакуль люд рассмакуецца, размілуецца ў сваёй роднай мове друкаванай, трэба даваць нешта лягчэйшае і больш цікавае маладому пакаленню, бо іх чытае ў асноўным моладзь.

Паўтараючы яшчэ раз пра самае гарачае пачуццё для выдатнае ініцыятывы Шаноўнага Пана, застаюся з высокай пашанай і нязмернаю зычлівасцю Ш[аноўнага] Пана Дабрадзея адданым слугою.

Эдвард Вайніловіч.

[1] Гаворка пра выдадзенае па-беларуску ў 1891 г. у перакладзе Ядвігіна Ш. апавяданне *Сигналъ* У. Гаршына.

[2] Маецца на ўвазе працы Юзафа Супінскага (1804–1893), польскага навукоўца і эканаміста.

## № 5

## Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец) да Аляксандра Ельскага

Жыццё і працоўная дзейнасць К. Каганца (1868–1918) была звязана пераважна з паўднёва-заходняй Міншчынай, г. зн. ён быў суседам А. Ельскага. Прыналежнасць жа да даўняе шляхты (маці паходзіла з заможнага роду Свентажэцкіх) таксама спрыяла збліжэнню з навукоўцам з фальварка Замосць, хоць маладзейшы больш чым на трыццаць гадоў К. Каганец упершыню, хіба, толькі цяпер прызнаецца старэшаму руплíўцу на ніве беларушчыны ў сваіх літаратурных схільнасцях. Гэта, відаць, пацешыла А. Ельскага: на лісце ён алоўкам пазначае: "выслаць кнігі (*неразб.*) па-беларуску".

Верагодна, кантакты двух дзеячаў тагачаснае беларушчыны мелі месца і пазней: у зборах А. Ельскага захавалася выразка з газеты "Сѣверо-Западный Край" з інфармацыяй пра захады, якія распачаў К. Каганец восенню 1904 г., па выданні штотыднёвіка "Палесе": "Возбуждено ходатайство объ изданіи еженедѣльнаго журнала на бѣлорусскомъ нарѣчіи подъ названіемъ «Полесе» («Полѣсье») подъ редакторствомъ Д. Бохана".

Зрэшты, рэвалюцыйная праца, арышты і турма К. Каганца не маглі зблізіць гэтых людзей.

Друкуецца ў перакладзе з польскае мовы паводле: AGAD, sygn. $140_1$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 153–154.

16/X.1904 г.

Найшаноўнейшы Пане!

Мушу паведаміць, што мне штосьці не шанцуе: кожны раз, пасля атрымання панскага ліста, таго ж самага дня пісаў, але нідзе не было выніку[1]. На Валынь два разы пісаў і аніякага не атрымаў адказу; ад Пані Графіні Красінскай атрымаў вестку, што тая пасада ўжо занятая. А таму адно нагадваю пра сябе і складаю шчырае шанаванне.

Слуга К. Кастравіцкі

P. S. Чытаў пару разоў творы Шаноўнага Пана па-беларуску, якія мне вельмі падабаліся, а з тае прычыны, што і я таксама займаюся беларускаю літаратураю, дык вельмі хацеў бы бліжэй пазнаёміцца з Вашымі працамі. Ш[аноўнаму] Пану можа здарылася чытаць у "Сѣверо-Западном Краѣ" беларускія легенды (за)[2] за подпісам "Каганец"[3]? Дык гэта, уласна, мой псеўданім.

[1] К. Кастравіцкі, страціўшы ў 1904 г. пасаду аканома ў Мінскім таварыстве дабрачыннасці, відаць, прасіў А. Ельскага даць яму рэкамендацыю на г. зв. эканамічную пасаду – аканома фальварка ці маёнтка.

[2] Прыназоўнік (*за*), напісаны грамадзянскім шрыфтам, узяты ў круглыя дужкі.

[3] Слова А. Ельскі падкрэсліў чырвоным алоўкам.

## № 6

## Чэслаў Лукоўскі да Аляксандра Ельскага

Аніяк звестак пра аўтара ліста адшукаць не ўдалося. Пазнакі А. Ельскага ў верхнім куце першае старонкі нечытэльныя.

Друкуецца ў перакладзе з польскае мовы паводле: AGAD, sygn. $140_1$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 138–140.

Шаноўны Пане Дабрадзею,

Маючы намер прыгатаваць манаграфію пра Случчыну, а ў выпадку майго больш доўгага побыту ў Бранчыцах – дык і ўсяе Беларусі, я збіраю на гэтую тэму матэрыялы.

Шмат чуючы пра навуковую і грамадскую дзейнасць Шаноўнага Пана Дабрадзея, асмельваюся прасіць паведаміць мне наступную інфармацыю:

1. Ці існуе хоць якое беларускае пісьменства і ці мог бы я набыць асобныя кніжкі, каб мець магчымасць пазней ахвяраваць іх Этнаграфічнаму музею ў Варшаве.

2. Ці займаўся хто калі-небудзь этнаграфіяй і фальклорам беларускага люду і калі так, то што сталася з гэтымі працамі?

3. Ці Шаноўны Пане Дабрадзей мае якія-небудзь дадзеныя пра гісторыю Бранчыц, у якіх я знаходжуся, бо ў *Słowniku geograficznym* Шаноўны Пан прапусціў Бранчыцы.

Вельмі прашу Ш[аноўнага] Пана Дабрадзея адказаць на мае пытанні, а звяртаюся да Ш[аноўнага] Пана Дабрадзея таму, што, як жыхар Белае Русі, ведае Пан Дабрадзей яе дасканала, як магу меркаваць па *Słowniku geograficznym*.

Перапрашаючы Шаноўнага Пана Дабрадзея за маю смеласць, застаюся з высокаю павагаю

Чэслаў Лукоўскі.

Мой адрас: Слуцкъ, Минской губ. им. Бранчицы,
Cz. Łukowski ў Я[сна]В[яльможнага] п[ана] Булгака

## № 7

## Вацлаў Іваноўскі да Аляксандра Ельскага

У зборах А. Ельскага захаваліся чатыры лісты і паштоўка ад В. Іваноўскага (1880–1943), арганізатара беларускага нацыянальнага руху ў Пецярбургу на пачатку XX стагоддзя. Першы напісаны 24 лютага 1905 г., а высланы заказным з Пецярбурга ў Замосць 9 сакавіка. А. Ельскі атрымаў яго 14 сакавіка і напісаў на канверце: "Białorusin Iwanowski". У левым верхнім куце першае старонкі – звыклая, але нечытэльная "пашпартызацыя" А. Ельскага.

Ледзь не цалкам ліст падае Ю. Туронак у кнізе *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*[1].

Друкуецца паводле: AGAD, sygn. $140_2$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 169–171.

Piecierburch 24/II 1905 r.

Panie Szanawany,

Czuŭ ja nie raz ad usielakich ludziej i ad panawaho bratanca, szto wielmi Wy lubicie naszu mowu i piszecie samy inszy raz u naszaj mowi. To ja chacieŭ paznajomicca z Wami chacia praz pisulki, bo szto ż, Wy żywiecio u Minszczyni, a ja u Piecierburchu. A takich ludzioŭ, szto naszu mowu dyj naszaho mużyka lubiać mała na świeci, to treba kab chacia kampani piłnawali. A Wy, Panie, samy szmat rabili, mo i ciapier taje pracy nie kinuli. Zdajecca, mieli Wy wydać *Marju* Malczeŭskaho, praŭda? Tutaka tak sama jość ludcoŭ kolki[2], to pierełażyli ksionżaczek krychu, tolki z ~~hlral~~ hraszmi kiepska – maszny błahije.

Ale tak sama uszoŭ nie apuskajuczy, pryhatawali:

*Syhnał* – Harszyna[3]
*Michałka* – Prusa[4]
*Krysta* – Kanapnickaje
*Hutarki ab niebie i ziamli*[5]

---

[1] Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*, Мінск 2006, с. 64–65.

[2] В. Іваноўскі, відавочна, мае на ўвазе тыя асобы, якія ў маі 1906 г. заснуюць суполку "Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ".

[3] Магчыма, нехта з групы аднадумцаў В. Іваноўскага пераклаў *Сигналъ* У. Гаршына, але больш верагодна, што маючы маскоўскае выданне 1891 г. планавалася надрукаваць твор яшчэ раз.

[4] Звестак пра тое, хто перакладаў (і ці перакладаў?) апавяданне Б. Пруса *Michałko* (як і апавяданне М. Канапніцкае *Krysta*) не захавалася. Творы не былі надрукаваныя. Ю. Туронак сцвярджае, што гэта містыфікацыя, якая "была разлічана на тое, каб выклікаць у Ельскага ўражанне, быццам у Пецярбургу пачынае развівацца выдавецкая дзейнасць, што ў ёй ужо ўдзельнічае «людцоў колькі», і ў выніку дабіцца ад яго станоўчага адказу". Гл.: Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*, Мінск 2006, с. 65.

[5] Невядома, калі рыхтавалася да друку кніжка *Гутаркі аб небі і зямлі* (на беларускую мову пер. К. Кастравіцкі і С. Шаўлоўскі, Пецярбург 1907, 68 с.). Ю. Туронак лічыць, што пераклад быў зроблены яшчэ да абвяшчэння царскага ўказу 12 снежня 1904 г. Аднак, думаецца, што К. Каганец, толькі закончыўшы працу над *Беларускім лемантаром*, узяўся за падрыхтоўку дадзенае кнігі. У навуковай літаратуры сцвярджаецца, што гэта

*Lamentaryk* (pawedłuh Promyka) budzie hatoŭ da druku za miesiac[1].

I tak mnie zdajecca, szto i Wy nie miensz majecie czaho, ot kab usio zaraz i wydrukawać – ot byłoby dabro.

Adpiszycie, Panoczku, kali czasu znojdziecie krychu.

W. Iwanoŭski

Adres: С. Петербургъ, Технологическій Інститутъ, Лабораторія Питательныхъ Веществъ, Лаборанту Инжен. Техн. Вацлаву Ивановскому.

**№ 8**

Друкуецца паводле: AGAD, sygn. $140_2$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 174–176.

Piecierburch 31/IV 1905

Panie Szanawany,

Dziakuju wielmi Wam za listok, ale ja dumaŭ, szto Wy pa naśki mnie adkażecie, ażno wyjszła nie toje.

Ksionżki, szto Wy pisali, maju ŭsie, ~~blizka~~ i znaju ich dobra. Ale ŭot szto kiepska – Waszaho *Pana Tadeusza* nijak znajści nie maho, napiszycie, hdzie jon na składzi za hranicaj. Ci nie mahli by Wy addać jaho na skład da „Książki" Kraków, Grodzka № 50.

Tam hłaŭny skład *Dudki*, *Smyka*, ~~Pie~~ *Пес'ни*[2] ~~няхай ня~~ niachaj i *Pan Tadeusz* byŭ by u kampanii.

пераклад, але ні дзе не пазначана з якой мовы і з якога выдання. На нашу думку, К. Кастравіцкі выкарыстаў папулярную (некалькі перавыданняў у 1880–1900 гг.) брашуру *Ciekawe zjawiska w świecie, co choć ludzie na nie ciągle patrzą, ale ich zwykle nie rozumieją* Казіміра Промыка [Конрада Прушынскага (1851–1908), сына мінскага фатографа Антона Прушынскага].

[1] Магчыма, В. Іваноўскі (ці нехта з яго знаёмых) ужо ў лютым 1905 г. завяршаў падрыхтоўку *Lamentaryka*. Аднак выданне, якое надрукуе суполка "Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ" ў 1906 г. (*Беларуски лемэнтар, або Першая навука чытання*, Пецярбург 1906, 30 с., а таксама, відаць, і *Biełaruski lementar, abo Pierszaja nawuka czytańnia*, Pieciargurch 1906, 23 s.), К. Каганец начне пісаць толькі ў маі 1906 г., атрымаўшы ліст з просьбаю і прапановамі суполкі: "Хай Пан напішэ ксёнжачку для дзяцей па-беларуску. <…> Толькі хай яна будзе ў 2-х часьцях, каб не надта вялікая. <…> На пачатку прысылаю 10 рублёў за работу. Хай Пан напішэ, колькі будзе стоіць напісаньне. <…> Мо Вы, Пане, маглі б зрабіць рысункі да ксёнжачкі? Добра было б". Цыт. па: А. Пашкевіч, *Карусь Каганец: "Кроў з крыві беларуса..."*, Мінск 2013. Ю. Туронак, аднак, мяркуе, што К. Каганец падрыхтаваў толькі "кірылічны" варыянт выдання, у той час як В. Іваноўскі – выданне лацінкаю. Гл.: Ю. Туронак, *Абставіны публікацыі і аўтарства першага беларускага лемантара* [у:] Ю. Туронак, *Мадэрная гісторыя Беларусі*, Вільня 2008, с. 32–36.

[2] Называюцца выданні Ф. Багушэвіча, а таксама зборнік вершаў *Пес'ни* (творы Ф. Багушэвіча, К. Каганца, Цёткі), падрыхтаваны К. Каганцом, В. Іваноўскмі, С. Багушэўскім і М. Фальскім і надрукаваны ў Кракаве (у асобных выданнях называецца месцам выдання Лондан, бо і папера, і шрыфт гэткі ж, як і ў брашурах *Гутарка аб тым, куда мужыцкія грошы ідуць*, *Хто праўдзівы прыяцель беднага народу*?, *Як зрабіць, каб людзям стала добра на свеце*?).

A tak widzicie, ja sam mała dwa hady chaczu choć adzin ~~sztuku~~ dastać – i nie dapytajusia. Nie zabudźcie zrabić hetaho, napiszycie da „Ksionżki”, ci nie majecie znajomych jakich, szto zachacieli|by ksionżak wydać pa naszamu. Tož jość napisanyje. Każuć, szto Wojniłłowicz – toj moh by wydać[1], mo znajecie jaho?

Szto u Was czuwać, jak mużyki, szto hawarać mież saboj? Cikawy~~je~~ czas ciapier, cikawy i straszny razam.

Budzcie zdarowy
W. Iwanoŭski

**№ 9**

Друкуецца паводле: AGAD, sygn. $140_2$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 179–180.

Piecierburch 15/V 1905

Panie Szanawany i Swajacze

*Pana Tadeusza* i pisulku Waszu dastau. Da pana Kaliny[2] użo napisaŭ, i dumaju szto za jaki miesiać krychu ksiożak tutaka budzie. Ale Wy, Susiedzie, napiszycie kanieszne da p. Kaliny, kab jon z jakuju tasiaczu addaŭ na skład da „Ksionżki” Krakaŭ – Grodzka № 50.

Tady możnio bydzie mieci hettaka tyje ksionżki ciahom.

A może taja „Macież Polska”[3] pradała by usieniek nakład, kolki jana zachocze, i kolki jość egz.? Panie Swajacze, a kab ~~zal~~ zrabić tawarystwa dla drukawania biełaruskich ksiożak[4], taj, jak Ukraincy majuć, to dobra było|b zdajecca mnie, szto możno było|b znajści ludziou, szto płacili by u hod – nu rubloŭ pa dziesiać – tož znajści można ludzioŭ z 20 na paczatak – ot i dźwie ksionżki szto hodu addrukawali|by.

Padumajcie, swajacze, adkażycie chutka.

Mo u letka pabaczymsia, kali budu u Minszczyni, pastarajusia i Was pabaczyć.

W. Iwanoŭski

---

[1] Мы не ведаем, ці А. Ельскі звяртаўся ў гэтай справе да Э. Вайніловіча. Хутчэй за ўсё, – звяртаўся. Напрыклад, у *Wspomnieniach 1847–1928* Э. Вайніловіч так піша пра свае дачыненні з беларускімі выдавецтвамі: “Прымаючы сякі-такі матэрыяльны ўдзел у беларускіх суполках, я ў рэшце рэшт з іх выходзіў, бо праца, якая ў іх напачатку вялася ў кірунку самапазнання і нацыянальнага адраджэння (“Лучынка”, “Саха”, Загляне сонца і ў наша аконца” і т. п.), звычайна пад канец прысвойвала сабе сацыялістычныя лозунгі і накіраванасць, якую, насуперак усім перакананням, падтрымліваць я не мог”. Цыт. па: Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*, Мінск 2006, с. 66. Гл. таксама: Э. Войнилович, *Воспоминания*, Минск 2007, с. 256.

[2] Гаворка пра доктара Антоні Каліну (1846–1906), вядомага польскага славіста і этнографа.

[3] Маецца на ўвазе асветніцкае таварыства “Macierz Polska”, заснаванае ў 1882 г. у Львове дзеля пашырэння адукацыі сярод люду. Выдавала танныя кніжкі вялікімі накладамі.

[4] Гэта першая згадка, зафіксаваная ў пісьмовым дакуменце, пра жаданне стварыць выдавецкую суполку.

## № 10

Друкуецца паводле: AGAD, sygn. 140₂: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 183–184.

Pisaci: Piecierbuch 6ta rota №10, кв[1]. 3 [14/IV 1906][2]

Panie Szanoŭny!

U swoim czasi pisali Wy niekaliści, ci nia moh|by ja dastać *Pana Tadeusza.* Woś ciapier, kali wola Wasza, możecie dastać u mienie sztuk z piatnannać. Kasztawali jany mnie nieszta pa kapiejek 55 za sztuku. To, kali choczecie, napiszycie, a ŭraz Wam i wyszlu.

Niekolki ludzioŭ „tutejszych", szto u Piecierburchu żywuć, załażyli wydaŭnicku supołku, ciepier adbiwajecca ŭżo elementar, budzie dwajakimi znakami, heta znaczyć, pa prostu każuczy, zrazu buduć dwa elementary. Ci nie prystupiliby i Wy da taje supołki? Udziały, z prawam karystannia z zysku, buduć pa 10 rubloŭ kożny.

Nie hulajuczy budzie adbity ustaŭ supołki, to Wam jaho prypru pocztaju.

Jszcze, kali łaska, napiszycie adraz synoŭca Waszaho, zabyŭsia imia, studenta Technnologicznaho Instytutu, wielmi Wam dziakawać budu.

Budźcie zdarowy, kłaniajecca Wam

W. Iwanoŭski

Ps. Synoŭcu Waszamu imia Adwardak, prypomnuŭ. W. I.

## № 11

Друкуецца паводле: AGAD, sygn. 140₂: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 167 –168.

Открытое письмо

Минской губ., почт. ст. Узляны, Его В–ію Александру Ельскому, им. Замосць

Piecierburh 1/VIII 1906

Panie Šanoŭny!

Wybačajcie, što zrazu na Wašu pisulku nie adkazaŭ, ale, bačycie, hramada raboty było, pakul usio s supołkoj naładzili. Ciapier, dziakuj Bohu, lementar wyšoŭ na świet Boży, ludzi dobryie pamahajuć. Za pisulki ad Was naležycca za 45 pa 5 kap – 2,25 kap. počta ničoha – bo bolš, jak za poŭrubiel. Lementar Panu ŭraz wyšlu.

Budźcie zadrowy

W. Iwanoŭski

---

[1] Літары напісаны грамадзянскім шрыфтам.

[2] Дата ўзнаўляецца паводле паштовага штэмпеля.

## № 12

## Стафан СабешчанскіBłąd! Nie zdefiniowano zakładki. да Аляксандра Ельскага

Ліст адпраўлены з г. Радам 23 красавіка (ст. ст. – *М. Х.*) 1905 г.[1]. На канверце пазнака А. Ельскага, што п. Сабешчанскі цікавіцца беларушчынаю. Прозвішча С. Сабешчанскага можна знайсці ў выданні *Lista adwokatów i aplikantów Izby adwokackiej w Lublinie według stanu na dzień 1 maja 1935 roku* з пазначэннем, што ён з'яўляецца адвакатам акруговага суда ў г. Радам[2]. Значыцца С. Сабешчанскі і сярод нашчадкаў Вялікага Сойму: на сайце падаецца год і месца ягонага нараджэння (1882, Радам), а таксама год і месца смерці (1945, Радам).

Друкуецца ў перакладзе з польскае мовы паводле: AGAD, sygn. $140_1$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 155–156.

Шаноўны Пане!

Мне вядома, што Шаноўны Пан з'яўляецца адным з нешматлікіх у нас даследчыкаў беларушчыны. З гэтай прычыны адважваюся звярнуцца да Яго з просьбаю патлумачыць мне, дзе можна набыць кніжку Доўнара-Запольскага *В. Дунинъ-Марцинкевич и его поема* ТАРАСЪ НА ПАРНАСѢ – Витебскъ 1896 г. У Каралеўстве нідзе згаданае кніжачкі у дастаць не мог, два месяцы таму пісаў у кнігарню Макоўскага ў Мінску з просьбаю пра кніжку Запольскага, але дасюль не атрымаў адказу; з гэтай прычыны вырашыў прасіць у Шаноўнага Пана рады, за што Яго вельмі перапрашаю.

Далучаю словы найвышэйшае пашаны і павагі, яшчэ раз перапрашаючы за адыманне часу маёй карэспандэнцыяй.

Стафан Сабешчанскі

4/V–05 г.[3]

---

[1] Паводле паштовага штэмпеля.

[2] *Lista Adwokatów i Aplikantów Adwokackich Izby Adwokackiej w Lublinie według stanu na dzień 1 maja 1935 roku*, Lublin 1935, s. 3, 10.

[3] С. Сабешчанскі карыстаўся новым стылем.

## № 13

## Ядвіга Ціхіньская да Аляксандра Ельскага

Паштоўка не датаваная, але на штэмпелі можна прачытаць: *Кричевъ, 3 іюня 1905.* Адрас А. Ельскага пададзены ў двух варыянтах – па-польску і па-расійску.

Прозвішча "Ціхіньскі" даўно вядомае гісторыкам беларускае літаратуры. Яшчэ ў 1968 г. С. Александровіч апублікаваў ліст Юзафа Ціхіньскага віленскаму кніжнаму таварыству "Наша хата", у якім вядзецца гаворка пра беларускі слоўнік, падрыхтаваны гэтаю асобаю[1]. Пазней У. Казберук у артыкуле *Плённыя кантакты* падаў фрагменты з лістоў Ядвігі Ціхіньскае, даводзячы, што беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя "ўзнікла на глебе грамадскай узбуджанасці ў асяроддзі інтэлігенцыі"[2]. Лісты Я. Ціхіньскае да А. Ельскага выкарыстаў у сваім даследаванні Ю. Туронак[3], слушна ўвязваючы абуджэнне цікавасці да беларушчыны з царскім указам 12 снежня 1904 г. "О предначертаниях к усовершенствованию государственного порядка"[4].

Ціхіньскія жылі ў фальварку Прусін Чэрыкаўскага павета[5]. Паводле *Геаграфічнага слоўніка*, у Чэрыкаўскім павеце былі два аднаіменныя фальваркі, але аніводзін не належаў Ціхінскім: адзін (231 дзесяціна) быў Якутовічаў, а другі (596 дзесяцін) – Шэметаў[6].

Друкуецца ў перакладзе з польскае мовы паводле: AGAD, sygn. $140_1$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 151–152.

Шаноўны Пане!

Сёння стасоўны час скласці беларускі лементар, каб Пан падумаў пра гэта. Тады, як дазволяць адкрываць прыватныя школы (мы ўжо таксама пачынаем будаваць і збіраць на гэта грошы), неабходна будзе даць падручнікі, лемантары і беларускія кніжкі. Мой бацька складае беларуска-польска-

---

[1] С. Александровіч, *Гісторыя і сучаснасць*, Мінск 1968, с. 197.

[2] У. Казбярук, *Плённыя кантакты: Некаторыя пытанні беларуска-польскіх літаратурных сувязей і станаўленне беларускай літаратуры XIX ст.* [у:] *Старонкі літаратурных сувязей*, Мінск 1970, с. 156.

[3] Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*, Мінск 2006, с. 63–64.

[4] Гл. пункты 7 і 8: "7) произвести пересмотр действующих постановлений, ограничивающих право инородцев и уроженцев отдельных местностей Империи, с тем, чтобы из числа сих постановлений впредь сохранены были лишь те, которые вызываются насущными интересами Государства и явною пользою Русского Народа, и 8) устранить из ныне действующих о печати постановлений излишние стеснения и поставить печатное слово в точно определенные законом пределы, предоставив тем отечественной печати, соответственно успехам просвещения и принадлежащему ей вследствие сего значению, возможность достойно выполнять высокое призвание быть правдивою выразительницею разумных стремлений на пользу России".

[5] Сёння ў Бацьвінаўскім сельсавеце Крычаўскага раёна ёсць вёска Прусіна.

[6] *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XV, cz., 2, Warszawa 1902, s. 518.

расійскі слоўнік, і гэта довад, што ён беларускі патрыёт. Я пішу па-польску, адно маю трохі беларускіх казак[1]. Яшчэ маю просьбу да Пана. Прашу даслаць мне каталог альбо спіс беларускіх кніжак і падаць адрас, адкуль можна выпісаць для сялян сёння хоць пару асобнікаў. Бацька мае пару твораў пана, але пісаных пяром, не друкаваных. Далучаю словы пашаны.

Ядвіга Ціхіньская.

Адрас: ст. Кричевъ, Мог. губ., и. Прусинъ, мне.

**№ 14**

Ліст не датаваны, але паводле паштовага штэмпеля на канверце можна меркаваць, што ён быў адпраўлены з Чэрыкава 19 ліпеня 1905 г.[2].

Друкуецца ў перакладзе з польскае мовы паводле: AGAD, sygn. $140_1$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 147–148.

Шаноўны Пане

Я невымоўна ўдзячная Пану за прысланыя кніжачкі, якія прачытала з маімі хлопчыкамі[3], каб яны маглі пазней чытаць на вёсцы сваім старым.

Я беларуска з нараджэння, з паходжання полька і дзеля гэтага адчуваю сябе абавязанай падтрымліваць іх родную мову, бо ў іх мала сумленных апекуноў, асабліва ў нашай губерні. Узімку, дзякуючы маім клопатам, тут паўстане школа, бо лічу, што першаю справаю, якую грамадства мусіць зрабіць, – гэта насаджэнне асветы, якая адчыняе дарогу да дабрабыту і чалавечае годнасці.

Беларусь у мінулым была нашай малодшай сястрой. У будучым калісь, можа, будзе роўная з намі ў інтэлекце і самаадчуванні – сёння, хоць і адарваная ад нас, аднак жа чакае нашае дапамогі.

Далучаю Пану сардэчныя словы пашаны.

Ядвіга Ціхіньская

---

[1] Не зусім зразумела: ці то Я. Ціхіньская сама напісала “трохі беларускіх казак”, ці то гэтыя казкі проста запісаныя ёю.

[2] Чамусьці Ю. Туронак датуе гэты ліст 7 жніўнем 1905 г., а фальварак Прусін называе маёнткам Прусан.

[3] Магчыма, Я. Ціхіньская працавала народнай настаўніцаю ў вёсцы Прусіна (ці нейкай пасуседству), а жыла ў фальварку Прусін.

## № 15

## Яніна Маеўская да Аляксандра Ельскага

Яніна Маеўская, магчыма, уладальніца (дачка ўладальніка?) маёнтка Азярэцк, прагнучы адкрыць для акалічных сялян школу, звяртаецца да А. Ельскага з просьбаю дапамагчы набыць беларускія кніжкі.

Месцазнаходжанне маёнтка Азярэцк Маеўскіх можна вызначыць наступным чынам. *Геаграфічны слоўнік* падае, што Маеўскім належала вёска Азярэцк у воласці Замачак; што тут уражайная глеба, шмат лугоў і пашаў, лес пераважна бярозавы. Невялікая рэчка Свеча адмяжоўвае Азерск ад суседняга засценка Мышкі; загаспадараванае зямлі ў Азярэцку – 270 дзесяцінаў, а няўжыванае – 40. У гэтым жа Сенненскім павеце ва Уляновіцкай воласці маецца вёска, якая таксама называецца Азярэцк (48 дамоў, 226 жыхароў)[1]. У іншым месцы *Геаграфічны слоўнік* да маёнтка Азярэцка Маеўскіх "дадае" фальварак Ліповічы (разам 310 дзесяцінаў)[2]. Аднак у сучаснай краязнаўчай літаратуры сцвярджаецца, што Маеўскім калісь належала вёска Красная Гара, якая цяпер называецца Вялікі Азярэцк[3]. *Геаграфічны слоўнік*, аднак, апісваючы Красную Гару ў воласці Уляновічы, уладальнікам маёнтка назвае маршалка сенненскага павета Антона Ваньковіча, пасля смерці якога ў 1865 г. зямля перайшла ягоным спадчыннікам Багушэўскім[4]. Застаецца меркаваць, што напачатку XX стагоддзя да даўняй уласнасці Маеўскіх дадалася яшчэ і Красная гара.

Друкуецца ў перакладзе з польскае мовы паводле: AGAD, sygn. $140_2$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 165.

Азярэцк, 13 XI 1905 г.

Шаноўны Пане!

Ведамая паслужлівасць Ласкавага Пана асмельвае мяне задаць пытанне: прашу падказаць, дзе магла б я дастаць брашуры для люду, выданыя Шаноўным Панам па-беларуску. Калі Шаноўны Пан зможа выканаць маю просьбу, дык ласкава прашу адказаць на наступны адрас: Магілёўская губерня, пашт. ст. Сянно, м. Азерск.

Далучаю словы глыбокае пашаны, з чым і застаюся

Яніна Маеўская

---

1 *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. VII, Warszawa 1888, s. 787.

2 *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XV, cz., 2, Warszawa 1902, s. 427.

3 Гл.: http://globus.tut.by/bol_ozerec/index.htm; http://cbs-senno.by/all-activity/v-activity/58-vill names.

4 *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. IV, Warszawa 1883, s. 622.

## № 16

## Беларуская выдавецкая суполка
## “Загляне сонцэ и у нашэ ваконцэ” да Аляксандра Ельскага

Як і Э. Вайніловіч, А. Ельскі неахвотна ішоў на супрацоўніцтва з В. Іваноўскім і суполкаю “Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ”. Ю. Туронак, які, хіба, найбольш займаўся пытанне заснавання суполкі, лічыць, што на прапановы В. Іваноўскага “Ельскі даў альбо адмоўны, альбо невыразны адказ”, а таксама не выключае, што А. Ельскі “не згаджаўся з мэтамі маладога беларускага руху. Пра гэта, магчыма, сведчыць заўвага Ельскага на канверце атрыманага ліста «Беларус[1] Іваноўскі»”[2]. Заўважым усё ж, што А. Ельскі, нягледзячы на свае семдзесят гадоў, меў пэўныя, у тым ліку і фінансавыя кантакты з суполкаю. Праўда, іхнія дачыненні не перараслі ў “кніжную” форму супрацоўніцтва: прапанова сакратара выдавецтва (а чаму не В. Іваноўскага?) А. Ельскаму напісаць гісторыю (?) Беларусі засталася не рэалізаваная. Навуковец, які напісаў шэраг энцыклапедычных артыкулаў пра край, проста пераадрасаваў “замову” суполкі Канстанцыі Скірмунт (гл. раздзел *Лісты Канстанцыі Скірмунт да Аляксандра Ельскага*). І не ўзяўся за гэтую працу, хоць гісторык з Пінска горача пераконвала яго, што толькі ён можа выканаць дадзеную замову. Мы не ведае, што перашкодзіла А. Ельскаму стаць адным з аўтараў суполкі “Загляне сонцэ и у нашэ ваконцэ”. Можам толькі меркаваць: гэта былі альбо дадзеныя абяцанні іншым выдаўцам (А. Ельскі ў 1906–1908 гг. падрыхтаваў і выдаў блізу дзесяці брашурак у Вільні, Пецярбурзе і Мінску), альбо сацыялістычныя погляды лідараў беларускага адраджэння.

Друкуецца паводле: AGAD, sygn. $140_1$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 160.

| | |
|---|---|
| Biełaruskaja wydawieckaja supołka<br>**„Zahlanie sonce i ū naše wakonce”.**<br>Pieciarburh.<br>Wasiloŭ ostroŭ, 4-ta linja 45, kw. 16. | Беларуская выдаўницкая суполка<br>**“Загляне сонцэ и у нашэ ваконцэ”.**<br>Пецярбург.<br>Василіоў остроў, 4-я лин. 45, кв. 16. |

Šanoŭny Panie!

My z daŭna wiedajem ab Was, što Wy šmat pracawali i rady pracawać dla biełaruskaha narodu, to ci nie byli|b łaskawy apisać našu ziamlicu – biełaruś, kab wyšła ksionžačka da čytańnia nie lišnie doŭhaja.

S palaceńnia supołki

sekretar [Wład. Stołyhwa][3].

19 29/VIII 06

---

[1] Заўважым: так няраз А. Ельскі акрэсліваў сваіх карэспандэнтаў.

[2] Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*, Мінск 2006, с. 65.

[3] Чытэльны подпіс “patomstwiennaha Dwaranina Władysława Sciepanawicza Stałyhwy”.

## № 17

## Канстанцыя Скірмунт да Аляксандра Ельскага

Публіцыстка і гісторык Канстанцыя Скірмунт (1851–1934), выхаваная ў патрыятычным духу, з дзяцінства цікавілася даўняй гісторыяй Літвы. У сваёй першай апублікаванай працы *Dzieje Litwy, opowiedziane w zarysie* (Kraków 1886) даволі крытычна характарызавала Ягайлу за ягоныя ўступкі Польшчы і ўслаўляла ліцвінскі патрыятызм Вітаўта. Яе пазнейшыя працы былі прысвечаны пачаткам Вялікага Княства Літоўскага (*Z najstarszych czasów plemienia litewskiego*, t. I–III, Kraków 1892)[1]. Актыўна супрацоўнічала з польскімі і літоўскімі выданнямі (звычайна пад псеўданімамі Futurus ці Helena-Pojata). Артыкулы 1905–1907 гг. выдала асобнаю кніжкаю *Kartki polityczne ze spraw krajowych poruszonych w prasie wileńskiej* (Warszawa 1907), а 1906–1913 гг. – *Kartki krajowe w dalszym ciągu kartek politycznych II Reminiscencje z prasy wileńskiej* (Wilno 1913). Сярод краёўцаў вылучалася тым, што толькі палякаў, беларусаў і літоўцаў лічыла "тутэйшымі" народамі, адмаўляючы такога права жыдам і расіянам. Цешылася прызнаннем у асяроддзі літоўскай інтэлігенцыі.

У 1920-я гг. бараніла правы нацыянальных меншасцяў Другое Рэчы Паспалітае. У кніжцы *Idea jagiellońska a polityka kresowa* (Wilno 1925) заклікала польскія ўлады адмовіцца ад палітыкі нацыянальнага ўціску, заклікала ўлады зразумець памкненні народаў, з якімі палякі жылі на гэтай зямлі спрадвеку, і дапамагчы ім у нацыянальным развіцці, каб разам супрацьстаяць навале з камуністычнага ўсходу. З жалем пісала, што Польшча бачыць на ўсходніх землях толькі "kresy", а варта было ўбачыць краіны і народы.

К. Скірмунт, пражыўшы ўсё жыцця на Піншчыне і не ведаючы літоўскае мовы, лічыла сябе літоўкаю. Усе ейныя кнігі былі перакладзены на літоўскую мову і садзейнічалі станаўленню літоўскай самасвядомасці. Аднак прыхільна ставілася і да беларускага руху[2]. Пра гэта сведчаць і тры ейныя лісты да А. Ельскага. На жаль, адказаць на пытанне, чаму не атрымалася супрацоўніцтва К. Скірмунт з суполкаю "Загляне сонцэ и у нашэ ваконцэ" мы не можам. "Apisać našu ziamlicu – biełaruś" ні яна, ні А. Ельскі не змаглі. Перадусім, лісты даносяць адно толькі пра жаданне зрабіць гэта.

Ліст на адмысловай картцы, з аднаго боку якое друкарскім спосабам пададзена імя і прозвішча адрасата: Konstancya Skirmuntt.

Друкуецца ў перакладзе з польскае мовы паводле: AGAD, sygn. $140_2$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 207.

---

[1] Перавыдадзена пад тытулам *Nad Niemnem i nad Bałtykiem* (cz. 1, Kraków 1897; cz. 2, Kraków 1903; cz. 3, Warszawa 1909.

[2] Перадусім, яна актыўна абараняла на пачатку XX стагоддзя паняцце "тутэйшасці" ад іранічных выпадаў эндэкаў. "Тутэйшасць – гэта сувязь з роднай зямлёй, гэта патрыятызм" – сцвярджала яна ў газеце "Kurier Litewski" (1906, nr 214). Гл.: А. Смалянчук, *Да праблемы фармавання "краёвай ідэі" на пачатку XX ст.* [online], https://ispan.waw.pl/default/images/bibliografie_pracownikow/Smalianczuk/Da_prablemy_wytokau_krajowaj_idei_na_poczatku_XX_st._w_druku.pdf [доступ: 09-03-2017].

Найласкавейшы Пане!

Я глыбока ўдзячная за беларускія тэксты Шан[оўнага] Пана. Вельмі радуюся ім! Абяцанне прыслаць мне аграрнае даследаванне[1] вельмі мяне цешыць. Маю намер напісаць *Кароценькую гісторыю Палесся і Беларусі* для народу. Калі будзе вартая, ці меў бы Шан[оўны] Пан ласку яе перакласці?.. Гэта яшчэ толькі праект.

Пінск, 29 VIII 1906. З глыбокаю пашанаю.

**№ 18**

На нашу думку, А. Ельскі, атрымаўшы ліст ад К. Скірмунт ад 29 VIII 1906 г., пераслаў ёй "пісульку" суполкі "Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ" і прапанаваў выканаць просьбу пецярбургскага выдавецтва. Напачатку К. Скірмунт згаджаецца, хоць і выказвае пэўныя сумненні адносна сваіх здольнасцяў і ведаў у галіне беларускае гісторыі. Але тут жа вырашае, што кніжку для народа (Książkę da čytańnia) павінен напісаць А. Ельскі, а яна напіша іншую, падручнік гісторыі для народа і знойдзе іншага (?) выдаўца.

На лісце маюцца пазнакі А. Ельскага. Але расчытаць іх не ўдалося.

Друкуецца ў перакладзе з польскае мовы паводле: AGAD, sygn. $140_2$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 192–194.

11 IX 1906, Пінск

Найшаноўнейшы Пане!

Не было мяне дома, дык не магла адразу адаслаць "пісульку" назад[2], а раблю гэта зараз. А якая ж яна мілая![3]

Найшаноўнейшы Пан саступае мне напісанне кніжачкі для народа пра Беларусь, але ці здолею я?

У любым выпадку зраблю, што змагу і Ш[аноўнаму] Пану прышлю, але змагу заняцца гэтым не раней, чым праз чатыры тыдні; аніяк раней не магу. Я маю тыя артыкулы Ю. Барташэвіча[4], пра якія пан згадвае; маю Іпацьеўскі летапіс, апрача таго – усяго Духінскага ў новым выданні[5]. Ці можна

---

[1] Гаворка хутчэй за ўсё пра адно з наступных выданняў самога А. Ельскага: A. Jelski, *Uwagi w kwestyi włościan, a mianowicie: jak było u nas i gdzieindziej*, Warszawa 1884; A. J., *Rys dziejów gospodarstwa Krajowego w zestawieniu z obyczajami narodu od czasów pierwotnych aż do ostatnich*, t. 1–2, Kraków 1893–1897; A. J., *Zarys obyczajów szlachty w zestawieniu z ekonomiką i dolą ludu w Polsce i Litwie*, t. 1–2, Kraków 1897–1898; A. Jelski, *Nasze dotychczasowe wystawy rolnicze i istotne ich przeznaczenie w przemyśle gospodarskim*, Petersburg 1903.

[2] Вельмі верагодна, што гаворка ідзе пра "пісульку", якую суполка "Загляне сонцэ и у нашэ ваконцэ" 29 жніўня 1906 г. даслала А. Ельскаму.

[3] Сказ А. Ельскі падкрэсліў чырвоным алоўкам.

[4] Гаворка пра гісторыка Юльяна Барташэвіча (1821–1870).

[5] Гаворка пра Францішка Генрыка Духінскага (1816–1893), польскага этнографа, гісторыка і эміграцыйнага дзеяча, аўтара трохтомніка *Zasady dziejów Polski i innych krajów słowiańskich*, які выйшаў у свет у Парыжы ў 1858–1861 гг. У 1901–1904 г. надрукавана новае выданне ягоных працаў у трох тамах: *Pisma Franciszka Duchińskiego* (Rapperswyl).

верыць высновам “Vistulanika”[1]? Часопіс “Przegląd Wszechpolski”[2] такі тэндэнцыйны. Пастараюся цягам тых чатырох тыдняў больш даведацца і атрымаць крытычную ацэнку гэтага даследавання ад аднаго з першых львоўскіх гісторыкаў.

Але, Ласкавы Пане, тое, што магла б напісаць, было б толькі гістарычнае, нібыта навуковы падручнік для народа, а народу патрэбныя абразкі, міла і займальна палучаныя, з добрым веданнем народнай натуры, з дыдактызмам, даступна, прыязна пададзеным яму.

Патрэбная сапраўдная *Książka da čytańnia*, з Беларусі і пра Беларусь, жыццё якое я не ведаю, і даць народу такую Кніжачку я не ў стане.

Няхай Шаноўны Пан піша!

Гэта будзе яшчэ адзін прамень, які – думаю – душа і сэрца Пана павінны кінуць на родную зямлю на захадзе жыцця! Бо хопіць месца на гэтай новай ніве для нас абаіх. Я, што здолею, напішу і да Шаноўнага Пана ў свой час звярнуся з просьбаю перакласці, а выдавец і для мяне знойдзецца.

Тым часам, аніводзін дзень у гэтай пільнай справе не павінны быць змарнаваны. Няхай Шаноўны пан як хутчэй піша. Божа дапамажы! Потым могуць забараніць тое, што сёння дазваляюць. Павінны мы сабе сказаць: *Carpe diem*![3]

Шарапаву[4] я не веру. Яны ў хвіліны страху заўсёды робяцца пакорнымі ды гатовыя і перад Папекам[5] укленчыць, але гэта няшчыра.

Заканчваю тым, што складаю Найшаноўнейшаму Пану самую глыбокую павагу.

Канстанцыя Скірмунт

**№ 19**

У дадзеным лісце К. Скірмунт зноў жа горача заахвочвае А. Ельскага напісаць кніжачку для народа пра Беларусь і сама таксама збіраецца падрыхтаваць “папулярны нарыс гісторыі гэтае зямлі”. Але беларускія кніжачкі А. Ельскага і К. Скірмунт на друкарскі варштат не трапілі.

Друкуецца ў перакладзе з польскае мовы паводле: AGAD, sygn. $140_2$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 198–201.

---

[1] Магчыма, маецца на ўвазе праца вядомага спецыяліста ў галіне індаеўрапейскага мовазнаўства Яна Гануша (1858–1887) *Vistula, Wisła, Weichsel ze stanowiska gramatyki porównawczej* (Warszawa 1885). Я. Гануш у 1882 г. абараніў у Ліпску (Лейпцыгскім універсітэце) доктарскую працу пра націск беларускіх назоўнікаў, напісаную пад кіраўніцтвам праф. Аўгуста Лескіна (1840–1916).

[2] Маецца на ўвазе грамадска-палітычнае выданне эндэкаў, якое выходзіла з 1895–1905 гг. у Львове.

[3] *Carpe diem* (лац.) – хапай (лаві) дзень, карыстайся кожным днём; словы з оды Гарацыя *Да Леўканоі*.

[4] Магчыма, гаворка пра Сяргея Шарапава (1855–1911), літаратара, публіцыста, выдаўца і эканаміста; аднаго з заснавальнікаў маскоўскага “Союза русских людей” (1905), нацыяналістычна-манархісцкай арганізацыі.

[5] Магчыма, царом.

22 IX 1906

Найшаноўнейшы Пане!

Не, і сто раз не! Ніхто іншы з вядомых мне пісьменнікаў не можа напісаць папулярнай беларускай кніжачкі, апрача Шаноўнага Пана, і нельга казаць "Supołce"[1]: пачакай!

Маіх здольнасцяў тут мала, і яны неадпаведныя. Падрыхтаваўшыся, я, можа, здолею напісаць, урэшце, папулярны нарыс гісторыі гэтае зямлі, але нарыс сухі, хутчэй навуковы; нарэшце, ні ў якім выпадку да Новага году, толькі пазней.

Мушу дастаць працу Федароўскага *Lud białoruski*[2], выдадзеную Акадэміяй ведаў[3]. Патрэбна знайсці нейкую працу або працы (расійскія), якія апавядаюць пра кіраванне Ізяслава Полацага[4]; гэта стырно маіх разважанняў, гэта пункт адліку даўняй гісторыі Беларусі пасля этнаграфічнага ўступу – паштудзірую Духінскага, Барташэвіча.

Але, не ведаючы ўжо надрукаванага, я не магу ўзяцца за напісанне.

А таму, Вельмішаноўны Пане, няхай Пан прыкладзе сваю заслужаную руку да першае скібы. Няраз казалі мы з маім кузінам Раманам Скірмунтам[5], што гэта Шаноўнага Пана заданне, і ён гэты мой пункт гледжання цалкам падзяляў. Калі Пан не напіша, дык нехта іншы напіша і, хто ведае, ці ў братэрскім духу?

Стырно маіх разважанняў: нашае братэрства (Польшча, Русь і крыху далей Літва) – перадусім, праславянскае (у Бяла-ляхаў я не веру, гэта яшчэ не даведзенае, а можа, надуманае). Потым Літва, Украіна, Русь і Беларусь ужо хрысціянскія, пасля манголаў, а Польшча іх цывілізуе – Унія і каталіцызм, які вяртаецца цяпер, – гэта струна дзеля больш доўгага і глыбокага дотыку. Станаўленне нашае літоўска-беларускае аўтаноміі пад цяперашнім (цяжкім да вытрымання) урадам як рэмінісцэнцыя даўняга Вялікага Княства можа таксама быць ідэяй дзеля папулярнага пашырэння, у прыцягальнай і зразумелай форме – у свой час. Я разумею, што Шан[оўны] Пан, ведаючы мову і люд, пакліканы да напісання гэтага новага ўступу – і вось Суполка просіць. Калі ласка, не адмаўляцца! І з дапамогаю Божаю ўзяцца за справу.
З глыбокаю павагаю

Канстанцыя Скірмунт.

---

[1] Відавочна, "Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ".

[2] Маюцца на ўвазе першыя тры тамы працы М. Федароўскага *Lud białoruski na Rusi Litewskiej*, t. 1 (1897), t. 2 (1902), t. 3 (1903).

[3] Акадэмія ведаў (польск. Akademia Umiejętności) – польскае навуковае таварыства, заснаванае ў Кракаве ў 1871 г.

[4] Гаворка пра Ізяслава (каля 980 – 1001), князя полацкага (каля 988–1001), сына кіеўскага князя Уладзіміра і Рагнеды; заснавальнік роду Ізяславічаў.

[5] Раман Скірмунт (1868–1939) – беларускі і польскі грамадска-палітычны дзеяч, адзін з ідэолагаў краёўцаў.

## № 20

## Рамуальд Зямкевіч да Аляксандра Ельскага

У AGADzie ў паперах А. Ельскага захоўваецца дванаццаць дакументаў, якія паходзяць ад Р. Зямкевіча (1881–1944), вядомага бібліяфіла-калекцыянера і гісторыка беларускае літаратуры. Апрача двух лістоў, якія падаюцца ніжай, гэта тры брашуры: 1. R. Ziemkiewič, *Jan Barščeŭski – pieršy biełaruski piśmieńnik XIX stalećcia: Uspamin u 60-letniuju hadaŭščynu śmierci*, Wilnia: Drukarnia Marcina Kuchty, 1911, 12 s.[1] з надпісам "Wielmożnemu Panu Aleksandrowi Jelskiemu w dowód głębokiej czci ofiaruje tę skromną pracę Romuald Ziemkiewicz. Warszawa, 30 lipca 1912". 2. Р. Земкевіч, *Ян Баршчэўскі, першы Беларускі пісьменьнік XIX сталецьця: Успамін у 60-летнюю гадаушчыну сьмерці*, Вільня: Друкарня Марціна Кухты, 1911, 12 с. 3. R. Ziemkiewič, *Adam Honory Kirkor: Biohrafično-bibliohrafičny narys u 25-letniuju hadaŭščynu śmierci*, Wilnia: Drukarnia Marcina Kuchty, 1911, 9 s. з надпісам "Czcigodnemu Panu Aleksandrowi Jelskiemu w dowód wysokiego szacunku ofiaruje niniejszą pracę Romuald Ziemkiewicz. Warszawa, 31 lipca 1912"; фотаздымак "Kółka białoruskiego w Warszawie"; а таксама 6 канвертаў: 1. Пусты канверт з пазнакамі А. Ельскага: „Pamiątki od p. Romualda Ziemkiewicza, badacza białoruskiego, nadesłane mi w lipcu 1912 roku: a. Broszury Jego o Barszczewskim, b. Broszury o Kirkorze Adamie, c. odpis pożegnalnego wiersza Weryhy Darewskiego[2], d. Obrazek N[ajświętszej] M[arii] P[anny] Ostrobramskiej z wierszem białoruskim"[3]. 2. Пусты, з друкаванаю пазнакаю "Druki" ў левым верхнім куце і абрэзаным правым верхнім кутом канверт з адрасам адрасата ды адпраўніка і паштовым штэмпелем на адвароце "Узляны. 20.VII. 1912". 3. Пусты, з пазнакаю ў левым верхнім куце "Заказное", маркаю "Варшава центральная, № 612, невыразным паштовым штэмпелем "16.7.12" канверт з адрасам адрасата ды адпраўніка і паштовым штэмпелем на адвароце "Узляны. 19.VII. 1912". 4. Пусты, з пазнакаю А. Ельскага злева "Pan Ziemkiewicz, pisarz białoruski", канверт з адрасам адрасата адпраўніка і паштовым штэмпелем "Борисовъ. 22.III.09", а таксама штэмпелем на адвароце "Почт. тел. отд. 2 Узляны Минск. г. 24.III.1909". 5. Пусты, з наклееным адрасам адрасата і пазначэннем прозвішча адпраўніка (па-польску), нечытэльнаю пазнакаю А. Ельскага і невыразным паштовым штэмпелем "Вильно" канверт. 6. Пусты канверт, амаль ідэнтычны канверту № 2.

Пазнакі А. Ельскага ў верхнім левым куце першае старонкі нечытэльныя.

Друкуецца ў перакладзе з польскае мовы паводле: AGAD, sygn. $140_2$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 55–57.

---

[1] Брашуры друкаваліся накладам 500 асобнікаў.

[2] У паперах А. Ельскага верша няма. Але, відавочна, маецца на ўвазе твор А. Вярыгі-Дарэўскага *Litwinam, zapisauszymsia u moj Albom, na pażegnańnia*, які захаваўся дзякуючы другой копіі Р. Зямкевіча, дасланай ім Б. Тарашкевічу і С. Касцялкоўскаму 11 мая 1913 г. у Вільню.

[3] У лісце Р. Зямкевіч сцвярджае, што беларускамоўны верш на абразку належыць пяру У. Сыракомлі. Сёння ні абразок, ні верш невядомы даследчыкам.

Казіміраў[1]
21 сакавіка /3 красавіка 1909 г.

Шаноўны Пане!

Я ўжо даўно хацеў пазнаёміцца з Шаноўным Панам лістоўна ці асабіста, але заўсёды нешта станавілася мне на перашкодзе.

Цяпер, карыстаючыся з акалічнасці, што доўгі час буду жыць у Мінскай губерні, сардэчна прагну асабіста пазнаёміцца з Шаноўным Панам.

Прашу выбачыць смеласць і нетактоўнасць, з якімі адважыўся звярнуцца да Шаноўнага Пана, але не магу адмовіцца ад спакусы асабіста пазнаёміцца з аўтарам *Zarysu obyczajów szlachty*[2] і беларускага пісьменніка, і гэта асабліва сёння, калі надарыўся такі добры выпадак.

Я – студэнт Кіеўскае палітэхнікі; цяпер працую настаўнікам[3] у панства Міхалоўскіх-Свяцніцкіх у Казіміраве. Апрача настаўніцкае працы, займаюся тут у вольныя хвіліны беларускаю этнаграфіяй, да якое даў мне імпульс Пан Міхал Федароўскі[4] ў Варшаве. Бо два гады (1905 і 1906) быў я ў яго, перапісваючы яму беларускія песні для наступных тамоў *Ludu białoruskiego*. Дзякуючы п. Федароўскаму, я так навучыўся па-беларуску, што сёння вырашыў працаваць у гэтым кірунку далей. Сабраў тут матэрыялу на добры том, які пасля апрацоўкі падам у Акадэміі Ведаў[5]. Апрача гэтага займаюся гісторыяй беларускае літаратуры, якую, як і беларускі слоўнік, абяцала мне выдаць суполка „Zahlanie sonce” ў Пецярбурзе.

Асобных беларускіх пісьменнікаў і правадыроў беларускага руху я ведаю асабіста. Мне яны не падабаюцца адно з тае прычыны, што замест таго, каб працаваць над асветаю люду, вядуць сацыялістычную прапаганду[6], абуджаючы класавую барацьбу. Спробы пераканаць і дыскусіі з ім нічога не далі, я спрабаваў гэта ў Вільні, але дарэмна. Перажываю з-за гэтага, бо лічу, што толькі шкода будзе, як дзеецца ў аналагічным руху ва ўкраінцаў.

У беларускай літаратуры мяне цікавіць надзвычайна В. Дунін-Марцінкевіч. Ягоныя творы – першыя выданні – я маю ўсе, апрача *Пана Тадэвуша*, якога ніколі не бачыў. *Sielankę* маю. Дык вось у беларускай бібліяграфіі Шаноўнага Пана я вычытаў, што Пан мае раней не друкаваныя творы, якія я вельмі хацеў бы прачытаць. З гэтай прычыны, заахвочаны панам Федароўскім, звяртаюся да Шаноўнага Пана з просьбаю, каб меў ласку напісаць мне ці і калі мог бы да яго прыехаць. Я маю вольны час на

[1] "Казімірава, маёнтак, Барысаўскі пав., Вінцэнта Анджыеўскага (400 дзес.) і Збігнева Свяцніцкага (300 дзес.)". Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XV, cz., 2, Warszawa 1902, s. 67.

[2] Маецца на ўвазе двухтомнік А. Ельскага *Zarys obyczajów szlachty w zestawieniu z ekonomiką i dolą ludu w Polsce i Litwie*, t. 1–2, Kraków 1897–1898, выдадзены пад крыптанімам *A. J.*

[3] Слова падкрэслена А. Ельскім чырвоным алоўкам.

[4] Імя і прозвішча падкрэслены А. Ельскім чырвоным алоўкам.

[5] Маецца на ўвазе кракаўская Akademia Umiejętności.

[6] Словы "працаваць над асветаю люду, вядуць сацыялістычную прапаганду" падкрэслены А. Ельскім чырвоным алоўкам.

святы ад 22 сакавіка да 7 красавіка[1] старога стылю. З тае прычыны, што на святы буду ў Панства Свянціцкіх і іх сваякоў Цюндзявіцкіх у Слабадзе Кішчынай[2], то ласкава прасіў бы Шаноўнага Пана напісаць мне, ці мог бы да Яго прыехаць у часе паміж 31 сакавіка і 7 красавіка[3] ст. ст., г. зн. адразу пасля святаў.

Шчыра перапрашаю за маю настырнасць, але любоў да ведаў схіляе мяне да гэтага, а маю надзею, што і Шаноўны Пан не палічыць гэта за кепскае: як малады, што робіць першыя крокі ў літаратуры, хачу чагосьці навучыцца ад Шаноўнага Пана.

Вазьму з сабою пераклад навэл украінскага пісьменніка Васыля Стэфаныка[4], які я зрабіў на беларускую мову з мэтаю ўдасканалення мовы.

Адзін з маіх знаёмых у Варшаве мае беларускую кніжачку, пра якую згадвае Чачот у сваіх *Pieśniach* (Вільня 1846, старонка XXIII) і Шаноўны Пан у свёй бібліяграфіі. З тае прычыны, што гэтая інфармацыя немалаважная, бо кніжачка гэтая невядомая, занатую яе поўны тытул:

*Krótkie zebranie nauki chrześcijańskiej dla wieśniaków mówiących językiem polsko-ruskim wyznania Rymsko-Katolickiego*, Wilno 1835, stron 24, 12°.

Чакаючы хуткага адказу, складаю словы найвышэйшае пашаны і шчырае павагі.

Рамуальд Зямкевіч

Адрас: Зембинъ Минской губ., имѣніе Казимировъ, Ромуальду Земкевичу, у Г-на Михаила Свенцицкаго.

**№ 21**

Змест другога (?) ліста Р. Зямкевіча да А. Ельскага сведчыць, што гэта чарговая спроба варшавяка з вуліцы Хмельнай 68 наладзіць дачыненні з захавальнікам самага значнага збору матэрыялаў па гісторыі Беларусі і яе літаратуры. Відаць, сабраўшы ў 1909 г. інфармацыю пра Р. Зямкевіча, А. Ельскі адмовіўся з ім супрацоўнічаць. З гэтай прычыны ў другім лісце выразна прачытваецца жаданне “спадабацца” і сацыяльна-палітычнымі ды этычнымі поглядамі, і дасыланнем выдадзеных “манаграфій” (у тым ліку, і ўласным коштам) ды перапісаных “архіцікавых” беларускамоўных твораў. Мы не ведае,

---

[1] “22 сакавіка да 7 красавіка” падкрэслена Р. Зямкевічам.

[2] На пачатку 1880-х гг. А. Ельскі пісаў пра Кішчыну Слабаду: “Вёска з валасным праўленнем, размешчаная ў цэнтры Барысаўскага пав. ля рэчкі Нача, невялікага левага прытоку Беразіны, у 1-й Халопеніцкай паліц. акр. Колісь уладанне заможнага роду Кішкаў; 54 валочныя гаспадаркі, глеба пяшчаная, шмат лугоў пашаў. Кішчынская воласць складаецца з 8 сельскіх таварыстваў, 35 вёсак і 1314 сялян мужчынскага полу”. Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. IV, Warszawa 1883, s. 112.

[3] Словы “31 сакавіка і 7 красавіка” падкрэсліў атрамантам Р. Зямкевіч і чырвоным алоўкам А. Ельскі.

[4] У газеце “Наша ніва” 16 красавіка (новага стылю) 1909 г. апублікаваны пераклад, зроблены Р. Зямкевічам, апавядання В. Стафаніка (1871–1936) *Смерць*. Гэта першае вядомае нам выступленне бібліяфіла і гісторыка літаратуры ў друку. Цягам 1909–1910 гг. у газеце будуць надрукаваныя яшчэ адзінаццаць апавяданняў украінскага пісьменніка.

ці дасягнуў поспеху Р. Зямкевіч, ці атрымаў ён доступ да "замасцянскіх" збораў? Хутчэй за ўсё – так. Ягоныя публікацыі пазнейшага часу маглі быць заснаваныя на "выяўленых" у архіве А. Ельскага матэрыялах.

Пазнакі А. Ельскага ў верхнім левым куце першае старонкі нечытэльныя.

Друкуецца ў перакладзе з польскае мовы паводле: AGAD, sygn. $140_2$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 47–54.

Шаноўны Пане!

Маю гонар звярнуцца да шаноўнага Пана з вялікаю просьбаю, у якой, мяркую, Шаноўны Пан не адмовіць мне.

Ужо некалькі гадоў я з запалам працую над даследаваннем беларускае літаратуры. Гісторыю гэтае літаратуры пішу па-польску, адно кароткія манаграфіі пра беларускіх пісьменнікаў маю намер выдаць па-беларуску.

Дык вось у гэтым годзе маю вялікі клопат з Аляксандрам Рыпінскім. Выпадае акурат стогоддзе з дня ягонага нараджэння (ён нарадзіўся ў 1812 г.[1]), а калі памёр, – не магу нідзе адшукаць[2]. Пан Міхал Федароўскі, мой настаўнік у беларушчыне, параіў мне з гэтым пытаннем звярнуцца да Шаноўнага Пана, сцвярджаючы, што "ўладальнік найвялікшага збору выняткаў з газет, багатае бібліятэкі, найлепшы знаўца Літвы і Літоўскай Русі напэўна пра гэта ведае".

Дык ласкава прашу Шаноўнага Пана, каб меў ласку даць мне інфармацыю ў гэтым пытанні, вельмі для мяне важным.

Моцна шкадую, што не меў да гэтага часу выпадку асабіста пазнаёміцца з Шаноўным Панам, бо знаёмства са старэйшым працаўніком і палякам на беларускай ніве для мяне, маладога пачаткоўца, было б з усіх бакоў каштоўным і павучальным. Тым больш, як зрабіў выснову з лістоў Шаноўнага Пана, пісаных у розны час у рэдакцыю "Нашай нівы", што шмат у дзейнасці гэтае рэдакцыі Шаноўнаму Пану не падабаецца.

А з тае прычыны, што і маё меркаванне зусім не адрозніваецца ад меркавання Шаноўнага Пана, дык болей адчуў глыбокую да Яго ўдзячнасць і пашану, бо ў маіх дыспутах у рэдакцыі "Нівы" мог на Яго меркаванне абапірацца.

Працаваў я ў рэдакцыі "Нівы" 6 месяцаў і, канчаткова парозніўшыся, пакінуў яе[3]. Бо не магу ісці разам з людзьмі, якія, як напрыклад, п. Ян Луцкевіч дзейнічаюць неэтытчна (махлярствы: прыўлашчванне сабе злоталітага слуцкага паса ад пана Керсноўскага з Наваградскага павета; пас гэты, здаецца, перайшоў у калекцыю Шаноўнага Пана[4]; а таксама гучная гісторыя ў Полацку, у касцёле, з заменаю даўняга фламандскага абразу ягонай копіяй).

[1] Год падкрэслены А. Ельскім чырвоным алоўкам.

[2] Паводле найноўшых дадзеных А. Рыпінскі нарадзіўся ў 1809 г., а памёр у 1886 г.

[3] Словы "канчаткова парозніўшыся, пакінуў яе" А. Ельскі падкрэсліў сінім алоўкам.

[4] У гэтым месцы А. Ельскі паставіў чырвоным алоўкам пытальнік, а словы "перайшоў у калекцыю Шаноўнага Пана" падкрэсліў сінім алоўкам.

Пра гэта добра ведае і п. Міхал Федароўскі, які мне і параіў разарваць дачыненні з п. Луцкевічам.

Увогуле дачыненні і некаторыя людзі, хоць не ўсе, з "Нашае Нівы" неасабліва прывабныя пры больш глыбокім іх пазнанні.

Але вяртаюся да маіх зацікаўленняў. З твораў Аляксандра Рыпінскага я маю: *Białoruś* (Парыж 1840) і ўласнаручны аўтограф *Niaczyścika*. Гэты аўтограф паходзіць з бібліятэкі св. п. Адама Плуга. А пра Рыпінскага я ведаю, што ў 80-я гады ён вярнуўся ў край, быў у Варшаве ў Плуга, аднак наступныя этапы жыцця мне невядомыя.

Такую самую бяду я маю з беларускім пісьменнікам Арцёмам Вярыгам-Дарэўскім[1]. Апрача верша, копію якога пасылаю Шаноўнаму Пану, нічога пра яго не ведаю і знайсці не магу. Падобнае і з Рамуальдам Падбярэскім[2] (якому прыператрусе канфіскавалі шмат беларускіх рукапісаў). Збіраю я таксама і партрэты беларускіх пісьменнікаў. Фатаграфій Рыпінскага маю дзве (адна зроблена з дагератыпу), а таксама адну літаграфію.

З дадзеным лістом асмельваюся пераслаць Шаноўнаму Пану копію выяўленых мною беларускіх вершаў, якія няхай прыме Шаноўны Пан з такім сэрцам, з якім я іх ахвярую.

Адзін верш з 1794 г., а другі – з 1858 Вярыгі Дарэўскага. Абодва архіцікавыя.

Апрача гэтага дасылаю абразок Маці Божае Вострабрамскае з вершаванаю малітваю, напісанаю Сыракомлем. Абразок гэты быў выдадзены ў гэтым годзе сумесным коштам – маім і пана Власта (Вацлава Ластоўскага[3]), аўтара *Гісторыі Беларусі*.

Маючы дастаткова вялікую бібліятэку беларускіх твораў, маю шмат і рукапісаў, якія – калі б Шаноўны Пан зычыў – мог бы скапіраваць і ахвяраваць у Ягоны збор.

У замену, натуральна, ласкава прашу пазычыць дзеля капіравання беларускія рукапісы за пасярэдніцтвам п. Міхала Федароўскага, у якога цяпер я працую і пад Ягоным наглядам мог бы іх сабе перапісаць.

Дык калі б Шаноўны Пан быў ласкавы гэта ўчыніць у вольную для Яго хвіліну, прашу пра гэта.

Тымчасам складаю словы глыбокае пашаны, высокае павагі і глыбокае ўдзячнасці.

Слуга адданы
Рамуальд Зямкевіч.

Варшава, 29/14 ліпеня 1912.

P. S. Пры выпадку далучаю і паштоўку са здымкам сяброў "Беларускага гуртка" ў Варшаве. Вось іхнія прозвішчы: стаяць злева направа:

[1] Імя і прозвішча А. Ельскі падкрэсліў чырвоным алоўкам.
[2] Прозвішча А. Ельскі падкрэсліў чырвоным алоўкам
[3] Імя і прозвішча А. Ельскі падкрэсліў чырвоным алоўкам.

Віктар Галаўня, Вітольд Віславух[1], Рамуальд Зямкевіч[2], Леан Дубейкоўскі[3], Францішак Віславух[4], Альбін Яхандовіч, Людвік Славінскі і паэт Гальяш Леўчык[5]. Сядзяць: Ванда Кандрацкая, пані Марыя Сталыгва, Марыя Залеская, Уладзіслаў Сталыгва, Юзаф Гапановіч. У доле сядзяць дзеці панства Сталыгваў: Паўлінак, Маня і Геня.

Мой адрас: Warszawa, ulica Chmelna 68, Romuald Ziemkiewicz.



Фотаздымак, дасланы Рамуальдам Зямкевічам Аляксандру Ельскаму

[1] Вітольд Віславух (1892–1984), старэйшы сын Антона (1864–1940), гісторыка і класічнага філолага, пасла на сойм II Рэчы Паспалітай, і Севярыны (1869–1918), паэткі і мастачкі, аўтаркі падручнікаў, прыйшоў на свет у спадчынным маёнтку Пярковічы (582 дзес.) Кобрынскага павета. Удзельнічаў у працы варшаўскіх беларускіх арганізацый, працаваў як выкладчык замежных моў. Пасля 1917 г. – у СССР. Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XV, cz., 2, Warszawa 1902, s. 440.

[2] Імя і прозвішча А. Ельскі падкрэсліў чырвоным алоўкам.

[3] Гаворка пра Лявона Вітана-Дубейкаўскага (1869–1940), паэта і архітэктара; аўтара вершаў *Цягне воўк – пацягнуць воўка* (1892), *Бура* (1893).

[4] Францішак Віславух (1896–1978), брат Вітольда. Нарадзіўся ў Пярковічах, вучыўся ў Варшаўскай школе прыгожых мастацтваў, браў удзел у польска-савецкай вайне 1920 г., а таксама Другой сусветнай вайне. Пасля дэмабілізацыі застаўся ў Англіі. Аўтар выдадзеных у Лондане кніг: *Opowiadania poleskie* (1968), *Na ścieżkach Polesia* (1975), *Echa Polesia* (1979). Гл.: D. Zagacki, *Franciszek Wysłouch – piewca Polesia*, “Magazyn Polski” 2013, nr 11 (95), s. 22–25.

[5] Гальяш Леўчык [сапр. Ілля Ляўковіч (1880–1944)] – паэт, публіцыст і перакладчык.

# Biełarusskaja Chrestomatija

sabraŭ i ułazyŭ

Bronisłaŭ Epimach-Szypiłło.

Piciarborak.

1889 h.

## 1. **Pieśnia.**

O, moj Boże! wieru Tabie,
I ŭsio wieru ja dla Ciabie.
Ŭsiu nadzieju ŭ Tabie maju,
Za ŭsio Ciabie wychwalaju.
Ty satwaryŭ, Ty atkupiŭ,
Ty mianie, Boże, aświaciŭ
Niechaj Tabie, hdzie jość ludzie,
Cześć i chwała at ŭsich budzie.
Tabie, Boże! kłaniajusia,
Wa ŭsiom na wolu zdajusia;
Być tolka żełaju ŭ niebie,
Pa ŭsie wieki chwalić Ciebie.
Żal mnie, Boże, zhraszyŭ Tabie:
Czraz hrech dastaŭ piekła sabie;
Da nie tak żal zhuby majej,
Jak żal, Boże, kryŭdy Twajej!
Ach|że, Boże, ŭsio kajusia,
Praści|ż hrachi, papraŭlusia.
Da ŭżo sto raz umierć walu,
Na hrech boli nie zezwolu.
Dla Twajho ja ŭpadabannia
Chaczu chawać prykazannia;
Żyć i ŭmierać walu Tabie,
Szto ty jość dobryj sam ŭ Sabie.
O, Jezusie! Ty nasz Panie,
Jadyne serca kachanie,
Ruczki ĭ[1] nożki Twe całujem,
Za hrachy naszy żałujem.
Całujuczy Twaje rany,
O, Jezusie nasz kachany!
Ruki ĭ woczy k niebu ŭznosim,
Adpuszczennia hrachoŭ prosim.
Slozy naszy wylewajem,
Szczyrym sercem pryrekajem,
Pakul budzim z ludźmi życi
Nia budzim Bohu hraszyci.
O Marya, Matka Boża!
Praświataja rajska roża,
Malisia Bohu za nami,
Niahodnymi hresznikami.

Ŭsie światyje ŭzhlańcie z nieba,
Waszej łaski nam patreba;
Malicieś Bohu za nami,
Niahodnymi hrasznikami.
    Sława Bohu Istynnomu,
    Sława ŭ Trojcy Jedynemu,
    Sława Otcu i Synowi,
    Sława światomu Duchowi!
                                Amiń.

Po odspiewaniu tej pieśni zmówić poklękawszy: *Подъ твою милость* za dusze czyscowe i na intencyę wydawców onej. Imprimatur Jacobus Martusewicz Episcopus P. Unit. Luceoriensis, Administrator Polocensis Archidioeceseos (m. p.) [Cerkwi Wiedreńskiej].
Spisano w czerwcu miesiącu 1889 r. w Sielihorach u p. W. Mienickiego z kartki drukowanej[II]. Pieśń ta wydrukowana jest u „Шейна"[III].

## 2. Hutarka staroha dzieda.

Ej, skażycie, dobry ludzie!
Szto heta na świecie budzie?
Czy Boh nia zmiłujetca nad nami?
I daść pahinuć pad Maskalami.
Oj, nie, bratcy, nia tużycie;
Na tu paru ŭspamianicie,
Jak pred daŭnymi hadami
Biŭsia Palak z Maskalami.
Za szto|ż jany wajawali?
Stolka krowi razliwali?
Oj, za toje, szto narodu
Palak chacieŭ dać swabodu!
Jak Maskal taho daczuŭsia,
To na Polszczu nawiarnuŭsia,
I Niemiec staŭ pamahaci,
Sztob Palaka zwajawaći.
I bilisia, wajawali,
Pakul Palaka prahnali,
Oj! da panios swajo hora
Biednyj Palak aż za mora,
Da słaŭnaha da narodu[I],
Szto cełyj świet jaho znajeć,
I Prancuzom nazywajeć.
Prancuz pryniaŭ ich za braci,
Ale nia moh ratawaci

Bo sam ciażka z Niemcom biŭsia
Ad niawoli baraniŭsia.
Maskal u Polszczy razsieŭsia,
Oj da zaraz ŭ kości ujeŭsia
Staŭ padatki wybirać,
U rekruty zabirać,
Wialeŭ sypać magazyny,
Niby dla hetaj pryczyny,
Kab, jak zdarycca patreba,
Mużyk moh tam dastać chleba.
A jak staŭ sam wajawać,
Wialeŭ magazyn zabrać.
U aboz wiaźci ŭsio zboże,
A narod choć hiń niaboże!
A jak woźmieć usio z chaty,
Jaszcze sam idzi ŭ sałdaty,
Kidaj żonku, dzietki ŭ domu,
Jedź ŭ kałodcy da pryjomu.
A jak wojska ŭżo nia treba
To sałdat sam szukaj chleba;
Szleć ŭsich damoŭ – nie pytajeć,
Czy katoryj dom swoj majeć.
Tolki wialić nie szatacca,
Na prykaz tojczas jaŭlacca;
Nasi boty, da halisia
Choć ziamlu hryzi – żywisia!
Daŭniej ludzi dobra żyli
I druhich dobra uczyli;
Maskal sam dobra nie znajeć,
To i licha nauczajeć.
Staŭ kaścioły adbirać,
Zaczaŭ ksiandzoŭ razhaniać;
Druhim wieleŭ być Papami,
Chadzić ŭ ryzach z baradami,
Bić pakłony i uczycca,
Jak pa maskoŭsku malicca,
Choć paciery, szto jon majeć,
To ich nichto nie zhadajeć.
Niechaj że chto słowo skażeć
Maskal jaho zaraz żwiażeć
I zdaroŭje adbirajeć
I na Sybir wysyłajeć[II];
A hdzie żandar zwankom zwiahnieć
Ludziej dobrych ŭ turmu ciahnieć,

Ci ubohi, ci bahaty,
Wałaczeć ad siamji z chaty!
Czynoŭniki ŭsio zbytkujuć,
Abdzierajuć i katujuć,
Hłumiać, kryŭdziać, razbiwajuć
I płakać nie pazwalajuć. –
Za Palakom to bywała
I padatkoŭ płacisz mała,
A chto mieŭ pana lichoha,
Paszoŭ sabie da druhoha. –
Jak Maskali k nam nastali,
Usich ŭ skazki papisali
Szlachcicoŭ z mużykami
Hłumiać, jak zachoczuć sami.
Z duszy rekrut i padatki,
Choć ty hiń addaj astatki;
I, kab usich zahubić,
Daj akcyzu stanawić.
Ale|ż, bratcy, nia tużycia!
Lepiej ŭ Boha paprasicie
Miłasiernaha, kab skora
Pieremianiŭ nasze hora!
Palak ŭsio heta znajeć
Ciapier siły nabirajeć
I Prancuzoŭ padmaŭlajeć
Pary sabie wyhlidajeć.
Jak Palaka zwajawali,
Do Prancuzoŭ jak prahnali,
Prancuzy chacieli sami
Iści nazad z Palakami.
I paszli, i Maskwu ŭziali,
Palakom Polszczu atdali:
No Maskal tut spachwyciŭsia,
Da j z Niemcami zhawaryŭsia.
I siudy ĭ[III] tudy krucili,
Wajawali i płacili,
Pakul Prancuz nie paddaŭsia,
Znoŭ u niawolu nie dastaŭsia.
Jak Prancuz paszoŭ u niawolu,
Tahdy Maskal zmohsia ŭ wolu:
Znoŭ zaczaŭ narod hłumic
Pa swajmu ludziej hubić.
Prancuz tymczasom pawoli
Staŭ wybiracca z niawoli,

Prahnaŭ karala lichoha,
Da wybraŭ sabie druhoha.
A jak tolka zmacawaŭsia,
To z Maskalom i zadraŭsia,
Zaczaŭ bić i wajawać
Swaju kryŭdu ŭspahaniać.
Oj, biŭ dakul wojska stała,
I atniaŭ ziamli nie mała:
Aż Maskal musiŭ prasicca;
Sztob z Prancuzom pahadzicca;
A Prancuz, jak pisaŭ zhodu,
To zaściaroh, kab narodu
Uśiakomu wolność dać,
Nikaho[IV] nie prymuszać.
Maskali, choć abiecali,
Da taho nie datrymali,
Bo Prancuz nia mieŭ spakoju
Paszoŭ na Niemca wajnoju.
Bo i Niemiec ŭ chytrość ŭszyŭsia:
Za Maskala nie zastupiŭsia
Da staŭ inszych zabierać,
Na swoj zakon prymuszać.
Prancuzy heta jak zaznali,
Tahdy na Niemca napali,
Daj znoŭ bicca, kab narodu
Usiakomu dać swabodu.
Niemca saŭsim zwajawali
Z czużoj ziamli pierehnali,
I na wieczny czas wialeli,
Kab Niemcy tam jści nia śmieli,
Kab bolsz złoha nie rabili,
Da narodu nie hłumili;
Kab Cary nia mieli woli
Brać nikoha da niawoli.
Pa ŭsim świecie raspisali,
Sztob usie ludzi skazali,
Jak katory choczeć być
Pad jakim zakonom żyć!?...
Papy ciapier durać, muciać,
Prostyj narod bałamuciać:
Maskal, każuć, majeć wolu
Palachczyć nam naszu dolu.
Oj! nia|wiercie tamu ludzie:
Niczoha z taho nia budzie!

Kali|b chacieŭ tak zrabić,
Daŭno|b tu musiło być.
Maskal ciapier wolu majeć,
Jak zachoczeć, tak ŭpraŭlajeć;
A jak tolki szto ~~pry~~każeć[V],
Musisz zrobić, jak prykażeć.
Katoryje pany spahadali,
Wolość ludziom dać żadali,
Tych u kleszczy Maskal żaŭ,
A nas na skarb zabiraŭ,
Najeżdżajuć – prosta zhraja –
Assesaraŭ, czort ich znaje;
Bjuć da duszać, da miesiać,
Na adnaho panoŭ dziesiać.
Wot jakuju jon swabodu
Choczeć robić dla narodu,
Wot jak ludziom spahadaŭ,
Pakul Prazcuż na kark staŭ.
Jak prycisnuli Maruchu,
Jak zadali ŭ Krymie duchu,
Jak wialeli nie mieszać,
Wolność usim ludziom dać,
To ciapier Maskal piaje
Mudraheliki swaje
Ciapier kryczyć: „heta ja!"
Chicier Dźmicier, jak źmieja!
Choć mudraki wymyślajuć,
Szto pany piereszkadżajuć,
Szto krucili i płacili,
I Maskala padkupili,
Na szto|ż jamu podkup brać,
Kali tak, jak wialeŭ dać,
Skażuć: „zapłaci, niaboże!"
Tam krucielstwo nie pamoże.
Hdzie tam pany prarabili:
Ich u Sybir wałaczyli;
Usiu szlachtu kasawali
I majontki atbirali.
Budzić tak i z mużykami,
Bo Maskali choczuć sami,
Kab mużykoŭ pilnawać,
Ni ŭ czym[VI] woli nie dawać.
Sztob ŭsiakaha najci ŭ poru
Da rekruckaha naboru,

Kab schadniej było ławić
Da i u pryjom wadzić.
A jak pryducca padatki
Zdziaruć z kazdaha astatki;
Niechaj pany choć jak prawiać,
Usio u dwor ahzakuciu stawiać.
Uważajcie|ż, dobry ludzie[VII],
Z Maskalom tołku nia budzie;
A wiedajcie|ż, szto rabic,
Kab Ajczyznu baranić?
Na wiasnu, jak daść Boh hranieć
Prancuz–Palak z żaunierami,
I jak Polszcza ŭsia ustanieć,
Idziom i my z Palakami!
Kali staniem z Palakami,
Budzim roŭnymi z panami –
Usim szczaście Boh nam daść,
I prapadzieć Maskoŭska ŭłaść.

[Spisano w końcu Czerwca miesięca 1889 r. w Sielihorach u p. Wincentego Mienickiego z drukowanego w Paryżu 1862 r. Lutego 27 (15) dnia egzemplażyku)][VIII].

## 3. Dobryja wieści.

Zachodzić sonce pahodniaha leta,
Wieić wiecir z zachodnich niabios.
Zdaroŭ buć, wiecir, z dalokaha świeta!
Dobryja|ž wieści ty da nas prynios?
Zdarowyja|ž bućcie! ej, dobryja wieści!
Tam na Zachodzie praliwajuć kroŭ,
Bjucca dla sławy, swabody i cześci,
I robiać wolnych ludziej z mużykoŭ.
Hudziać wiasioła i pieśni i tańcy,
U dobrom żniwie na szczaśliwyj hod;
Hodzie|ż wam, hodzie, Caryki-pahańcy!
Taptać z bałotach Chryszczonyj narod.[I]
Hodzie|ž wam, hodzie – u jasnoj karecie,
Hodzie, czynoŭniki, jeździć u dwor.
Hodzie wam, hodzie, mužyckija dzieci!
Z chatki astatki brać na pabor.
I panskaja dziecka i chamskaja jucha
Z adnej kwaterki papijajuć miod:
A prysiahnuli na wiek, da abucha
Być sabie wolny i roŭny narod.

Mużyk i szlachcic zasiadzić na ławie,
Kab wiaści radu a swajej ziamli;
Jak treba dumać u hramadzkoj sprawie,
Na adno miejsca, jak braty pryszli. –
A jak uradzim wajnu na hramadzie,
Baranić dzietki i ziamlu i dom,
Mużyk i szlachcic na konia ussiadzie
Kasić kasoju, rubać taparom! –
Ej zhinieć worach! jak Boh nam pamože
Za naszu kryŭdu, za horki nasz żal, –
Zapiajom pieśniu: „Chwalić, Ciabie, Bože!"
Lachczej budzić sercu jak zhinieć Maskal.
Ziemla ty nasza, ziemla ty świataja!
Radzi nam zbože, da sudzi pażać; –
Nia pryjdzieć worah z maskoŭskaha kraju
Na magazyn nasze ziernia brać! –
Ruczyć rukoju chudoba u chacie;
Pany mużyckich sloz nie zabiaruć;
Mużyk z panami staić za pan-brata
Ruki za ruku,[II] hrudź za hrudź!...
Piarom na karcie, sachoj na niwie,
Adzin druhomu roŭność zaściaroh
Ej! u swabodzie zażywiom szczaśliwa:
My budzim dzietki, a nam baćkoj BOH!

--------------------

[Spisano tamże i z tegoż samego exemplażyku, co i poprzedni wiersz.][III].

## 4. Taras.

Ci znaŭ z was, bratcy, chto Tarasa?
U palasoŭsczykach szto byŭ,[I]
Na puciawiszczy li Parnasa
Jon tam pry[II] łaźni blizka żyŭ
Szto|ż, czaławiek jon byŭ rachmanyj,
Harełki ŭ zuby jon nia braŭ,
Za|to u łascy byŭ u pana:
Pan jaho duża szanawaŭ;
Lubiła tož Tarasa pania
I wojt ni|razu nia ŭzbrachnuŭ,
Za to Taras bałota zrannia
Do celnoj noczy pilnawaŭ.
Czuć zołak, jon stralbu[III] za pleczy
Zatknieć siakiru za pajas,

Zaŭsiahdy chadziŭ jon bor sciareczy,
I ptuszek biŭ z rużża Taras.
Ci doŭha jon chadziŭ, ci mała
Atitki[IV] nieszta adzin raz
Biada ŭ baru jaho spatkała,
Wot jak kazaŭ mnie[V] sam Taras:
„Na samaha Kuźmu Dziemjana
Paszoŭ ja ŭ les, paniże[VI] mchoŭ.
Ustaŭ ja nieszta duża rana,
Zdajecca s pierwych piatuchoŭ.
Idu sabie ja pa niamnohu,
Ali na pień trochu prysieŭ,
Aż tut: „cialep, cialep", czeraz darohu, –
Zdajecca cieciaruk źlacieŭ.
Złażyŭsia; aż ny: klapś!..– Ni palić
Karamzel. Z druhoha – ni piakieć!
Hlażu – aż ny z za jeli walić,
Jak joś charomina, miadźwieć!...
Choć nia truśliwyj ja dziacina,
Ali zatrossia, jak asina,
Zubami, jak ciućka, lipiaczu;
Hlażu, – aż złomana lasina
Uzdumaŭ: daj ka uskaczu!
Skaknuŭ, nia trapiŭ, paskaŭznuŭsia, –
I prama mazhaŭnioj laczu…
Lacieŭ ci doŭha ja, ci mała
Heta nijak nia uciamlu,
Ali ŭżo ładna razświtała
Jak ja zwaliŭsia na ziamlu.
Ustaŭ z ziamli, abkałacznuŭsia, –
Bo byŭ ŭ bałocie, jak świńnia, –
I duża, duża zdziwanuŭsia,
Hdzie-b heta apynuŭsia ja?
Rukoj paskrobszy kała wucha,
Dastaŭ z tabakoj rahawień
I chrapy napichaŭ ciartuchoj,
Bo nie ŭżywaŭ ja cełyj dzień
Jak praświacieli mai woczy,
Miadźwiedzia użo nia ŭwidaŭ…
Zakinuŭ ja rużżo za pleczy,
Hlażu nia wieru sam sabie;
Awoch ci mnie, jak tut pryhoża!
Nu bytcam chto namalawaŭ;
Czarwona-krasna, bytcam roża,

Nu być ŭ raju ja tam stajaŭ!
I ptuszki joś tut. Duża strojna
Piajuć palepszi sałaŭja.
Awoch ci mnie, awoj-ja-ja[VIII]
Kudy papaŭsia heta ja?!.
Stajaŭ ja doŭha da dziwiŭsia
Razinuŭ lapku i hladzieŭ,
Awoś adkulićka zjawiŭsia,
Ci to pryszoŭ, ci prylacieŭ,
Chłopczynka niejkij kruhłalicyj
Uwieś kurczawyj być baran
A zaplicz u jaho wializnyj
Ci to byŭ[IX] łuk, ci to kaŭczan.
„Atkul? kudy daroha heta?"
Spytaŭ u chłopczyka[X] toj czas.
– „Daroha heta z taho świeta,
Idzieć pram' na haru Parnas".
Skazaŭszy chłopczyk taho czasu
Na kryllach szparka palacieŭ;
Darohu pakazać k Parnasu
Nia mieŭ jon czasu, ci ni chacieŭ.
Pamyśliŭ ja tahdy niamnoha,
Szto za szatan takij Parnas;
Paszoŭ ja prama toj darohaj,
Uziaŭszy ŭ ruki dobryj kij.
Praszoŭ darohaj wiorst ja z dziesiać, –
Aż wiżu tam hara staić;
Pad toj haroj narodu mnoha,
Jak bydź kirmasz jakij kiszyć!
Pryszoŭ ja bliże – szto za licha? –
Narod nia prostyj, ŭsio[XI] pany, –
Chto duża szybka, a chto pacichu,
Usie biahuć, jak barany,
Być żydy ŭ szkole hałasujuć,
Hatoŭ adzin druhoho zjeść,
Adzin druhoha ŭsio szturchajuć,
Sztob na haru skarej uzleźć.
Usie knihi z saboj taskajuć
Aż pot ruczczom z innych pluszczyć;
Druh druhu kiszki wyciskajuć –
Ażny nia można i hladzieć.
Jak zdawiŭ mnie pan padwzduchi,
Łakciom upiorszy mnie ŭ żywot;
I zakryczaŭ ja sabraŭszy duchy,

Na ŭwieś parnasskij toj narod:
„Pamału, braccy, nie dawicie
Majej chwilatywaj pczały,
Mianie samoha wy puścicie
I nia dziarżycie za pały.
A to da duszy ja was abłaju
U ŭsiech hazetach na ŭwieś świet,
Jak Hohola u proszłam wieku
Wieć ja redaktorom haziet!”
Hlażu sabie na taho pana,
Az ny jon toŭstyj, jak czurban,
Pluhawyj, duża nia pryhożyj,
Kryczyć, jak ahłaszonnyj pop.
Niasieć wializnyj pak pan hetyj
Paŭnym paŭniochońki[XII] nabit;
Usio[XIII] tam knihi da haziety,
Nu, być karobacznik, jak żyd.
Tawaryszcz poplicz z nim idzieć,
Niaści jon knihi pasablajeć,
A sam hramaciku niasieć,
Szto u świnarni[XIV] abuczajuć.
Wot nieszta razom zaszumieli,
Narod razdaŭsia na kancy,
I być jak ptuszki prilacieli[XV]
Czatyry brawych maładcy.
Narod usio tam nia takoŭskij: –
Sam Puszkin, Lermantoŭ, Żukoŭskij
I Hohal. Szybka kała nas
Usie paleźli na Parnas.
Pramież ludziej ja ŭsio szturchaŭsia,
Ŭsio lez, da lez, – taki prabraŭsia
I na haru k baham papaŭsia.
Hladzieŭ, hladzieŭ i dziwowaŭsia:
Won chata nowaja staić, –
Każysia, heta pańskij dwor;
Kruhom jaho tam tyn staić, –
Niaboś nia płocha ŭlezić wor.
A na dware tym świńni chodziuć,
Sabaki, woŭcy, barany;
Znać i bahi chaziajstwa wodziuć
Kali świniej dziarżać jany.
Na hroszy tut u tronki jhrajuć
Parnasski chłopcy j dziaciuki
A chto hraszej z saboj[XVI] nie maić

Tot prama łupić u szlaki.
Waszoŭ k baham tahdy ja ŭ chatu, –
Awoch ci mnie! Ni dać, ni ŭziać,
Nu, być ŭ kazarmach tut sałdaty,
Bahoŭ nia można saszczytać.
Hladzieŭ ja doŭha da dziwiŭsia
Czym zabaŭlajucca bahi:
Chto pipku kuryć, chto śmiajecca
Chto szyjeć sabie chadaki,
A bahini u karytach
Baham rubaszi i partki,
Bializnu myjuć i śmiajucca
Hladzia[XVII] na Marsawy sztany.
Saturna, łyki razmaczyŭszy,
Ziawiesu łapci tut placieć
Pa świetu ładnaha chadziŭszy,
Łapciej jon mnoha paparwieć,
Niaptun na łaŭcy czynić sieci
I wości sadzić na szasty;
A z jim paplicz i jaho dzieci
Dyrawy łapiuć naraty
Tut Mars hulaić z Herkulesom,
A Herkules, jak być miadzwiedź
Sztob cieszyć[XVIII] samaho Ziawiesia,
Chachoł jon Marsu k łaŭce hnieć.
A sam Ziawies lażyć na pieczy,
Pad haławu armiak pasłaŭ[XIX];
Jon hreŭ na pieczy stary pleczy,
I nieszta ŭ baradzie szukaŭ.
Balszoje lustra tut staić,
Pred nim mażić swai kasy
I nieczym mordu swaju bielić
Wianiera, musić dla krasy,
Amur że z dzieŭkami żartuić,
Ażny niamożna i hladzieć;
To zniecialki jon pacałujeć,
To chustku z haławy sarwieć,
To u harmoniku zajhrajeć
To wokam jon adnym marhnieć,
To jon załasna zacianieć,
To szybka piesniu zapiajeć.
Ziawies na pieczy schamianuŭsia.
I zatrasłaś usia hara.
Ziaŭnuŭ i duża paciahnuŭsia[XX],

I każeć: „jeść użo para!”
Tahdy bahi sa ŭsiaho nieba
Paczali k stału zalizać;
Pryhoża Heba tahdy chleba
Usim naczała narizać;
Jana strapuchoj ŭziata[XXI] Zieŭsom,
Sztob jeść waryć i płaćcia myć;
Niaboś, nia lohkim żywieć chlebom,
Ci szutka stolkich nakarmić!
Usim baham pad nos chleba
Jana nakłała na stale,
Tahdy naczała nasić Heba
Patrawy smaszny na liście:
Spiersza dała jana kapustu,
Tahdy sa szkwarkami kulesz,
Na małace krupieniu hustu,
Dajeć u wolu – tolka jesz!
I z pastajałkoj żyr studzionyj,
A z kaszy sało aż ciaczeć,
Da i husiaciny prażonoj
Baham było – aż nia pajeść
Jak uzniesła na stoł kałbasy
Bliny aŭsiany ŭ raszacie
Aż paciakło pa baradzie
I zaburczało ŭ żywacie.
Harełku pić bahi paczali
Z butelek czarku, znaj, szto ljuć.
Padpiŭszy piesni zakryczali,
Nu, być ŭ radni jany piajuć
A adzin[XXII] boh zapieŭ prypieŭki
Szto aż nia można hawaryć
Aż ustraszyliś usie dzieŭki,
Jak staŭ jon reczy razwadzić.
Ali bahi taki ustali,
Jak papili, usio pażrali…
I razom u dudu zajhrali,
Skakać bahi ŭsie paczali.
Uziaŭszy chustaczku, Wianiera
Paszła miacielicu pisać;
Pryhoża duża, czyraz mieru,
Nia można piorkom napisać:
Czarwona, toŭsta, kruhłalica,
A woczy, być na kalasie;
Jak żar haryć jaje spadnica

Istużka ŭplicina ŭ kasie[XXIII].
Niaptun z pryhożeńkoj Najadoj
Puściŭsia staryj chren u plas, –
Jak by[XXIV] żanich pirad niawiestoj
Zakinuŭ ruki za pajas.
I sam Ziawies tak nachlibaŭsia,
Szto ziamlu nosom czuć nia ryŭ;
Jon wokom żmuryŭ, da kiwaŭsia,
I bytcam nieszta hawaryŭ.
Chlabnuŭ Amur harełki czarku,
Jaszcze jon bolsz[XXV] pawisialeŭ;
Ihrać naczaŭ jon na świrelku
I pieśnu strojnuju zapieŭ.
I Mars u nowych sabie botach
Jon, musić botoŭ ni żaleŭ,
Bo z dzieŭkami (szaleŭ)[XXVI] da potu
Ihraŭ u żmurki i szaleŭ.
Usiakij boh tak razhulaŭsia,
Szto aż nia można udziarżać,
A chto pabolsze nachlibaŭsia,
Taho pad łaŭkaj kłali spać.
Jak zaihraŭ dudar plasuchu –
Tahdy ŭżo j ja nia uciarpieŭ[XXVII]
I sa ŭsiaho szto, nia joś duchu
Skakać pa chacie palacieŭ:
To ja prytopnu, to prychłopnu,
To pajdu szybka u kruhi,
To razam jazykom pryszczoŭknu, –
Aż rty razinuli bahi.
Hladzieŭ Jupicier dziwuwaŭsia
I pad dudu ŭ ładoszki biŭ,
Ali ka mnie jon pryszturchaŭsia
I wo jak jon mianie sprasiŭ:
„A ty atkulićka, pryjaciel?
Zaczym pryjszoŭ ty na Parnas?
Ty chto takij, ci nie pisaciel?"
– „A nie, panoczyk, ja Taras,
Ja palasoŭszczyk z puciawiszcza.
Czuć zołak – ja paszoŭ z dwara
I na Parnas usio[XXVIII] chadziŭszy,
Mnie j jeść użo daŭno para.
Czy nia była|b, panoczyk, łaska,
Mianie damoŭki[XXIX] atwiaści. –
Mihnuŭ Ziawies – i mihom Heba

Krupieni misku naliła
I dobruju krajuchu chleba
Skazaŭszy: “jesz”, mnie padała.
Krupieniej ja pasiłuwaŭsia,
Usich padziakuwaŭ bahoŭ
Kaszel za pleczy zawiazaŭszy,
Sabraŭsia ja użo damoŭ.
Awoś… Zachwiry padchwacili,
Chto za ruku, chto za pajas,
I być jak ptuszki pata~~cie~~li[XXX]
Jany mianie czyraz Parnas…
Niaśli na kryllach, być jak wiecier,
I prama pryniaśli ŭ nasz les.
Hlażu na nieba – musić wieczer,
I maładzik na nieba ŭzlez.”
Z tych por Taras uż nia chadziŭ
Tak duża czasta pa baram,
A czyraz toje nia szkadziŭ
Biarwieńnia kraści jon waram.
Tak wot szto widzieŭ nasz Taras,
K baham uzlezszy na Parnas.
Jon mnie ŭsio heta razskazaŭ
A ja ŭ papierku zapisaŭ.

--------------------

[Spisano z odcinku gazety: „Минскій Листокъ” № 37 1889$^{go}$ roku][XXXI].

## 5. Saŭsim nia toe, szto było.

Ja star, niaduż, saŭsim siwieju,
Zuboŭ nie maju, ciażok staŭ,
A razskażu ja szto sumieju,
Bo daduszy wiek swoj nia łhaŭ.
Kazaŭ mnie baćka, czuŭ ad dzieda
I staryki hukali mnie:
Było u star usio, jak treba,
Ciapier ni stało taho, nie!
Skażu, szto pomniu, pahadzicie,
Dajcie apomnicca drabok,
Tym czasom wuszy nawastrycie
I rot zamknicie na zamok.
Żyłosia dobra; byŭ ja mały,
Służyŭ łakiejem pry panach,
Ni znaŭ taho, szto znaczyć hoły
I nie nużdaŭsia u hraszach.

Wot czy daŭno minuła heta?
Za starym panom tak było:
Haściej sabrałoś siarod leta,
Jakby miatłoj ich namiało.
Kaciać karety i kalaski,
Tabunom waluć żarabcy
Pa sześć, pa wosim u ciależki,
Churmany prosta maładcy.
Hudzić, stuczyć zimla i stonić
Churman jak łopnić z bicza "trach!"
Usich czarciej u ćmu prahonić
Jak z puszki, prosta ażnul strach!
Hladzisz i woczy pakazielisz,
Razinisz rot swoj, jak bałwan,
Staisz kranucca ni pasmiejisz
Pakul ciabie prajedzić pan.
Skażesz: "Niech będzie pochwalony
Pan Jezus Chrystus!" tady jon:
– "Na wieki wiekaŭ, moj szanoŭny!"
Takij u star bywaŭ pakłon.
Pajeduć panskija karety
Pad ganok[1]
Ŭ librei słuhi panadziety
Wot jak u star bratok żyli!
Płaszczy łakiejeŭ z hałunami;
Arły na guzikach kruhom
Kapialusz z pawimi piarami,
Pierczatki biełyja na niom.
Hladzisz won lezić pan z karety
Dyk jon wiasioł, kruhoł i dob
Adzieżka szytaja z sajety
Piarśni z brylantami, jak bob.
Zegarok z załata, jak repa;
Łancuh wisić na żywacie;
I hroszy mieli skolka treba
Nia szysz siadzieŭ u kalicie.
Idzieć sabie jon, jak wialmoża,
Tamu, siamu całkowy daść,
A sam nia|zmorszcycca, broń Boże,
Nawet i znaku nie padaść,
Szto jon tam zrobiŭ kamu łasku,
Szto rub-całkowy padaryŭ,
A skażeć tolka, jak prykazku:
"Hladzi|~~s~~ż, harełki kab nia piŭ!"

Jak sabiarucca u pakoj
Panienki k wieczeru skakać,
Jakich że tam nia ŭwidzisz strojiŭ? –
Nima i słoŭ, kab razskazać.
Taja jak lalka pryadzieta,
Heta saŭsim na druhoj ład;
U ŭsich istuzki i garsety,
Adna druhoj nia wydaść, brat!
Żyli sabie, dyj prypiewali,
Nie znali hroszy pażyczać,
Jaszcze j kapiejku zahaniali,
Kab pad czas biednamu padać.
Nichto nie znaŭ, szto heta banki,
Lasy drymuczyje raśli;
Swai pany byli marszałki,
Padsendki, sudzi i usi.
Ziamielka-matka była czysta
Ad bankoŭ hetych zakładnych,
A chto kupiŭ, dyk żyŭ wiaczysta
I hadawaŭ dzietak swaich.
Daŭniej pajedzisz na wybory,
Znaczyć naczalstwo wybirać
A tam usio bały, wiaczory,
Znaj pić, da jeści, da hulać.
Pany prybierucca ŭ mundury:
Kaŭnier, rukawy szyty skroś
Zołotom szczyrym na purpury,
Pad adzin ład usie jak joś
Nadzienuć szapki trochwuhołki,
Pryczepiuć szpahi da baku,
Pierczatki biełyja na niom
Napialuć tuha na ruku.
A ciapier szto kudy pryszłosia
Żydy[II] zabrali siłu-mocz,
I jaszcze stali naśmichacca,
Szto ŭsie pany pabiehli procz.[III]
Maŭczała|b pohań da j siadzieła
Kapiła|b geld swój da j szabasz
Geszeftoŭ łuczsze by hladzieła:
Im da panoŭ dzieła nimasz.
Ja znaju sam hdzie nasza panstwa,
Jany joś tut, dy nia toj ład
Jak otniali u ŭsich paddanstwa
Paszoŭ druhoj i ład i skład

Usio paszło ciapier najznanku,
Naczalstwo stało ad kazny
Nazwali Annoj użo Hanku
Na ŭsich kancach stajać rażny.
Słuhu najmi, płacić patreba,
Paszyć, pamyć, kapiejku daj,
Najmi ludziej i zasiej chleba,
A niet hraszej, dyk pażyczaj.
Jaszcze paszli na ŭsio akcyzy,
Pracenty niejkija, ci szto,
A ceny stali na chleb niżej;
Skacina prosta ni za|szto.
Płaci ziamielnyje nałohi,
Na papoŭ, dzietoczki, padaj,
A tut żaleznyja darohi,
Za usio płaci, za ŭsio dawaj.
Adzieżka także nieszta stoić;
Adkul że, bratcy, hroszy brać?
Pażyczyć, − pracent balszoj krojuć;
Nada u bank dwor zakładać.
Założuć, woźmiuć kuczu hroszy,
Da i puściŭ tudy, siudy
Pakul hrosz jość usiak charoszy,
A jak niamasz, świszczy tady
Paśla, ahu! jak niet niczoha,
Skarżycca inszym paczali:
“Nima druhoŭ, nima nikoha,
Kab swajmu bratu pamahli!”
Ciapier, kudy jano pryszłosia,
Saŭsim nie schodziucca kancy
Propaść druhich daŭhoŭ naszłosia
Paszli u proczki czerwoncy.
Ciapier, jak hlanisz, serce mleić,
Na staryj polskij jakipaż:
Churman, tot jeździć nia umieić,
Łakiejeŭ tych daŭno nimasz.
Jakipażiżka abarwany,
Hrazju abmazanyj kruhom;
Paduszki mochom napichany,
Czuć prykryt starym chwartuchom.
Churman siadzić, u kruk sahnuŭsia,
Hladzić z padłobja, jak źwiarok
Chachoł toj wożakom naduŭsia,
A sam być s wotrabiam miaszok.

Kaniszki tyje, jak araki[IV]
Stajać, padwioŭszy żywaty,
Na ich spinie rubcy da znaki
Liżać, jak dobryje pruty.
Dziadami zbruja jaszcze szyta,
Z pad dziohciu blaszki czuć bliszczać;
Daŭno nie mazana, nia myta,
Tolka machry kruhom wisiać.
A ŭsio|ż na sażeń tarczyć puha
Hałun choć czornyj, a ŭsio|ż joś.
I wożży nacianuty tuha
Znaj naszych, znaj szto my a woś!
Na szto tut woczy kamu mylić,
Na szto tut Bożyj świet kapcić;[V]
Naprasna żylla swajo żylić
Lahuszce wiek słaniom nia być
Para|b użo swoj dur pakinuć,
I narod Bożyj nia czmuryć,
Pustoje heta czwanstwo kinuć,
A pa hraszam adzieżku szyć.
Nia dumaj, szto pryhon na poli,
Szto bank daść hroszy zaŭsiahdy;
Nie pażyczaj nihdzie, nikoli,
Paradkom pojdzić ŭsio tahdy.
Kaniszki stanuć tahdy hładki
Budzić i hrosz u kiszani,
Miarkuŭsia[VI], kab byli astatki,
A lisznieje nie daj, ni-ni.
Jany i sami heta znajuć
A tolki dziełajuć nie tak,
Hulaja, nieszta nahulajuć;
A daść maroz na hetyt mak!
Dwary u nich u bank pabieruć;
Żydy dabytak za daŭhi;
Tahdy użo biadzie pawieruć,
Nie zaśmiajucca: hi, hi, hi!!

Uchwiszczy 12ha janwara 1890.[VII]
Chwelka z Rukszenic.

--------------------

[Przepisałem z autografu autora p. Felixa Topczewskiego (?)[VIII], zarządzającego w Uchwiszczach, majątku pani Siellawiny, autografu pisanego ruskiemi literami. Miłem ten rękopism od Oskierków w Leonowszczyznie[IX]. Przepisywałem w Ostrowiu[X] 25go lipca 1890go roku][XI].

## 6. Hroszy i praca.

Każuć: mużyk – cham, niacnota,
Hultaj, szelma, usio licha!
A czyja|ż heta rabota?
Chatka, chlebic i hraczycha?
Chto|ż razrobiŭ les na pola?
Absuszyŭ bałoty, topi,
I dla ŭsich zrobiŭ razdolla?
Usio|ż heta tyje chłopi.
Bożyj chram, karab na mory
Cierym, dwarcy i pałaty,
I sabie hrebli i zabory
I sabie mizerny chaty.
Chto|ż zrabiŭ, czyja|ż rabota?
Chto pacieŭ irwaŭszy żylla
Toj że cham i toj niacnota,
Szto prazwali pany bydła.
Chto|ż padporoj u wialmoży?
Czyja|ż praca ich pałacy?
Chto|ż pasłaŭ im miahka łoży?
Biełyj chleb ich czyja|ż praca?
Czyim łbom razbity mury?
Chto razryŭ wały, akopy?
Chto|ż nie draŭ mużyczej skury?
Hdzie|ż nima chamskoj raboty?
Ichniaj siłaj i rukami
Stawiać krepość, lijuć puszki,
Robiuć rużja sa sztykami
Sypiuć szancy i haruszki[1].
Moża skażeć chto, szto hroszy
Kormiuć, robiuć, nieżuć cieła
Nie! panoczyk moj charoszy
Hrosz – pustoja praca dzieła!
My|ż biaz hroszy, a ŭsio syty,
Splaciom łapci, zrobim chatu,
Spradziom lonu i akryty
Jaszcze z karku dadziom bratu.
Plunuć tolki na hrosz treba
A dzirżacca krepka pracy
Ach! ni daduć hroszy chleba
I nia wyrastuć pałacy.
Siadź na kuczu hroszy, panie,
Da hladzi na ich wiek cały,

Nie daduć jany, mospanie,
Szołku, żemczuh i chleb biełу.
    Żyli|ż ludzi pirad hetym
    I nie znali srebra, złota,
    Byŭ lud ludom i świet świetom
    Jeli chleb i była chata.
Hroszy wydumka pustaja,
Jany treba tonkokożym
Kab karmili wiek hultaja
I karmili chlebom rozum.

Chwelka z Rukszenic
Uchwiszcze 27$^{aha}$ aprela 1890.

---------- ∵ ----------

[Przepisano też z rękopismu autora polskiemi literami pisanego i otrzymanego od p. Oskierków w Leonowszczyznie w Ostrowie 25$^{go}$ lipca 1890$^{go}$ roku][II].

## 7. Jon i Jina.

Na Trojcu, zwyczaj, jak u świata,
Padjeŭ sabie i ŭzdumaŭ spać
Aż czuju zahamaniŭ tata:
„Idzi pszczoł panskich pilnawać!"
    Nieczaha dziełać, słuchać treba.
    Uziaŭ armiak, paszoŭ u sad,
    Rasła tam lipa kruhom sada,
    Sażana husta ŭ adzin rad.
Zabraŭsia ja u cień, pad lipy,
Da j prysłaniŭsia tam na czas.
Zasnuŭ i spaŭ jak|by zabityj
Ażnul da sumierkaŭ jak raz.
    Acznuŭsia, hladź! panicz nasz walić,
    A poplicz z jim panienka jdzieć;
    Panicz usio panienku chwalić,
    A taja hutarku wiadzieć.
Iduć ka mnie szto raz to (raz) bliżej
Panienka pawaj, jon arłom.
Ja daj u kust panyrnuŭ nizej,
Pastawiŭ prućcia dybarom.
    Ka mnie pryszli, dy szlop! uziaŭszy
    Wot tut dli samaha mianie,
    A ja łażu duchi zaciaŭszy,
    I być u wahnie uwieś haru[I]

Zhadzia czasok, hladżu, szto budzić;
Ażnul panicz jorź bliżej sieść,
Haworyć nieszta, skałazubić,
I doŭha hutarku wiadzieć.
Pakrucić laskaj, szapku symić,
Wusy paprawić jarzanieć,
To butta szto z ziamli padymić
To nohci kałupać zaczznieć.
Widać, skazać jon nieszta choczeć
Nie znaić tolka, jak paczać,
Jon tak i hedak zamarmoczeć
Paśla apiać stanieć maŭczać.
Jina ż ćwiatok u palcach k$^{r}$ucić[II],
Niuchnieć, machnieć kała lica,
Patupić[III] woczki, to apuścić,
To pahladzić na panicza.
Burknieć sławieczka, uśmichniecca,
Paprawić sukniu, to kasu,
To usia niejik strachaniecca,
Wot być rusałka u lasu.
Spuścić waczonki, pakraśnieić,
To stanieć bleda, jak papier,
Skazała|b nieszta, dyk nia śmieić
Wot jak hlażu na jich ciapier.
Awoch ci mnie! była pryhoża,
Takoj nia widzieŭ, da duszy,
Wot prosta toj ćwiatoczek roża,
Choć prysłani jaje k duszy
Hladzia na nich ja nadrażaŭsia
A serca biło małatom.
Czaho|ż|by? wiedź ja nie spużaŭsia
Da j nia było czaho prytom.
Musić za toja kałaciŭsia,
Szto ja mużyk i nie bahat;
Kab byŭ bahat, to|b ażaniŭsia,
A jak ja biedzin, dyk ni brat!
A panicz toj usio tancujeć,
Waczami prosta jak nia zjeść,
To ŭ ruczonku pacałujeć,
To zakałocicca uwieś.
Uskoczyć, siadzić, apiać stanić,
I skażeć: „Wierz miłości méj!”[IV]
A taja tolki moŭcza hlanić
I ciażka uzdychniecca jej.

– „Więc cóż mi, Pani, powie na to?
Czy tak czy nie?”[V] pytajeć jon.
– „Dziękuję Panu szczerze za to”[VI]
Praburknić bytta ciraz son.
Paśla jina, spuścia niamnoha
Rumiana stała, jak toj mak:
„Ach!” każeć: „dziej się wola Boga!
„Więc na pytanie powiem tak:
„Czy kocham Pana? Pan mię pyta,
„Więc powiem szczerze, tylko wierz:
„Kocham! Więc z panem teraz kwita,
„A chcesz mą rękę, więc ją bierz!”[VII]
Tahdy panicz u sierp sahnuŭsia,
I staŭ jej ruki caławać,
Paśla staŭ roŭna, ahlanuŭsia
Moża chto hdzie, czy nie widać
Jak konczyli, nia tyja stali:
Druhuju hutarku naszli;
Aboje razom z łaŭki ŭstali,
I prosta u zadom paszli.
Tahdy ja, daj skarej Boh nohi,
Uziaŭ chatul, da j byŭ patul.
Choć nia widać było darohi,
Nia pomniu, jak prybieh attul.

Chwelka z Rukszenic.

--------------------

[Przepisałem z rękopismu autora, po polsku pisanego, w Ostrowiu 28go lipca 1890[VIII].

## 8. Jamszczyk.

(Pirawod z Syrokomli)

I pjuć i hulajuć, – czamu|ż u zabawie
Adzin ty, jak worah ŭ niawoli?
Na czarku! zakurim, sadzisia na ławie,
Skaży nam pryczynu niadoli.
Ni koni, ni sanki, ni krasny dziaŭczata
Ciabie nie pacieszać ni mała;
Dwa letka my widzim, czy budni, czy świata
Szto ty nia takij, jak bywała.
Oj ciażka, oj horka! dusza maja mleić
I świet by pakinuć nia szkoda.
Daj czarku, pry czarce mnie budzić śmialeje
Pasłuchaj: jakaja pryhoda.

Prystaŭ ja na pocztu, zwyczajnie błaznota
Choć byŭ i silon i achwoczy.
Na poczcie, sam znajesz, dzień cełу rabota
Ni widzisz ni świata, ni noczy.
Ad ranka da noczki, ad noczki da ranka
Waziŭ ja pakiety i pany. –
Papaŭ załatoŭku, tady i hulanka,
I syt, i wiasioły i pjany.
Zwadziŭ ja dziaŭczat i druziej mieŭ biaz szczotu
Sam pisar byŭ roŭny i kwita!
A koni|ż! jak kryknu na nich na achwotu,
Dziaruć mai siŭki z kopyta! –
Wiasioły byŭ chłopiec i zuch u hulanni,
Kazisty usiakoj dziaŭczynie. –
Panicz z taboj jedzić – padchopisz hdzie paniu
Dwazłotka nikoli nia minie.
A tolki sam szczyra lubiŭ ja dziaŭczynu,
Żyła tut u wiosce u poli;
Jaje ja bywało, jak jedu, nia minu,
Kab mima prajechać nikoli. –
Wot pisar raz kliknuŭ jaszcze da razświeta,[I]
Marozna i śiewier zdarowy.
„Wiazi asztachwietu!" – „A kab ty zhareła!"
Burknuŭ ja pad nosam siarduja.
Koni[II] akulbaczyŭ i skora i śmieła
Na siŭce pa trakcie siaku ja
Jak żyŭ, nia widzieŭ takoj, bacz miacieli;
Nia widna darohi ni świeta.
Wot z siŭkom dźwie wiorsty my tak pralacieli,
Słup treci minajem... Szto heha?!
Chtoś stohnić u poli, na pomoszcz sklikaječ
Zbłudziŭsia niejnacze ŭ darozie.
Padumaŭ: padskoczu! chtoś tam prapadaječ
Ŭ zawiei na lutom marozie.
Konia powiartaju, a czort mnie na wucha:
„Kudy ty?" ŭsio szepczeć na zhubu,
„Spiaszy! czas nahnaŭszy! pabaczysz dziaŭ[czynu][III]
Swaju piralesku lubuju."
I stała mnie straszna, aż dybam staŭ wołas,
Pa pleczach pabiehli muraszki…..
Kania zacinaju, choć każeć mnie hołas,
Szto heta hrech budzić, hrech ciażki.
Wot zjezdziŭ, zwiartajuś. Prycichło i dniejeć,
Strach niejkij ŭsio muczyć ukryty,

пэўную праўку (фактычна, маем справу з новай рэдакцыяй перакладу). Па-другое, толькі той, хто на ўласныя вочы бачыў, ці 24 гады таму "спала" ці не "вельмі спала" бацькаўшчына, мог смела запярэчыць маладзейшым.

Звяртаем увагу на тое, што аўтар *Прадмовы выдауца* гаворыць пра перакладчыка *Сыгналу* ў адзіночным ліку. Аднак тагачасная літаратурная грамадскасць ведала і іншы пункт гледжання. Яшчэ пры жыцці Ядвігіна Ш. М. Гарэцкі сцвярджаў: "Першы раз на беларускай літэратурнай ніве выступіў Ядвігін Ш. яшчэ ў свае студэнцкія гады, як адзін з перакладчыкаў на беларускую мову выданай у 1891 годзе ў Маскве кніжачкі Гаршына *Сыгнал*"[1]. Магчыма, такі погляд пашыраў А. Луцкевіч: і ў сваіх публікацыях, і ў вусных выказваннях ён няраз падкрэсліваў, што пісьменнік быў толькі адным з перакладчыкаў *Сыгналу*: "Там [у Маскоўскім універсітэце. – *М. Х.*] і Ядвігін Ш. знаходзіць першае прылажэньне для свайго пісарскага таленту: ён прынімае ўчасьце ў перакладзе на беларускую мову *Сыгналу* Усевалада Гаршына"[2]. Хведар Ільяшэвіч, выказваецца яшчэ больш катэгарычна: "Аўтарства перакладу прыпісвалі сабе аж два былыя студэнты". Пры гэтым ён спасылаецца на А. Луцкевіча і паведамляе, што апошні "прозвішчы іх аднак ужо не памятае"[3].

У Савецкай Беларусі перакладчыкам *Сыгналу* літаратуразнаўцы лічылі Ядвігіна Ш. Больш за тое, сцверджанні Ц. Гартнага[4] і М. Піятуховіча[5] пераканалі М. Гарэцкага: паводле трэцяга выдання *Гісторыі*, менавіта Ядвігін Ш. перакладае ў турме апавяданне У. Гаршына[6].

У пасляваенны час гісторыкі літаратуры адно абмяжоўваліся канстатацыяй факта: "У канцы XIX ст. пэўныя зрухі заўважаны ў перакладчыцкай справе (у Маскве ў 1891 г. на беларускай мове выйшла перакладзенае маладым Ядвігіным Ш. апавяданне У. Гаршына *Сігнал* <…>)"[7]. Аднак кропка ў справе выдання *Сыгналу* пастаўлена рана, бо пачатковы этап жыцця і творчасці Антона Лявіцкага (Ядвігіна Ш.) даследаваны недастаткова. З-за гэтага шмат блытаніны ў біяграмах пісьменніка. Напрыклад, у біябібліяграфічным слоўніку *Беларускія пісьменнікі* сцвярджаецца, што "ў 1877–1878 ён аддадзены бацькам на вучобу ў Люцынку, да адной з дачок В. Дуніна-Марцінкевіча"[8], і ў *Гісторыі беларускай Літаратуры XX ст*. падаецца прыкладна тое самае: "Дзевяцігадовага Антося

---

1 М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літэратуры: Выданьне другое (папраўленае)*, Вільня 1921, с. 144.

2 А. Навіна, *Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі)*, "Беларускі звон" 1922, № 7 (11 сакавіка).

3 Х. Ільяшэвіч, *Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі): Жыцьцё і літэратурная творчасьць*, Вільня 1933, с. 21.

4 Інфармацыя Х. Ільяшэвіча. Праўда, крыніцу ён не называе. Гл.: *Ibidem*.

5 Інфармацыя Х. Ільяшэвіча. Гл.: М. Піятуховіч, *Ядвігін Ш.: Жыцьцё і літэратурная дзеяльнасьць,* "Запіскі аддзелу гуманітарных навук Інстытута Беларускае культуры" 1928, т. I, кн. 2.

6 М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літаратуры,* Мінск 1992, с. 286.

7 А. Лойка, *Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд*, у 2 частках, ч. 1, Мінск 1989, с. 227.

8 З. Мельнікава, *Ядвігін Ш.* [у:] *Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік*, у 6 тамах, т. 6, Мінск 1995, с. 467.

аддаюць вучыцца ў прыватную школу, арганізаваную дачкой В. Дуніна-Марцінкевіча ў фальварку Люцынка”[1]. Можна толькі дзівіцца, чаму не ўключаюцца ў літаратуразнаўчы працэс выяўленыя і апублікаваныя дакументы? Бо ж і *Ведамасць пра асобаў, што знаходзіліся пад наглядам паліцыі*[2], і *Сакрэтная справа канцылярыі апякуна Віленскае навучальнае акругі аб закрыцці тайнае школкі ў Люцынцы*[3] сведчаць, што вучыўся Ядвігін Ш. у Цэзарыны Дунін-Марцінкевіч да 10 кастрычніка 1876 г. Выяўленая дата[4] нараджэння Ядвігіна Ш. (4 студзеня 1869 г.[5]) пацвярджае правільнасць пададзенага пісьменнікам свайго ўзросту, калі навучаўся ў Люцінцы – сем гадоў[6]. [Праўда, у артыкуле *В. Марцінкевіч у практычным жыцьці* Ядвігін Ш. гады навучання (1877–1878) падае недакладна[7]].

Наступнае невысветленае пытанне: ці закончыў Ядвігін Ш. Мінскую гімназію? Большасць гісторыкаў літаратуры адказвае на яго сцвярджальна, бо толькі пасля яе заканчэння ён мог стаць студэнтам Маскоўскага ўніверсітэта. Аднак іншы пункт гледжання мелі М. Піятуховіч і Х. Ільяшэвіч: першы кажа, што “ня скончыўшы гімназіі, выехаў у Маскву, дзе, праўдападобна, здаў экзамен экстэрнам на «атэстат зрэласьці» і паступіў на мэдыцынскі факультэт Маскоўскага унівэрсытэту”[8]; другі яго папраўляе (хоць і не зусім пэўна ды аргументавана): “Гэтыя весткі аднак, здаецца, ня згодны з праўдай. Найпраўдападабней справа выглядае наступна: У пачатку восемдзесятых гадоў (1880–1) А. Лявіцкі паступае ў Менскую гімназію (магчыма ў 2 клясу). Там скончыў 4–5 клясаў (1883–4), паступае не пазьней 1884 г. на практыку ў аптэку (або ў Менску, або ў Радашкавічах). Па адбыцьці практыкі ў аптэцы (2–3 гады), ён едзе ў 1886 або 1887 годзе ў Маскву, каб там, праслухаўшы пры мэдыцынскім факультэце курс фармацэўтыкі, здаць пасьля экзамен на правізара. У тыя часы на фармацэўтыку прыймалі кожнага, хто меў скончаныя 4 клясы гімназіі (пасьля ўжо толькі было падвышана да 6-ёх) і адбытую практыку ў аптэцы, як вучня. Ядвігін Ш. на мэдыцынскім факультэце ня быў. Пасьля выхаду *Uspaminaй* Ядвігіна Ш. адна асоба, добра знаўшая яго, зьдзівілася, што ён там сябе лічыць студэнтам [Аб гэтым мне расказаў гр. А. Луцкевіч. Прозьвішча тае асобы ён ужо не памятае]. Бо фармацэўты

---

[1] Л. Голубева, *Ядвігін Ш.* [у:] *Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя*, у чатырох тамах, т. 1: *1901–1920*, Мінск 2003, с. 86.

[2] Гл.: *Пачынальнікі: З гісторыка літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1977, с. 161–162.

[3] Гл.: Г. Кісялёў, *Героі і музы: Гісторыка-літаратурныя нарысы*, Мінск 1982, с. 224–228.

[4] Нам не ўдалося вызначыць, кім і на падставе якіх дакументаў уведзеная ў навуковы ўжытак дадзеная дата.

[5] Х. Ільяшэвіч сцвярджаў, што Ядвігін Ш. нарадзіўся ў 1866 г., а доказам лічыў “запіс веку пісьменніка ў кнізе хворых Літоўскае клінікі ў Вільні за 1922 г., паводле якой Ядвігін Ш. мае 55 год. А гэты век падаў пэўне-ж сам хворы пісьменнік”. Гл.: Х. Ільяшэвіч, *Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі): Жыцьцё і літэратурная творчасьць*, Вільня 1933, с. 6.

[6] Гл.: Ядвігін Ш., *Лісты з дарогі. XII*, “Наша ніва” 1910, № 35 (26 жніўня).

[7] Гл.: Ядвігін Ш.,. *В. Марцінкевіч у практычным жыцьці*, “Наша ніва” 1910, № 48 (25 лістапада).

[8] Цыт. па: Х. Ільяшэвіч, *Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі): Жыцьцё і літэратурная творчасьць*, Вільня 1933, с. 13.

ў той час былі «студэнтамі» ў чужаслове. Калі нехта пытаўся, дзе той ці іншы вучыцца, і атрымліваў адказ, што на фармацэўтыцы, дык адразу памяншалася яго «студэнцтва»”[1].

Х. Ільяшэвічу можна запярэчыць: калі Ядвігін Ш. не быў студэнтам Маскоўскага ўніверсітэта, а толькі г. зв. “фармацэўтам”, дык ён не мог быць вязнем Бутырак. Напрыклад, ва ўспамінах І. Цвяткова праводзіцца факт, што калі разам з арыштаванымі студэнтамі ў Бутыркі трапілі чатыры фармацэўты, дык апошнія адразу былі вызваленыя[2]. Думаецца, Х. Ільяшэвіч свае высновы грунтаваў на тым факце, што Ядвігін Ш. у 1890-я гг. працаваў памочнікам правізарам спачатку ў Мінску, а пасля Радашковічах.

Вучыўся Ядвігін Ш. у Маскве, на нашу думку, з восені 1889 г. З апісаных ім ва *Успамінах* падзей студэнцкага жыцця асобныя можна датаваць даволі дакладна: перш-наперш паніхіду з выпадку смерці М. Чарнышэўскага, якая адбылася 24 кастрычніка (відавочна, старога стылю[3]) 1889 г. Цікава тое, што ранейшыя студэнцкія пратэсты пісьменнікам не згадваюцца: напрыклад, гучная г. зв. “брызгалаўская гісторыя”, якая адбылася 22 лістапада 1887 г. (сутычкі студэнтаў з паліцыяй і казакамі з-за пратэстаў супраць жорсткасці інспектара Маскоўскага ўніверсітэта А. Брызгалава), ці масавыя выступленні ў сакавіку 1889 г. з патрабаваннямі адмяніць Статут 1884 г. Зусім лагічна дапусціць, што толькі тое, што бачыў на ўласныя вочы Ядвігін Ш. падае ў сваім творы.

Нескладана датаваць і той студэнцкі пратэст, у выніку якога Ядвігін Ш. быў арыштаваны[4]: 7 сакавіка 1890 г.[5] на знак салідарнасці са студэнтамі Пятроўска-Разумоўскае акадэміі (дакладней: Пятроўскае сельскагаспадарчае акадэміі) студэнты Маскоўскага ўніверсітэта сабраліся на сходку, дзе былі аточаныя коннымі жандарамі і казакамі, а пасля арыштаваныя. Ядвігін Ш. ва *Успамінах* сцвярджаў, што ў той дзень было затрымана 412 студэнтаў Маскоўскага ўніверсітэта, а ўсяго ў тыя сакавіцкія дні ў Бутыркі прапіла каля 1500 (іншыя крыніцы падаюць, што 600 асобаў было пасаджана ў Бутырскую турму, а пасля рэпрэсавана[6]).

Менавіта там, у Бутырках, пасля зладжанага вязнямі канцэрту, на якім са сваімі нацыянальнымі песнямі і танцамі выступалі ўкраінцы, рускія, палякі, каўказцы, літоўцы і латышы, з ініцыятывы студэнта-юрыста W...iča, родам з-пад Слуцка, быў заснаваны “Pieršy Biełaruski Hurtok Moładzi ŭ Maskwie”, адной з галоўных задач якога было: “Jakim by to nia było sposabam – lehalnym, ci nia lehalnym – twaryć Biełaruskaje drukowanaje słowo”. На жаль, Ядвігін Ш. не падаў

---

[1] Х. Ільяшэвіч, *Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі): Жыцьцё і літэратурная творчасьць*, Вільня 1933, с. 13–14.

[2] Гл.: И. Цветков, *Из университета в острог* [в:] *Московский университет в воспоминаниях современников*, Москва 1956, с. 322.

[3] М. Чарнышэўскі (1828–1889) памёр у Саратаве 17/29 кастрычніка.

[4] Ва *Успамінах* Ядвігін Ш. датуе яго сакавіком 188... года.

[5] Летапіс Маскоўскага ўніверсітэта не згадвае пра гэтую падзею. Гл.: *Летопись Московского университета* [online], http://letopis.msu.ru/letopis/1890 [доступ: 19.03.2017].

[6] Гл.: Е. Толмачев, *Александр III и его время*, Москва 2007 [online], https://history.wiki reading.ru/234735 [доступ: 19.03.2017].

аніякіх дэталяў працы гуртка ў гэтым кірунку. Здавалася, дарэчным было б расказаць у дадзеным раздзеле *Успамінаў* пра “перакладчыцкую” дзейнасць гуртка. Аднак, магчыма, пераклад У. Гаршына з’явіўся пасля таго, як праз тры тыдні побыту ў Бутырках, большасць студэнтаў была вызваленая і толькі васемнаццаць (сярод іх – Ядвігін Ш.) пакінулі адбываць кару ў Бутырках. Трапіўшы ў адзіночную камеру, пісьменнік выканаў пераклад апавядання *Сыгналъ*. Праз нейкі час, “dziakujučy wialikaj, mocnaj pratekcii”[1], яго выпусцілі, а пераклад з дапамогаю сяброў “Pieršaha Biełaruskaha Hurtka Moładzi ŭ Maskwie” “прайшоў” у снежні 1890 г. цэнзуру і ў першым квартале 1891 г. быў надрукаваны. Як варыянт: тэкст перакладу Ядвігін Ш. перадаў (да сярэдзіны снежня 1890 г.) сябрам на волі, якія адрэдагавалі твор (адсюль магла ўзнікнуць думка пра калектыўную працу над перакладам) і выдалі яго дзеля падтрымання духу вязьня.

Застаецца невядома, хто са студэнтаў Маскоўскага ўніверсітэта ўваходзіў ў склад “Pieršaha Biełaruskaha Hurtka Moładzi ŭ Maskwie”. Уладзімір Ляхоўскі сцвярджае, што гурток узнік пад уплывам Марыяна Абрамовіча[2] і Напалеона Чарноцкага[3], але аніякіх аргументаў не падае[4]. Можна дапусціць, што і М. Абрамовіч, і Н. Чарноцкі былі сярод тых студэнтаў, якія заснавалі ў турме беларускі гурток. Тым больш, што і адзін, і другі бралі ўдзел у падрыхтоўцы нелегальных выданняў ды і пазней будуць актыўна гэтым займацца. Аднак незразумела, чаму Ядвігін Ш. не называе гэтых, вядомых у 1920 –я гг. людзей. З Н. Чарноцкім ён, увогуле, мог часта сустракацца: абодва вучыліся на адным факультэце ў Маскоўскім універсітэце, а пасля працавалі ў адным рэгіёне. Магчыма, у Ядвігіна Ш. былі нейкія асабістыя прычыны не падаваць праўдзівую гісторыю стварэння беларускага перакладу апавядання У. Гаршына *Сыгналъ*.

---

[1] Невядома, ці бацька пісьменніка ў 1890 г служыў у графа Тышкевіча, але, відавочна, даведаўшыся пра арышт сына, мусіў у першую чаргу звярнуцца да яго: з часоў паўстання 1863–1864 гг. беларуская шляхта добра ведала, што толькі заступніцтва высокапастаўленых і заможных асобаў можа адолець суровыя законы царскага суда.

[2] Марыян Абрамовіч (1871–1925) з 1888 г. вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце Маскоўскага ўніверсітэта, удзельнічаў у арганізацыі польскіх сацыялістычных гурткоў, быў арыштаваны (па некаторых звестках – 9.03.1890 г.) і сядзеў у Бутырках, магчыма нават, разам з Ядвігіным Ш. Пазней актыўна займаўся друкаваннем сацыялістычных кніг за мяжою і дастаўкаю іх на радзіму (у тым ліку і беларускамоўнае гутаркі *Dziaźka Anton*, 1892). У літаратуры падаецца факт, што трапіўшы на Наваградчыну, М. Абрамовіч вывучаў беларускую мову, аднак невядома, калі гэта было.

[3] Напалеон Чарноцкі (1866–1937) паходзіў са Случчыны (але, здаецца, гэта не быў той студэнт-юрыст W...іč, які падахвоціў калегаў да заставання беларускага гуртка). Яшчэ ў Слуцкай гімназіі, якую закончыў у 1887 г., браў удзел у працы таемных арганізацый. Разам з Антонам Ражавым і іншымі гімназістамі пераклалі на беларускую мову агітацыйную брашуру *Ojciec Szymon* і выдалі на гектографе пад тытулам *Dziaźka Anton* у 1885 г. (Другое выданне выйшла ў 1892 г.). Вучыўся на медыцынскім факультэце Маскоўскага ўніверсітэта, які закончыў у 1894 г. Удзельнічаў у студэнцкіх хваляваннях вясною 1890 г. Магчыма, быў зняволены ў Бутырках, а пасля высланы пад нагляд паліцыі ў бацькоўскі маёнтак Нача (цяпер Ляхавіцкі раён) на Случчыне. На пачатку XX ст. супрацоўнічаў з “Нашаю Нівою”, пераклаў для выдавецтва “Загляне сонца і ў наша ваконца” п’есы *Сватанне* А. Чэхава і *Пашыліся ў дурні* М. Крапіўніцкага (1910).

[4] У. Ляхоўскі, *Ад гоманаўцаў да гайсакоў: Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX – I-й палове XX ст. (да 1939г.)*, Беласток–Вільня 2012, с. 25.

Зрэшты, белетрыстычны характар тэксту, які пісаў Ядвігін Ш., відаць, і не патрабаваў уяўнення дэталяў даўняе "прыгоды". Хоць, усё ж, пісьменнік аднойчы і не стрымаўся, каб не пахваліцца, хто з вядомых асобаў належаў да беларускага гуртка: "Druhim siabram nowaha hurtka byŭ tak sama student juryst – T...ko, z Mahileŭščyny, jaki z časam staŭsia znamianitym adwakatam i čuć nie trapiŭ u predsiedacieli rasiejskaj hasudarstwiennaj Dumy"[1]. Крыптанім T...ko расшыфроўваецца без асаблівай цяжкасці: маецца на ўвазе Мікалай Цéсленка (1870–1942), адвакат, адзін з заснавальнікаў партыі кадэтаў[2]. На жаль, Ядвігін Ш. анічога не паведамляе пра дзейнасць М. Цéсленкі: а гэта мог быць адзін з тых, хто фінансаваў выданне кніжкі. Не паведамляе ён таксама пра дзейнасць гуртка пасля вызвалення ягоных сяброў з турмы.

Нясвысветленым застаецца і пытанне часу заканчэння Ядвігіным Ш. вучобы ў Маскве: у літаратуры прапануюцца тры версіі: а). Ядвігін Ш. быў выключаны за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях[3]; б). Пасля вызваленні з турмы Ядвігін Ш. не дамагаецца аднаўлення ва ўніверсітэце[4]; в). Завяршае навуку на фармацэўтыцы[5].

Апошняя версія, улічваючы тое, што ў родных мясцінах пісьменнік з'явіўся не раней, чым у 1892 г., бачыцца найбольш праўдападобнай. Асобнае пытанне: чаму Ядвігін Ш. у 1894 г. накіраваўся ў шлюбнае падарожжа ў Пецярбург, а не ў Маскву – горад сваіх студэнцкіх гадоў?[6].

Друкуецца паводле: *Сыгналъ, альбо разсказъ абъ томъ, якъ дабро перемагло зло у чалавѣка*, переложено, зъ малыми перамѣнами, зъ разсказа Всеволода Гаршина, Москва 1891 (31 старонка) з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгінала.

---

[1] Jadwihin Š., *Uspaminy*, Wilnia 1921, s. 52.

[2] Мікалай Цясленка нарадзіўся ў Віцебску, паходзіў з сям'і заможных землеўладальнікаў. Да 1905 г. займаўся адвакацкай практыкай, арганізоўваў юрыдычную дапамогу абвінавачаным па палітычным справам. Дэпутат 2-е і 3-я Дзяржаўнае Думы. Браў актыўны ўдзел у палітычный барацьбе, выступаў супраць самадзяржаўя. У 1918 г. выехаў на поўдзень Расіі, далучыўся да Белага руху А. Дзянікіна. З 1920 г. на эміграцыі ў Канстанцінопалі і Парыжы.

[3] Гл.: А. Лойка, *Гісторыя Беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд*, у 2 частках, ч. 2, Мінск 1989, с. 275; Л. Голубева, *Ядвігін Ш.* [у:] *Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя*, у чатырох тамах, т. 1: *1901–1920*, Мінск 2003, с. 87.

[4] Гл.: *Ядвігін Ш.* [online], https://be.wikipedia.org/wiki/ Ядвігін_Ш. [доступ 2.04.2017]; *Біяграфія Антона Лявіцкага – Ядвігіна Ш., напісаная яго дачкой Вандай Лявіцкай* [у: ] Ядвігін Ш., *Выбраныя творы*, Мінск 1976, с. 398.

[5] Х. Ільяшэвіч, *Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі): Жыцьцё і літэратурная творчасьць*, Вільня 1933, с. 15.

[6] На здымку (гл. раздзел *Ілюстрацыі*), які захавала сям'я прафесара, доктара тэхнічных навук загадчыка кафедры тэхналогіі шкла і керамікі Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта Івана Адамавіча Лявіцкага, сваяка пісьменніка, бачны лагатып пецярбургскай фотамайстэрні М. Ханжына і адрас: "С.-Петербургъ, 3-я Рождественск. № 26". На жаль, публікацыя новых выяўленых матэрыялаў, якія датычаць жыцця і творчасці Ядвігіна Ш. засталася незаўважанай гісторыкамі літаратуры. Гл.: Літаратурны клуб "Ветліца" [online], http://www.belstu.by/students/literaturnyj-klub-vetlica/prezentacyi-vecharyny-sustrechy.html [доступ 2.04.2017]; *Ядвігін Ш.* [online], https://be.wikipedia.org/wiki/ Ядвігін_Ш. [доступ 2.04.2017].

# Сыгналъ,

**альбо разсказъ абъ томъ,**
**якъ дабро перемагло зло у чалавѣка.**

переложено, зъ малыми перамѣнами,
зъ разсказа
Всеволода Гаршина.

Москва.
Тапографія А. Гатцука, Никитскій бульв., собств. д.
1891.

Дозволено цензурою. Москва, 19 декабря 1890 года.

# Сыгналъ,

**альбо разсказъ абъ томъ,**
**якъ дабро перемагло зло у чалавѣка.**

I.

Сёмка[1] служиў сторожемъ на чугунцы. Адъ яго будки до адной станціи было двананцаць, до другой дзесяць вёрстъ. Вёрсты чатыры адъ яго будки выбудовали лѣтась фабрику; зъ-за лѣсу яе высоки коминъ чарнѣў, а ближей, апрочъ сусѣднихъ будокъ, не было и хатъ.

Сёмка быў чалавѣкъ хворы и нядужи.

Дзевяць гадоў передъ гэтымъ быў ёнъ на вайнѣ[2]; служиў ёнъ дзеньщикомъ у афицера и цѣлы паходъ быў зъ нимъ. И галодны биваў ёнъ, и мёрзъ, и на слонцы пёкся, и перехадзиў ёнъ вёрстъ по сорокъ и пяцьдзесятъ ў дзень ў гарачиню и ў марозы; траплялося и падъ кулями быць ў битвѣ, але хвала Богу ни одная не зачепила.

Стаяў разъ поўкъ на першой линіи. Цѣлы тыдзень зъ турками перепалка была: лежиць наша линія, а церазъ далинку – турецкая, и адъ ранку до вечера стрѣляюць. И афицеръ Сёмки быў на линіи; ўсяки дзень три разы насиў яму Сёмка зъ поўковыхъ кухонь, зъ рову, гарачи самоваръ и абѣдъ. Идзе, бывало, зъ самоваромъ адкрытымъ мѣсцемъ; кули свищуць, у камени ляскаюць: страшно Сёмцы, плаче, а таки йдзе. Паны афицеры вельми яго хвалили: заўсёды у их была гарачая гарбата.

Вярнуўся ёнъ зъ пахода цѣлы, тольки у руках и у нагахъ нѣшто ламаць пачало. Не мало бѣды пришлося яму зъ той пары папрабаваць. Пришоў ёнъ да дому – бацька стары памёръ; сынокъ быў, чацьвёрты гадокъ мѣў, и гэты захварѣў и памёръ; асталися Сёмка зъ жонкаю ўдваихъ. Ня удалася имъ и гаспадарка, да и цяжко зъ апухшими руками и нагами поле араць. Нельга

[1] Герой У. Гаршына называўся *Семен Иванов* (тут *Иванов* не прозвішча, а імя па-бацьку).
[2] Маецца на ўвазе руска-турэцкая вайна 1877–1878 гг.

имъ было жиць у сваёмъ сялѣ; пашли яны на иншія мѣсцы счасця шукаць. Быў Сёмка зъ жонкаю и на Линіи[1], и ў Херсони, и ў Донщинѣ; нигдзѣ счасця не знайшли. Пашла жонка служиць, а Сёмка, як и пярвѣй, усё хадзиў.

Довялося яму разъ по машинѣ ѣхаць; на адной станціи бачиць начальникъ якъ-бы знаёмы. Глядзиць на яго Сёмка, и начальникъ ў яго ўглядаецься. Пазнали адзинъ другого. Гэта быў афицеръ поўка, ў каторомъ ёнъ служиў.

– „Ты, Сёмка?" каже ёнъ.

– „Такъ точно, ваше благародзіе, я самый и есць".

– „Ты якъ сюды папаў?"

Разсказаў яму Сёмка: такъ, каже, и такъ.

– „Куды-жъ ты цяперъ идзешъ?"

– „Не магу знаць, ваше благародзіе".

– „Якъ-же ты, дурень, ня можешъ знаць?"

– „Такъ точно, ваше благародзіе, дзѣля таго, што падацься нима куды. Работы якой, ваше благародзіе, шукаць треба".

Паглядзеў на яго начальникъ станціи, падумаў и каже:

– „Отъ што, братка, застанься ты пакуль на станціи. Ты, здаецься, жанаты? И|гдзѣ-жъ твая жонка?"

– „Такъ точно, ваше благародзіе, жанаты; жонка ў мѣсци у купца служиць".

– „Ну, дакъ пиши къ жонцы, кабъ пріѣжджала. Дармавы билетъ пастараюся. Тутъ у нас адна дарожная будка будзе свабодная; папрашу уже за цябе начальника".

– „Дзякую вельми, ваше благародзіе", каже Сёмка. Астаўся ёнъ на станции. Памагаў у начальника на кухни, дрова сѣкъ, дворъ, пляцформу мёў. Церазъ дзьвѣ нядзѣли пріѣхала и жонка, и паѣхаў Сёмка у цялѣжцы у сваю будку. Будка новая, цёплая; дроў кольки хочешъ, агародъ невялички адъ даўнѣйшаго сторожа астаўся, и зямли зъ моргъ зъ бакоў насыпу было.

Абрадоваўся Сёмка: стаў думаць, якъ ёнъ сваю гаспадарку развядзе, карову, каня купиць. Дали яму ўвесь патребны припасъ: флагъ зялёны, флагъ чирвоны, лятарни, трубку, молотъ, ключъ шрубы падкручваць, ломъ, лапату, мяцёлакъ; дали и дзьвѣ ксёнжачки зъ правилами и расписаніемъ, ў якую гадзину машина йдзе. Спачатку нашъ Сёмка и начей не спаў, усё расписаніе читаў: машина еще церазъ дзьвѣ гадзины будзе исци, а ёнъ абойдзе сваю часць, сядзе на лавочцы кале будки и ўсё глядзиць и слухае, чи не трясуцься рельсы, чи ня шумиць машина. Научиўся уже ёнъ на памяць и правила: хоць и кепска читаў, по складамъ, а ўсё|жъ выучиўся.

Было гэта ўлѣтку; работа не цяжкая; снѣгу зъ насыпу адгребаць ня треба, да и машина на гэтой дарози не часто ходзиць. Абойдзе Сёмка сваю версту два разы ў дзень; гдзѣ-не-гдзѣ шрубки папрабуе падкруциць, пясочекъ падраўняе, вадзяныя трубы[2] агледзиць и йдзе да дому, гаспадарку сваю

[1] Маецца на ўвазе, г. зв. Каўказская Лінія – сістэма ўмацаванняў расійскіх войскаў на Каўказе.
[2] Трубы, по которымъ збѣгае вада зъ насыпу. (*Заўвага перакладчыка*).

упыняць. У гаспадарцы тольки яго замятка была: што ни задумае зрабиць, абъ усёмъ дарожнаго майстра треба прасиць, а той начальнику дакладвае; пакуль прашеніе вернецься, – пара́ и пяройдзе. Пачали Сёмка зъ жонкаю навэтъ тужить.

---

II.

Прайшло мѣсяцоў два; пачаў Сёмка зъ сусѣдзями сторожами знаёмицься. Адзинъ быў стары-старенькі; ўсё на яго мѣсце новаго назначиць прибиралися; ледзьве зъ будки вылазиў. Жонка за яго и ў абходъ хадзила. Други будочникъ, што ближей къ станціи, быў чалавѣкъ малады еще, але худы и жилясты. Спаткалися яны зъ Сёмкаю перши разъ на насыпу, пасяредзини, памижъ будокъ ў абходзи. Сёмка шапку зняў, пакланиўся.

– „Добры вечаръ, каже, сусѣдзе!"

Сусѣдъ глянуў на яго зъ боку.

– „Добры вечаръ," каже.

Адвярнуўся и пашоў далѣй.

Спаткалися потымъ ихъ бабы. Привиталася Семёнова Тацяна[1] зъ сусѣдкой; тая гэтакъ сама много не гаварила, пашла. Угледзиў разъ яе Семёнъ.

– „Што гэта, каже, у цябе, маладзица, мужъ не гаварливы?"

Памаўчала баба, потымъ каже:

– „А абъ чомъ яму зъ табою гавариць? У каждаго сваё... Идзи сабѣ зъ Богомъ".

Прайшоў яще зъ мѣсяцъ; пазнаёмилися сусѣдзи.

Зыдуцься Сёмка зъ Василёмъ[2], сусѣднимъ сторожемъ, на насыпу, сядуць на берази, люльки закуряць и гаворяць абъ сваёмъ жицьи. Василь усё большъ маўчаў, а Сёмка и абъ сялѣ сваёмъ и абъ паходзи разсказываў.

– „Не мало, каже, я бѣды на сваёмъ вѣку приняў, а вѣку майго ня Богъ вѣдае кольки. Не даў Богъ счасця. Уже каму якую долю Богъ дасць, такъ яно и бывае. Гэтакъ яно, братко Василь".

А Василь люльку выбиў абъ рельсъ, ўстаў и каже:

– „Ня доля намъ зъ табою вѣкъ заѣдае, а людзи. Нима на свѣци звѣра, гэтакаго нягоднаго и сярдзитаго, якъ чалавѣкъ. – Воўкъ воўка не ѣсць, а чалавѣкъ чалавѣка живого заѣдае".

– „Ну, братка, и воўкъ воўка ѣсць, – гэтаго ты не кажи".

– „Зъ гутарки гэтакъ пришлося, отъ и сказаў. А ўсё-жъ нима стваренья горшаго адъ чалавѣка. Кабъ не чалавѣча злосць да зайздросць, – жиць-бы льга было. А то ўсяки адъ цябе кусокъ атабраць стараецься, да злопаць".

Задумаўся Семёнъ.

---

[1] Гераіня У. Гаршына называлася *Арина*. Перакладчык жонку Сямёна назваў тут *Тацянаю*, а ніжэй будзе зваць *Кацярынаю*.

[2] Герой У. Гаршына называўся *Василий Степаныч Спиридов*, а перакладчык "перахрысціў" яго ў *Васіля Гушчу*.

– „Ня вѣдаю, каже, братка. Може яно и гэтакъ, а кали и гэтакъ, то уже есць на тое адъ Бога такое палаженье”.

– „А кали гэтакъ, каже Василь, то нима чаго намъ зъ табою и гавариць. – Кали ўсякую бриду на Бога зваливаць, а самому сядзѣць да цярпѣць, – то гэта треба, братка, не чалавѣкамъ быць, а скацинаю. Отъ табѣ и ўвесь мой сказъ”.

Павярнуўся и пашоў, не пажагнаўшися.

Устаў и Сёмка.

– „Сусѣдзе! кричиць, за што-жъ ты клянешся?”

Не абярнуўся сусѣдъ, пашоў. Доўга глядзѣў на яго Сёмка, пакуль у далинцы на павароци стало Василя не видаць.

Вярнуўся ёнъ да дому и каже жонцы:

– „Ну, Кацярина, и сусѣдъ же у насъ: звѣръ, не чалавѣкъ”.

Але патомъ не пагнѣвалися яны; спаткалися йзноў и, якъ и пярвѣй, пачали гутарку, и ўсё абъ томъ самомъ.

– „Эхъ, братка, кабъ ня людзи... не сядзѣли-бъ мы зъ табою у гэтыхъ будкахъ”, казаў Василь.

– „Што-жъ ў будцы... ништо, и ў будцы жиць ильга”...

– „Жиць ильга, жиць ильга... Эхъ ты! многа жиў, мало нажиў; многа глядзѣў, мало бачиў. Бѣдному чалавѣку, чи тамъ ў будцы, чи гдзѣ, якое тамъ жицьё: ядуць цябе живадзёры гэтые, ўвесь сокъ выцыскаюць, а якъ састарѣешъ, выкинуць якъ лупину якую свиньямъ на кормъ. Ты якую пенсію бярешъ?”

– „Да не вяликую, Василь; двананцаць рублёў.

– „А я тринанцаць зъ палавинаю. Скажи ты мнѣ, чаму гэта такъ? По правилу адъ праўлені усимъ адно назначено: пятнанцаць рублёў у мѣсяцъ[1], дрова, газа... Хто-жъ гэта намъ съ табою двананцаць, альбо тамъ тринанцаць съ палавинаю назначиў, скажи ты мнѣ? А еще гаворишь, жиць можно! Ты раздумай: не абъ паўтары тамъ, альбо три рубли гутарка; хоць бы и ўсѣ пятнанцаць плацили. Быў я на станціи прошлаго мѣсяца. Даректоръ дароги (важная асоба при чугунцы, инженеръ) перeѣжджаў, отъ яго бачиў я; меў я гэтакую чесць. Ѣдзе сабѣ у асобномъ вагонѣ; вышоў на пляцформу, паходжае... Да не астануся я тутъ надоўга; пайду, куды вочи глядзяць”.

– „Куды-жъ ты пойдзеш, Василь? Церазъ хлѣбъ хлѣба не шукаюць. Тутъ у цябе и хата, и цепло и зямли крыху есць. Жонка у цябе работница”...

– „Эхъ, паглядзѣў-бы ты на зямлю маю. Ни галинки на ёй нима. Пасадзиў быў ўвясною капусты, да и то дарожны майстеръ пріѣхаў”. „Гэта, каже, што такое? Чаму безъ данашенья? Дзѣля чаго безъ пазваленья? Выкапаць, кабъ и духу яе ня было”. Пьяны быў. Други разъ и ничога-бъ не сказаў, а тутъ убилося: „три рубли штрафу”.

[1] Плата здаецься и вяликая, але при чугунцы треба и у дзень рабиць, и у ночи не спаць; там нима ни свята, ни будного дня; машина не глядзиць, хоць на перши дзень Вяликадня йдзе и треба быць гатоваму; апрочъ гэтаго треба жиць на сваёмъ хлѣби. (*Заўвага перакладчыка*).

Памаўчаў Василь, пацягнуў люльки и каже цихо:

– „Кабъ еще крыху, прибиў-бы я яго да поўсмерци".

– „Ну, сусѣдзе, и гарачи ты, я табѣ скажу".

– „Не гарачи я, а папраўдзи кажу и думаю. Пастой, приjджецься ёнъ у мяне, чирвоная морда! Къ самому начальнику линіи на жалобу пайду. Паглядзимъ!"

И папраўдзи паскаржиўся.

---

III.

Переѣжджаў разъ начальникъ дарогу аглядаць.

Церазъ три дни потымъ паны важные зъ Пецербурга мѣлися па дарози переѣхаць: ревизію, бачъ рабили, аглядали, чи ўсё ў парадку, отъ передъ ихъ переѣздомъ ўсё треба было ў парадокъ привесци. Пяску падсыпали, падраўновали, шпалы переглядзѣли, шрубки падкруцили, слупы падмалявали, на переѣздахъ вялѣли жоўтаго пясочку падсыпаць. Сусѣдка-старажиха и старого свайго выправила траву чисциць. Працаваў Сёмка цѣлы тыдзень; ўсё ў парадокъ привёў и на сабѣ халатъ паправиў, вычисциў, а бляху мѣдзяную цеглаю такъ атцёръ, што ажъ блясцѣла на слонцы.

Рабиў и Василь.

Пріѣхаў начальникъ дыстанціи на дразыни[1]; чатыры рабочихъ корбу круцяць; колцы шумяць, шесцерня гудзе; ляциць цялѣжка вёрстъ по двадцаць ў гадзину, тольки калёса выюць.

Падляцѣў до Семёновой будки; падскочиў Сёмка, адрапартаваў по-салдатски. Усё ў парадку знайшлося.

– „Даўно ты тут?" пытае начальникъ.

– „Адъ другого мая, ваше благародзіе".

– „Добра. А ў сто шесцьдзесятомъ нумери хто"?

Дарожны майстеръ, што разамъ зъ имъ ѣхаў, каже:

– „Василь Гуща".

– „Гуща, Гуща... а, гэта той самы, што вы мѣли лѣтась на увази?"

– „Ёнъ самы гэта и есць".

– „Ну, добра, паглядзимъ и у Василя Гущи. Валяй!"

Узялися работники за корбу; пашла цялѣжка у ходъ. Глядзиць Сёмка на ихъ и думае: „Ну, будзе у ихъ зъ сусѣдомъ гульба".

Гадзинъ церазъ дзьвѣ пашоў ёнъ ў абходъ. Бачиць, зъ далинки по насыпу йдзе нѣхто, на галавѣ якъ-бы нѣшто бѣлое нясе. Пачаў Семёнъ приглядацься; бачиць – Василь: у руцѣ палка, за плечами узелокъ малы, тваръ хусткаю абвязана.

– „Сусѣдзе, куды гэта ты?" кричиць Сёмка.

Падышоў Василь ближей; твару на ёмъ нима.

Бѣлы, якъ хуста, вочи дзикія, пачаў гавариць, – голосу нима.

---

[1] Цялѣжка на чатырохъ колахъ, каторая коцицься по рельсахъ; работники круцяць корбу, и гэтакъ ѣдуць. (*Заўвага перакладчыка*).

– „У мѣсто, каже, ў Маскву... ў праўленіе”.
– „У праўленіе... отъ яно што! Скаржицься йдзешь? Пакинь Василь, забудзь”...
– „Не, братка, не забуду. Позна уже забываць. Бачишъ, ёнъ мяне ў тваръ выцяў, до крови разбиў. Пакуль жиць буду, не забуду, не пакину гэтакъ”.
Узяў яго за руку Сёмка.
– „Пакинь, Василь; праўду табѣ кажу: лѣпшъ ня зробишъ.”
– „Якое тамъ лѣпшъ! Я и самъ вѣдаю гэта, што лѣпш не зраблю. Праўду ты казаў, што такая наша доля. Сабѣ лѣпшъ не зраблю, але за праўду треба, братка, стаяць”.
– „Да ты скажи, адъ чаго ўсё пачалося?”
– „Да адъ чаго-жъ... аглядзѣў ўсё, зъ дразыны сышоў, ў будку глянуу. Я уже вѣдаў, што будзе крѣпка пытаць, ўсё якъ мае быць пригатаваў. Ѣхаць уже хацѣў, а я зъ жалобаю. Ёнъ заразъ у крикъ: „Тутъ, каже, важная ревизія, а ты абъ агароздѣ жалабу падаваць! Тутъ, каже, вяликія фигуры, а ты зъ капустаю лѣзешъ!” Я не уцярпѣў, сказаў слово, ня то, кабъ уже вельми што, але яму ня сподобалося. Якъ дасць ёнъ мнѣ!.. а я стаю сабѣ, якъ-бы яно гэтакъ и треба. Паѣхали яны, апомниўся я, абмыў сабѣ тваръ и пашоў.”
– „А якъ-же будка?”
– „Жонка асталася. Не пераглѣдзиць; да чортъ зъ ими, и зъ дарогаю ихнею!”
Устаў Василь; сабраўся.
– „Бывай здароу, Сёмка. Ня вѣдаю, чи знайду сабѣ управу.”
– „Няўже-жъ ты пѣхотаю пойдзеш?”
– „На станціи на таварны поѣздъ папрашуся; заўтра ў Масквѣ буду.”
Пажагналися сусѣдзи; пашоў Василь, и доўга яго не было. Жонка за яго и рабила, дзень и ночь не спала, саўсим замарилася, чакаючи мужа.
На трейци дзень пріѣхала ревизія: машина, вагонъ багажны, и два вагоны першой клясы, а Василя ўсё нима. На чацьвёрты дзень угледзиў Сёмка яго жонку: тваръ ажъ апухла адъ слёзъ, вочи чирвоныя.
– „Вярнуўся мужъ?” пытае.
Махнула баба рукою, ничого не атказала и пашла ў свой бокъ.

---

IV.

Научиўся Сёмка нѣкали еще хлопцемъ зъ калины[1] дудки рабиць. Выпалиць дротамъ у палачцы сяредзину, дзирки гдзѣ треба прарѣже, на канцы пищикъ зробиць, и такъ важно наладзиць, што хоць што хочешъ грай. Рабиў ёнъ, якъ меў часъ, дудокъ много и церазъ знаёмаго кандуктора[2] ў мѣсца на рынокъ пасылаў. Давали яму тамъ за штуку по чатыры гроши.

На трейци дзень по ревизіи пакинуў ёнъ жонку ў хаци вечерни поѣздъ спатыкаць, што йдзе а шостой гадзине, а самъ ўзяў ножикъ и пашоў ў лѣсъ,

---

[1] У тэксце У. Гаршына: *з тальника* (гатунак вярбы).
[2] Служащи при поѣздзи. (*Заўвага перакладчыка*).

палокъ сабѣ нарѣзаць; дайшоў ёнъ да канца сваёй часци; у гэтомъ мѣсцы дарога разомъ заварочвалася. Спусциўся ёнъ зъ насыпу и пашоў лѣсомъ падъ гору. За поўверсты было вяликое балото, а кале яго найлѣпшіе кусты для яго дудокъ расли. Нарѣзаў ёнъ палокъ цѣлы пукъ и йдзе да дому.

Идзе ёнъ лѣсомъ; слонце уже зайходзило; усюды цихо, якъ у мёртвомъ царствѣ; чуе тольки, як птушки чиликаюць, да сухи ломъ падъ нагами трещиць. Падышоў Сёмка еще трохи; скоро и чугунка, и здаецься яму нѣшто ёнъ еще чуе, нибы нѣгдзѣ жалѣзо абъ жалѣзо звяниць. Пашоў Сёмка скарѣй. Папраўки тагды ў ихнемъ участку не было. „Штобъ гэто значило?" думае ёнъ.

Выходзиць ёнъ на край лѣса, перадъ нимъ чугунка падымаецься; наверси, на насыпу, чалавѣкъ нѣки присѣўши нѣшто робиць. Пачаў падымацься къ яму Сёмка цихо; думаў шрубы пришоў хто красци. Бачиць и чалавѣкъ ўстаў; ў руцѣ ў яго жалѣзны ломъ; падлажиў ёнъ ломъ падъ рельсъ, да якъ зверне яго ў бокъ. –

Пацямнѣло у Сёмки ў вочахъ; крикнуць хоче – ня може. Бачиць ёнъ Василя, бяжиць на верхъ бягомъ, а той зъ ломомъ на други бокъ насыпу павалиўся.

– „Василь, галубчик, вярнися! Дай ломъ, паложимъ якъ треба рельсъ; нихто и не давѣдаецься. Вярнися, не бяри на сваю душу грѣхъ!"

Не вярнуўся Василь; ў лѣсъ пашоў.

Стаиць Сёмка надъ зверненымъ рельсомъ; палки свае упусциў. Поѣздъ йдзе не таварны, – пассажирски[1]. И не затрымаешъ яго ничимъ – флага нима. Рельса на мѣсце не паложишъ: голыми руками гваздоў не забьешъ. Бѣгчи треба, канечне бѣгчи ў будку за якимъ-небудзь припасомъ. Господзи, памажи!

Бяжиць Сёмка къ сваёй будцы – утамиўся. Бяжиць, – отъ, отъ павалиться. Выбѣгъ зъ лѣсу, – до будки сажонъ сто ня большъ асталося. Чуе, – на фабрицы гудокъ загудзѣў, – шостая гадзина; а церазъ дзьвѣ минуты поѣздъ пяройдзе. Боже! змилуйся надъ невинными душами! Гэтакъ и бачиць передъ сабою Сёмка: хвациць машина лѣвымъ коламъ абъ рельсавы обрубъ, затрясецься, пахилиться, пачне шпалы рваць и на щепочки ламаць, а тутъ криво, паваротка, да насыпъ, да валицься-то ўнизъ адзинанцаць сажонъ, а тамъ ў трейцёй класи народу поўно, дзѣци малыя. Сѣдзяць яны цяперъ ўсѣ, ни абъ чомъ не думаюць. Господзи! научи Ты мянѣ!.. Не! дабѣгчи да будки и назадъ вярнуцься не паспѣешъ...

Не дабѣгъ Сёмка да будки, вярнуўся назадъ; пабѣгъ скарѣй першаго. Бяжиць, якъ безъ памяци; самъ ня вѣдае, што еще будзе. Дабѣгъ до адверненаго рельса: палки яго ў кучи лежаць. Нагнуўся ёнъ, ухапиў адну, самъ не разумѣючы на што; далѣй пабѣгъ. Здаецься яму, што уже машина йдзе. Чуе свистокъ далёки, чуе – рельсы роўно и цихо пачали трясцися. Бѣгчи далѣй ня може, силъ не стае; стаў ёнъ сажонъ на сто адъ страшнаго мѣсца: тутъ яму якъ свѣтомъ голову асвяцило.

[1] У таварномъ поѣздѣ возяць усякія рѣчи и тавары; у пассажирскомъ ѣздзяць людзи. (*Заўвага перакладчыка*).

Зняў ёнъ шапку, выняў зъ яе перкалёвую хустку; выняў ножъ зъ-за халявы, – перехрисциўся:

– „Господзи, благослави!” Выцяў сябе нажомъ ў лѣвую руку выжей локця; пырснула кроў, палилася гарачая; памачиў ёнъ ў яе сваю хустку, расправиў, расцягнуў, навязаў на палку и выставиў свой чирвоны флагъ.

Стаиць Сёмка, флагомъ сваимъ размахвае, а поѣздъ уже видзёнъ. Ня бачиць яго машинистъ; падыдзе близко машина, а на сто саженяхъ не затрымаць цяжкаго поѣзда!

А кроў ўсё йдзе и йдзе. Прициснуў Сёмка рану къ боку, хоче зациснуць яе, але не сцихае кроў; мабыць вельми глыбоко параниў ёнъ руку.

Закружилося у яго ў галавѣ; ў вочахъ чорныя мухи залятали; потымъ и саўсимъ пацямнѣло; ў вушахъ нибы ў дзваны дзвоняць. Ня бачиць ёнъ поѣзда и ня чуе шума: адна ў яго думка ў галавѣ: не устаю, упаду, упущу флагъ; пяройдзе поѣздъ церазъ мяне...

Боже! памажи, пашли на змѣну!..

И стало цёмно ў вочахъ яго, и пусто ў души яго, и выпусциў ёнъ флагъ...

Але ня упаў кровяны знакъ на землю... нѣчья рука падхвацила яго и падняла настрѣчу падыходзиўшему поѣзду. Машинистъ угледзиў яго, затрымаў машину. Поѣздъ стаў.

Выскачили зъ вагоноў людзи, збилися ў кучу.

Бачаць: ляжиць чалавѣкъ ўвесь у крови, безъ памяци; други кале яго стаиць зъ кровяною анучкою на галини. – Гэта быў Василь.

Абвёў ёнъ ўсихъ вочима, апусциў голову: –

– „Вяжице мяне, каже: я рельсъ звярнуў”...

---

# Водгук на выхад у свет кніжкі *Сыгналъ*

Дадзеная нататка з газеты “Минский листокъ” захавалася сярод матэрыялаў архіву А. Ельскага з ягонымі пазнакамі чырвоным і сінім алоўкамі. Асобныя фрагменты нататкі нагадваюць звароты самога А. Ельскага. Можа, нават склаціся ўражанне, што якраз ён і напісаў яе. Хоць гэтаму і пярэчыць логіка: навошта аўтару падкрэсліваць уласнае, няхай сабе і найбольш важнае ў нататцы?[1]

Характэрна, што аўтар нататкі даведаўся пра з’яўленне *Сыгналу* яшчэ да таго часу, пакуль брашурка пачала распаўсюджвацца. Магчыма, ён ведаў тых, хто рыхтаваў гэтае выданне[2]: перадусім, пра выдаўца гаворыцца ў множным ліку. Тут і здзіўляцца асабліва няма чаго: шэраг студэнтаў, якія ўваходзілі ў “Pieršy Biełaruski Hurtok Moładzi ŭ Maskwie” паходзілі з Мінска. Шкада толькі, што ў мемуарнай літаратуры амаль не захавалася згадак, пра тое, як у грамадстве было ўспрынята з’яўленне першае легальнае беларускамоўнае кніжкі. Але не выклікае сумнення, што *Сыгнал*ъ прыцягнуў увагу чытачоў. Пра гэта можа сведчыць восокая ацэнка твора, дадзеная Э. Вайніловічам, які праз пяць гароў пасля выхаду ў свет перакладу нават раіць А. Ельскаму браць за ўзор падобную літаратуру (гл. адпаведны раздзел у нашым выданні). Пра гэта можа сведчыць таксама і ліст Б. Эпімаха-Шыпілы ад 6 жніўня 1891 г. да маскоўскага бібліёграфа і калекцыянера Паўла Шыбанава (1864–1935) з просьбай выслаць яму ў Пецярбург тры асобнікі кнігі *Сыгнал*ъ у перакладзе на беларускую мову: “Милостивый государь! Приложив при сем почтовую марку 14-коп. достоинства, покорнейше прошу Вас прислать мне 3 экз. книжки, выпущенной в этом году под заглавием *Сыгнал, або рассказ аб тым, як дабро перамагло зло у чалавека*, рассказ Гаршина, переведенный с некаторыми изменениями на *белорусское наречие* и напечатанный в типографии Гатцука, стр. 16, 1891 г., цена 3 коп. Здесь в Петербурге я нигде ее не могу найти, и писал в типографию Гатцука с приложением марок и просьбой выслать мне, но последняя, вероятно в следствие своей неаккуратности, не удостоила меня никаким ответом. Теперь обращаюсь к Вам, милостивый Государь, в полной уверенности, что Вы исполните мою просьбу, отыщете в Москве эту книжечку и пришлете мне по

[1] Асобныя супрацоўнікі і аўтары газеты (А. Слупскі, Я. Лучына, М. Доўнар-Запольскі і інш.) з прыхільным стаўленнем да “нашей бѣдной, почти не существующей бѣлорусской литературы”, маючы пэўныя дачыненні з Масквою, маглі напісаць дадзеную нататку.

[2] Звернем таксама ўвагу на тое, што У. Гаршын пазіраваў для карціны І. Рэпіна *Не чакалі* (1884–1888), на якой адлюстравана вяртанне рэвалюцыянера-нарадавольца з ссылкі. Ці не быў гэты факт для Ядвігіна Ш. і ягоных сяброў-вязняў асноўнаю прычынаю выбару твора для перакладу і выдання?

следующему адресу: *В Санкт-Петербург. По Забалканскому проспекту, дом № 4/1, кв. 18. Брониславу Игнатовичу Эпимаху-Шиппило, кандидату Императорского Санкт-Петербургского университета*. Книжечка эта пустячная, в Москве вероятно встретится на каждом шагу, но здесь, в Петербурге, ее совсем нет; меня она интересует со стороны наречия, на котором она напечатана, т. е. белорусского. Если Вам в следствие каких-либо причин нельзя будут прислать мне ее, то надеюсь, что Вы не оставите меня без ответа. С совершеннейшим почтением Бронислав Эпимах-Шыппило, кандидат и помощник библиотекаря Университета”[1].

З’яўленне беларускай кніжкі вітаў не толькі аўтар “Минскаго листка”. У наступным годзе часопіс “Славянское обозрѣніе”(рэдактар – Мікалай Янчук) таксама зверне на яе ўвагу: “Что касается изданій на бѣлорусскомъ поднарѣчіи, то единственная, кажется, книжка, вышедшая въ прошломъ году на этомъ поднарѣчіи, представляетъ переводъ повѣсти Гаршина *Сыгналъ, альбо разсказъ о томъ, якъ добро перемагло зло у чаловѣка* (М. 1891). Выборъ перевода и самый переводъ нельзя не признать вполнѣ удачнымъ”[2].

Друкуецца ў перакладзе паводле: *Библіографическая замѣтка,* “Минский листокъ” 1891, № 29 (9 апр.).

## Библіографическая замѣтка.

*Сыгналъ, альбо разсказъ абъ томъ, якъ дабро перемагло зло у чалавѣка. (Переложено, зъ малыми перемѣнами съ разсказа Всеволода Гаршина).* Москва, 1891. 16, стр. 31. Ц. 3 коп.

З асаблівым задавальненнем адзначаем вельмі цікавы факт у нашай беднай (якое амаль няма) беларускай літаратуры. У Маскве толькі што выйшла на беларускай мове кніжачка, загаловак якое пададзены вышэй. Факт надзвычай прыемны, які выклікае ў нас шчырае жаданне, каб ён не застаўся адзінкавым, а выклікаў бы перайманне. На першы погляд у кожнага, хто больш або менш ведае стан кніжнае вытворчасці ў Маскве, можа з’явіцца сумненне, ці трэба тут сапраўды радавацца, што Масква робіць пачынанне ў гэтай справе. Мы ведаем, што маскоўскія выдаўцы з Нікольскае вуліцы[3] завальваюць кніжныя кірмашы living рознай бязвартаснай і проста шкоднай непатрэбшчынай, якая прызначаецца для народнага чытання. Гэтая непатрэбшчына старанна распаўсюджваецца з дапамогаю дробных гандляроў і афеняў[4] далёка на правінцыю і, апрача іншага ўплыву, што паралізуе, адразу

[1] Цыт. па: А. Каўка, *Прафесар беларускага штаба*, “Скарыніч: Літаратурна-навуковы гадавік”, Мінск 1991, с. 142–143.

[2] Арк. Лин–ко, *Обзоръ сочиненій на малорусскомъ нарѣчіи*, “Славянское обозрѣніе” 1892, томъ первый, апрель, с. 201.

[3] Вуліца Нікольская была цэнтрам кнігагандлю ў Маскве: там месцілася некалькі дзесяткаў кніжных лавак. Часта ўладальнік лаўкі быў і выдаўцом: замаўляў у друкарні папулярнае выданне “для народа”.

[4] Вандроўны гандляр галантарэяю і таннымі кніжкамі (звычайна, з сялян Уладзімірскай губерні; іншыя называліся карабейнікамі).

ставіць пытанне народнага чытання на падманны шлях. Вось чаму чытач можа мець падазрэнне, ці не з'яўляецца і названае апавяданне справаю спекуляцыі і нажывы маскоўскіх гандляроў, падобна як шэраг падробных маларасійскіх народных кніжачак з самавольна запазычанымі назвамі (*Наталка Палтаўка* і г. д.), якія з'явіліся таксама ў Маскве ў апошні час, калі маларосы з іх тэатрам сталі моднымі. Але ў дадзеным выпадку беларускае выданне, відавочна, з'явілася зусім па іншай прычыне, як сведчыць пра гэта ўжо адзін яго выгляд, а таксама і тое, што выдавец не палічыў патрэбным ставіць сваё прозвішча (Печатано въ типогр. Гатцука[1]). Нарэшце, лепшым доказам гэтага служыць мова апавядання – чыста беларуская, якая паказвае, што выданне прайшло праз рукі людзей, якія ведаюць сваю справу і сур'ёзна ставяцца да таго, што робяць. Бясспрэчна, кіравала тут не меркантыльная мэта: на прыбытак ад такога выдання немагчыма было разлічваць, бо ў Маскве і навакольных гарадах яно не можа мець аніякага ходу. На распаўсюджванне можна было разлічваць выключна ў Заходнім краі і менавіта сярод беларускага люду. Але тут яшчэ не хутка настане час, калі кніжка зробіцца істотнаю патрэбаю селяніна, калі ён будзе шукаць адпачынку і забавы не ў шынках, а ў прыемным і карысным чытанні. Жаданне даць першы штуршок у гэтым кірунку – вось, відаць, тая высакародная мэта, якая кіравала невядомымі выдаўцамі. Даць здаровае і займальнае чытанне народу ў зразумелай і даступнай для яго форме – гэта павінна быць адной з галоўных задач адукаваных людзей, якія шануюць народнае развіццё і маральнасць. З гэтага пункту гледжання мы ад душы вітаем новае беларускае выданне, якое задавальняе ўсім патрабаванням мэтазгоднасці, зразумеласці і даступнасці. Пажадаем жа яму, каб хутчэй распаўсюджвалася сярод беларусаў, а панам выдаўцам выкажам нашу шчырую падзяку з пажаданнем не спыняць пачатую імі справу, якая прынясе непасрэдную ды істотную карысць народу.

[1] Аляксей Гатцук (1832–1891), публіцыст і выдавец "Крестнаго календаря" і "Газеты А. Гатцука". Цікава, што друкарню А. Гатцука ўлады зачынілі за год да яго смерці (памёр 23 кастрычніка 1891 г.), а г. зн. *Сыгналъ*, калі выходныя дадзеныя адпавядаюць сапраўднасці, быў адной з апошніх кніг, якія выдала друкарня.

# *Успаміны*

Упершыню *Uspaminy* друкаваліся ў 1921 г. у газеце "Jednaść" (№ 6, 12 чэрв.; № 7, 19 чэрв.; № 8, 26 чэрв.; № 9, 3 ліп.; № 10, 10 ліп.; № 11, 17 ліп.; № 12, 24 ліп.). Газета пачала выходзіць 6 мая 1921 г. у Вільні, якая з кастрычніка 1920 г. з'яўлялася сталіцаю Сярэдняе Літвы. Заснаваная створанай 24 красавіка 1921 г. арганізацыяй "Krajowaja Suwiaź", на чале якое стаяў Павел Алексюк (1892 – ?), вядомы беларускі дзеяч паланафільскай арыентацыі, а фармальным кіраўніком быў Вацлаў Пупка (1879 – пасля 1925). Рэдагаваў газету Васіль Шышкоў[1].

*Uspaminy*, відавочна, напісаныя падчас лячэння ў Закапанэ. Вярнуўшыся з Татраў у Вільню, Ядвігін Ш. пачаў супрацоўнічаць з газетаю "Jednaść" не таму, што з'яўляўся прыхільнікам ейнага палітычнага курсу. Хутчэй за ўсё тут адграла галоўную ролю тое, што ў "Krajowaj Suwiazi" былі мінскія знаёмыя пісьменніка П. Алексюк і В. Пупка, а таксама той факт, што газета плаціла ганарары. Бо, як напісаў у некралозе Язэп Піліпаў, "нават паміраючы, ты шкадаваў толькі двух рэчаў: што не|даждаўся ўбачыць Беларусь шчасьліваю і роўнаю з другімі суседнімі народамі[2] і што ня|можаш пражыць яшчэ хоць два тыдні, каб напісаць сваю апошнюю рэч, каб сказаць сваё апошняе слова"[3].

Магчыма, Ядвігін Ш., пішучы свой твор, меў мэту ў навэлістычнай форме расказаць пра найбольш значныя падзеі свайго жыцця. *Uspaminy* прысвечаныя аднаму толькі моманту студэнцкага жыцця пісьменніка – арышту і адбыванню кары ў Бутырках. *Minułaje* – найбольш цікавым эпізодам студэнцкага жыцця ў Маскве.

*Uspaminy* ў 1976 г. уключаныя ў томік *Выбраных твораў* Ядвігіна Ш.[4], адкуль яшчэ раз передрукаоваліся ў выданні 2006 г.[5].

Друкуецца паводле: Jadwihin Š., *Uspaminy*, wydańnie Krajowaj Suwiazi, Wilnia 1921 h., drukarnia „Druk", Subocz 2 (63 старонкі) з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгінала.

---

[1] Ніякіх звестах пра рэдактара выявіць не ўдалося. Пэўна, гэта адно ягоны цёзка Васіль Фёдаравіч Шышкоў працаваў у 1937–1938 гадах наркамам земляробства БССР, а 12 снежня 1937 г. быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР 1-га скліканьня.

[2] 20 лютага, за чатыры дні да смерці Ядвігіна Ш., Віленскі Сойм, скліканы дэкрэтам генерала Л. Жалігоўскага, прыняў пастанову пра Віленскую Зямлю як непадзельную частку Польскай Рэчы Паспалітай. Ведаў ён пра гэта, як сведчыць Я. Піліпаў (сапр. Язэп Нялепка, каля 1879 – пасля 1922, публіцыст і пісьменнік), хоць марыў пра аўтаномію ды мала спадзяваўся, што так будзе. Гл.: Я. Піліпаў, *Брат паміраe: Ахвярую Ядвігіну Ш.*, "Родная страха" 1922, № 2 (7 сак.).

[3] Язэп П., *Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.). † 24 лютага 1922 г.*, "Родная страха" 1922, № 2 (7 сак.).

[4] Ядвігін Ш., *Выбраныя творы*, уклад., прадм. і камент. І. Чыгрына, Мінск 1976, с. 253–296.

[5] Ядвігін Ш., *Выбраныя творы*, Мінск 2006, с. 195–231.

# Uspaminy

## 412.

Gaŭ-de-a-a-a-mus i-gi-tur
Juwenes dum su-u-u-mus,
Gaŭ-de-a-a-a-mus i-gi-tur
Juwenes dum su-u-u-mus,
Post jucund-a-am juwentu-u-tem.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Hrymieŭ hety tradycyjny studencki hymn, hymn – čarujučy swajej pieknatoj: čułasia ŭ im pawaha i wiasiołaść; čułasia – radaść i sumnaść. Ad hetaha wialikaha akordu pieknaty, zdawałosia, dryžyć usio – ŭsio, aprača ścien: jany byli praz ład mocnyja, praz ład toŭstyja – heta byli ścieny maskoŭskaj pierasylnaj Butyrskaj turmy...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

188.. hod[1] u Maskwie ničoha dobraha dla studentaŭ nie praročyŭ: adčuwaŭsia niespakojny nastroj. Szpikami była zapoŭniena ŭsia Maskwa. Treba było wialikaj asciarohi, kab nie narwacca. Pamiž siabroŭ „Minskaha Ziamlačestwa”[2] (u tyje časy, razumiejecca, zabaronienaha) najlepšy niuch da špikoŭ mieŭ Iwasia[3]. Jak by taki špik ni maskawaŭsia, jak by ni padmazywaŭsia – Iwasia zaŭsiody jaho źniuchaje.

Tolki, bywała, prysiadzieš na łaŭcy na jakim kolačy bulwarčyku, jak tut ža pobač z wami prysadžwajecca typ nihilista: wałasy – doŭhije, akulary – wielizarnyja, kruhłyja, ćiomna-sinija, boty – staptanyje, palto – ryžaje, nu, ale Iwasiu nie padšukaješ! Paciahnie tolki nosam, zachrapie im, jak toj wajskowy žarabiec, pačuŭšy bitwu i pačynaje hudzieć swaim basam:

– I wialiki ž čaławiek byŭ hety Puškin! jon skazaŭ: ćwiordyja znaki (ъ) saŭsim padobny da špionaŭ: jak biaz tych, tak i druhich možna było b saŭsim lohka abyjścisia, a jany tymčasam prywykli ŭsiudy soŭhacca...

Kali heta pramowa nie pamahała, i špik mocna siadzieŭ dalej, Iwasia ŭskakwaŭ z ławy, adkidywaŭ swoj mikałajeŭski płašč na plečy, hramowym swaim basam hukaŭ na ŭsiu wulicu:

– Zwoščyk! zwoščyk!!

Cełaj kučaj, cełaj chmaraj nadlatali zwoščyki, a Iwasia spakojnym tonam dapytywaŭ kožnaha:

– Swabodny?

– Tak točno, swabodny!

– I ty swabodny? – pytaje druhoha.

---

[1] Падзеі, якія апісвае Ядвігін Ш., адбываліся ў 1890 годзе.

[2] У Расійскіх універсітэтах зямляцтвы (студэнцкія арганізацыя, якія ствараліся па тэрытарыяльнай прыкмеце) з'явіліся ў 1860-я гг. дзеля аказання ўзаемнай матэрыяльнай дапамогі.

[3] Івася – імя, вытворнае ад Іван. У навэле *Перапуд* (з цыклу *Мінулае*) прозвішча (крыптанім) сябра падаецца як *Івася В–цкі* (*Iwasia W–cki*).

